

**КАСТРЫЧНІК**

# 10

МІНСК, 1972


*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*




# МАЛАДОСЦЬ


ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *




Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (3 стар.) і **В. Ждановіча** (93 стар.)



# ПАЭЗІЯ

- Пятрусь БРОЎКА
- Генрых ДАЛІДОВІЧ
- Раман ТАРМОЛА
- Алесь АСІПЕНКА
- Віктар МУРАШКІН



- Павел МІСЬКО
- Эдуард ЗУБРЫЦКІ
- Міхась ДАНІЛЕНКА
- Фёдар ЯНКОЎСКІ
- Густаў МАРЦІНАК

# ПРОЗА





**пятрусь броўка**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Нязменны воін

Чырвоны сцяг над ім палошча
І ў летні дзень і ў лістапад.
Стаіць баец на сельскай плошчы,
Стаіць, трымае аўтамат.

Ужо даўно вайне праклятай,
Даўно пакладзены канец,
І шмат вярнулася дахаты.
Чаго ж спыніўся ты, баец?

Даведацца хачу пра гэта
Я ад цябе. Няхай без слоў—
Вось ты прыйшоў да сельсавета,
Чаму ж да хаты не дайшоў?

Цябе ж чакае доўга матка —
Хай ноч,
хай дзень,
хай гром,
хай ціш...
А ты не скінуў плашч-палатку,
У ёй, набраклай, і стаіш...

Усё ўглядаешся ў клапотах
У далеч роднае зямлі,
Не зняўшы з ног цяжкія боты,
Што паў-Еўропы абышлі.

А час спачыць. Ты зносіў раны
І быў кантужаны не раз...



Ён на мяне як быццам глянуў,
І быццам чую я ў адказ:

— Не, спачываць яшчэ не гожа,
Усім нам шмат чаго рабіць,
Вам будаваць і сеяць збожжа,
А мне, мой лёс — на варце быць.

Яшчэ спрабуюць недабіткі
Узнесці свой крывавы меч.
Вайны мне бачны перажыткі,
І я свой плашч не скіну з плеч.

## Партызанская любоў

Дні баёў ішлі за днямі,
У якіх пажары, кроў...
Ды жыла і ты між намі,
Партызанская любоў.

Маладая партызанка,
Што на смерць ішла не раз,
Ты, зрабіўшыся каханкай,
Чым за сэрца брала нас?

Не каралямі на шыі,
Не расфарбленасцю шчок...
У красуні, хай цяжкія,
Чаравічкі, кажушок...

Не ў пахучым майскім садзе,
А баронячы зямлю,
Між баёў ці то ў засадзе
Гаварылі мы «люблю».

І было, змаўкалі кулі,
Верасы ў барах цвілі,
Заклікала ты зязюляй,
На спатканне мы ішлі.

Не насілі мы дарункаў,
Кожны з нас, як мог, любіў,
Нашы ласкі, пацалункі
Толькі месячык лічыў.

А калі ад сэрца жару
Мы ўпадалі ў забыццё,
Блаславлялі камісары
На сумеснае жыццё.

Так жылі. Калі ж, няшчасны
Гінуў хто якімсьці днём,
Заставаліся дачасна —
Хто ўдавою, хто ўдаўцом.

Ды адбілі свае гоні,
Ратавалі родны дом —
Шмат жа з нас з тых дзён і сёння
Поўнай згодаю жывём.

Засталіся ва ўспамінах
Партызанскіх шмат дарог,

Па сваіх былых сцяжынах
Ходзім днямі Перамог.

Б'юцца гулка нашы сэрцы,
Успамінаючы сяброў...
Вельмі моцная, паверце,
Партызанская любоў!

## Маляр

На новы дом шматпавярховы,
Што шмат вачэй на свет адкрыў,
Прыйшоў маляр і адмысловы,
Каб дом для ўсіх людзей расцвіў.

Маляр фарбуе дом старэнна,
А з долу просьбу шлюць адну:
— Фарбуй пад колер лета сцены,
А дах высокі — пад вясну.

Фарбуй жа з пачуццём і ў меру
І ведай, як, чаго дадаць—
Пад колер неба вокны, дзверы,
Няхай ярчэй на ўсіх глядзяць.

Фарбуй наш дом прывабна, шчыра,
У новых фарбах хай жыве,
Фарбуй, не бойся, хай прыдзіра
Цябе, як хоча, так заве.

А я, твайго натхнення сведка,
Прашу: малюй і луг і гай,
Калі прыдуць да густу кветкі,
Ты і для іх мясціну дай.

Фарбуй смялей! Здабытак можаш
Лічыць за шчасце набыцця.
Ах, колькі колераў прыгожых
Яшчэ не ўзята ад жыцця.

## А сонца тчэ свае валокны...

Суровы час жыцця бывае.
І недарэчнасці адны —
Памёр у самы росквіт Маю
Герой Айчыннае вайны.

Ляжыць былы разведчык смела,
Нібы заснуў паміж вянкоў,
У гімнасцёрцы парыжэлай,
У той, што ён з франтоў прыйшоў.

А сонца тчэ свае валокны,
І пчол гудзенне і раі...



І праз расчыненыя вокны
Яму спяваюць салаўі.

Яму, што, шлях прайшоўшы горкі,
Адбіў з няволі родны дом,
І на грудзях заслугі зорка
Гарыць чырвоным аганьком.

Хто плача з родных, хто пануры,
Дый прышлы люд засумаваў,
А ён зусім не ў лад хаўтураў
Як бы і ўсмешкі не схаваў.

Нібы ад ран не ведаў болю,
Не йшоў на працу да зары,
А толькі цешыцца, што з поля
З ім размаўляюць трактары.

А толькі рады, што наўкола,
За хатай — гэтулькі красы,
А толькі рады, што са школы
Чуць, як званочкі, галасы.

Знаёмы ён з пяском і жвірам,
Паваяваў і шмат зрабіў,
І каб ён мог, сказаў бы шчыра,
Што недарма на свеце жыў.

## Лепель

Лепля, Лепель,
Няма лепей,
Як ты, горада малога,
Не таму, што ты мне блізкі,
А таму, што я не бачыў
Больш прыгожага такога.

Ты ў бярозах,
Ты і ў соснах,
Між іх постацяў выносных,
У азёрах, што ў каралях,
З іх адно завецца Проша,
Гэта знаюць, калі ласка,
Паспрабуй, як песцяць хвалі.

Мужны ты,
Самаадданы,
Пасабляў ты партызанам,
Што змагаліся геройска,—
Лабанок з табою знаўся,
Данукалаў і Дуброўскі.

Лепля, Лепель,
Значна лепей
Распачаў ты будавацца—
Школам, клубам і заводам,
Што ў цябе пасталі сёння,
Пашырацца і ўздымацца!

Кожны
Зведаць Лепель можа —
Гарадок малы, прыгожы,
Ён жа з ласкаю сустрэне,
Хоць люблю свае Ушачы,
Лепель я люблю не меней.

## Сябру-крытыку

Дарогі ў нас ва ўсіх адны.
Мы ў працы разам кожны дзень.
І крытыку няма цаны,
Калі наперадзе ідзе.

Каб кожны з нас мужнеў і рос,
Майстэрства здабываў хутчэй,
Яму нялёгкі выпаў воз,
Ды і дарога не лягчэй.

Калі адчуеш маладым
Таго, хто шчыра дапамог,
Ах, як удзячны мы такім,
Ён нам на ўсё жыццё як бог.

Такі агрэхаў не міне,
Прыпыніць дужаю рукой,
Пакажа, востра папракне...
Ну, што ж, і крыўды ніякой.

А што, скажы, з такім рабіць,
З кім не магу згадзіцца я,
Што вучыць мора пераплыць,
Не пераплыўшы ручая.

Хоць рэдка бачу паміж вас
Я і такога мастака,
Пісаць нас вучыць пра калгас,
А поле бачыў з цягніка.

Такі бывае славіць шмат
За мудрасць кніжную каго,
А той, як ёсць, увесь з цытат,
Ніводнай кропелькі свайго.

Між вас я і такога знаў,
Калі траплялася пад злосць,
Што па палічках раскладаў
Пад нораў свой, усіх як ёсць.

Хто не ўгадзіў, таго-сяго,
Гатовы як ніжэй падаць,
А сам не варты і таго,
Каб побач на ніжэйшай стаць.

Увесь ад нораваў старых,
Абы яму было на лад...
Але даволі пра такіх —
Яны ж адзінкі. Іх не шмат.

Табе ж, мой сябра — ўсё любоў,
З табою шлях у нас адзін,
Бо ты паміж густых радкоў,
Як той садоўнік між галін.

## Прыкметы вясны

Яшчэ не ўся краса відна,
І ты яшчэ падлетак,
Я ж пазнаю твае, вясна,
Жаданыя прыкметы:



Снег размываюць ручаі.
На небе пазалота,
Загаманілі вераб'і —
Птушыная пяхота.

І ў лес прыходзяць вестуны,
Зімовы сон збуджаюць,
Блакітным вокам з-пад сасны
Пралеска выглядае.

Яшчэ на полі бель і бель
І луг не раскрываўся.
Ды першы загудзеў шчамель...
Адкуль ён толькі ўзяўся?

Яшчэ на ранні халадкі
Пакусваюцца, чэрці,
Ды раптам вецер... І такі,
Што ажно млее сэрца.

Абдыме цёплым крыллем нас
І растрывожыць грудзі...
Я веру, што на гэты раз
Ён і мяне абудзіць.

## Кажу табе

На золку ўстань, калі рака
Праб'ецца праз туманны дым,
Ты можа ўбачыш галубка
На падаконніку сваім.

Не спадзявайся ж ты на зрок,
Кажу табе натхнёна я.
Бо ходзіць там не галубок,
А ходзіць там душа мая.

Яна са мною ў барацьбе.
Перамагло — усё ж адно:
Яна імкнецца да цябе
І прагна хіліцца ў акно.

Душа ўзяла ў палон мяне,
Бо люба ёй, хто тут жыве,—
То дзюбкай шыбку закране,
То ўспырхне крылцамі, заве...

Заве і гэтай раніцой
Быць разам летам і ў зіму,
І згодзен я з душой сваёй,
Што вельмі сумна аднаму.





*генрых далідовіч*

# СТАРАЯ САСНА

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **К. Ціхановіча**

1

Хутка пагусцеў у старым сасновым лесе прыцемак, скрозь густыя вяршаліны цяжка прабівалася няяркае вячэрняе сонца. Зубрэй ішоў лагчынаю, думаў сваё і слухаў ціхі лясны звон, незнаёмыя далёкія галасы, дробны і часты стук малатка ў вёсцы — нехта кляпаў касу. Ён не ўбачыў, а адчуў кражу: чагосьці вакол раптам не стала хапаць...

Хвоя гэта, старая, тоўстая, без ніводнай сучынкі, учора вечарам яшчэ была тут. Ён стукаў па яе моцным камлі, зачэсваў лысіну і глядзеў на высокую ганарлівую верхавінку, што гонка вынеслася і замёрла ў небе.

Зубрэй не паверыў сваім вачам, абышоў спадзінку, прыгледзеўся і — пазнаў, куды павалілі дрэва: убачыў прымятую папараць, кару, абгарэлы пасярэдзіне свежы лом і шырокі смалісты пень, нізка, амаль ля самай зямлі зрэзаны, старанна зацёрты пяском і прыцярушаны мохам.

«І каго халера сюды загнала? — думаў Зубрэй.— Здаецца, учора сюды ні трактары, ні калёсы не хадзілі. На спіне такую хвою не прывалачэш. Толькі з сваёй вёскі нехта сюды мог убіцца. Хоць не ідзі ты ў лясніцтва: лясьнічы ведаў гэту вялікую сасну».

Зубрэй сеў на пень і закурыў. Стала нядобра: даўно ў яго лесе не было ўжо такога зладзейства.

«Падумае намеснік, што касіў я недзе сабе, не пільнаваў лесу. І лясьнічы не накрычыць, але скажа дакорліва: трэба ж глядзець, калі пачаў рабіць...»

Пайшоў бы Зубрэй на другую работу, каб не ведаў кожнае маладое і старое дрэва, кусцік, ягаду, усіх дзятлоў, дзікоў, ласёў і зайцоў у сваім лесе...

Мянялася начальства, па-рознаму яно цаніла лес, службу Зубрэя, часцяком ён цярпеў зняважы, крыўды, але сваёй работы ён трымаўся і іншай не хацеў.

Цяперашняе начальства было памяркоўнае, адукаванае, пасля вучылішч, тэхнікумаў былі і ўсе леснікі. Акрамя яго. Зубрэй далей шостага класа не дабраўся; мусіў рана пайсці працаваць, але ў лесе ён спраўляўся.

«Хто ж сёлета будуецца»,— падумаў Зубрэй і не мог прыпомніць, каму ў вёсцы спатрэбілася дрэва.

2

Прачнуўся Зубрэй раненька, яшчэ на світанні.

— Чаго ты ўспароўся? — загудзела сонная маці.— Я і каровы яшчэ не даіла.

Ён прамаўчаў, апрануўся і выйшаў на двор. Грукаючы даёнкай падалася за ім і маці.

— Кідаў бы ты гэты лес. Сну не ведаеш, дома нічога не зробіш. Людзі вунь і ў лесе не робяць, а такія хаты сабе паставілі, не жывуць у перасыпанках... Як і бацька некалі, трасешся за кожную хвоечку...

— Трэба ж, мама,— сказаў сын і закурыў.

— Пахвалу атрымаеш,— незадаволена сказала маці,— як і ў таго лясьнічага... І людзі злуюцца, не любяць...

Зубрэй нічога не сказаў маці.

Вёска толькі ажыўлялася: развейваючы белы туман, паднімалася вялікае сонца; спрасонку, адзін за адным гарлапанілі пеўні, гулка стукалі дзверы і звінелі вёдры; недзе далёка гулі, заводзячыся, машыны і матацыклы.

Зубрэй сышоў з вуліцы і падаўся сценкай, прыглядаючыся да слядоў: ці не павернуць да каго на гарод.

Сценка была бязросная, пыльная, па ёй учора многа ездзілі і на калёсах і на машыне — сляды перамяшаліся, заплылі пяском.

«Сваяк ці не сваяк — аштрафую. Не дарую. Баяцца капейку заплаціць, усё па-добраму зрабіць. Няхай сабе не любяць...»

Зубрэй прайшоў усю сценку і не заўважыў падазроных слядоў. Другую палавіну вёскі пачаў абходзіць з гародаў, прыглядацца да хлявоў і паднавесаў.

Убачыў Асташонка, які выкошваў за сваімі градамі лапіну канюшыны. Той стаў, пачаў глядзець на Зубрэя. Прывіталіся.

— Ці не згубіў што? — усміхнуўся Асташонак.

— Шукаю,— сказаў Зубрэй.

— Ці не хвойку якую ўкралі? Відаць, спец добры ўлез, калі ўжо ў цябе хапнуў,— паківаў галавою Асташонак.— Каб ведаў, я такому чалавеку пляшку паставіў бы...

— Табе жарты,— сказаў Зубрэй.— У Пеці прасіў хто машыны? А ў Юзі?

— Гэтага не скажу, не ведаю. Дзіва ты мне прынёс...

— Дзіва табе,— зазлаваў Зубрэй і пайшоў.

Асташонак глядзеў яму ўслед і ківаў галавою.

Не знайшоў Зубрэй слядоў і тут.



«Можа даўно тая хвоя ўжо на пілараме,— падумаў ён,— так яе трымаць дома будуць. Тут ужо загадзя ўсё абгледжана і дамоўлена было».

Зубрэй пайшоў на Лысае. Абышоў вакол знаёмую спадзінку і абсачыў сляды: пад'язджалі з сенажаці. Яшчэ раз агледзеўшы пень, убачыў, што рэзаць было цяжка: хвоя была цяжкая, не хілілася, пілу загадзя не змазалі бензінам, і яна смалілася. Адышоўшы ад пня некалькі крокаў, ён убачыў апілкі. Здагадаўся, што тут адразалі камель. Памераў, тры крокі. Значыць, нехта адрэзаў трохметровыя кавалкі на дошкі.

Зубрэй адмерваў тры крокі і наступаў на пілавінне. Налічыў, што выйшла з хвоі пяць кавалкаў і невялікая вяршынка.

«Пайду на пілараму і спытаю, хто прывёз пяць штучак. Не скажуць — сам агледжу бярвенні, пазнаю. Не дарую зладзюгу».

Ён сеў на пень, толькі цяпер змахнуў з вачэй павуціну.

Разднела. Паднімалася і грэла ў твар сонца.

Зубрэй апусціў галаву і ўбачыў ля ссечанага ядлоўца замусоленую паперку. Без ніякай цікавасці падняў яе, спакойна раскруціў і — апала сэрца: гэта была квітанцыя. На ёй была запісана вёска, прозвішча.

«Агароднікі. Дзеравяка В. М.»,— прачытаў Зубрэй.

«А, гэта хітры той, разумнік... Я цяпер пагляджу, што ты мне запішаш. Пачакай...»

3

У суседнюю вёску Агароднікі Зубрэй выбраўся вечарам: з раніцы яго выклікалі ў лясніцтва. Там ён пра кражу нічога не сказаў, надумаў сам з'ездзіць да Дзеравякі.

Гэтага чалавека ён ведаў слаба. Чуў ад людзей, што той хітрун, мае многа начальнікаў-сваякоў, раней сваіх год пайшоў на пенсію...

На матацыкле Зубрэй заскочыў у Агароднікі мігам. Новы ашаляваны дом Дзеравякі стаяў на канцы вёскі ў засені вішань і бэзу. Пад'язджаючы, Зубрэй убачыў новы дашчаны плот, бетонныя слупы ў ім, высокія жалезныя вароты і вылітыя асфальтам дарожкі ў двары.



Тут быў і гаспадар, рослы, у целагрэйцы без рукавоў, ён перасякаў ля дрывотні ўсялякае трухалле, складаў яго ў касцёр. Калі Зубрэй прыпыніў матацыкл, Дзеравяка азірнуўся, усадзіў у калоду сякеру, выпрастаўся і пайшоў насустрач.

«Добра жыве, аднаго можа толькі самалёта не мае»,— падумаў Зубрэй і прывітаўся.

— Здароў быў, сваяк! — Дзеравяка яго заўсёды называў сваяком — Зубрэй узяў з гэтай вёскі жонку.— Здароў! Заходзь, скажы якую навіну.

— Я, дзядзька, з нецікавымі весткамі,— сказаў Зубрэй і стараўся не глядзець на Дзеравяку — лысага, чыста выгаленага, з маленькімі вусікамі.

— Што такое? — устрывожыўся той.— Бяда якая? Гавары, мо памагу.

— Я прыехаў, дзядзька, на вас акт складаць.

— Дзе ж я так правінаваціўся перад табою, сваяча? — Дзеравяка жартаваў, цяжка глядзеў Зубрэю ў вочы.— Можа дрэнны сваяк я: здаецца, ніколі і пляшкі табе не паставіў?..



— Хвойку вы ў мяне зрэзалі, ды самую большую ў лесе,— сказаў Зубрэй, глянуў у глыбокія вочы Дзеравякі і сумеўся, што яны такія вялікія, шэрыя, нейкія пустыя.

— А каб на цябе! — Дзеравяка засмяяўся, лэпнуў сабе па каленях.— Напалохаў ты мяне, чалавек. Я думаў ужо, што з маткай тваёй нешта сталася... Як яе здароўе?

— Добрае,— Зубрэй таксама глядзеў у вочы Дзеравяку, бачыў, што той хітруе, адчувае за сабою віну.— Дома лес ці на пілараму ўжо завезлі? Пяць кавалкаў і шостая вяршынка...

— Не браў я, чалавек, ніякай хвойкі,— спакойна, упэўнена, нейкім голасам старэйшага сказаў Дзеравяка, падняў з зямлі цвік і ўсадзіў яго ў паз сцяны.— Раз прыйшоў, Косцік, сюды з такімі думкамі, то благія людзі пастараліся нагаварыць на мяне.

— Каб жа так, дзядзька. Паперка вось цвердзіць, што гэта вы... Відаць, вытраслі, калі даставалі запалкі...

Дзеравяка хацеў узяць квітанцыю, але Зубрэй не даў, схаваў у кішэню.

— Такую паперку мог і я напісаць на любога. Ты толькі вер усім.

— Гэта ваша паперка, дзядзька. Ваша вёска, прозвішча. Па ёй я і прыйшоў сюды,— сказаў Зубрэй.

Дзеравяка глядзеў на яго, мяняўся ў твары, а пасля зарагатаў:

— Следавацель, гы-гы-гы! Вынюхаў, каб на цябе маланка!..— ён сціснуў губы і круціў галавою.

— Адмаўляцца не будзеце, што ўзялі, ці з міліцыянерам прыйсці?

— Я, браток.

— Пазаўчора ноччу ўзялі, машынаю з сенажаці пад'ехалі...

— Усё выследзіў... Ось ляснік! Следчы, брат...

— Хвойка гэта, дзядзька, адмысловая была, яна першай на ўліку ў лясніцтве стаяла. Будзем, стары, складаць акт, паеду міліцыянера прывязу толькі.

— Пачакай, чаго так спяшацца? — Дзеравяка стаў ля варот, зашчапіў іх.— Зойдзем спярша ў хату, пасядзім, пагаворым. Мы ж людзі, згаворымся неяк...

— Не, дзядзька, дзякую,— Зубрэй узяўся за штыкецціну, пацягнуў вароты на сябе.

— От чаго ты! Не спяшы. Пойдзем у хату, я кажу табе,— сказаў Дзеравяка, але Зубрэй стаяў, намерваўся ісці.— Зойдзем, я табе паперку з лясніцтва на дзерава пакажу, супакою цябе. Сам Пятровіч падпісваў.

Зубрэй разгубіўся, няўпэўнена глядзеў Дзеравяку ў вочы.

— Не верыш? Хадзі, пакажу. Прашу,—Дзеравяка кіўнуў галавою, узяў Зубрэя за локаць і павёў да сянец. Адчыніў дзверы і прапусціў госця.

— Мы тут разуваемся, ходзім у тапачках, але ты ідзі ў ботах, табе можна,— гаварыў Дзеравяка і падштурхоўваў яго ў спіну.

Зубрэй пераступіў парог, адчуў густы, цяжкі пах чужой хаты.

З другога пакоя выйшла гаспадыня. Яна трывожна паглядзела на Зубрэя, на свайго мужа і, разгубіўшыся, стала.

— Можа і павячэраем заадно? — гаспадар выключыў радыё, апусціў на вокнах фіранкі.

— Не, дзядзька, другім разам сеў бы, але сёння не магу,— сказаў Зубрэй.

— А ты садзіся,— Дзеравяка зняў з яго галавы шапку, павесіў яе на вешалку, паднёс стулак і сеў ля стала.— Я табе, чалавек, зараз усё раскажу, каб ты не думаў многа... Уздумаў я сабе яшчэ паднавесік скідаць, а дошак няма. Я — да Пятровіча, а Пятровіч — друг мой... Кажа: перагавары з нашымі леснікамі, вазьмі ў іх па хвоі. У тваім абходзе сам мне тую тоўстую паказаў. Вось памучыліся рэжучы!.. Сам ведаю: нядобра выйшла, трэба было папярэдзіць цябе.

— Дык Пятровіч ведае? — спытаў Зубрэй, супакойваючыся.

— Кажу ж табе,— пацвердзіў Дзеравяка, звярнуўся да жонкі:

— Дастань, баба, тую пачатую.

— Не буду я, дзядзька,— Зубрэй не хацеў звязвацца з гэтым Дзеравякам.

— Не памрэш, калі кроплю возьмеш. А мне сорам: быў добры чалавек у хаце, а я яго па-людску не прыняў...

— Але ж быў я сёння ў лясніцтве, нешта ўсе маўчалі,— сказаў Зубрэй.

— Забыліся, можа, сам ведаеш, колькі ў іх спраў,— Дзеравяка сам прынёс чаркі, абмахнуў іх ручніком.

— Можа яно і так, як вы гаворыце, але маё дзела напісаць і даложыць, а начальства там няхай глядзіць, разбірае,— сказаў Зубрэй.

— Цікавы чалавек! Я табе гавару: нічога не пішы,— Дзеравяка адкаркаваў пляшку і наліў поўную чарку госцю, палавіну сабе,— я зладжу з Пятровічам, усё будзе добра і ціха... Бяры, будзь здароў.

— Не, я не буду, дзякую,— сказаў Зубрэй і моўчкі ўстаў з-за стала. Многае хацелася яму сказаць Дзеравяку, пазлаваць яго, але ён не ведаў, як пачаць.

— Словам, з Пятровічам у нас усё ўладжана,— Дзеравяка глядзеў Зубрэю ў вочы, трос рукою і міргаў вокам.— Мы з ім заўсёды дагаворымся: чалавек ён разумны, хітры, я сказаў бы... Спішуць табе тую хвою. Мала чаго бывае: і ветрам выварочвае, і громам б'е... Табе — што? Лесу хопіць, ды ён не твой, а дзяржава па адной хвоі не збяднее... Заедзеш да мяне — кожнага разу пляшку на стол пастаўлю.

— Так можна, дзядзька, і ўсё выразаць,— сказаў Зубрэй, а сам падумаў, што не мае, мусіць, Дзеравяка ніякіх дакументаў на лес, сам узяў тую хвою.

— Ты менш бядуй, не бяры да сэрца. У мяне ёсць адзін харошы сваяк-начальнік, ён кажа: абы ціха ўсё і добра было... Накасіў сена?

— Яшчэ не.

— Можа ўступіш мне якую лапіну?

— Вы ж з Пятровічам сябры,— усміхнуўся Зубрэй.

— Не заўсёды мне толькі да яго хадзіць,— сказаў Дзеравяка,— і з вамі, леснікамі, можна зладзіць... А матацыклет ты ладны купіў. Плакалі, відаць, хвоечкі?

— Не, дзядзька, я гэтым не займаюся,— сказаў Зубрэй,— цялушку прадаў і купіў.

— Такой бяды, каб і загнаў машыну-другую лесу надзейнаму чалавеку. Жыць трэба... Пятровіч нешта таксама хутка «Масквіча» купіў... Хаця гэта не наша дзела, усе мы хочам добра жыць, купіць нешта і асабліва не патраціцца...

— Не хачу я, дзядзька, гэтага. Такім хлебам доўга не пражывеш.

— Гавары мне, гы-гы-гы! — зарагатаў Дзеравяка.— Гэта толькі мой кватарант-настаўнік «гэтым» не займаецца: што ён — двойкі будзе з журнала свайго прадаваць?..

«Не дарэмна гавораць людзі, што ты хітрун, з вады сухім выйдзеш»,— падумаў Зубрэй і сказаў:

— Дык пакажыце, дзядзька, тую паперку.

— Эйш, цягнёнік, халера! — заківаў галавою Дзеравяка.— Я і сам гэта ведаю. Я, брат, умею з людзьмі жыць,— усміхаючыся, ён дастаў з

кішэні і палажыў перад Зубрэем пяць рублёў.— Гэта паперка трэба? Гы-гы-гы! Другіх папер не маю...

— Я не гандляр чужым дабром,— Зубрэю стала няёмка, што яго палічылі за такога чалавека.— Не трэба мне вашых грошай.

— Цягнёнік, халера! Гы-гы-гы! — Дзеравяка палажыў на стол яшчэ адну пакамечаную, парваную з бакоў пяцёрку.— Дармо, што малады, а дзела ведаеш... На, бяры,— ён узяў грошы, нюхнуў іх, цмокнуў і працягнуў Зубрэю.

— Не хапуга я, дзядзька.

— Усе мы не хапугі,— Дзеравяка ўстаў і трымаў у руках дзве паперкі.— Бяры, я дармавога не хачу. Ды яшчэ, можа, дамовімся з табою на які пянёк ці лапіну сенакосу.

— Вось які вы, дзядзька! Хвою ўкралі і яшчэ хочаце...

— Хачу, брат! — Дзеравяка засмяяўся, наблізіў свой твар. Зубрэй адышоў.

— На, бяры,— Дзеравяка ўсё соваў грошы.

— Не купляйце, дзядзька, мяне,— Зубрэй адвёў гаспадарову руку з грашыма.— Колькі год раблю, а рукі яшчэ не грэў на чужым. І грэць не збіраюся.

Дзеравяка разгублена глядзеў на яго. Зубрэй падаўся з хаты. Гаспадар выйшаў за ім.

— Бяры, не саромейся...

— А чаго мне саромецца, акт я заўтра напішу.

— Паслухай...

— Будзьце здаровы.

— Можаш пісаць, але не ўсчуеш ты мяне сваёю паперaю... Мне хутчэй паверацЬ, а ў цябе пажар можа здарыцца ці парубка якая — пойдзеш з лесу, толькі я слова шапну... Ці медалёк захацеў палучыць?..

Зубрэй маўчаў, завёў матацыкл, сеў на яго і паехаў. Дзеравяка яшчэ нешта гаварыў, але голасу яго ўжо не было чуваць.

Было цёмна. На свет фары ляцелі матылі, ападалі ўніз. На душы ў Зубрэя было нядобра, неяк безуважна, спустошліва; ён стомлена зірнуў на блізкі лес і востра адчуў, што ў ім не стала вялікай старой сасны.





**раман тармола**



## паэзія



## *Вянок*

*Піянеру Колю Гойшыку,*
*Камсамольцу Міколу Кедышку,*
*Камуністу Мікалаю Гастэлу.*

Над абеліскам
Неба нізка,
Над зоркай —
зорачкі мігцяць.
Ніколі я не быў так блізка
Ля бессмяротнага жыцця...

І не забуду я ніколі,
Як сэрца сціснуў мне да болю
Адзін маленечкі вянок
Са словамі:
«Дзень добры, Коля...»
Якія зноў чытаў і зноў...

«ДЗЕНЬ ДОБРЫ, КОЛЯ...»
Можа, сыне
З паглядам карым
альбо сінім?
Не забываецца пагляд...
І ранкам летнім,
ранкам зімнім
Для маці ён,
як далягляд...

«ДЗЕНЬ ДОБРЫ, КОЛЯ...»
Мо каханы
Крывёю сцёк...
памёр ад ран?
Ды побач з ім заўжды яна...
Навек нявестаю абрана,
Фатой на плечы — сівізна.

«ДЗЕНЬ ДОБРЫ, КОЛЯ...»
Мабыць, дружа?
І таямніча пахлі ружы,
Калі схіляўся тут салдат.
І спатыкаўся голас дужа:
«Даруй...
што затрымаўся...
брат...»

*

А можа гэта, Коля Гойшык,
Твае прыходзілі сябры,
З якімі ты па лузе гойсаў?
Хацелася пагаварыць...

Яны, відаць, шапталі моўчкі:
«А Коля нас не пазнае...»
Не дзіва: іх сыны і дочкі
Ужо равеснікі твае...

Не атрымалася размовы:
У горле камякі —
не словы,
На вуснах,
нібы папяровых,
Адна жальба...
Цябе і я не патурбую,
Хоць на спачын
мы разам пойдзем.
Як неба зоркі афарбуюць—
Праз ноч,—
Табе ісці на подзвіг.

Бо той цягнік ужо ў дарозе,
Цягнік бясконцы самы —
восьмы.
Ты засынаеш у знямозе
І, як наяве, бачыш — вось ён!

«Гружоныя танкамі
мчацца саставы.
Чаму не рэйкі,
а драч рыпіць?
Бягуць саставы,
Баляць суставы,
І хочацца піць...

Фашыстам пасмяяцца можна...
Ляжыць пад адхонам не цягнік —
У пыле дарожным
Бездапаможны
Ляжыць падрыўнік.

О, толькі б устаць...
Дапаўзці да рэек...
Уласнае сэрца тады пакладу,
Як міну,
рукамі спярша сагрэю
І... з ім упаду.

Я кіну нянавісць сваю пад колы.
Тут знойдуць фашысты навек спакой!
І скажуць хлопцы: «Яшчэ ніколі
Не чулі мы выбуху
сілы такой!»
Зараду у сэрцы, вядома, хопіць
На гэты бясконцы
варожы
састаў...»





...Ці сон, ці яву убачыў хлопец?
Калі ён прачнуўся —
ніхто не спытаў...
А ён і расказваць нікому не стане:
Яшчэ засмяюць за «дзіцячыя сны»...
Хіба што Лёню,
як прыйдуць з задання,
Калі застануцца з другам адны...

*

Дзень стаіць асмужаны, асенні,
Кожны лісцік рвецца у палёт.
А ля абеліска —
зноў вясельны,
Карагод...

Закружыла плошча Перамогі
Маладую разам з маладым...
Раптам стоп: далей ідзе дарога
Праз агонь,
і гром,
і горкі дым.

На шляху да іх зямнога шчасця —
Столькі гора зведалі бацькі!
І яны прыйшлі,
як на прычасце,
З памяццю пякучай напрамкі.

Ад дзяцей — бацькам жывыя кветкі.
А братам —
ад брата і сястры.
Аднагодкі,
вы былі б іх сведкі,
Дык прыміце кветкі,
як сябры...

А наўкол стаіць такая ціша! —
Нават вецер супыніў разгон.
Іх дыханне
толькі і калыша
Вечнасці агонь...

*

Цяплынь у лістападзе!
А горад не сасніў:
На вуліцах —
на пядзю
Дрэўцы падраслі.
Каторую гадзіну
Гуляем, як вясной.
Мікола, праўдзі нас
Па вуліцы сваёй.

## ГОЛАС КЕДЫШКІ

Хто дружбу прапануе,
Хто сябра хоча мець,
Калі наўкол пануе
Пакута,
здрада,
смерць?

Ідуць...
Пра «Ніхт шпацырэн»
Забыліся яны,
Мішэнямі у ціры
Страшэннае вайны
Ідуць...

Дык што ж вы?
Як не помніць,
У час які жывём...
Над горадам вунь — поўня
Адзіным ліхтаром.

Вы бачыце, як сонца
Пажарам узышло...
Гарыць яно бясконца
Ворагу назло.

### ДЗЯВОЧЫ ГОЛАС

Так, дружа, гэта праўда:
Чаго чакаць ад нас?
Забыліся пра здрады,
Пра «каменданцкі час...»

Гуляем да паўночы,
Вітаем сонца ўсход.
. . . . . . . . . . . . . .

Адкрый, Мікола, вочы —
Мінула столькі год!

Забудзь, што ты падпольшчык,
Што ворагі паўсюль.
Адкрый нам скарб найбольшы —
Душу адкрый усю.

Нішто не пагражае,
Так шумна на двары:
Сягоння акружаюць
Цябе адны сябры...

*

Новы ранак разбудзіла маці
Крокамі на плошчы Перамогі,
Хоць дагэтуль жаўранкавы песні
Стукаліся ў шыбіны яго.

Сонны горад разбудзіла маці
Крокамі на плошчы Перамогі,
Хоць грамы і бліскавіцы ноччу
Дабудзіцца так і не змаглі.

А цяпер глядзяць усе на шэсце
Гэтай адзінокае жанчыны,
І нікому запытаць не рупіць:
Да каго,

адкуль яна ідзе?

Бо на свеце гэтулькі парогаў,
На якія больш сыны не ступяць
І якія пакідаюць маці,
Каб ісці за роднымі услед...

Бо жыццё кароткае такое.
Што яго ніколі б не хапіла,
Каб жальбу матуляў майго краю
Выслухаць аднойчы да канца.

У руках натруджаных палаюць
Весела расцвіўшыя вяргіні,
І агонь духмяністы не вяне,
Ясніцца ля Вечнага агню.

Боль у сэрцы разбудзіла маці
Крокамі ля плошчы Перамогі,
Хоць у маці — хто гэта не знае!—
Самая нячутная хада...



*

Не спіцца маці па начах:
Агонь у сынавых вачах
З гадамі нават не ачах.
Не спіцца маці па начах...

Не ў забыццё сплываюць сны —
У сэрца матчына...
І маці
Штоноч пры сынавым агні...
Дык што ж вы,
успаміны,
дайце
Спакойна мацеры заснуць.
. . . . . . . . . . . . . .

Маўчыць зямля.
Застыла неба.
Ярчэй за полымя — пагляд.
І наваколле сочыць нема,
І самалёт ужо — снарад.

Заварушыліся на ўлонні,
Нібы казюркі,
цягачы.
І выстаўляліся далоні —
Хаця б вачэй не апячы!

Трашчаў агонь,
Трушчэлі каскі,
І на калені кідаў жах.
Каб гэта ява стала казкай,
Малілі рыцары ў крыжах.

Дарма...
Гарэла ўсё чыста
У пекле жудасным агню.
Было так горача фашыстам...
...І золка чэрвеньскаму дню.
Здавалася,
Над цэлым светам
Ляціць ён вогненнай каметай!
Вось стане знічкай,
дагарыць...
Ды гэты подзвіг — непагасны,
І чалавек з паглядам ясным
Так і застаўся угары.

У небе высненых палоцен,
У бронзе,
сэрцах,
у жыцці.
Гастэла вечна у палёце —
Ляціць,
і сёння ён ляціць
На ворага...

*

Ну вось... і выпусціў на волю
Пачуцці —
Цесна ў сэрцы ім.
І я сказаў: «ДЗЕНЬ ДОБРЫ, КОЛЯ...»
Усім траім.

Тром пакаленням,
Тром узростам,
Шчасліва новае расце!
Ісці на подзвіг так не проста.
За подзвіг дзякаваць працей...

ПРОЗА



алесь асіпенка

# ПАСТКА

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **В. Шрамякова**

**1.**

Нарэшце прыслалі дакументы. Можна было ісці ў горад. Але мне захацелася яшчэ раз сустрэцца з Надзяй.

Я ўбачыў яе дзён пяць назад праз акно. Надзя ішла побач з сіваватым, каржакаватым чалавекам, які нёс за плячыма два рэчавыя мяшкі, а яна два аўтаматы, нямецкія, кароценькія, з адагнутымі ўніз касетамі. За імі зморана плялося трое хлопцаў.

— Хто гэта? — спытаў я ў Вілюгі.

— Падрыўнікі Мухіна... Той сівы — сам Мухін.

— А жанчына?

— Падрыўніца. Аксана.

— Мы з ёю вучыліся ў адной школе,— сказаў я, спадзеючыся ўразіць Вілюгу, але ён не здзівіўся.— Тады яна была Надзя Крынка, і я кахаў яе.

— Ясна,— абыякава сказаў Вілюга.

Ноччу я знайшоў хату, дзе спыніліся падрыўнікі,— яны спалі на сене пад паветкай. Надзі не было. Яна лягла ў хаце. Я папрасіў аднаго з хлопцаў паклікаць Аксану.

Яна выйшла не хутка, хвілін праз пятнаццаць, калі не болей — мне ўжо надакучыла чакаць. Я думаў, што Надзя ўзрадуецца, але яна толькі спытала: «Адкуль ты, як з неба зваліўся?»

Гаворка тады не клеілася. Надзя клікала ў хату, хацела пазнаёміць з Мухіным, я адгаварыўся, знайшоўшы нейкую прычыну. Вярнуўшыся дахаты, я доўга не мог заснуць, усё думаў пра Надзю.

За год да вайны мы заканчвалі дзесяцігодку. І таму, што гэта быў першы выпуск, нам наладзілі вельмі ўрачысты вечар, і не ў школе, а ў сельскім клубе.

Нас было шаснаццаць выпускнікоў, і ўсе мы сядзелі на першым радзе, крыху збянтэжаныя ўвагай, якую аказвалі нам і тыя, хто сядзеў у прэзідыуме, і тыя, хто дарэшты запоўніў клуб: вучні, настаўнікі, бацькі, проста цікаўныя, каму хацелася паглядзець на ўрачыстасць. Мы вельмі хваляваліся, хоць і не паказвалі выгляду.

Я адчуваў сябе бясконца шчаслівым і таму, што нарэшце закончана школа, і таму, што поруч сядзіць Надзя і ніхто ўжо не глядзіць на нас з іранічнай паблажлівасцю ці асуджэннем, а як бы і ўхваляюць нашу дружбу. Нішто, мабыць, так не кранае, як здабытае ў бясконцых кпінах і насмешках прызнанне. А над намі кпілі з восьмага класа; кожны дзень на школьнай дошцы нехта пісаў нашы прозвішчы, нехта складаў недарэчныя вершыкі, якія хадзілі па руках і не раз даводзілі Надзю да слёз. З-за гэтых вершыкаў, надпісаў і кпін мы з Надзяй часта сварыліся і падоўгу не размаўлялі. Але і гэта выклікала кпіны.

Цяпер як бы ўсе зміryліся, як бы прызналі за намі права сядзець поруч.

Пасля ўрачыстага вечара было наладжана частаванне і танцы. Я ўвесь час танцаваў з Надзяй. А пасля вечара пайшоў праводзіць яе дахаты.

Я даўно чакаў, калі мы застанемся на адзіноце,— так шмат хацелася сказаць Надзі. Але цяпер маўчаў, скаваны гэтай жа адзінотай, і злаваў на сябе.

Нават цяпер мне было сорамна за тое сваё маўчанне. Гэты сорам і надаваў мне рашучасці.

Мухінцы спыніліся ў нас выпадкова; стаялі яны аж вёрст за пятнаццаць і не так, як мы, у вёсцы, а ў лесе, на нейкім хутары.

— Дай мне каня,— праз два дні сказаў я Вілюгу, калі той зайшоў праведаць мяне.— Гадзіны на тры.

— Навошта табе? — здзіўлена спытаў Вілюга.

— Мабыць трэба...

— А ці варта?

— Скажы, што шкадуеш каня, тады я папрашу ў Платона.

— Ну і дзівак,— Вілюга адчыніў акно, гукнуў вартавога, што стаяў насупраць, праз вуліцу, ля штаба.— Забароўскі, скажы Васю, каб засядлаў Ветра. Няхай на двор завядзе.

Вілюга з усёй сілы зачыніў акно, аж зазвінелі шыбы.

— Дык я і кажу, дзівак ты,— Вілюга стаяў цяпер спіной да акна, скрыжаваўшы рукі на грудзях, пад адтапыранымі кішэнямі кіцеля.— Калі конь закусіў цуглі, дык што не рабі, а выкіне з сядла. Так і з бабай. Пакахае другога — закон, хоць ты перад ёю памры — не пашкадуе.

Мне думалася, што Вілюга не здагадваецца, куды я паеду, аж глянь ты: з-пад натапыраных броваў ён разгледзеў усё. Хавацца не было патрэбы.

— Я, Вілюга, кахаю яе.

— Ха, пакахаеш другую.

Ардынарац Вася прывёў засядланага каня. Мы выйшлі на ганак.

— Другой мне, Вілюга, не трэба,— сказаў я, сеўшы ў сядло.

— Дзівак,— сказаў Вілюга, не ўхваляючы ні маіх слоў, ні гэтай паездкі.

Я адразу ж пагнаў Ветра галопам. Быстрая язда адагнала непры-

емныя думкі. Тады я пачаў азірацца і нібы ўпершыню заўважыў прыгажосць і хараство тутэйшых мясцін.

Дарога найболыш пятляла паўз лес, толькі зрэдку зарываючыся ў яго, каб спрамаваць, скараціць адлегласць. Справа, то падступаючы да дарогі, то ўцякаючы ў прастору палёў, у вербалозах і альхоўніку бегла рэчка. Яна ўсё шырэла, набірала сілы.

На паўдарозе рэчка крута павярнула на захад: дарога, слепа наткнуўшыся тут на чорныя рабрыны моста, паяўлялася аж пад гарою. Трэба было шукаць броду.

Вецер пацягнуўся да вады. Я падумаў, што яго варта напаіць, але не адразу. Перабраўшыся на той бераг, я саскочыў на зямлю, адпусціў папругі, а сам лёг на траву.

Мабыць, я праляжаў доўга, бо Ветру надакучыла стаяць і ён пацягнуў повад. Я падняўся, падвёў яго да вады.

Вецер піў доўга, злёгку кранаючыся ружаватай пысай вады. Часам ён паднімаў галаву — тады ў рэчку звонка падалі белаватыя кроплі. Каню, мабыць, падабалася стаяць у рацэ. Ён увесь час пераступаў тонкімі пародзістымі нагамі, абдаючы сябе і мяне халоднай вадою.

Далей — вёрст пяць — давялося ехаць то крокам, то надакучлівым трушком, бо Вецер выпіў шмат вады, і яна аж ёкала ад кожнага кроку. Мяне гэта раздражняла.

«Чаго і куды я еду? — з горыччу і злосцю падумалася мне.— Яшчэ траплю да немцаў». Але тут жа я здагадаўся, што Вілюга сачыў за кожным маім крокам і не пусціў бы, калі б мяне пільнавала небяспека.

У бары стаяла задуха. Вецер адразу ж узапрэў. Пад грыўкай і ля сядла выступіла пена, нібы хто нацёр каня мылам. У мяне таксама паліўся пот па твары, аж балюча шчыпала вочы.

Метраў за сто ад хутара мяне спыніў вартавы. Ён сказаў, што мухінцы, здаецца, яшчэ тут, і нават паказаў на рэдзенькі сасоннік, у якім стаялі буданы падрыўнікоў. Мне хацелася пагаварыць з Надзяй сам-насам, таму я папрасіў яго паклікаць падрыўніцу Аксану.

— Дык я ж не магу пост пакінуць,— сказаў партызан.

На шчасце з сасонніка выйшаў другі падрыўнік. Вартавы паклікаў яго.

Падрыўнік паглядзеў на мяне з недаверам, але пагадзіўся паклікаць Аксану. Я пачаў чакаць. Стаяў, абапёршыся аб крываватую, з парэпаным камлём бярозу. Аднекуль налящеў вецер, а над самым лесам я ўбачыў чорную хмару. Яна памалу, амаль непрыкметна сунулася на ўсход, а перад ёю шпарка-шпарка беглі шэранькія, вірлівыя воблачкі.

Надзі ўсё не было, і я падумаў, што яна не прыйдзе. Але яна паявілася неспадзявана і не адтуль, адкуль я чакаў яе. Я ўзняў галаву і ўбачыў яе. Надзя ішла хутка, неяк па-мужчынску стаўляючы ногі.

Мне падабалася ў Надзі ўсё: і тое, як яна гаварыла, заўсёды з насмешкай, і тое, як усміхалася, ледзь раскрываючы губы, і тое, як схіляла набок галаву, калі слухала каго і не згаджалася з ім. Мне падабалася ўсё, нават яе хада, якая цяпер нагадала мужчынскую.

Надзя спынілася крокі за тры, схіліла набок галаву, запытала:

— Ты хіба не паехаў?

Я ўсміхнуўся. Людзі, калі ім няма чаго сказаць, гавораць глупства. Раз я тут, значыць — не паехаў.

— Ты мог не застаць мяне,— крыху памаўчаўшы, сказала яна.— Мы ідзем на аперацыю.



Зноў наступіла маўчанне. Цяпер Надзя, як бы пасмялеўшы, глядзела на мяне не хаваючы вачэй, і я бачыў, што маё маўчанне бянтэжыць яе.

— Ночы цяпер месячныя — нам будзе цяжка дабрацца да чыгункі.— Яна гаварыла абы-што, абы не маўчаць.

Мне хацелася запомніць яе вось такой, збянтэжанай, і я знарок упарта, назойліва глядзеў ёй у вочы. Яна не вытрымала.

— Чаго ты маўчыш? — раззлавана спытала яна.— Калі прыехаў, дык няма чаго маўчаць.

— Я кахаю цябе,— сказаў я, па-блазенску ўсміхаючыся.

— Ну і што?..

— Кахаю — і ўсё. Таму і прыехаў.

— У мяне ёсць муж,— сказала яна.

— Хто? Мухін? Дык ён жа стары...

— А табе што? — сказала Надзя.— Ты хто мне, каб указваць? Яна хацела пайсці. Я затрымаў яе.

— Надзя, я не сказаў табе. Я іду на вельмі небяспечнае заданне.

Яна адвярнулася. Пачала капаць носікам бота зямлю.

Я адвязаў каня, падцягнуў папругі. Вецер весела фыркнуў, адчуваючы дарогу дамоў.

— Бывай, Надзя! — сказаў я.— Жадаю табе выйсці з вайны жывой...

Здаецца, маё пажаданне кранула яе. А можа ёй проста стала шкада мяне. Усё ж мы гадаваліся разам. Нашы хаты стаялі поруч, і, бывала, маці часта прыводзіла Надзю пагуляць да нас, бо яна адна баялася заставацца дома.

— Жадаю табе ўсяго добрага,— сказала Надзя.

Яна абняла мяне і тройчы пацалавала ў лоб, як нябожчыка.

## 2.

Вузенькая вулачка — дзве каляіны між густой і зялёнай муравы — недзе хавалася за ўзгоркам. Хаты стаялі не густа і не пры самай вуліцы, а далей, у агародах; хаваліся ад цікаўных вачэй за густой зелянінай садоў.

Я пазнаў патрэбны мне дом па сіняй галубятні на даху. Вулачка пуставала, і я адразу ж павярнуў у брамку.

У палісадніку на лавачцы пры хаце сядзеў дзед — лысаваты, з белымі кужэльнымі валасамі, клеіў гармонік. Убачыўшы мяне, дзед адсунуў убок гармонік, і той неяк жаласліва рыпнуў.

— Марына Цяцерына тут жыве? — запытаўся я.

Дзед зірнуў на мяне абыякавымі выцвілымі вачыма, паклаў гармонік на калена, пачаў прыглядацца да яго.

— А навошта яна табе?

Добра, што спытаў так: значыць, я нічога не пераблытаў, а то ўжо здалося, што трапіў да кагосьці чужога.

— Мы з ёю сябры. Хацеў пабачыць.

Дзед выразаў кавалачак цыраты, памазаў яго бульбяным клеем, прыляпіў да меха. Разгладжваючы каструбаватым пальцам латку, прыглядаўся да мяне падслепаватымі вачыма. Мабыць, яму было ў ахвоту выпрабоўваць маё цярпенне.

— Няма Марыны,— нарэшце сказаў ён.

— Як няма? Дзе ж яна?

— Так што нямашака, і ўсё тут. Была — і няма...

Я разгубіўся. Што рабіць? Асцярожнасць і правілы канспірацыі патрабавалі — уцякай! Але я не мог скрануцца з месца. Я чамусьці сеў побач з дзедам, але не зухавата, як трэба было б, а цяжка, зняможана.

Дзед зняў планкі, пачаў калупацца ў клапанах тоненькай адвёрткай. І тут я раптам успомніў, што ўсю дарогу хацеў піць.

— Вады ў вас не знойдзецца часам? — запытаўся я.

— Калодзеж вунь там,— дзед кіўнуў галавою кудысьці ў куток саду.

Калодзеж — драўляны зруб, дзве перакладзіны і калаўрот з выслізганай ручкай — нагадваў той, што быў у нашай вёсцы. Толькі наш стаяў на гале.

Спачатку я зазірнуў у калодзеж. Чорная прорва канчалася недзе глыбока светлай плямкай. Я ўзяў вядро.

Раптам мне пачуліся галасы. Гаварылі за плотам. Адзін голас мужчынскі, грубаваты, настойлівы, другі — жаночы, кволы, нерашучы. Слоў не разабраць.

Чужое мірнае жыццё было для мяне, як цёмны лес. Я адвык ад яго, не разумеў, пра што могуць гаварыць людзі, калі не пра вайну.

Спружынячы крокі, я памалу пайшоў да плота, прысеў ля малінніку, шукаючы ў плоце шчыліны.

— Табе ўсё проста... Табе ўсё дужа проста...— пачуў я дакорлівы голас жанчыны.

— Скажы, што не любіш. Брыдкі я табе?

— Ну і дурны.

— Тут здурэеш. Я, па-твойму, камень ці ідал які?..

— Ну, не злуйся...

Яны заціхлі. Я прыслухоўваўся напружана, аж пачало звінець у вушах. Мне здавалася, што на другі бок плота цалуюцца.

«Ах, чорт! Вайна, а яны цалуюцца. Пужнуць бы іх...»

Я злаваў таму, што не меў такой магчымасці.

— Перастань, чуеш... Ашалеў... Дальбог, крыкну,— даляцеў з-за плота жаночы голас.

— Крычы!.. Зіна... пачакай. Ну, не буду...

— Ну цябе...

— Сядзь... Пагаворым, як людзі. Ну, чаго ты?

— Я не такая... Ты не думай, што я такая. Мне проста сумна і страшна. Так адзінока, што месца не знаходжу.

— Ну і прыгарніся.

— Эх, ты! Табе ўсё проста.

Я памалу пачаў адыходзіць. Наліха было падслухоўваць? Звычайнае спатканне, звычайная ў такіх выпадках размова.

Я напіўся, памалу пайшоў да дзеда. Ля яго сядзела жанчына. Хто яна? Можа Марына? А калі не яна? Здаецца, яна.

— Добры дзень,— сказаў я, падыходзячы бліжэй.— Алег Аляксандравіч раіў папытаць у вас шчасця.

Гэта быў пароль.

— Я шчасцем не гандлюю,— адказала жанчына, і ў мяне адлягло на сэрцы.

Марына павяла мяне ў хату. Са спіны яна нагадвала дзяўчынку-падлетка: тоненькая шыйка, вузкія плечы, але з твару ёй можна даць і дваццаць пяць, і трыццаць гадоў. Асабліва ўражвалі вочы. Такія я бачыў толькі аднойчы. Даўно. У нашай царкве, на бакавой сцяне справа, вісела карціна маці боскай ля распятага на крыжы сына-бога. Дык вось у той боскай маці былі вочы, падобныя на Марыніны.





— А хто гэты стары? — запытаўся ў Марыны.
— Матчын бацька. Значыць, мой дзед...
— Ён не хацеў сказаць, што вы дома. Я ўжо не ведаў, што рабіць.
Марына прапусціла мяне ў хату паперад сябе, павяла праз залю ў бакавушку з адным акном.
— Будзеце жыць тут,— сказала яна.— На той палавіне, праз сенцы, жыве цётка з мужам. Ён працуе следчым па крымінальных справах. Чалавек неблагі, але раю быць асцярожным.
Пра дзеда яна так нічога і не сказала.

## 3.

Следчым па асабліва важных справах крымінальнага вышуку аказаўся невысокі лысы чалавек з касмылькамі сівых валасоў над вушамі, але затое з чорнай барадою, акуратна падстрыжанай і расчасанай.
Мы сутыкнуліся з ім дні праз тры ў сенцах, якія раздзялялі наша жытло. Следчы ішоў з двара. На ім была сетка, з тых, даваенных, з кароткімі рукавамі і вялізным выкатам спераду і на спіне. Сіняе дыяганалевае галіфэ трымалася і на падцяжках і на шырокай папрузе; на спражцы акуратна была спілена пяціканцовая зорка.
Я саступіў яму дарогу. Ён быў прайшоў міма, але тут жа гукнуў мяне:
— Даруйце, Марына мне расказвала пра вас, але асабіста я не знаёмы. Сіміён Венідзіктавіч,— сказаў ён, хаваючы, аднак, рукі за спіною.— На жаль, не магу падаць рукі: іду, прабачце, з адхожага месца.
— Рады знаёмству,— ледзь утрымаўшыся ад спакусы выкінуць якую дурноту, ветліва адказаў я.— Ткачук.
Выйшаўшы на двор, я даў волю свайму абурэнню: «Неблагі чалавек»,— прыгадаў я Марыніны словы.— Сволач, здраднік, садыст, які, напэўна, трушчыць косці людзям! Трапіўся б ты мне ў лесе... Ну і хата! Падпаліць бы — і ў лес».
Сіміён Венідзіктавіч завітаў таго ж дня падвечар разам з жонкай. Ён доўга прыгладжваў рэдзенькія валасы, стараўся схаваць імі ружовую і ўжо вялікаватую лысіну.
— Мне заўсёды прыемна бачыць разважлівых маладых людзей,— пачаў ён, нібы прадаўжаючы ранішнюю размову ў часе нашага знаёмства.— У той сітуацыі, што склалася на сённяшні дзень, цвярозае стаўленне да новага парадку, які прынесла нам доблесная нямецкая армія, вымагае максімум дальнабачнасці.
Ён гаварыў нудна, быццам чытаў мне лекцыю, а я слухаў і ўсё думаў: «Звездануць бы табе ў лоб!..»
З сабою я прынёс бутэльку спірту. І хоць мне не хацелася піць з гэтым чалавекам, трэба было садзіцца за стол.
Сіміён Венідзіктавіч пасля другой чаркі пачырванеў, заліўся потам, прадаўжаючы, аднак, пахвальваць нямецкі парадак. Я больш маўчаў, баючыся свайго языка. Дзед зусім асавеў і ўсё мармытаў пад нос: «Курыцыны дзеці, ліха на вас матары».
Нарэшце мы развіталіся — Сіміён Венідзіктавіч, заглядаючы мне ў вочы, доўга цісNуў руку і непаслухмяным языком разы два паўтараў адно і тое ж:
— Спадзяюся, мы будзем сябрамі... Мы будзем, спадзяюся, сябрамі.
Дзед узабраўся на печ і адразу засоп, а мы з Марынай пачалі прыбіраць са стала.



— Ты спадабаўся Сіміёну Венідзіктавічу,— сказала Марына.
— Сволач ён,— адгукнуўся я.
Марына ўзяла мяне за лацкан пінжака, зазіраючы ў вочы, сказала:
— А як жа мне? Дзень пры дні вось так... Здаецца, у брудзе з ног да галавы. Ты ідзі, кладзіся...
Я ўжо двойчы быў на месцы спаткання, але ніхто да мяне не падышоў, і таму пачало забірацца ў душу сумненне. Днём яшчэ нічога, а ноччу не мог заснуць, усё думаючы пра адно і тое ж: ці не здарылася што-небудзь.
Марына нечага хадзіла па хаце. Я чуў яе крокі то ў залі, то на кухні. Ад выпітага спірту мяне чамусьці ліхаманіла, усё хацелася падняцца і пайсці, хоць бы на двор, у сад. Але я стрымліваў сябе. І ўжо ведаў, што цяпер не засну да самай раніцы.
Вокны ва ўсім доме былі завешаны цвёрдай чорнай паперай. У пакоі стаяла непраглядная цемра і цяжкое, духатлівае паветра. Я чуў, як Марына патушыла лямпу, пайшла ў свой пакойчык. Настала цішыня. Нават дзед перастаў сапці, і я падумаў, ці не памёр ён.
Я не пачуў, як адчыніліся дзверы, але раптам адчуў, што нехта стаіць побач. У мяне закалацілася сэрца і аж балюча засмактала пад лыжачкай. Я маўчаў, знямелы ад страху.
— Ты не спіш? — пачуўся ледзь улоўны шэпт, і Марыніны рукі слізганулі па маім плячы.— Пасунься...
Я моўчкі пасунуўся. Яна лягла побач на спіну і, мабыць, заклала рукі за галаву: яе локаць крануўся маёй скроні. Я выразна чуў, як б'ецца на скроні жылка.
Марына не ведала і не павінна была ведаць пра маё заданне. Таму я падумаў, што яна прыйшла да мяне не так сабе, а з адной мэтай — выведаць, якое мне дадзена заданне. Усё сведчыла пра гэта: і следчы крымінальнага вышуку, і яе дзед, які схлусіў мне, і наогул уся атмасфера гэтага прадажнага дома.
Я ляжаў, утаропіўшы вочы ў цемру, пакутліва чакаў, што будзе далей.
— Ты, мабыць, думаеш: во якая распусная жанчына, сама ў ложак лягла,— напаўшэпт сказала Марына.— Ты не думай... Я не такая. Я зусім не такая...
Мне адразу ж прыгадалася тая падслуханая размова за плотам, што ўразіла мяне ў першы дзень. Нават здалося, што я чую той жа голас. Я, мабыць, здрыгануўся, бо Марына павярнулася на бок, спытала:
— Табе дрэнна? Можа захварэў?..
— Я ніколі не піў спірту,— прызнаўся я.
Марына саскочыла з ложка і знікла ў цемры. Яе не было хвілін пяць.
— Дзе твая рука? — вярнуўшыся, зашаптала яна.— Выпі нашатыру. Вазьмі і выпі. Як рукой здыме.
Я выпіў. Яна паставіла чарку на тумбачку і зноў лягла побач.
— Які ты спацелы і халодны,— сказала яна, выціраючы далонёю мой твар.— Шкада мне цябе. Усіх шкада, аж сэрца баліць.
— І дзядзьку? — падкалоў я.
— І яго...
Вайна абвастрыла нашу непрымірымасць. Мы ненавідзелі не толькі здраднікаў, але і тых, хто паблажліва ставіўся да іх,— так, як Марына да свайго дзядзькі. Таму Марыніны словы нібы ўкалолі мяне.
— Ты чаму нам памагаеш? — злосна спытаў я.

— А каму ж? Я да вайны на трыкатажнай фабрыцы працавала. Бывала, на кастрычніцкія святы або на Першае мая хадзілі ў калонах на дэманстрацыю. Кожны цэх у сваіх касцюмах. Адзін — у сініх, другі — у ружовых, трэці — у салатавых. Летась прыйшлі кастрычніцкія святы, дык я ўвесь дзень раўла. Ну, як, ці палегчала табе?

— Здаецца, лепш,— адказаў я, сапраўды адчуўшы, што цвярозы.

— Гэта мяне адзін немец навучыў. Добры такі дзядзька. Ад'язджаў на фронт, дык плакаў. Шкада яго.

— Табе ўсіх шкада.

— А хіба ён вінаваты? Паслалі і ваюе. Цябе во таксама паслалі.

— Ты мяне з фашыстам не раўняй,— абурыўся я.— І вашым і нашым спачуваеш. Хрыстосік нейкі.

Мне захацелася закурыць. Цыгарэты і запалкі ляжалі на тумбачцы. Я прыўзняўся, абапёршыся на локаць, працягнуў руку. Марына абхапіла мяне за шыю.

— Чаго ты злуешся,— зашаптала яна.— Я так, я проста так. Жудасна, няўтульна на свеце... А вы ўсе такія жорсткія, злыя...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Потым я ляжаў разгублены, абмяклы ад яе ласкі, ад усяго таго, што здарылася. Марына чамусьці плакала, паклаўшы галаву на мае грудзі.

— Перастань,— сказаў я, адчуваючы нейкую вінаватасць.— Чаго плачаш, сама ж...

— Ды я не таму,— адказала яна.

І зноў пачала лашчыцца да мяне.

Мне было непрыемна адчуваць, як яе гарачыя рукі кранаюцца майго твару. Толькі цяпер я адчуў, што яна чужая мне і ніколі не стане блізкай. Я ненавідзеў сябе. Мне было сорамна і брыдка і чамусьці шкада яе, такую адзінокую і безабаронную.

— У мяне была дзяўчына, якая здрадзіла мне,— сказаў я толькі таму, каб апраўдаць сябе перад Марынай. Мне здавалася, што яе абражае мая абыякавасць.

— Я буду кахаць цябе,— адказала Марына.

## 4.

На базары, дзе я павінен быў сустрэцца з сувязным, пачалася аблава. Засяроджаны сваімі думкамі, я не заўважыў, як паліцэйскія абкружылі базар.

Нас, чалавек трыццаць мужчын, прывезлі на Падзвінне, дзе ў памяшканні банка размяшчалася паліцэйскае ўпраўленне. Аперацыйная банкаўская зала, з якой выкінулі перагародкі, здалася вялізнай і няўтульнай. Нас пасадзілі ля сцяны на каменную падлогу. Два паліцэйскія селі на лаўку насупраць, зашчаміўшы вінтоўкі між ног, пачалі закурваць.

Хвілін праз дзесяць пачалася праверка дакументаў. Я быў упэўнены, што мае дакументы зроблены бездакорна, але хваляваўся.

Нейкі чарнявы тып і двое не маладых ужо немцаў у форме палявой жандармерыі не спяшаючыся бралі дакументы, уважліва чыталі іх і вярталі назад, але нікога не адпускалі.

Нарэшце чарга дайшла да мяне. Я працягнуў пашпарт і пропуск з адносінай чыгуначнай камендатуры суседняга горада, якая давала мне права на пражыццё ў тутэйшым горадзе.

Чарнявы тып доўга вывучаў дакументы, час ад часу пазіраючы



на мяне, перадаў дакументы жандарам. У мяне пахаладзела ўсярэдзіне.

«Няўжо ўсё?»

Але немцы, сказаўшы «гут», вярнулі дакументы чарняваму. «Значыць, пранесла»,— падумаў я.

— Вы дзе жывяце? — запытаў чарнявы, хоць у пашпарце стаяў штамп прапіскі.

Я адказаў. Чарнявы пайшоў да абабітых цыратай дзвярэй.

— Сельваноўскі,— гукнуў ён кагосьці, адчыніўшы дзверы,— выйдзіце на хвілінку. Тут адзін субчык па вашаму адрасу катаецца.

На парозе паявіўся Сіміён Венідзіктавіч. Мне кінулася ў вочы, што ён адразу ж пазнаў мяне, але зрабіў выгляд, быццам не ўбачыў.

— Хто?

— Вось гэты,— паказаў на мяне чарнявы.

— А-а-а, прабачце, не заўважыў адразу,— неяк сурова сказаў мне Сіміён Венідзіктавіч і, павярнуўшыся да чарнявага, растлумачыў: — Так, так, ён у нас жыве... Жаніх жончынай пляменніцы... Я вам больш не патрэбны?

Ён пайшоў у кабінет, нават не паглядзеўшы на мяне.

— Можаце ісці,— аддаў дакументы чарнявы.— Спадзяюся, запросіце на вяселле.

— Абавязкова,— залішне весела выгукнуў я.

Мінуўшы скверык перад былым гістарычным музеем, я павярнуў у завулак і пачуў, што за мной хтосьці ідзе.

Нават цэнтральныя вуліцы горада тады пуставалі. І гэты чалавек, што ўлёг за мной у завулку, выклікаў падазрэнне. Няўжо сочыць? Чаму?

Чалавек даганяў мяне. У гэтым не было сумнення. Я чуў, як усё набліжаюцца ягоныя крокі. Нарэшце ён параўняўся са мною. Не паварочваючы галавы, я ўбачыў немаладога чалавека ў клятчастай кепачцы.

— Даруйце, вы тутэйшы? — спытаў ён.

— Не, прыезджы...

— А ці не ведаеце, дзе Багаслоўскі тупік?

Значыць, сувязны!.. А можа не ён?

Я з цікавасцю глянуў на яго. Быў ён худы — на твары востра выпіралі скулы над упалымі, як у бяззубых, шчокамі,— даволі высокі, можа ад таго, што схуднеў.

— Вам патрэбны тупік ці вуліца?

— Тупік. Дом нумар сем.

— Мабыць, за ракой,— адказаў я.

— Ідзіце на Чацвёртую Пескавецкую, тры. Я буду чакаць,— адказаў ён і пайшоў.

Я з палёгкай уздыхнуў. Кончыліся надакучлівае чаканне, турботы. Ад радасці я проста не чуў пад сабою ног. Але трэба было і не вельмі спяшацца, каб не прыйсці раней.

На Чацвёртай Пескавецкай мяне ўжо чакалі.

— Давайце знаёміцца,— сказаў той чалавек, які сустрэў мяне.— Я — Андрэй. Падпольная клічка — Ключ. А гэта,— ён паказаў на дзяўчыну,— Ніна. Ніна, і ўсё. Вы — Ткачук, я гэта ведаю, бо сам рабіў дакументы. Для нас вы — Дзіма.

У гэтым аднабаковым знаёмстве было штосьці незвычайнае, але яно не здзівіла мяне.

— Я вас тры дні запар чакаў... Што-небудзь здарылася? — спытаў я.

Андрэю, здаецца, маё пытанне не спадабалася, але ён тут жа адказаў:

— Мы баяліся слежкі, таму я і цягнуў.

«Значыць, і сёння Андрэй бачыў мяне на базары,— падумаў я,— бачыў, як я трапіў у аблаву. А каб мяне не адпусцілі?..»

Мне стала крыўдна.

— Гэта вы дарэмна. Я ўжо не ведаў, што рабіць,— сказаў я.

— Пажывяце — ацэніце,— адгукнулася жанчына, якая дасюль маўчала.

— Таварыш Ткачук усё яшчэ думае, што ён у лесе, сярод сваіх. А тут абстановачка паганая. Дарэчы, вы ведаеце, што група, якая павінна была выконваць гэтае заданне, правалілася. І арыштавалі яе тады, калі прыйшоў сувязны ад вас...

Я пра гэта не чуў і аж здрыгануўся ад Андрэевых слоў.

— Што гэта значыць? — спытаў я.

— А тое, што яны не дрэмлюць. І, мабыць, недзе там, у вас, сядзіць іх агент...

— Не можа быць...

Я чакаў, што Андрэй запярэчыць, прывядзе нейкія доказы, але ён павёў гаворку пра заданне, якое належала выконваць. Ягоная сур'ёзная разважлівасць, глыбокая ўпэўненасць, з якой ён расказваў пра план аперацыі, супакоілі мяне, адагналі трывожныя думкі, што былі замітусіліся ў галаве. Я ўвесь аддаўся гэтаму смеламу да адчаю плану, які прапаноўваў Андрэй.

Нарэшце мы збольшага абгаварылі асобныя дэталі. Мне трэба было ісці.

— Скажы, Андрэй, што гэта за кватэра, дзе я жыву? — спытаў я.

— А што? — насцярожыўся ён.

Я ледзьве не пачаў расказваць пра начныя прыгоды, але чамусьці ўстрымаўся.

— Вельмі ўжо сямейка каларытная. Адзін Сіміён чаго варты.

Андрэй ледзь улоўна ўсміхнуўся.

## 5.

З Чацвёртай Пескавецкай да Марынінай хаты было кіламетры два, калі не больш. Засяроджаны сваімі думкамі, я не вельмі звяртаў увагу на тое, што дзеецца навокал. Ды, зрэшты, і звяртаць увагу не было на што: горад быў бязлюдны. Нават паліцэйскіх не відаць. Асабліва пустым выглядаў раён Заручэўя, праз які я ішоў. Абгарэлыя коміны, папялішчы, руіны, парослыя бур'янам вуліцы — і ні душы.

Каб спрамаваць шлях, я павярнуў за царквою напраслі праз агароды і неўзабаве выйшаў да руін электрастанцыі. Адсюль ужо была бачна вуліца, на якой жыла Марына.

Прыпыніўшыся сярод руін, каб закурыць, я ўбачыў чалавека, які шыбаваў таксама напрасткі, пераразаючы мне дарогу.

«Як ён падобны на Мухіна,— падумаў я.— Ну проста выліты Мухін».

Чалавек прайшоў ад мяне крокаў за трыста, па той дарозе, што вяла за горад, што даходзіла аж да нашай партызанскай зоны.

Марына была адна. Яна абрадавалася, быццам даўным-даўно не бачыла мяне, павісла на шыі.

— Галодны, мабыць. Садзіся за стол... Божа, я так хвалявалася. Пайшоў, і няма.





Яна паставіла на стол абед, прысела поруч і ўсё лаўчылася, каб прытуліцца ці хоць кранулца рукою да пляча або да рукі.

— Можа адпачнеш? — спытала яна.— Ты такі змораны. Божа, як мне шкада цябе, каб ты толькі ведаў, і як я баюся за цябе!

Я зняў боты, не распранаючыся лёг на коўдру і толькі цяпер ад-

чуў, што сапраўды змарыўся. Троху счакаўшы, увайшла Марына, села на ложак, паклала галаву мне на грудзі.

— Ты хоць крыху кахаеш мяне? — самотна спытала яна.— Не, не гавары... Я ўсё разумею, міленькі мой. Каб ты толькі ведаў, як мне цяжка. Забяры мяне адсюль. Забярэш, добра? Я, як сабака, буду верная табе...

Яна пачала цалаваць мяне, як апантаная, і раптам заплакала, як учора ноччу, без усякай прычыны. Я спрабаваў супакоіць яе, але яна плакала яшчэ горай.

— Чаго ты?! — не сцярпеў я.— Вочы на мокрым месцы, ці што?

Марына адразу ж перастала плакаць, выцерла вочы.

— Не злуйся, міленькі мой, не буду.

Мне стала шкада яе. Я абняў, нічога, апрача жаласці, не адчуваючы.

— Я таксама кахаю цябе,— схлусіў я.

— Праўда? Праўда? — Яна зноў пачала цалаваць мяне.— Хочаш, я табе нешта скажу. Баюся толькі, што ты абразішся... Пакляніся, што не перастанеш кахаць мяне.

— Клянуся,— усміхнуўся я з яе наіўнасці.

— Дык вось, я была замужам,— яна паглядзела, якое гэта ўражанне зрабіла на мяне.

— Ну і што?

— Я была замужам адно лета. Потым ён кінуў мяне. Перад вайной увосень быў вярнуўся, а там зноў за сваё. Я яго не кахала, ты не падумай чаго. Я яго ўвесь час баялася. Бывала, кладуся спаць і ўсё думаю, што ён мяне задушыць.

— Ну і дурная...

— Ты яго не ведаеш... Знаеш,— Марына паклала абедзве рукі на маё плячо,— ён сёння зноў да мяне прыходзіў. Хвілін за дзесяць да цябе пайшоў...

Мяне як токам жыганула думка: гэта той, што падобны на Мухіна. Я аж сеў. Прыгадаліся Андрэевы словы наконт нямецкага агента. Усё гэта разам неяк нечакана проста, як разрозненыя колцы, злучылася ў адзін ланцуг: Мухін і ёсць той агент.

— Ну вось, ты і пакрыўдзіўся,— сказала Марына.

Я пастараўся зрабіць бесклапотны выгляд.

— Зусім не. Я, мабыць, сустрэўся з ім і не ведаў, што гэта твой муж. Ён жа стары вельмі.

— Што ты!.. Яму дваццаць дзевяць усяго. Гэта ён у лагеры пасівеў.

Цяпер я не сумняваўся, што Мухін і Марынін муж — адно і тое ж.

— Дык ён у горадзе? — спытаў я.

— А дзе ж яшчэ. Паявіцца і зноў знікне. А навошта ён мне такі. Гуляка, бабнік.

— Дык дзе ён працуе?

— А на чыгунцы, машыністам...

«Значыць, не Мухін»,— падумаў я і нібы абрадаваўся, але ўсё яшчэ прадаўжаў распытваць Марыну.

Яна расказвала ахвотна, але, бадай, мала што ведала пра яго. За вясну і лета ён прыходзіў усяго трэці раз, і то на хвілінку. Увесь час жыве на станцыі, а можа ў другой жанчыны. Марына гаварыла пра гэта абыякава.

Яе расказ пераканаў мяне, што муж Марынін не мае ніякага дачынення да Мухіна. Але нешта ўжо не давала спакою. А што, калі



ўсё ж такі гэта быў Мухін? Мусіць, тое, што ён адбіў у мяне Надзю, прымушала бачыць у ім ворага.

Назаўтра мы сустрэліся з Андрэем. Я расказаў яму пра сваё падазрэнне. Той выслухаў мяне, ні разу не перабіўшы. Потым доўга хадзіў па хаце, паклікаў Ніну.

— Што табе вядома пра Марынінага мужа? — спытаў ён.

— Які ён муж! — чамусьці з пагардай адказала Ніна.— Разы два прывалокся.

— Чакай, чакай, я прасіў высветліць на вузле...

— Дык я і хадзіла. А ён усё ў паездках.

— Ну, вось што,— падумаўшы, сказаў Андрэй,— хоць і сумніцельна, а праверыць трэба. Праз дні два я паведамлю ў атрад. Табе падшукаем новую кватэру, бо, па шчырасці, Марына гэтая мне ніколі не падабалася. А цяпер — за справу.

Я пачаў слухаць Андрэя, увесь час думаючы пра адно і тое ж: пра Мухіна і мужа Марыны. І чым больш думаў, тым выразней бачыў каржакаватую постаць Мухіна, які прайшоў перада мной па дарозе.

Вярнуўшыся дадому, я паклікаў Марыну, стараючыся выглядаць заклапочаным, сказаў, што не буду начаваць дома. Як толькі зайшло сонца, я непрыкметна сігануў у раўчук, выйшаў па ім аж за горад, у поле.

Дваццаць з гакам кіламетраў я прайшоў гадзіны за тры і пасля поўначы быў ужо ў атрадзе.

Калі я расказаў Вілюгу пра сваё падазрэнне, той паглядзеў на мяне, як на вар'ята. І я раптам адчуў, што зрабіў найвялікшае глупства. Я не меў права пакідаць горад. Але цяпер адступаць было позна.

— Ты не пазірай так на мяне. Я перакананы, што Мухін шпіён.

Вілюга пацёр скроні.

— А ты ведаеш, што на яго рахунку тры эшалоны?

— А хто правяраў? Мухін табе што хочаш скажа.

— А ты разумееш, што ў групе заўважылі б адсутнасць Мухіна?

— А ты ўпэўнены, што ён увесь час быў пры групе? — павысіў я голас.

Здаецца, гэта крыху падзейнічала. Вілюга закурыў, задумаўся.

— Гэта можна праверыць,— сказаў ён.— Зараз мы паклічам яго.

— Не трэба,— запярэчыў я.— Пакліч лепей Надзю...

— І то праўда,— пагадзіўся Вілюга.

Надзя прыйшла хвілін праз дваццаць. Я схаваўся ў другім пакоі, але добра чуў усю размову.

— Ну, бачыш,— сказаў Вілюга.— Дарэмна ты гэта.

## 6.

Аперацыя была прызначана на суботу. У сераду я хадзіў у атрад. А ў чацвер мы канчаткова дамовіліся пра аперацыю, і я вярнуўся дадому.

— Да суботы нікуды не выходзь,— папярэдзіў мяне Андрэй.

Я абрадаваўся. Дзіўна, але я раптам адчуў, што кахаю Марыну. Пачуццё гэта ўзнікла неяк адразу і, напэўна, у той самы час, калі я, вярнуўшыся з атрада, ціхенька пастукаў у акно і Марына выбегла да мяне босая, у адной кароценькай кашульцы. Я, нечакана для самога сябе, падняў яе на рукі, закружыўся на месцы.

Потым, пабраўшыся за рукі, мы ўвайшлі ў хату, на пальчыках

прабраліся ў пакой і, нават не зачыніўшы дзвярэй, кінуліся адно да аднаго ў абдымкі.

Я ведаў, што і гэтая ноч будзе такая ж нястрымная, таму радаваўся, як дзіця. І, праўда, як толькі лёг дзед, Марына прыйшла да мяне. Я чуў, як яна паспешліва зняла цераз галаву плацце.

— Божа, я нібы перад смерцю,— зашаптала яна, абдымаючы мяне,— не магу нацешыцца. У мяне заходзіцца сэрца, паслухай, як яно б'ецца.

Яна паклала маю руку на грудзі, пачала цалаваць мяне так, быццам мы вось-вось расстанемся.

Мы не спалі да самай раніцы. Калі Марына пайшла, я заснуў адразу. Мне здалося, што я толькі-толькі заплюшчыў вочы, як нехта пачаў будзіць мяне.

Марына злёгку кранала мяне за плячо.

— Да цябе прыйшлі,— сказала яна.

Спрасонку я не мог зразумець, хто мог прыйсці.

У залі сядзела Ніна. Я надзвычай здзівіўся. Чаму яна тут? Што ёй трэба?

Марына адразу ж выйшла.

— Вас кліча Андрэй,— сказала Ніна.— Зараз жа.

— Што-небудзь здарылася?

— Не ведаю...

Я сабраўся, як па трывозе.

Андрэя мы засталі ўзрушаным. Ён бегаў па пакоі, і я падумаў: «Няўжо ён бегае з той мінуты, як паслаў па мяне Ніну?»

— Сядай,— загадаў ён.— Ты гаварыў што-небудзь Марыне пра аперацыю? Можа яна пыталася?

— Не, што ты! — паспешліва адказаў я, адчуваючы нешта нядобрае.

— А ты падумай...

— Слухай, я нічога не разумею. Што ўсё гэта значыць?

— А тое,— Андрэй засунуў рукі ў кішэні,— што Марына правакатар, што яе так званы муж Іван Васільевіч Ражкоў — зусім не Ражкоў, а нехта другі, які толькі прыкрываецца ягоным прозвішчам.

Я нічога не разумеў, хоць навіна моцна ўразіла мяне.

— Чакай, а дзе ж яе муж?

— Дзе? У вас, у партызанах. Камандзір падрыўной групы Мухін, пра якога ты мне гаварыў. Так, здаецца, яго прозвішча.

Пачуўшы пра Мухіна, я зарагатаў. Мне стала лёгка, а ўсё абвінавачанне Андрэя супраць Марыны падалося дзікім трызненнем.

— Вы ашалелі тут,— пачаў я.— Шпіёнаманія нейкая. Глупства! Ні Мухін, ні Марына не вінаватыя. Хочаш, я дакажу?

— Паспрабуй...

— Дык вось, у ноч з серады на чацвер я быў у атрадзе. Мухін не адлучаўся з групы. З мяне пасмяяліся там.

Я чакаў, што Андрэй адразу ж супакоіцца. Але ён зазлаваў, абазваў мяне хлапчуком, шчанюком і яшчэ чорт ведае як за тое, што я без дазволу хадзіў у атрад.

— Я цябе адхіляю ад аперацыі,— накрычаўшыся, ужо спакойна сказаў ён.

— Не выйдзе,— адказаў я.— І няма чаго вар'яцець ад страху.

Мы сядзелі хвілін пяць моўчкі, незадаволеныя адзін адным. Потым Андрэй падышоў да мяне, паклаў рукі на плечы.

— Слухай, Ткачук, ты пойдзеш і прывядзеш Марыну.

— Сюды?



— Не, у руіны тэхнікума.

Я ўсё зразумеў і падумаў: «Нізавошта».

— У цябе няма доказаў, і ты не маеш права,— сказаў я.

— Ты пойдзеш і прывядзеш Марыну. Ты пойдзеш і прывядзеш,— ён пазіраў мне ў вочы так, што я раптам паверыў у тое, што Марына вінаватая.— Вазьмі вось пісталет на ўсякі выпадак. Калі што здарыцца — сюды не прыходзь.

Я дасюль не ведаю, што са мною адбывалася. Насуперак сваёй нядаўняй упэўненасці, я ішоў, каб павесці Марыну туды, куды загадаў Андрэй. Я нават склаў план, як буду гэта рабіць, прыдумаў словы, якія скажу, каб Марына ні пра што не здагадалася.

Яна выбегла насустрач мне ў сенцы вясёлая і бесклапотная і раптам спалохана адступіла.

— Божа, што з табой? Які ў цябе страшны твар.

Я пастараўся ўсміхнуцца.

— Нічога, усё добра...

Яна моўчкі пайшла ў хату. Я пазіраў на яе згорбленыя плечы, і дваістае пачуццё ахоплівала мяне ўсё больш. Я быў амаль перакананы, што Андрэй казаў праўду,— Марына правакатар, і ў той жа час мне было шкада яе.

У залі Марына прыпынілася, склала далоні, як на малітве. Я ўбачыў яе самотныя вочы, такія, як у першы дзень знаёмства, але цяпер яны не выклікалі спачування.

«Ага, чуеш, што настала адплата»,— падумаў я.

— Дзе твой дзед? — спытаў я.

— Пайшоў, мабыць, па сена.

— А цётка?

— І яна з ім.

— Нам трэба з табою пайсці.

— Я замкну хату. Яны ведаюць, дзе ключ.

— Збірайся тады.

— Зараз. Ты пачакай. Я зараз. Толькі бялізну зніму.

Мне здалося, што яна дзейнічае, як у сне. Я чамусьці не запярэчыў, каб яна пайшла па бялізну ў сад.

Праз акно я наглядаў, як яна знімае недасушаную яшчэ бялізну, і злаваў, што робіць гэта марудна. Я ўжо хацеў быў пайсці на двор, як убачыў, што хтосьці імкліва ідзе да Марыны. Яна, мабыць, пачула крокі, азірнулася. Яе твар скрывіўся ад страху.

Мужчына падбег да Марыны, нешта сказаў і наводмаш ударыў па твары.

Я адскочыў ад акна, замітусіўся па хаце.

Спачатку на двары, потым у сенцах загучалі галасы. Было падобна, што Марына папярэджвае мяне.

— Ён даўно паехаў. Я не ведаю, хто ён,— крычала яна.

Я ледзь паспеў ускочыць на кухню, стаць за дзверы, як яны зайшлі ў хату. Моцна грукнулі дзверы.

— Міленькі, ну што ты ад мяне хочаш? — пачуўся Марынін голас.

Я выцягнуў пісталет, заціснуў у руцэ.

— Чаму ты не сказала, што ў вас кватарант?

— Хіба ж я ведала, што нельга.

— Калі ён паехаў?

— Ды, мабыць, з тыдзень.

Гучна ляснула аплявуха. Мабыць, Марына ўпала на крэсла, бо нешта драўлянае грукнула аб падлогу.

— Ах ты, сука, ды я цябе... Ён жа ў сераду быў. Каму хлусіць надумала... Ты сказала яму, што я прыходзіў!..

— Няпраўда, няпраўда...— закрычала Марына.

У яе чамусьці перасеў голас. Яна захрыпела:

«Гэта Мухін»,— падумаў я і выглянуў з-за дзвярэй.

Марына ляжала на канапе, а Мухін, нагнуўшыся над ёю, душыў абедзвюма рукамі. Побач валялася крэсла.

Не памятаючы сябе, я стрэліў раз, другі. Мухін паваліўся на канапу тварам уніз. Я стрэліў яшчэ раз. Потым схапіў Марыну за руку.

— Уцякаем!

Яна толькі пахітала галавой.

— Уцякаем!.. Хутчэй!..— Я цягнуў яе за руку ў сенцы.

— Не, ты адзін... Я не магу. Бяжы адзін. Толькі памажы мне яго пад падлогу сцягнуць.

Мусіць, праўду кажуць: свая кашуля бліжэй да цела. Я паслухаўся Марыну.

Толькі адбегшы кіламетраў за пяць ад горада, я пачаў раскайвацца, што не забраў з сабою Марыну. Але і тут знайшоў сабе апраўданне: яна сама не захацела ісці ў партызаны, можа нават пабаялася. Ды як я сябе не супакойваў, а сумленне не знаходзіла спакою.

І тут, як гэта часта бывае, нечакана для сябе я ўспомніў пра Надзю і як бы забыўся пра Марыну. Спачатку мае думкі былі неакрэсленыя, нават нейкія дзікія і подлыя. Але паступова яны акрэсліліся, і тады я спалохаўся таго намеру, які ўзнік быў на самым пачатку: расказаць Вілюгу і Надзі пра Мухіна. Мне стала шкада Надзю, якая — я быў у гэтым упэўнены — ні ў чым не вінаватая. Людзі часам трапляюць у пастку, думаючы, што гэта палац. Хай яна ніколі не ведае, хто быў Мухін, калі ніхто іншы не скажа ёй пра гэта.

На другі дзень майго жыцця ў атрадзе да мяне зайшоў Вілюга, сеў на лаўку і раптам грукнуў кулаком па стале.

— Жыццё, хай на яго! Тысячу разоў чужыя смерці бачыў, а ўсё балюча.

— Ты чаго?

— Мухін да немцаў трапіў. Колькі разоў яму гаварылі: не прыся сам у разведку, дык не. Хлопцы яго аж суткі чакалі — не вярнуўся.

Я прамаўчаў.

А яшчэ праз тыдзень ці два я атрымаў ад Андрэя запіску. У ёй коратка паведамлялася, што Марыну павесілі на скверыку перад гістарычным музеем.

А потым, выконваючы чарговае заданне, загінулі Андрэй і Ніна.

Толькі цяпер, праз шмат гадоў, я адважыўся расказаць пра ўсё, што было. Не хацелася турбаваць Надзю.





***віктар мурашкін***



ПАЭЗІЯ



## Балада пра сланечнік

Над стэпам раздольным
у сінім тумане
Падпаленым танкам палае світанне
Над снамі кароткімі,
Першай расою,
Над мірнаю
і неспакойнай зямлёю,
Дзе і дасюль,
каб нашчадкі помнілі,
Жывыя
мёртвым стаўляюць помнікі.

...А ў стэпе маўклівым —
курганы, курганы...
Недзе там бацька твой пахаваны....
Не бронзы ўрачыстасць, не строгасць
граніту —
Стаіць на кургане,
з бетону адліты,
Нямы абеліск,
ды над памяццю вечнай
Штогод вырастае
высокі сланечнік.

Стаіць у дазоры
і жоўтым суквеццем
Табе праз жыццё,
нібы сонца, свеціць...
І верыш: надзейны дазорны!
Нядарам
З ім побач ўглядаюцца ў неба
радары...

■

Пісалі тысячы паэтаў
Пра сум асенні жураваў...

На рубяжы зімы і лета
І я ў палон іх трапіў зноў.
Яшчэ ў лясах,
за ноч азяблых,
З зямлі праменіцца цяпло,
І сонца, нібы спелы яблык,
Над краем саду узышло.

А над спакоем ніў —
адчайны
Крык жураўліны.
У працяг
Вядзе іх не пазнанне тайны,
А векавы інстынкт жыцця.
У крыках —
і любоў, і вернасць...
Бліжэй,
бліжэй разлукі міг...
Апроч вясны, ніхто
не верне
Цыбатых бежанцаў зімы.

## У партызанскім шпіталі

Кукуй, зязюля,
Злічы ўсе раны...
Не плач, матуля,
Над партызанам.
Харошы фельчар
Таварыш Соня:
Наркозам лечыць —
Самагонам.
Пяршак — да раны,
Унутр — лішкі...
Боль несціханы:
Яшчэ б кілішак.
У руках прывычных
Усё так проста:
Нож паляўнічы,
Як скальпель —
востры.
Сябры не спалі,
Сябры не чулі,
Як даставалі
З-пад сэрца кулі...

■

Апошні дзень, запоўнены табою,
Кружыў мяне,
хмяліў нас абаіх...
І пах рамонкаў, хвоі, зверабою
Змяшаўся з пахам
валасоў тваіх.
А ты, вясёлая,
пайшла праз луг стракаты,
І я паверыў у нязвычны дзень...
Я бачыў:
з лесу вынырнуў сахаты
І доўга-доўга ўслед табе глядзеў.
Гады прайшлі,
Ізноў перада мною,
Як напамін раптоўнае біды,
Вячэрні луг,
пах хвоі, зверабою,
Халодныя
ласіныя
сляды...







**павел міська**

# ПОЕЗД ІШОЎ НА ЗАХАД...

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **В. Шматава**

*Беражыце слёзы вашых дзяцей, каб яны маглі праліваць іх на вашай магіле.*

*Піфагор.*

Яны зайшлі ў вагон неўзабаве пасля Крычава, на невялікім паўстанку.

— У вас мо не занята? — спынілася каля нашага купэ-загародкі, якія бываюць у плацкартных вагонах, жанчына ў чырвоным світары. У адной руцэ яна трымала стары фанерны чамадан, перавязаны, каб не рассыпаўся, аборкаю, у другой — чатырохкантовую, з лубу, карзіну.— Бабка, хадзіце сюды! — паклікала яна кагосьці, павярнуўшыся ў канец вагона, і паставіла на праходзе свае рэчы.

У купэ сядзела пяцёра: маці з дарослаю дачкою і хлапчуком Севам — пад маёю паліцаю; насупраць іх — дэмабілізаваны салдат Коля і раскіслая ад гарачыні таўстуха з капрызлівa апушчанымі куточкамі губ. Сядзелі яны свабодна, але нікому, мусіць, не хацелася пасоўвацца, і жанчына ў чырвоным патапталася каля чамадана ў нерашучасці. Каля таўстухі на лаўцы стаяла рудая, напакаваная чымсьці сумка — ажно не даздержаў, распырхнуўся па шве замок-маланка. Жанчына ў чырвоным світары паглядала на гэтую сумку, азіралася ў канец вагона, адкуль павінна была прыйсці яшчэ нейкая бабка.

— На голаў гатовы садзіцца... Ну

і людзі! — таўстуха скранула на які сантыметр сумку і адвярнулася глядзець у акно.

Жанчына ў чырвоным світары прысела насупраць таўстухі, пада мною, пападсоўвала ўгору рукавы, замахала на сябе далоняй, як веерам: было душна і яе шчокі пунсавелі.

Салдат сядзеў каля акна, пацвяляўся з хлапчуком: то паддаваўся малому, і той з задаволеным крэктам і смехам «клаў на лапаткі» яго руку, то раптам рука замірала, і хлапчук яе не мог паваліць на столпалічку ці хоць бы разагнуць у локці.

— Ну-ну, давай, мужчынка, давай... Ну, яшчэ! Э-э, не возьмуць цябе ў армію! Мала маннай кашы ясі...

— А я не лублу манку... От і ўсё!

— Сева, не прыставай к чалавеку! Бач ты яго — асвойтаўся...— сварыцца на сына маці. Голас у яе сіплы, прастуджаны.

— А я не прыстаю! Гэта ён са мною дужаецца!

Каля ўваходу нарэшце з'явілася маленькая, з пахіла апушчанымі плечыкамі бабулька. Некалі зялёны, а цяпер сшарэлы джэмпер вісеў на ёй ледзь не да калень. Відаць, не свой гэта быў джэмпер, чыйсьці яна даношвала. У руцэ бабка трымала рабенькі, зроблены з хусткі клуначак.

— Дзень добры вам, людзі...— зычліва ўсміхнулася яна, агледзела ўсіх яснымі блакітнымі вочкамі.— Аё-ячкі, а народу сёння! І куды гэта ўсе едуць, каб папытаў?.. Я дык да ўнучкі, да праўнукаў, а яны куды? — і засмяялася дробненька, даверліва.

— Сядайце, бабка, сюды! — падхапіўся, стукнуўшыся галавою аб паліцу, салдат.— Ой! — паскроб ён макаўку.

Сева зарагатаў.

— Сядзі, сядзі, галубок! Я во тутацькі прыхілюся... Колькі мне трэба...— паказала на кавалачак свабоднай лаўкі каля сумкі.— Хай стаіць, хай стаіць! — замахала яна на таўстуху, бо тая зноў узялася для прыліку за сумку.

Салдат тым часам вылез з-за століка, стаў на праходзе, і таўстуха нечакана вёртка рванулася на яго месца, пад акно. Салдат падхапіў яе сумку — гэп! Паставіў на паліцу, аб якую стукнуўся галавою: там яшчэ было месцейка побач з тоўстымі і няўклюднымі скруткамі матрацаў. За сумкаю падхапіў і чамадан, апяразаны вяровачкаю, ускінуў яго на трэцюю, багажную паліцу.

— Я вас не прасіла, малады чалавек! — незадаволена варухнула нітачкамі-брывамі таўстуха і адвярнулася да акна, узлегла на столікпалічку пухнатымі рукамі і грудзьмі.

— Мама, і я пайду з дзядзем Колем пакурыць! — выкаўзнуўся з-за століка Сева.

— Глядзі, не ўлезь нікуды! — хацела пакрычаць, а толькі прасіпела яму ўслед маці.

Бабка пасунулася на лаўцы далей у купэ, падціснула тужэй вузялок чорнай, з півонямі пауз край, хусткі, ямчэй паклала на калені клуначак.

— Татакае поезд, стараецца...— лагодна загаварыла яна, каб завязаць гаворку.

Ніхто ёй не адказаў, прашалахцела старонка кніжкі, якую чытала Севава сястра.

— Дзе там! — падтрымала размову жанчына ў чырвоным світары.— З гары коціцца... Ці вецер падганяе...

— Не-не, добра ідзе, добра...

— Каля кожнага слупа спыняецца!



— А каб не спыняўся, то мы б і не селі.

— Колькі ж вам гадоў, бабка? — азвалася ўрэшце Севава маці і пакашляла.

— Э, поўна ўжо... Ага... У мяне ўнука мо такая, як ты. І праўнука вялікая, у пяты клас перайшла. Малец, праўнучак, у другі... А гэта, во, зноў раскідалася — двайняткі... Дзве дзевачкі. Еду во, памагу Зойцы гадаваць. Волька, дачка мая, слабая штось, не можа. А мяне і ліха не бярэ!

— Дзяцей пагадавалі, унукаў, а цяпер яшчэ і праўнукаў? — здзівіўся сіпаты голас.

— А як жа не пасобіць? Рупаты ў яе многа цяперацька...

— Гадоў восемдзесят мо маеце? — папытала жанчына ў чырвоным світары.

— Пасьці што... Восемдзесят сем.

— Вы яшчэ пяцьдзесят пражывяце! — з зайздрасцю сказала таўстуха. Выгаворвала яна словы паволі, нібы баялася перадаць лішняга.— Даўнейшыя людзі здаровыя, не такія гнілыя, як цяпер. Хіба іх так труцілі лякарствамі, хіміяй, як нас? Якое і ёсць здароўе, то ўрачы адымуць... Ды ў сяле і яда здаровая, расціцельная... Малачко, яйкі...

— Як бы ў горадзе гэтага няма... Хапае цяпер і ў горадзе прадуктаў,— сказала жанчына ў чырвоным світары.

— Хапае! Гэта вам здаецца, бо вы не жывяце з магазіна...— таўстуха асцярожна папрамакала насовачкай куткі рота.

— О-ха-ха... Людзям ніколі не ўнаровіш... Усё чмышуць, усё незадаволены...— як бы сама сабе сказала бабка.

Таўстуха непаваротліва павярнулася да яе, пагардліва азірнула з галавы да ног. Няўжо ўспыхне перапалка? Не, нічога не сказала.

Бабка пачынала мне падабацца. Ад яе, невялічкай і сухенькай, нібы праменілася дабрата і нейкая сіла.

Некаторы час у нашым купэ ўсе маўчалі. Мо думалі, што не з таго пачалі кароткае дарожнае знаёмства, ледзь не пасварыліся, нібы чаго не падзялілі.

Мне яшчэ не хацелася ўставаць. Галава была цяжкая, пабольвала ў скронях. Бо што гэта за сон — у вагоне? Драмаў крыху адным вокам, як заяц, чуў цераз усю ноч кожны стук і скрыгат.

Голас жанчыны ў чырвоным світары, спадарожніцы бабкі:

— Вы не даказалі — поезд якраз падышоў... Ну, сабралі вы подпісы, і што — не чапіліся больш?

— Эге! Каб жа...— бабулька адкашлялася, паправіла на каленях клуначак, пагладзіла яго, нібы котка.

— Каб жа!.. Або гэту падпіску — хіба скора збярэш?

Стары мой, Параханька, сядзеў на печы ў валёнках, абнядужаў саўсім... Смерці чакаў... Як цёпла было, тупаў памалу. Усё дамавіну глядзеў... Зрабіў сабе перад Купаллем, як вайна пачалася, дамавіну. Толькі настае нядзеля — знімае з гарышча, сную каля яе, мяркуе. Падгаблюе трошкі, каб была свяжэйшая... Мыркоча і мыркоча: «Ік прастаўлюся, каб не плакалі... Я сваё аджыў, совісна ў другіх век займаць... Маладыя хай жывуць».

Дык што ты з гэтага кашлюна возьмеш? Пырхае і пырхае на печы, смаліць табаку... А крэпкую любіў курыць — гадзюка атруцішча. Барада ўся пазелянела, як заплеснела, ад тэй табакі... Дак бегатні мне адной многа, у нас яшчэ і хутары кругаля былі, і выселкі... Каб Па-



раханька прабег трохі ды Волька, то мне лягчэй было б... А то сядзіць дочка, ашчаперыўшы Мішку, румзы пускае: «І мяне хай бяруць разам з ім! Усядно жызні няма!»

А снегу многа тады наваліла, не прайсці. Залезеш у сумёт — гвалт, хоць падмогу крычы!

Я спярша да старасты пагрэблася, да Калітки. Угавару яго, думаю, то і ўсе падпішуцца... Дабрачы быў чалавек — Калітка... Яго судзілі пры даваенных Саветах. Ён на ферме загадчыкам быў, а раз пяць свіней здохла. Яго і знялі з работы, хацелі пад суд аддаваць, але ўступіліся людзі... А я яшчэ свінарак падбухторыла, склаліся мы, хто колькі мог, выплацілі за тых свіней. А што і прымуспрацаю адбыў. Немцы яго за тую судзімасць паставілі за старасту. І нам лепш, што свой чалавек, а не які набрыдзень.

Расказала я яму ўсё — так і так. Удаў нехта ўнука, чэпіцца Мацвяёнак да нас... Гэта галоўны паліцай у раёне такое прозвішча меў. «Паўжыдак у вас у хаце! — крычыць.— Яму туды дарога, куды і ўсім яўрэям!» — грозіцца. А з яўрэямі ведаеце ж, як было,— пастралялі ўсіх...

Калітка слухае мяне, тузае абгрызенае кнырам вуха... Быў у нас кныр, вельмі добрага заводу. Звяруга — страх! Па шыю мне, мо паўтоны важыў... Дужа харошыя ад яго парасяткі былі — доўгія-доўгія. Я глядзела яго, карміла, і ён мяне не чапаў. А Калітка зайшоў раз жардзіну памяняць — папераргрызаў люцыпар тэй... Прысеў, стукае абухам... Я чухаю кнораза, каб даў чалавеку работу зрабіць, а ён як рванецца з маіх рук! Капырснуў лычом загадчыка пад бок, тэй і зваліўся. А кныр на яго з клыкамі! Пакуль я схапіла вілы, уторкнула кабану ў лыч, ён і вуха загадчыку адгрыз, і капытамі папароў... Мне хацелі штрап даць, што кнораза віламі папсавала. Але загаілі яму лыч, прадалі гэтага людаеда ў другі калгас...

Ага... Дак тузае свой недагрызак Калітка, тузае... «Хабару з цябе хоча Мацвяёнак... Не можаш укласці сабе ў мазгі, старая? Золата хоча...» — «А дзе ж я яму вазьму тое золата, што ў мяне — залатая фабрыка? — кажу яму.— Во, адзін пярсцёнак вянчальны, і тэй не садраць: пушкі параспухалі, як булавешкі».— «Аднаго пярсцёнка яму будзе мала, я ведаю Мацвяёнка...» — уздыхае Калітка.

Палез за Міколу-цудатворца, што дракона кап'ём коле, дастаў свінафермскую кнігу. Папляваў на пальцы, пагартаў... Вырваў двайны ліст... «Во,— гавора,— хопіць табе на ўсё сяло. Тут і расчэрчана добра. У адну граху хай кожны запісвае сябе, а ў етай во, крайняй, хай распісваецца, паручаецца. А я зараз зверху ліста сачыню, пра што мы просім... Галена, а пра што мы просім? Трэба ж прыдумаць добра...»

А я і прыдумала. «Давай,— кажу,— звернем на настаўніка, што ў нашай школе быў. Як бо яго звалі? Чорны такей... З цёплага боку ён недзе, з Каўказа...» — «Вургена?» — «Кургена ці Мудрагена — мне ўсядно. Ды ён йшчэ ўхаджваў трохі за Волькай, людзі лепш паверацЬ... Напішы, што Волька Мішку з ім нагуляла, ніякі ён не яўрэйчык...»

Папляваў сабе ў далонь Калітка, мачае туды аловачак... Піша і ўсё ўздыхае: «О, божа, дзе ты там ёсцека? Што мы робім! Гэта ж дакумент... І мы яго ўсім сялом скрапляць будзем... Як Вольцы жыць пасля етага? А скончыцца вайна — як ёй будзе стрэцца з Зайкоўскім?» — «Пішы,— кажу.— Калі дасць бог ды жывыя застанемся, то раскажам яму, як было. Калі чалавек ён, то паверыць... Абы вайна скарэй кончылася, абы жывы ён вярнуўся...»

Зайкоўскі, зяць мой, да вайны ў сяльпе быў. Ну і злюбіўся з маёю Волькай, пажаніліся. А тады многія на яе заглядаліся —і Курген тэй, і Котлуб — на сепаратарным пункце рабіў, ражку чырвоную на смятанцы адгадаваў...

Параxенька мой трохі касавурыўся на зяця, што яўрэй. А я дык і не: калі ўжо злыгаліся аднэй вяровачкай — хай! Абы дружна жылі... І не буду богу грашыць, шанаваў ён яе, глядзеў, хоць і суровы быў. А Мішка іх, хлапчучок, мешанец, знацца, як стаў падрастаць, дык не наглядзецца было, не нацешыцца. Але і раздурэў: дужа сваволю далі яму, патачку. Хочаш калі накрычаць на яго, насварыцца — і не можаш. Засмяецца ён, а ў мяне і рукі абвянуць, і сама, як капшук, раблюся. Такі ўсмех у яго быў, у малога, такія зубкі беленькія... Ну — сонейка свеціць, восілка на небе грае!

Напісаў Калітка тую паперу, сам паперад усіх распіску зрабіў. «На,— гавора.— Хай гасподзь памагае... Дзяцёнкі нявінны ні ў чом. А пра золата не забывай, адна папера будзе дужа лёгкая — як пух у ветры. Мацвяёнак любіць, каб важчэйшае што ў руку соўгалі».

Пахадзіў, пахадзіў... «А-а! — махнуў рукою.— Добра, што няма бабы ў хаце». І цягне стол на сярэдзіну... Залез на яго, дастае з-пад бальні анучачку. На палец чорнага пылу на ёй... Разгарнуў — а там два кружочкі залатыя... Малюпахтанькія, як цяперашняя капейка ці дзве капейкі. «Бяры... Хавала баба на чорны дзень, царскія яшчэ. А пасля зубы хацела ўставіць... Не па шаўлюжыне корм, панскія ета забаўкі...» Пашукаў у прыстолку акурат тачкія гузікі, як тыя залатоўкі, завязаў і зноў пакарабкаўся на стол. Падсунуў тую хвалыш пад бальку, шчэ і хвосціка выпусціў чуцельку... Каб відно было, што ляжыць на месцы, знацца... Скокнуў і гаворыць: «Не жвенькай пра ета... Дазнаецца мая баба — жыўцом каўтне, мудрэй за таго кнораза».

Хацела я яму руку пацалаваць, а ён задраў свае, як у ваду зімную лезе — не даўся...

Залэхтала я па хатах, як сабака брадзячы...

Многія стаўлялі свае подпісы... Глядзі што ўсе... У якіх хатах і на каленькі станавілася. Толькі Котлуб наадрэз адказаўся: «Я,— ка,— не прысуцстваваў пры етым, не свяціў ліхтаром... Скуль мне знаць. хто ў байструка таго бацька — адзін ці дзесяць...»

Сіпла пакашляла Севава мама.

— Дачушка, ідзі са сваёй кніжкай дзе ў другое месца. Ці так пагуляй, асвяжыся... Умыйся, скора будзем снедаць.

— Колькі разоў можна мыцца! — скоранька і крыху дзёрзка адказала дзяўчына, Севава сястра. Але ўстала з-пад маёй паліцы, выйшла з незадаволеным выглядам з купэ.

— Вы б не гаварылі непрыстойнасцяў... «Дзяроўня»! — строга варухнула на бабку брывамі-высачкамі тоўстая цётка і яшчэ больш апусціла куточкі губ. Цётка трошачкі пасунулася ад акна, каб лягчэй было павярнуцца, паглядзела на паліцу, куды салдат запраторыў яе разбухлую сумку. Не, не дацягнуцца...

— Адкуль жа ты, мілая, ведаеш, дзе прыстойна, а дзе не? — спытала бабка.— Як вушы вянуць, дак не слухай! На сэрцы здаравей будзе.

Таўстуха ўстала-такі, засланіўшы сабою ад мяне бабку, пакорпалася ў сваёй сумцы, дастала празрыстую плёнчатую торбу, поўную ўсякай яды, і газету. Разаслала газету на столік, зноў засунула сябе ў куток і пачала патрашыць мяшэчак: паклала перад сабою смажаную курыцу, два апельсіны, бутэрброды з батона з маслам і рудымі шпроцінамі, кекс...



— А вы расказвайце, расказвайце... Не зважайце! — падахвоціла бабку жанчына ў чырвоным світары.

— Хто яшчэ не здаў пасцель? Двух камплектаў не хапае,— чуваць дзесьці голас правадніцы.

Я паспешліва адзяваю кашулю, выблытваю з-пад просціны ногі...

— Казаць далей?.. Я забыла ўжо, што паперад было, што апасля... Ці гэта я спачатку бегала ў раён, а тады ўжо была акзякуца... Не, такі паперу пазней насіла... Гэта Параxенька прынёс такое слова — акзякуца. У старой арміі набраўся ніпанятных слоў, як сабака блох...

Наехала раз немцаў, паліцэйскіх, сыпануліся па хатах. Гоняць усіх пад мятлу на царковішча. Я ўспела Мішку ў падпечак загнаць, закідаць лахманамі, чыгункамі старымі, матавілам заставіла. «Нішкні! — кажу.— І сядзі, пакуль не пазавём... Як хто чужы будзе зваць — не адзывайся!» А тут ужо і ў нас грукат у сенях, тапочуць ногі... І мяне загрэблі, і Вольку, і старога з печы спаролі. Апрануцца нават не далі добра, хаты замкнуць — пагналі па марозе, па снезе пад школу. Школка ў нас у папоўскім доме была, прыстроілі да яе яшчэ адно калена на два класы, і так вучылі дзяцей.

Перад школаю было наробленa для дзяцей усякіх забавак шчамляцца... І бервяно, як канавязь — бегаць па ім, і турнікі — круціцца, і вялікія, вышэй за дом, вароты. А мо і не вароты, чорт іх ведае, як называюцца... Два слупы ўкапаны, а зверху на іх яшчэ адзін асаджаны, як перакладзіна. З тэй перакладзіны жэрдкі гладкія звісалі, вяроўкі лазіць дзецям. І драбіны вялізныя наўкаса прыстаўлены да перакладзіны.

Прыгналі нас туды — бачым: немец злазіць па драбінах асцярожна, не хапае ўсіх папярочак. А з перакладзіны пятля звісае. Вяроўка доўгая, у кагось вожкі схапілі... Многа людзей прыгналі, і старых нават і дзяцей, паставілі кружком. «Акзякуца будзець...» — Параxенька шэпча. Ссінеў сам, трасе зялёнаю барадою.

Выходзіць са школы яшчэ куча немцаў і паліцэйскіх, мусека, начальнікаў. Мацвяёнак з імі... Вядуць мужчыну — без шапкі, босага, рукі назад. Твар у струпах, чорны... Пазналі — Карніла, сельсавецкі старшыня, стары парцеец, цара скідаў, у грэжданскую ваяваў... Палякі яго ў дваццатым, палоннага, мучылі, пальцы дзвярыма патрушчылі. Зрасліся — як палачкі тырчалі, не гнуліся. І рукі ад таго ў яго дрыжалі: падпіша ў сельсавеце якую спраўку, ніхто ні адну літарку не разбярэ... Любілі яго, дужа справядлівы чалавек быў. Дзівіліся тады ўсе, ахалі: ён жа вакуіраваўся, з нашымі адышоў! Як ён папаўся? Пасля вайны ўжо настаўнік у школе гаварыў, што Карніла пакінуты быў парцізанаў збіраць...

Ага... За Карнілам паліцай ідзе з табурэцікам, хвост падцяўшы. Азіраецца на людзей, уцягвае галаву ў плечы. Як чакаў, што пачнуць людзі ў яго камянямі кідаць...

Падсадзілі Карнілу на табурэцік, не мог сам са звязанымі рукамі залезці, абнядужаў саўсім... Плакаць людзі пачалі, дзяцей хаваць... Карніла выказвацца добра ўмеў на сходах і тут мо хацеў перад смерцю. Але адно «Таварышы!..» сказаў, і выбілі яму табурэцік з-пад ног.

Гляджу — хтой-та шаволіцца ў мяне пад рукою, прыціскаецца? Мішка прыбег! Вылез з-пад печкі, збаяўся адзін у цемнаце, у прусаках сядзець... Паліточка ліхенькае на ім, хоць верацяном патрасі. Волька яму са свайго старога сачыка сашчапіла. На нагах чуні з вяроўкі,

панчошкі парцяныя... Снегу набралася... Чуні хоць і шкурацікам падшыты, але ў іх толькі ў хаце шкробаць. Скалеў, спруцянеў дзяцёнак зусім. Расшпіліла я кажушок, затуліла яго...

«Так будзе з усімі камуністамі! І з тымі так будзе, хто ім памагае!» — галоўны немец закрычаў і пальчаткаю на Карнілу махнуў.

А Мацвяёнак па народзе, па радах шныпарыць. Хто адвярнуўся, назад галовы адкручвае: «Глядзіце! Што — не ндравіцца?» — сыкае. І да нас дайшоў — пазнала свалата етая... «Так будзе і з тымі, хто хавае яўрэяў!» — вылупіў на мяне свае шклянкі. Вольцы пальцам падбародак падняў угору, Параханьку за бараду дзёрнуў. Расхіліў мой кажушок, дзёўб, дзёўб Мішку пальцам у цемя. Асклабіўся з радасці: «Не здумайце куды звесці яго! Адны так зрабілі — закулдыхаліся на віселіцы самі!» Вывернуў свае трыгубы, выскаліўся...

Утрупянела я там ад яго вачэй, ад яго шчупання дзяцёнка. Волька б мо самлела, але Параханьку дзяржала. Аплашэў тэй зусім, вісеў у яе на руках...

Сказалі, каб Карнілу тры дні не знімалі, і дазволілі ўрэшце разбрыдацца па дамах.

Нясу я Мішку, паўзём, а я думаю: «Чаму етая ненасыць не схапіла ў нас мальца? Пакружыў, як шуляк, падзёўбаў у голаў, паказаў кіпцюры — і не схапіў... А сáма з рукі было забраць, наехала ж іх да гібелі...»

Зацеплілася ў мяне сэрца. Мусека, права такога не мае, не схацеў пры немцах парушацца з тым правам. А мо проста пакідае нас для забаўкі, як котка мыш? Мо дае аддухавіну, каб адбараняліся, адкупіліся?.. Праўду, знацца, Калітка казаў — золата чакае...

Засунулі Параханьку на печ. Стары, сухі, як мошчы, а не падняць. Падверадзіліся, пакуль уклалі, кажухом укрылі. А ён маўчыць, як свят-гаспадзь, ляжыць, задзёршы бараду ў столь...

А мы абсунуліся на лаўку, равом, як каровы. І рук не падняць, каб што рабіць па хадзяйству, учугунелі рукі... Ды Мішка пачаў крычаць, плакаць, ногі ў яго сталі балець, адыходзіць з марозу. «Ой, што ж мы нарабілі! Вез ног малец застанецца...» Знайшлося ў мяне сілы, пабегла на двор па снег. Снегам трэба адціраць спачатку, як што адмарозіш... Толькі мяккім, чыстым, не зёрнамі. І тады ўжо суконкамі тры, гусіным салам маж несалёным. Было ў нас крыха гусінага сала ў чарапку, старая Катрына дала. Яно можа год стаяць — і не псуецца...

— От «дзяроўня»...— цмокнула адзін пальчык, другі таўстуха, адсунула рэшткі курыцы ўбок, узялася за апельсіны.— Чорт ведае, пра што расказвае — пра вешанне, пра сала гусінае. Сказала б адразу — выкупілі малога ці не... А то едзе ў Маскву цераз Уладзівасток...

Бабка Галена прымоўкла, нібы ўраз забыла, пра што гаварыла. А мо думала, як адказаць?

— Хто прыехаў, каму некалі — хай злазіць...— варухнулася яна, села ямчэй.— А нам яшчэ далё-ё-ка... Ей во — у Баранавічы, к дацэ... На камбінаце яе дачка, ніткі прадзе. А мне яшчэ за Баранавічы шэсцьдзесят капеек ехаць, у калгас. Аграномкаю Зоя працуе... А ты садзіся, салдацік, не стой! Выжылі цябе...— бабка азірнула салдата яснымі вочкамі. Той ужо даўнавата стаяў у праходзе, прыхіліўшыся плячом да паліцы, абняўшы Севу адною рукою. Хлапчук туліўся да яго і дзьмухаў у пустую гільзу, шыпеў, як паравоз.

— Хто хоча чаю? Каму чаю? — пачуўся размераны, як у станцыйным дынаміку, голас праваднiцы.— Пячэнне «Дарожнае»...





З'явілася яна і каля нашага купэ — у белым, на пядзю, фартушку, у руках паднос з пустымі і поўнымі шклянкамі.

— Дзве шклянкі сюды! — пасунула свае прадукты таўстуха.— Без цукру — у мяне дыябет! Колькі вам?

— Дзве капейкі. Больш ніхто не будзе піць? — паглядзела праваднíца на салдата.

— Будзем, будзем! Нам пазней, у другую чаргу,— ажывіўся салдат.— Дзесяць шклянак! Дзве — з двайным цукрам! Я частую... І цукерак — во гэтаму салдацёнку! — паказаў на Севу.

— Няма цукерак. Ёсць пячэнне «Дарожнае»... Каму чаю? Ча-а-аю-ю...

— Ну — пячэнне тады... Чатыры пачкі! — наўздагон ёй паказаў чатыры пальцы салдат.

І сеў каля бабкі, узяў Севу на калені.

— Ой, нашто вы! Мы самі заплацілі б...— запратэставала жанчына ў чырвоным світары.— Бабка Галена, а вы далей кажыце, бо і праўда — не вытрываць...

Вярнулася Севава сястра, села насупраць салдата, схілілася над кніжкаю.

Бабка не спяшалася гаварыць. Сядзела ціха, як не дыхаючы, цярабіла, пагладжвала свой вузельчык, старалася выпрастаць пальцы на правай руцэ, церла, пагладжвала іх. Адзін, безыменны, быў святлейшы на пушцы і ружавейшы.

— Я першы раз і не дайшла да раёна...

Спачатку Волька парывалася ісці да Мацвяёнка, несці тую паперу. Не дала я... Ці мала што можа быць? Такі свет ліхі настаў... Волька мая харошая з твару, зграбненькая, не тое, што я. А мяне хто зачэпіць, старую качаргу? Хатуль на плечы, кіёк у рукі — і пайграла!

Каля лесу жанок нагнала з суседняга сяла... Многа тады ішло жанок пад Крычаў, у пленны лагер. Чутку пусцілі, што немцы аддаюць з палону людзей, калі матка аб'явіцца, ці жонка, ці сястра або яшчэ якія сросцвеннікі. Ну, і я ўвязалася з бабамі — смялей чарадою ісці. А там абміну, думаю, тэй лагер — і ў горад. Няма чаго мне на палонных глядзець. У нас толькі Зайкоўскі ў арміі, зяць. Але ж ён не можа быць у палоне... Як што — кокнулі б яго адразу...

Іду-іду, і растаюць такія мае думкі, як снег. «А што, як ён там? — другое б'е ў голаў.— Чаго не бывае на свеце... Мо стаіўся, не аказваецца, што яўрэй, не ўпазналі яго... Выручаць жа трэба! Ратаваць!.. У лес можна было б адправіць яго ці куды...»

І я прыйшла за жанкамі ў тэй лагер, на цымянтовы завод. Будынкі там пабітыя, без стрэх, без вокан. Абгароджаны калючым дротам у два рады, і поле прыхоплена з ямамі, глінішчамі. Чорна за дратамі, гразь размешана — і мароз не бярэ. Паўз драты немцы з аўтаматамі пахаджваюць. І на вышках тырчаць... А за дратамі, дзе сушэй, людзей кучамі — і сядзяць, і ляжаць, і стаяць, стаўбурыўшыся, як авечкі. З аднаго гурта дымок сочыцца... У кутку загароджы карчоў навалена гара, роўна з дратамі, снегам прыцярушаны... На топку, знацца, на касцёр... А многа палонных і паўз драты снуўдаецца... Яны ў адзін бок ідуць, на нас глядзяць, а мы насустрач ім, пазнаём. Галосяць бабы, хто прыйшоў, фаміліі выкрыкваюць... І я крычу: «Зайкоўскі! Зайкоўскі!..»



Ніхто нікога не можа пазнаць, у салдацікаў не твары, а чарапы зялёныя, мохам зараслі... Вочы — ямы чорныя, з дна вугалькі блішчаць...

Цяснілі мяне жанкі, цяснілі і да самага таго кутка ў дратах, дзе карчы навалены, дацяснілі. Зірнула я раз на іх, зірнула другі — горача стала ў грудзях, у галаве. Абсунулася...

Не карчы ета былі — людзі... Галяком!.. Сухія... А твары чорныя, блішчаць... Як з дубу моранага, што ў Сажу сто гадоў праляжаў...

Укінулі мне снегу ў рот, устала я... Пацяснілі мяне зноў паўз драты, далей... А я ўжо не бачу салдацікаў, усё сплываецца, як дождж лье на шыбу, а ты глядзіш на двор. «Мамаша...— адзін салдацік гавора мне ціха.— Мамаша, не плачце... Не плачце, мамаша...» Многа разоў мне паўтарыў — «Мамаша...»

«Як цябе зваць? Кажы хутчэй!» — крычу яму шэптам. «Іван... Калатушкін Іван...» — «Ты з Падбалоцця — запомніш? Ты мой зяць! Мяне Галена зваць, Параханька... У цябе жонка Волька і сын Мішка!» — «Спасіба, мама... Запомню! Спасіба...» А салдацік тэй маладзенькі, яшчэ барада не расла. Вастраносенькі такі...

Адышла я ўбок, зноў вярнулася, залезла ў жанкі. «Іван! — крычу немым голасам, як сшалела ад радасці.— Жывы ты, сынок!» І ён да мяне кінуўся, рукі праз драты цягне... І ён крычыць: «Мамаша, а сын як? А Волька?» — «Усе жывыя, сынок, усе! Знайшла я цябе, сынок!» Плачу я, і салдацік тэй плача, і жанкі каля мяне пачалі ўсхліпваць. «Хто? — пытаюць,— каго знайшла?» — «Зяць!» — крычу. І людзі пачалі немцам крычаць: «Знайшла! Знайшла! Адпусціце яго!» А вартавы не слухае нашых крыкаў, стаў адганяць нас ад дратоў, аўтаматам ляскаць. Засмэрканы нейкі, нягеглы — намерзла на шалíку ў яго...

Пайшлі к драцяным варотам, там будка з дошак, дамок такі. І ўсе пайшлі туды, хто каго знайшоў. Афіцэр немец выйшаў... Дак, гад, шчэ экзамент устроіў: хто, ды што, ды адкуль. Па-руску ён добра гаварыў... А Калатушкін папаўся: не так штосьць сказаў, як я, не супала гаворка. Дак афіцэр брахануў па-своему вартавому, і той — грым! Аўтаматам у спіну мне... Я і ўпала на калені. І не ўстаю, поўзаю, за калені хапаю, боты цалую.

А Калатушкін счарнеў: «Не нада, маманя... Эх, што вы робіце! — плача.— Відна, суждзяно мне тут пагібнуць...» — «Маўчы, сынок! Ты ж і не мог усё знаць! Колькі там пажыў з дачкою — і не пагрэўся... Дый сэрца ж у іх ёсць! Свае дзеці недзе... Няго ж не адпусцяцца? Няго ж так зацялося іх сэрца?»

І сама не ведала, што зрабіла: дастала анучку з тымі залатоўкамі, што Калітка ад жонкі ўкраў, развязала. «О-о! Гут!» — закугакаў немец, як пугач. Схапіў манеткі, перакідае з рукі на руку, як вугельчыкі гарачыя. Сказаў нешта па-своему, фамілію паўтарыў — «Калатуськін!» Выпусціў Івана вартавы, зноў вароты замкнуў...

Далі Івану паперку, што адпушчаны, знацца, з палону... Афіцэр з другімі палоннымі і жанкамі стаў разбірацца, а я ўхапіла Калатушкіна за руку — і дай бог ногі!

А Іван ісці нават не можа, не то што бежч. Шынялёк драны, ветрам падбіты, бацінкі кашы просяць, дратамі паўкручваныя... Вёрст пятнаццаць дарога, нагаравалася я з ім, пакуль дадому даставіла... Ён жа не дзяцёнак, а ўзрослы, хоць і высах... Пудоў два важыў... Пульга мяце, крупу ў вочы сыпле... Пот з мяне цурчыць... Я за дзве гадзіны, а то і скарэй з горада дабіраюся. А то ж цэленькі дзень паўзлі, прыплянталіся ў свіны квік...

Унесла я Калатушкіна ў хату, прываліла да сцяны, на лаўку.

«Ну што?» — Волька да мяне кінулася, пра Мацвяёнка пытае. «А нішто,— кажу.— Не дайшла да горада... Во, чалавека ўратавала...» Змоўкла Волька, лып-лып на мяне вачыма... А тады гаворыць: «Тата не абзываецца, не чуе нічога...»

Палезла я на печ паслухаць... «Сцігней! Сцігнейко!» — не абзываецца. Але дыша, чуваць, у грудзях скрыпачкі граюць. Каб пакашляць, адкашляцца добра, духу не збярэ. Ды адкулецька там духу быць? Нічога душа не прымала, нічога не еў. Расшчэпім шчарбіны, ульём жыжкі салодкай з буракоў — і ўсё жыўленне.

А Мішку і гора мала — забаўляецца. То на Калатушкіна глядзеў, а то завязаў нітку за зуба, зубок у яго якраз ківаўся... Залез на табурэцік, другі канец ніткі за крук зачапіў. «Баба! — крычыць.— Выбівай з-пад ног!»

Дала яму Волька вілачнікам па спіне: «Забаўку знайшоў, дурачына!» Раве малец, як бычок... Насварылася я на дочку: «Ён яшчэ куранёнак жоўты, не разумее нічога, а ты яго таўчэш. Хочаш скалечыць? Каб агарбеў? Мала табе яшчэ гора?»

І тут — ш-ш-шух штось па сцяне, грукнула аб лаву. Гледзімо, а гэта Калатушкін абсунуўся набок. Угрэўся і заснуў... Што мярцвяк! Падняла яму ногі на лаву, пад галаву якісь каптан падклала. «От,— кажу,— Волечка, дзе Каліткава золата... Не карай мяне, не казні... Я сама сваё сэрца скрывавіла, на кускі пашкуматала. Людзі там мруць, як мухі... Ты не бачыла етага, і хай цябе гасподзь храніць, каб і ў сне не прыснілася... І не плач,— кажу,— слязьмі гору не паможаш. Мішку заўтра пайду ратаваць... Во, йшчэ персцень залаты астаўся, ёсць савецкіх грошай крыха, ёсць маркі... Карову прадамо! А цяпер ідзі-тка баньку тапі, будзем апратваць чалавека... Мумкаў на ім — хоць мятлою агрэбай. Што мякінаю аўсянаю абсыпалі чалавека...»

Пайшла Волька, а я Івана разуваць стала. Баялася, мо трэба і яму ногі снегам адціраць? А да башмакоў не прыступіцца: вяроўкамі паўвязваны, дратамі... І нажом рэзала з Мішкам, і кусачкамі перакусвала, і так адкручвала... Чуць садралі — і шкурка з анучамі пазнімалася... Чорна ўсё, гнілое... Дух цяжкі...

Церла я снегам, церла... Багата разоў мяняла — чорны снег рабіўся, з крывёю. Як у яго тады заражэння не зрабілася — дзіва проста... І от, скажыце, тру-тру, высільваюся, а ён спіць. Стогне і спіць...

Лохмы ў яго былі вялікія, дык Волька авечымі ножанкамі абчыкрыжыла... Адпарвалі яго ў лазні, скрэблі, мылі... Усяго — з галавы да ног. А ён стогне, зубамі скрыпае і спіць! Раз клыпнуў вачыма — «Дзе я?» І не пачуў, што сказалі, зноў заснуў. Скулячкаў у яго было многа, і на сярэдзіне, і на спіне, і на баках. Ад застуды, я так прызнала. Жарам іх толькі можна прагнаць, праграваннем. Дык мы йшчэ пару паддалі, йшчэ... Самі задыхаліся, не бачылі адна адну...

У Параxенькаў кажух ухуталі, у посцілку паклалі, як у калыбель, Волька за два рагі ўзяла, я за два — прынеслі ў хату. У Зайкоўскага было трохі споднягa, дак мы яму ўсцяглі...

Прынеслі, а ён спіць... І вечар спіць, і ноч, і зноў дзень і ноч: думалі, што і не вышкрабецца, не прачнецца...

Што спаў і на другі дзень, я апасля даведалася. Бо назаўтра, як апраталі Калатушкіна, я зноў у дарогу сабралася.

Спярша зрабіла сабе апарацу. «Прыгатуй,— кажу на Вольку,— каб чым было скора палец увязаць». А сама ўхапіла тыя авечыя ножанкі... «Во,— думаю,— і выхад з палажэння...» Мальца ў хаце аставілі, каб не пужаўся, а самі на двор падаліся — Волька за мною з уціральнікам. «Што ты будзеш рабіць? Што ты надумала?» — цярэбіць мяне за кажушок. Ні капялюначкі не дагадвалася. А я ножанкамі... во, тут знак астаўся, на пальцы, рубцы... Чык, чык, чык... Зрэзала мяса з пушкі — да самай касці. І не балела, здаецца, толькі ў галаву шыбала і ў грудзях душна было... Кроў заліла руку... Мацаю — дзе тэй пярсцёнак? Ледзь садрала... Мала абрэзала...

Волька белая, што снег, хістаецца ў бакі, млее... А ёду ж няма, каб заліць... Дак у нас ёсць пярвейша срэства, усягды пры сабе. Жнеш, бывала, парэжаш руку — абальеш, і зажывае...

Ляманту нарабіла мая Волька, як па нябожчыку, вяжа мне палец, адарвала палосу з уціральніка. А рукі трасуцца... «Сціхні,— кажу,— дурніца! На жывой касці мяса нарасце...» А яна шчэ горай заходзіцца...

Ну, сабралася я ў дарогу. Пярсцёнак і грошы асобна ў кішэню нутраную паклала, паперу з падпіскаю ў другую зашпіліла. Паджгала...

Я тады яшчэ лёгкая на хаду была, вёрткая. Летам, маладою будучы, у Магілёў хадзіла — без мала сто вёрст. Да сонца ўстанеш — дзе пройдзеш, дзе падбяжыш...

Ну, дайшла я да Крычава, дапыталася, дзе Мацвяёнак з паліцэйскімі атабарыліся. Заходжу ў двор дома... Пры плоце трое саней запрэжаных, паліцаі ў чорным пахаджаюць, грэюцца, кураць...

«Куды, бабка, прэсся? — паліцай на мяне вінтоўку настаўляе, згрэбае з ганку руляю.— Не прымае сёння начальнік!» — «Як ета не прымае? — лезу напралом.— Я ад старасты яму срочны дакумент нясу!» — «А з якей ты дзярэўні? Як зваць старасту?» — вяжацца да мяне. «Якое тваё сабачча дзела? Паставілі тут гаўкаць, дык гаўкай, а рукам волю не давай!»

Тыя, што на дварэ, рагочуць над сторажам: «Дай яму, бабка, дай! Абезаруж!» Падагрэлі вартаўніка смехам, ярапеніцца йшчэ больш: «Страляць буду!» Зло мяне ўзяло... «Ах ты, пранцаватае!..— чахвошчу яго.— Табе б толькі і ваяваць са старымі бабамі, парцізанаў, нябось, баісся!»

І тут з дому голас Мацвяёнка: «Міхлуш, што там за базар?» — «Гаспадзін начальнік, тут вам нейкія паперы прынеслі! Пусціць?» — пытаецца.

Выходзіць Мацвяёнак на ганак сам. «Што за паперы? А-а-а, старая знаёмая...— асклабіўся па-сабачы, вывернуў трэцюю губу, працягнуў да мяне куцапалую лапу.— Пакаж!» Пара ў яго з носа, як з чайніка, б'е, толькі ў два струмяні: адзін уніз, другі — перад сабою...

Рукі ў мяне як граблі з марозу. Ды яшчэ ануча наматаная на палец. Ніяк за пазаху не залезці, кішэні не адшпіліць. І мыслі ў галаве то ў адзін бок круцьць, то ў другі — што яму паперад падаваць? Каліткаў дакумант ці хабар? Вачэй многа на дварэ, каб грошы даваць, мо не залюбіць... А мо-ткі хабар спярша, а не дакумант? Загушкала мяне ў бакі, як на возе з сенам, калі ў ямы ўваб'ешся: во-во сядзеш з гарачкі не на тэй бок, перакулішся...

Дастала яму подпісы, падаю...

Чытае: «Клічка свінаматкі... Клічка храка-празвадзіцеля... Калі была злучка... Калічаства парасят...» Як вызверыцца: «Ты што мне мазгі зас... засмуроджваеш?» Дзе тая і ўхмылка сабачая дзелася! «Гэта ліст такі папаўся,— кажу.— Гэта зверху толькі свінні! А людзі пад нізам...» Зноў уткнуўся ў тую паперу, нюхае бытта. «Позна! Недзяйсцвіцельна ваша папера!» Я і рот не паспела разявіць, а ён шах-шарах, парваў на шматкі, кінуў у снег.

Загадвае паліцаям: «Садзісь!» Тыя гоп-гоп у сані... Я за Мацвяёнкам: «Паслухайце! Я не ўсё йшчэ сказала!» Крычу, паказваю култыхаю на запазуху, бягу за саньмі. «А-а, дурная старуха...— крычыць начальнік на мяне.— Позна, сказана табе! Прыказ ужо ёсць, выпаўняць трэба!» — «Які прыказ? Які прыказ? Пан начальнік!» — бягу збоч саней па вуліцы, духі займае. А паліцай, што каня наярываў, свісь мне пугаю па твары, а тады зноў па кані, па кані...

Схапілася я за скулу... Во тутака рассек, пад левым вокам. Кроў на руцэ, сляза б'е, як крыніца з жарала. З кабелю, мусіць, была пуга, дроцікі на канцы тырчалі. Як кот лапаю паласнуў, добра, што вока не высадзіў...

Не зірнуць на свет з-за слёз, дарогі не бачу. А пасля даперла, што зрабіць. Завязала хустку зніз-накась, адно свабоднае вока пакінула... Грабуся назад, скалечаная, збалелая, гарую... У полі дзе пагалашу, папрыказваю, каб людзі не чулі — палягчэе на сэрцы. Назбіраецца пякучкі ў грудзях — зноў крычу...

Усе, мусека, слёзы выплакала, што на тэй дзень прызапашаны былі. Прыйшла дамоў камень каменем.

Сядзяць дзве старэнькія на лаве — адна таварышка мая, Гапа, другая, Катрына,— зусім старая. Сцішыўшыся сядзяць... Паздароўкалася я. «Што — гуляць прышкрабліся? — кажу.— І ў гуры нідзе не заселі?» І язык прыкусіла — Волька ляжыць на палку з мокрым уціральнікам на чале... Калатушкін на ложку сапе — і не ўстаў, мабыць... «Што тут нарабілася?» — пытаю. Паварушыліся бабы, заўздыхалі. «Чаго маўчыцё?» — гукаю на іх, як на глухіх. «Не крычы, Галена...— Катрына гавора.— Сцігней праставіўся, царсцвіе яму нябеснае,— адгараваў...» Я на печ вокам кінула, а там ужо свечка ў слоіку жыта ўторкнутая, гарыць, слёзачкамі аплывае. «А Волька што — захварэла?» — пытаю, здурнеўшы. «Нядобра ёй было... Млела ўсё...— Гапа гавора.— Валяр'янавай настойкі далі».

Мішка нідзе не звініць, а я і не пытаю пра яго. Думала — адвялі кудысь у чужую хату, каб не замінаў, не баяўся нябожчыка. А Гапа зноў дакладае: так і так, калатня ў хаце была. Паліцэйскія былі награнуўшы, мальца забралі. Схаваўся ён за дзеда быў, пад кажух падлез. І стуль выпаралі... Параханьку моцна патрывожылі, зладзюгі, думалі, што ён дурыкамі заняўся, так сабе ўлёгся, каб абжуліць іх. З таго і душу яму дачасна вытраслі.

Стаю прыгаломшаная пасярод хаты, ногі ўкаранелі. Штось бабы лапочуць, а мне вушы залажыла... «Позна! Прыказ ёсцека! Позна — прыказ...» — храпы Мацвяёнкавы на ўсе калёры з-пад стала, з-пад ложка ўхмыляюцца, з вокан лезуць. З вокан, дзе свет, — сінія і зялёныя, а з цёмнага — чырвоныя, жоўтыя... Кругамі расплываюцца...

Бабы ходзяць кругаля, зэдлік ставяць, табурэтку, ночвы прыладкоўваюць. Адна ў печ палезла, чыгуны дастае, ваду налівае. Мыць збіраюцца нябожчыка, абражаць... А я стаю... Яны штось пра папа пытаюць, а я...

У вагоне раптам пачуўся дзікі дзіцячы ўскрык — нават не разабраць было спачатку, у якім баку. Усе ўстрапянуліся, ачуньваючы, мы былі «прыгаломшаны» расказам бабкі Галены.

— Сева! — ускапілася Севава маці.— А божачка ж мой, недзе падсунуўся...

Але першымі пабеглі ў канец вагона салдат і Севава сястра, пабег, бо сядзеў ужо ўнізе, не лез на сваю паліцу. За намі сыпанулі людзі з другіх купэ.



Сева стаяў пры выхадзе каля дзвярэй, з жудасцю глядзеў на свой палец і сінеў ад крыку. Салдат схапіў яго на рукі.

— У праваднiцы павінна быць аптэчка! Ёд! — хуценька, як усё роўна загад аддаваў, сказаў салдат Севавай сястры. І тая прыпусцілася назад, у другі канец вагона, сутыкаючыся з людзьмі.

У Севы быў садраны з сярэдняга пальца кіпець, долу капалі густыя, цёмна-вішнёвыя кроплі. Збялелая маці вохкала, мітуслівa адступала перад салдатам, урэшце забрала з яго рук хлопчыка, прыціснула, шкадуючы, да сябе. Сева трымаў за яе спіною руку на вісу, заходзіўся крыкам...

— А божачка літасцівы... Казала ж — гуляй тут, не швэндайся па вагоне...— хуценька і сіпла прыгаворвала яна.

— Гэта я вінаваты... Я...— ішоў за ёю, счырванеўшы, салдат.— Пусціў яго ад сябе...

— Ёсць жа маці! Павярнуцца баяцца, а дзіця хоць з вагона выкідвайся! — пусціла ўслед ёй худая цётка з суседняга купэ. На галаве ў яе пад марляй-хусткай тырчалі прыхаваныя бігудзі.

— Ах ты, мой коцічак...— сустрэла Севу з маці, прапусціла іх паўз сябе, бабка, пратупала следам у купэ, пагладжваючы чарнявую, з чубком хлапчуковую галаву.

Таўстуха сядзела каля акна, як курыца на яйках, не падымаючыся. На століку перад ёю было ўжо прыбрана, пустыя шклянкі адсунуты ўбок.

— Што — у дзверы ўсунуў? — папытала яна.— Цяперашнім дзецям хоць у лоб страляй — сваё права правяць...

— Няма ёду ў праваднiцы! — прыбегла Севава сястра.

— Хоць што-небудзь у яе ёсць? Бінт ёсць? — люляючы хлапчука, паволі апускалася на лаўку Севава маці. Да яе адразу падсела бабка, асцярожненька ўзяла Севін пальчык ніжэй пушкі.

— Пакажы ж мне, каток, пакажы, не бойся...

— Не ідзе праваднiца ў вагон! На дварэ стаіць, чакае, калі поезду адпраўленне дадуць! — разгублена гаварыла дзяўчына.

Я пабег сварыцца з праваднiцай. Тут няшчасце, а яна тырчыць каля вагона, баіцца інструкцыю парушыць!

Якраз у гэты час поезд даў гудок і крануўся з месца. Праваднiца ўжо стаяла ў дзвярах на рашотцы, што апускаецца і прыкрывае прыступкі, выставіўшы руку са згорнутымі сцяжкамі на двор.

Я нагаварыў ёй у спіну, у сіні форменны кіцель усяго-ўсякага. І хоць бы што! Толькі як адпаўзлі ўлева станцыйныя будынкі і прысады, праваднiца адвярнулася ка мне.

— Вам, можа, кнігу скаргаў даць? — стараючыся быць спакойнай, паглядзела яна мне ў вочы. Пачырванела толькі, і то няроўна, плямамі, шыя.— Вылейце свой гнеў у кніжку! Бо я ўжо сто разоў казала брыгадзіру: трэба замяніць аптэчкі, трэба папоўніць. А ён і ў вус не дзьме. Што сама купіла, тое і ёсць.

Яна дала мне скрутачак вузкага бінту і такі не ўцярпела, прайшла за мною — паглядзець.

Сева ўжо не плакаў, а толькі ўсхліпваў. На шчоках віселі буйныя слязіны. Маці яго адвярнулася ад усіх, глядзела ў акно. Бабка ціха хукала на Севаў кіпець, і кроў не ішла.

— Бачыш, ужо і не баліць.. Не баліць, праўда ж? І костачка ў цябе цэлая... Бачыш — і кроў перастала...— прыгаворвала яна і яшчэ штосьці шаптала таемнае — мо загаворвала кроў? І, мабыць, напраўду перастала балець, бо Сева глядзеў на яе з цікаўнасцю.— Во, а цяпер мама табе завяжа, і пальчык загоіцца.

— Давайце я, нас вучылі перавязкі рабіць!

Салдат забраў з маіх рук бінт, і бабка адсунулася, даючы яму месца каля Севы. Севава мама перастала глядзець у акно іківацца, пасадзіла малога сабе на калені. Пад ніжнімі павекамі ў яе блішчэлі такія ж буйныя, як у хлапчука, слёзы. І яна плакала!

— Давай дамовімся: ты хныкаць больш не будзеш! — гаварыў салдат з Севам, як з роўным.— У арміі ніхто ніколі не хныча і не плача. А ты ж хочаш быць салдатам?

— Я не салдатам. Лётчыкі салдатамі не бываюць.

— Лётчыкі таксама ваенныя людзі...

Паступова ўсе, аблегчана ўздыхаючы, расселіся зноў. Каля таўстухі — Севава сястра, жанчына ў чырвоным світары і я, насупраць — бабка Галена, салдат і маці з Севам.

— Ну во...— азвалася праведніца, і ўсе заўважылі, што яна таксама стаяла каля купэ.— Пакуль жаніцца — загаіцца... Дык што з чаем — рабіць?

— Рабіць, рабіць! — за ўсіх адказаў салдат, завязваючы мохрыкі бінта вузлом.

— Я падагрэю, мабыць, астыў. І завару свежага!

Пайшла.

— Колькі вашаму хлапчуку? Гадкоў пяць? — спытала бабка ў Севавай маці.

— Чатыры праз два месяцы. Ён у нас рослы, па бацьку пайшоў.

— А нашаму Мішку тады шосты канчаўся. Якраз на стрэчанне радзіўся... Вучоны вялікі цяпер, у акадземіі...

— Колькі на чалавека можа ўсяго зваліцца! — уздыхнула жанчына ў чырвоным світары.— Як вы тады хоць перагаравалі ўсё?

— А дзе ж падзенешся? І хто тады не гараваў? Усіх вайна зачапіла ці так, ці гэтак...

Бабка дастала з вузельчыка дзве доўгія цукеркі ў празрыстай паперы, падала Севу.

— На ж, каток, на...

І заціхла, не спяшыла расказваць далей.

Мы ўжо былі нібы сваякі, блізкія душэўна людзі. Ці гэта зрабіў з намі нешта бабчын расказ, ці здарэнне ў вагоне?

Сева з цукеркамі перабраўся з маміных калень на салдатавы — выбіраў у таго на грудзях самы прыгожы значок.

— А можна два?

— Можна, можна...

Пад падлогай вагона татахкала глуха і часценька. Поезд зноў набраў разгон.

— Малую Парахенька сабе труну зрабіў. Мераў, мераў, зажыва ў яе клаўся — і намераў, называецца. Пачалі класці — не лезе... А бабы і кажуць: «Не гневайся, Сцігнейка, падагнем табе каленькі... Нябось, не памлеюць... Ляжаць будзеш, як на пуховай пасцельцы... Нам усё гора пакінуў...»

Гэта ўжо назаўтра ў паабеддзе было, як адпеў поп Парахеньку, як з-пад абразоў у труну перакладалі...

А Калатушкін яшчэ зранку прачнуўся, памаглі яму на печ перабрацца, адтуль пазіраў на ўсё. Паўшкляначкі яму малака далі... Да абеду разоў чатыры па столечкі давалі. Волька давала, я ёй усё напамінала пра гэта, работу выдумвала... Хадзіла маладзіца, што тручаная, баялася я, каб рук на сябе не налажыла. А збіраліся на могілкі



везці Парахеньку, я і бабкам наказ дала: не давайце нічога Івану грубага есці, хоць і прасіць будзе. Каб не пераеў з галадухі і не капутнуў...

Вярнуліся з могілак, высцепаліся, рукі памылі... Пусціла Катрына ўсіх у хату...

Стараста Калітка пасадзіў мяне каля сябе. «Хопіць табе снаваць, цётка Галена... Пагамонім, як далей што рабіць. Пра жывых трэба думаць, пра маладых».

І такі план ён сказаў: да Мацвяёнка болей не ісці, а да палёвага каменданта. Усе ў раёне гэтаму каменданту падчыняюцца, пад яго дудку скачуць. Прыфрантавая зона лічыцца...

Сказаў Калітка, што трэба яшчэ раз загатовіць тую паперчыну, аббегаць людзей. Толькі ён у пачатку ўжо інача́й напіша, каб у тым пісанні была і скарга на самаўпраўства Мацвяёнка. Чаму, напіша, губіць ён нявіннага рабёнка, прыдзіраецца? Бо прыставаў да Волькі, а яна трэснула яму нагой па мызе...

«А? — трэ Калітка агрызак вуха, бытта радуецца.— Сунем Мацвяёнку пілюлю, хай каўтае... І такую яшчэ штуку трэба: палонная ў воласць звазіць, прыпісаць. Як яму прозвішча?» — «Калатушкін,— кажу,— Іван».— «Добра было б запісаць яго з Волькаю... Што яны муж і жонка, знацца...» — «У яе трэба пра ета спытаць, ці згодзіцца... У яе ж законны мужык недзека на вайне».— «Павінна згадзіцца... Для блізіру ж усё робіцца: хто пасля вайны будзе прызнаваць еты шлюб за шлюб? А для немцаў яны будуць лічыцца муж і жонка. Калатушкін можа ўсынавіць Мішку... Калатушкін Іван, Калатушкіна Волька, Калатушкін Міхаіл... Калатушкін, а не Зайкоўскі, во што глаўна. Я так і ў паперы напішу: усе Калатушкіны, усе беларусы, а Мацвяёнак звады зводзіць, бо Волька дала яму ад варот паварот...»

«Калатушкін рускі, мусека...» — «Усёдна, рускі ці беларус! Калі пачалі хлусіць, то да канца».— «Дак малец жа нічога не ведае пра Калатушкіна: намелець з тры карабы...» — бядую я. «Трэба бежч у раён, свіданне з мальцам прасіць у Мацвяёнка...— Калітка гавора.— А мы тут будзем усё афармляць».

Стараста яшчэ і Вольку так садзіў каля сябе, штось нашэптываў на вуха, і к Калатушкіну прысаджваўся. А я ўжо ні людзей не бачыла, ні сталоў. Не помню, як і разышліся памінальнікі... Доўга, мусека, і не сядзелі.

У мяне адно было ў галаве — пра Мішку. Як ён там, дзе ён? Сядзім тут у цяпле, нічога не робім, каб яго ўратаваць...

Ляжала на печы, але і на макулінку не заснула. Галава раскалвалася ад думак. Чаго толькі не перадумала, госпадзі-ўладыка! Парахенька з галавы не ішоў... Ціхі быў чалавек, рахманы. Мяне і разочку не скрыўдзіў. Звяду вочы — то Мішка, то Парахенька стаяць... А тут яшчэ палец мой абчыкрыжаны спакою не дае: рука разбалелася ад яго, нат пад пахаю нацягло кулёбы. Мусека, гадкія былі ножанкі, ржавыя...

Калатушкін храпе, Волька то стогне ў сне, то прахопіцца — уздыхае, плача. «Не спіш,— кажу,— дачушка?» — «Не...» — «Не чула — пелі трэція пеўні ці не?» — «Не, здэцца...» — «Што ты надумала? Калітка ж табе ўводзіў у вушы...»

«Калітку што? Калітка не на сабе Івана жэніць...»

Пачакала я, дала ёй выплакацца. «Давай тады,— кажу,— свой план. Мо ты лепш чаго прыдумала...» — «Быў план! Я пайшла на тэй план, прыняла на сябе ўдар, а больш не хачу!» — «Ты ж знаеш, што Мацвяёнак падраў тыя подпісы...» — «А каб тое золата было, не пусці-

ла яго на вецер, то мо і адкупіліся б!» — «Якей жа ета вецер? Чалавека унь уратавала!»

Калатушкін прачнуўся... То дык двое сутак спаў, а гэта прачнуўся. Сеў на пасцелі, чухае грудзіну. Уздыхае... «Мо мне пайсці ад вас? Я, канешна, па гроб жызні буду вам благадаран... Але мо лепш пайсці? Толькі парайце мне якую сям'ю, каб прыпісацца, акрэпнуць німнога... А тады б я ў лес сышоў, у партызаны!»

«Ляжы,— кажу,— ваяка... На нагах не стаіць, а харахорыцца. Ажыві, ногі залячы, а тады ўжо думай пра што другое».

Пасядзеў, пасядзеў Іван — бух галавою ў падушку, нацягнуў коўдру на вушы. Каб не чуць, знацца, што мы гаворым. А мо румзы пусціў — лёгкі ён тады на слязу быў.

Мы больш нічога і не гаварылі. Вар'яцкая ноч...

Паляжалі, стаіўшыся, паўслухоўваліся адна ў адну. Я думала, Волька яшчэ што скажа, а яна, мусека, чакала, што я скажу.

Устала я — бокі забалелі качацца без сну на чарэні. Буду паціху, думаю, збірацца ў раён да Мацвяёнка, да Мішкі. Раніцаю чалавек мудрэйшы, чым вечарам ці ўночы... Ноччу часта чэрці чалавека падтыкаюць, каб абы-што гаварыў ці рабіў. Калітка таксама абяцаўся заехаць па маладых, сам звазіць у воласць на распісванне, пахадайнічаць за Калатушкіна. Я дзяўбла ноч галаву Вольцы, хай падзяўбе ён яшчэ раз. Нейкі ж след азначыцца...

Мяне вінуе Волька, што я падбівала яе на такое... А хіба ж я вінавата? Я і на першую паперу не прымушала Вольку згаджацца, на тэй паклёп з настаўнікам. Я ж тады, як па хатах лётала, збірала подпісы, што сабака косці, спачатку ёй паказвала старастава сачыніцельства. Не запярэчыла яна, нічагенька не сказала. Ну, параўла... А калі ж мела што сказаць, то хай бы сказала. Хай бы сама прыдумала, як ратавацца... Але што тады можна было прыдумаць? У людзей грошы збіраць? Карову адразу прадаваць? Каб адкупіцца, значыць... Дак жа гола было тых грошай у людзей... Або: прадасі карову, адкупішся ад Мацвяёнка раз, дак хіба ён дасць зарок, што на етым і завяжа? Ён жа будзе цягнуць гізунты, смактаць кроў, як тэй вупыр...

Хіба каб дахітрыўся да забіў таго гада... Але заб'еш гэтага, то другі будзе. Тамацька ж ляжыць у іх данос на ўнука, новы начальнік заступіць і будзе спалняць тэй данос.

І з распісваннем з гэтым, з Калатушкіным... Каб жа знаццё было, што так усё абернецца! Каб жа ведаў чалавек, дзе паваліцца, дак саломкі патрусіў бы...

Памчала я ў раён. Нідзе ні душы, цёмна, а я лячу. Як мяне тады хто не затоўк, не падстрэліў ці якія ваўкі не з'елі — сама дзіўлюся. Думала, пакуль дайду, то і развіднее. Ажно заперла цёмначы да самага горада і йшчэ мо з гадзіну таўклася пад горадам, каб не змерзнуць. Да васьмі забаронена было хадзіць, каб я сунулася раней, маглі б патрулі стрэльнуць без суда і следства.

Іду да паліцэйскага выпраўлення, а мяне то ў холад, то ў пот кідае. Рука торгае, цяжкая зрабілася, як кіпятку ў яе налілі...

Я Мацвяёнка каля брамы перастрэла.

«Зноў ты тут? — першы ён мяне зачапляе.— Ты мне скора, бабка, у сне сніцца будзеш».— «Дак ета ж,— кажу,— добра, калі бабы сняцца. Аракуль па сонніку разгадвае — на прыбытак ета...» А ён бытта і не датумкаў, на што я намёк раблю. «На добрае, як старушка гадоў васемнаццаць сніцца, а не такая...» — гавора.

А я думаю: «Брашы, брашы... Абы не злосны, не ляскаеш зубамі, то мо які гешэфт і будзе».



Загадаў Мацвяёнак вартавому ўпусціць мяне ў свой кабінет.

«Што ты хочаш, бабка? Выкладвай хутчэй... Няма ў мяне часу з табою важдацца!» — загадвае. Я і выклала адразу з кішэні тыя грошы — і савецкія чырвонцы, трыццаткі, і маркі. А пярсцёнак йшчэ застаўся на дне кішэні. Гляджу — не радуецца Мацвяёнак, мацнуў буркуламі па грашах, на мяне ўтаропіўся. Я і гавару: «Адпусці нашага мальца! Не яўрэй ён... Нагуляны ён з настаўнікам арменам... Пра ета і ў той паперы было напісана, у парванай...» — «Не магу,— ён мне,— не ў маёй уласці. Эсдэ шыю намыліць...»

Тады я яшчэ і пярсцёнак тэй вывудзіла, пакаціла па стале. Мацвяёнак не ўтрываў — хлоп па ім жменяю, як коніка лавіў. Адкрывае памаленьку, глядзіць — панравілася. Адкрыў у стале шуфлядку, шморг туды са стала лінейкаю і грошы, і пярсцёнак. Склаў на стале руку на руку, зноў на мяне вадзянкі пучыць. «Не магу,— гавора.— Закон есць закон. Германскія ўласці любяць парадак. Але я чалавек добры, магу паклапатаць, каб дазволілі павідацца з малым, перадачу перадаць».

Выштурхаў мяне з кабінета ў пярэднюю, сам званіць узяўся.

Не сядзіцца мне, тупаю сюд-туд. За загарадкаю нейкая барышня ляпае на машынцы, два паліцаі сядзяць — мятыя, бы іх карова сусліла. Адзін машыністку пагладжвае па спіне...

Выходзіць Мацвяёнак... «Саўрацкі! Скокні ў эсдэ, паперку адну ўзяць — яны ў курсе, якую. А ты!..— на другога крычыць.— Не ліпні да Тоські!.. Найдзі Міхлуша, хай зводзіць бабку ў кнігарню павідаць свайго пацана... На пяць мінут! І хай прыслухоўваецца, пра што яна з ім балбатаць будзе!»

Паліцэйскія падхапіліся — і за дзверы.

І я выйшла...

«Чакай! — гаворыць мне праважаты, што да машыністкі ліп, а сам йшчэ ў доўгую, што абозня, хату зайшоў — у дварэ стаяла.

Міхлуша я ўжо знала, цапалася з ім, як першы раз да Мацвяёнка лезла...

Прынеслі нам паперку з эсдэ, ідзем з ім. Міхлуш папередзе клыпае, вінтоўка кароценькая цяляпаецца на плячы. Вядзе мяне па нейкіх гародах, цераз яр. Кусты калючыя, лопух сухі, бадыльнік — сцежка напрасткі ў снезе вытаптана.

Як дайшлі, дзе большы пустыр, Міхлуш і бубніць, не адварочваючыся: «Бабка, дзецям капут будзе! Як дважды два! І яўрэйчыкам, і цыганятам... Як можаш — ратуй свайго, пакуль не позна». Прайшоў, памаўчаў і зноў: «Да Мацвяёнка не хадзіце: яму далі такое права — чалавека загубіць можа, а ўратаваць — не... Чуеце?» — «Чую, чую...» — сапу ззаду. «Чулі — дак забудзьце, што гэта я вам гаварыў». І зноў ідзе далей...

«Праўду Калітка казаў, не трэба больш да Мацвяёнка хадзіць»,— думаю я.

Выйшлі мы на нейкі завулак ці пляц. Стаіць цагляны будынак, спераду два акны, між імі — дзверы. На воknах аканіцы драўляныя, дзверы жалезныя і завалаю жалезнаю завалены, замок вісіць. У бакавой сцяне малесенькае акенца, узятае ў рашотку, шыбы выбітыя. Немец, абсыпаны снегам, пахаджае — шапка аблажана на вушы, рукі ў рукавы, вінтоўку прыціскае да жывата, як мешалку...

Міхлуш паказаў паперку. Немец дастаў з кішэні ключ, падаў яму. Змерз — стукае абцасамі, тупаціць...

Расчыніў паліцай дзверы... Усунуў немцу папяроску ў зубы, даў яму прыкурыць, сам курыць. Стаяць пры ўваходзе...



Божухна міласэрны, як у лядоўню зайшла!.. І не бачу нічога — цёмна. Нейкія дошкі ў кутку паламаныя, нейкія скрыні. Справа памост з дошак абы-як насланы, якась куча на ім шавэліцца, стогне. Падлога з цэменту, паперак нейкіх нараскідана густа. Нехта ў тэй кучы, як шчанётка пры здыханні, пішчыць жаласліва. Я туды: «Мішка! Мішка!» Разваліліся куча, выпаўз Мішук, прыкульгаў да мяне... Абшчапуліў ручанятамі за шыю, трасецца ўвесь, што лісточак. А я толькі цалую яго і плачу і не магу нічога папытаць... «Бабка-бабулечка, забяры мяне адсюль! У мяне ножкі сталі тоўстыя і баляць! Мяне дзядзя Мацвяёнак біў, вуха адарваў...»

Памацала я блінчык яго вушка, а яно ўсё скарэлае ад крыві, спухлае... «Крычаў на мяне дзядзя, каб я прызнаўся, што яўрэй!.. А я кажу: мяне мама з настаўнікам знайшла... Бабачка, а дзе мяне знайшлі — у капусце, так? Як дзядзя зноў будзе біць, сказаць яму, што ў капусце?» — «Скажы, скажы... Скажы...» — шапчу я, а сэрца нема крычыць, трасе мяне горш, чым малога.

Не глядзяць сюды немец з паліцаем, не ўслухоўваюцца, штось сваё далдоняць. «Скажы цяпер, Мішанька, што Калатушкін табе хвамілія, а тату Іван зваць... Іван Калатушкін... А ты — Міша Калатушкін... Так трэба, унучак, запомні гэта! А мы скора прыедзем па цябе, забяром!»

І тут яшчэ абляпілі мяне дзеці: «А нас забяруць? Нас выпусцяць?» Тузаюць мяне, цярэбяць, ручаняткі — што лёд... «Забяруць, забяруць дадому...» — адломваю адною рукою, раздаю ім па кавалачку хлеба. Хапаюць, як ваўчаняты,— глэм! глэм! Не жуючы. Яечак вараных было паўдзесятка, на дваіх адно прыходзілася... Кажу: «І гэтаму дайце, што ляжыць, хоць па разочку ўкусіць... Бо няма ў мяне больш нічога».— «А тэй ужо не варушыцца і не просіць нічога... Учора толькі крычаў, вады прасіў, снег скроб са сценак, а сёння — не... Халодны ён і цвёрды, мы адсунуліся ад яго...» — Мішка гаворыць.

Я і хустку цёплую Мішку аддала ножкі ўкруціць, і кабат цёплы, на кудзелі, паверсе палітца адзела... А ўсіх не магу адзець-акрыць, душа разрываецца...

Крычыць немец — «Выходзь!» А Мішку не адарваць ад сябе — павіс... Канчаецца з крыку: «Не кідай мяне!» І дзеці енчаць, і я раву, заходжуся...

Плакалі і ў купэ: і бабка, і Севава мама, і жанчына ў чырвоным світары. Нават таўстуха трубіла носам у хусцінку, прамакала асцярожна вочы... Маўчалі мы з салдатам, маўчала, збялеўшы, Севава сястра... Ціха сядзеў Сева на каленях у салдата, схіліўшы галоўку яму на кіцель. У салдата замест значкоў цямнелі плямкі: значкі на грудзях у Севы.

Каля купэ стаялі дзядзькі і цёткі з іншых купэ, моўчкі слухалі, уздыхалі. Камянелі твары ў мужчын...

— Як я дадому прыплянталася — гасподзь яго ведае. Саўсім аплашэла... Помню, што да ўрача заходзіла... Быў пры немцах урач-палячок — Язерскі ці Езярэцкі. Ён і пры нашых быў да вайны, але не ўспеў вакуіравацца з фронтам. А мо і не хацеў — хто гэта ведае? Сваю амбулатору адкрыў дома... Я брала ў яго парашкі для Параханенькі, пуд мукі пшанічнай занесла яму... Дак раскруціў ён маю руку і за галаву схапіўся... Два ўколы вялікія ўшпіліў, сказаў, каб па трэці цераз дзень прыехала і плату прывезла — садла блінцы мазаць, гэтак здор па-іхняму завецца. Ну і спытаў, з чаго гэта руку разнесла, як калоду. Я і сказала... Дак ён яшчэ больш па хаце забегаў: «Звар'евался цалы свят!»

Як ішла дадому, да Каліткі заскочыла...

Зрабілі, знацца, нашы распіску ў воласці, і Мішку на сябе Калатушкін узяў. Паперу новую таксама зрабілі, бегае дзесь Волька па хатах, падпісвае.
Вядзе мяне Калітка ў сені, скідае з лубянкі посцілку.
«Бачыла?»
Я зірк, а там поўная сяўня хархоравых талерак, кубачкаў, сподачкаў, чайнічкаў. На самым дне доўгая талерышча, на ўсю лубянку. Золатам размалёваны... Узяў Калітка адзін кубачак, а ён ажно прасвечваецца, пальцы ружовыя відаць. Пастукаў кіпцем — як струна ценькая, сярэбраная звініць.
«На карову выменялі... На вашу. У Белюках у аднаго пасуда была. З маёнтка памешчыцкага, нейкая заморская... Не ўстоіць перад ёю камендант, любіць і ён пажывіцца...» — Калітка гавора.
Як у ліхаманцы чалавек, усё гаворыць, гаворыць: «Ведаеце, Галена Васілеўна, што маладыя ў воласці чулі... Немцы замерзлі пад Масквою, камандуюць кажухі і валёнкі збіраць. Цэлыя, канешна, без латкаў... Я то начальству ў воласці сказаў, што няма ў нас цэлых, абнасіліся людзі... Дак от мо наскочаць з праверкаю, знацца, дак глядзіце, каб ета самае... Не падвялі... Нам што? Мы можам і ў драным хадзіць, у латках... Мы не панскага заводу, нам не брыдка... Так я кажу?» — пытаецца.
«Ага, Калітачка, нам усё трэба сцярпець, мы трохжылыя... У немца скарэй жылы лопнуць, чым у нас...» — кажу я, а сама бытта не разумею, куды ён верне. Прайшоў яшчэ са мною на двор і напрамкі бухнуў: «Будзеце хадзіць па хатах, дак пускайце чутку, бытта ў горадзе, на барахолаўцы чулі, і пра Маскву, і пра кажухі... Хай не шкадуюць людзі, робяць дзіркі на кажухах, латкі нашываюць на відным месцы... Я ж кажу, мы не паны, зносім і такое...»
Дамовіліся, што паспяшым да каменданта на світанку, каб не запазніцца, каб не ўходалі дзяцей...
Дадому ў позні абед стыкнулася, прыцемак туманіўся.
Няма Волькі... Сядзіць Калатушкін на табурэце, ногі ў начоўках, у нейкім зеллі парыць. Баба Катрына на прыпечку пад трыножкаю агонь кладзе, яшчэ штось кіпяціць у вялікім кубку. «Развядзеш,— кажа Калатушкіну,— еты напар у двух літрах гатаванай вады, будзеш піць тры дні па тры шклянкі. Кроў прачысціцца скарэй, скулячкі пройдуць...»
Яна і мне тады лячэнне правяла, яшчэ раз дадому па зелле бегала. І я парыла руку і піла нешта горкае, як бабоўнік.
Волька прыйшла з бегатні па хатах, сашчаміла зубы, зацялася — ні славечка. Дак Катрына ўбачыла, што ў яе лік счарнеў, як на старой іконе, і ёй пітва нарабіла — «нервеннага».
Спала я ўжо ноччу — ці ад уколаў памаглося, ці ад зелля таго. Маладыя і нанач выпілі зелля. Такое ў іх вяселле было.
Ранічкаю я яшчэ прабегла, подпісаў дзесяць узяла. Хто ўжо і крывіўся, не асмельваўся...
У печы не паліла — хай самі што хочуць, тое і робяць.
Заехалі мы да палёвага каменданта быстра. На кані не тое, што пешкі цюхаеш...
Паказаў староста свой дакумент — не пускаюць нас! «Міны! Міны!» — на сявеньку паказваюць. Развязала я настольнік — хай глядзяць... Заахкалі, як сабакі, зайца гонячы,— пусцілі...
За сталом камендант стаяў — худы, яшчэ не раз'еўся. Акуляры жоўтыя, тоненькія на носе. Адно вока не круціцца ў немца, шрам каля яго. Мо шкляное?



Калітка ўсё сам гаварыў, і паперу паказваў, і хрысціўся. А я слязамі памагала і сявеньку падсоўвала бліжэй усё, бліжэй. А камендант згінаецца цераз стол, глядзіць у тую сяўню адным вокам, як певень. Гергетнуў штось пераводчыку... Той ператлумачыў яму нашы паперы, і так гаварыў — «Кіндар! Кіндар!» Камендант за целяфон ухапіўся — званіць. А пераказчык па-нашаму: «Прашу!» — на дзверы паказвае. «А як жа з дзіцем?!» — адарвалася ў мяне сэрца. «Усё будзе зроблена! Камендант вамі задаволены!»
Скора нам і паперку выносіць. «Забірайце!»
Патупацелі мы за ім...
Людзечкі, каб адна мінутка, то і не заспелі б!..
Падлятаем — а каля кнігарні тэй ужо машына стаіць з зялёнаю будаю. Нос тупы ў машыне, куртаты... Пад будаю ў два рады калёс. Дзвёркі ззаду ў машыне на дзве палавінкі раскінуты... А каля тэй машыны стаіць афіцэр з палкаю — каўнер падняты, чорныя накрыўкі на вушы напушчаны. «Шнэль!» — крычыць на кагось, у расчыненыя дзверы магазіна заглядвае. Салдат-вартавы каля яго горбіцца, не тэй, што ўчора быў...
Суе пераводчык паперу, гергеча, а тэй і не глядзіць у яе. Твар злосны, зацяты...
Я ў машыну заглядваю: знутры яна белаю бляхаю аббіта, на падлозе драўляная рашотка. Ні акенца нідзе, ні шчылінкі...
А ў магазіне лямант, крык... Капашэнне, валтузня... Вывалаквае немец-шафёр цыганятка за руку і за ногу. А яно выпручваецца, дрыгае, скрабе другою рукою снег, каб учапіцца... Рукі ў немца падрапаны, а цыганятка йшчэ голаў падымае, каб зубамі ўхапіць...
Афіцэр камандуе вартавому, а тэй ні з месца, матае галавою: «Найн! Найн!» Сам калоціцца, губы як попел абсыпаў. Дак тады афіцэр палкаю яго, палкаю... Схапіў вартавы цыганятка за другую ногу і руку, памог укінуць у машыну. Афіцэр стаў каля дзвёркаў, каб малец назад не скокнуў. Шафёр і вартавы зноў у кнігарню...
А я слухаю грукат і крык, пазнаць Мішкаў голас хачу — ці жывы ён? А немец-афіцэр наглядзеўся ў тую паперу, што ў рукі яму сунулі,— як закрычыць, замахае рукамі! І перакладач на яго стаў крычаць... Тады афіцэр махнуў палкаю на кнігарню — бярыце, чорт вашу мацяру бяры! І лясь! — сабе палкаю па руцэ — лясь! Бы разачка яго рэжа ад няўцерпу.
Мы з Каліткам вобсас туды, а немцы валакуць ужо другога. Глядзім — не наш... «Калатушкін Міша, дзе ты?» — крычу. А ён сядзіць пад паламаным прылаўкам, пад дошкамі і не шчабоўкне. «Мішанька, ета я, твая баба!» — не слухаюцца мяне губы, голасу свайго не пазнаю... Але выпаўз Мішка, гараць вочкі...
Не мог ён хадзіць, вынеслі мы яго...
Доўга мне кажну ноч сніліся тыя дзеці. І крык тэй увушшу стаяў, і тварыкі іх бачыла...
Хварэў Мішка доўга... Не, на нутро нічога, не прастудзіўся. Ногі гнілі... Катрына лячыла сваімі мазямі і травамі, казала — каб чуць, то і без ног малец астаўся б...
К нам Мацвяёнак яшчэ не раз чапляўся, але не так настырна. Самагонкаю ад яго адкупляліся... А на Калітку, мусека, прыказ атрымаў — заарыштаваць. І ён прыязджаў, і яшчэ трое паліцаяў, схапілі, павезлі ў раён... А назаўтра бабы на базар беглі — знайшлі ў лесе пры дарозе. Як корчык змёрз... Адзёжку пазналі і па вуху скалечаным. Дужа наздзекваліся з яго, твар быў, што сажа...
Котлуб пасля Калітку за старасту быў. Сам напрасіўся... Дак ён і з

павязкаю хадзіў, і з аружжам. Здзекаваўся над людзьмі, помсціў, хто калі яму дарогу заступіў. Нашы ў сорак трэцім прыйшлі, хацелі зарыштаваць яго, судзіць. Прапаў! Ён не жанаты быў, у сястры-паштаркі жыў. І ў яе шукалі, і ў сваякоў, і па іншых вёсках пыталі — няма! А ён у падпечку лёху патайную выкапаў, схрон, і там сядзеў. Семнаццаць гадочкаў выседзеў! З яго сваяўства ніхто ні мур-мур, так і не прагаварыліся... Зацятыя — страх! Вылез белы, што мярцвяк з магілы. Яго і судзіць не сталі: горшай цюрмы, як сам сябе скараў, і не прыдумаеш.

— А дзе цяпер прыпіснік той, Калатушкін? — паспела ўставіць пытанне жанчына ў чырвоным світары і ўздыхнула спагадліва: — Як з людзей доля вяроўкі ўе!

— Во — і ты прыспяшаеш... Заблытаю маток... Пацягну не за тую нітку і ўсё заблытаю. Сядзі, яшчэ далёка да Баранавіч,— адчытала яе бабка Галена.

— Калатушкін у Рузе нарадзіўся, пад Масквою дзесь тая Руза, казаў. Ён больш за ўсіх радаваўся, што немцы пад Масквою замерзлі.

Упадабалі мы яго — дужа ласкавы быў, мяккі, душа харошая. Я ўжо думала — хай бы ў мяне такі сын быў!

І вельмі ж ён нашага Мішку палюбіў. Спалі разам, расказвалі штось адно аднаму. Не адпускаў яго Мішка ні на крок... Як дачуўся Калатушкін, што немец з-пад Масквы ўцякае, зрабіў сабе мыліцу, як качаргу, усё да селавых прыпіснікоў рыскаў. Як толькі ён з хаты, Мішка ў плач, у крык — не пускае!

А раз уночы Калатушкін і гавора — вясна якраз бралася.— «Хопіць сядзець! Дзякую за хлеб-соль і ўсё такое, за ласку... Пара мне!» Прашчаецца ён з намі, слёзы ў вачах круцяцца... І Волька мая абдымае яго, таксама плача. Памагаў ён Вольцы ўсё ў хаце рабіць, слухаўся яе, што дзяцёнак... А тут, знацца, і слёзы пусцілі, абдымаюцца...

Хатуль дастала Волька, хлеба бохан укінула, апошнюю скварку сала, цыбулі — чапляе на плечы яму. «Я к вам буду заглядваць, мамаша... Не абіжайцеся на мяне, калі што не так...» — гавора. І мяне абнімаў, і рукі мне цалаваў...

«Як хто спытае — скажэце, што збёг, так яго і растак! Свіння неблагадарная... А куды — не ведаем...» Міргае сам, як хлапчук, губы кусае. Да пасцелі падышоў, доўга каля Мішкі стаяў...

Котлуб тады ўжо ў старастах раскашаваў. То і воч ніколі да нас не казаў, а тут — тыц! «Дзе прымак дзеўся? У партызаны сплавілі? Мо ж ведаеце, што з партызанскімі сем'ямі робяць, з іх хатамі?» — «Хай,— кажу,— каб ён ногі выправіў, зладзюга тэй! Выхадзілі, адхаялі, а ён абакраў і даў цягу». Рагоча Котлуб, задаволены: «Пажыў зато ўсмак: сыты, п'яны, нос у табаку, баба пад бокам... Йех-хэ-хэ!»

Маўчыць Волька, адвярнулася ад Котлуба, а я ўсё Івана кляну.

«Я змушаны заявіць у раён, што на маім участку робіцца. Яны вучот вядуць такіх сем'яў...» — грозіць. «А мы самі ўжо заявілі! Мацвяёнку — ён наш добры знаёмы! — пляту лапці.— І ўсе прыкметы Калатушкіна ўказалі. І яшчэ заявілі, што ашукаў нас староста Калітка, за такога ліхога чалавека распіску даў!»

Пажаваў Котлуб губамі, падумаў, што я сказала, пайграў брывамі, як бы здзівіцца хацеў, ды раздумаў. Пайшоў...

«Іш,— думаю,— ліха тваёй матары... Спужаць хацеў! Мы ўжо не такія страхі спазналі...»

Мо праз месяц — цёпла ўжо было, агароды капалі — заяўляецца ноччу Калатушкін. Азброены... З задання якогась вяртаўся — мокры, у гразі. Мы вокны завесілі радзюжкамі, давай апратваць яго. Ніжняе яму выпралі, на чаране разасланлі — яшчэ цёплая была печ. У баню не схацеў ісці, сказаў, каб пад раніцу разбудзілі. І заваліўся спаць.

І я легла на печы з краечку. Волька йшчэ тупала, боты яго аскрэбвала, мыла, хацела ў печ за бок засунуць. Замгнула я, не чула, калі яна спаць легла.

Сярэдначы абудзілася, чую — шэпчуцца яны, мілуюцца ў аднэй пасцелі. «А? Прадставіць сабе не магу, як вы тады мяне ў бані мылі...— шэпча Іван.— Бабы, голага мужыка! Расцялешыўшы! Гару ад стыда!» А яна яму: «Спі, дўрненькі, надумаў пра што... Скора ўставаць табе. Спі!» — «Мішку нічога не прынёс... Плакаць будзе». А яна: «Не будзець... Яму і знаць не трэба, што ты быў...»

Змучылася я тады на печы... Вунь да чаго ў іх дайшло! А я думала, што тое распісванне ў воласці і астанецца хвальшам...

Павярнуцца баюся, каб не спужаць іх, каб не скмецілі, што не сплю... Сілюся заснуць, каб не чуць іх гаворкі — дзела маладое, хай гавораць, калі гасподзь звёў. І не магу заснуць, косці разбалеліся...

Быў яшчэ колькі разоў Калатушкін — і адзін, і з таварышамі. Партызанаў у лазню хавалі спаць, а ён у хаце быў.

Можа і хораша б яны жылі пасля вайны, лепш, чым з Зайкоўскім. Той больш суровы быў, з фанабэрынкай, хоць і з ім Волька ў ладзе жыла, няма чаго гневаць бога. Але як прыйшлі нашы ў сорак трэцім, перад зімою, Калатушкін яшчэ і ў армію мабілізаваўся. Дзён два толькі пажыў дома і пайшоў на фронт. Ды штось скоранька і паперку прыслалі — сама сенакос быў. Пагіб, знацца, Калатушкін храбраю смерцю... Два медалі яго перасланлі нам — «За адвагу» і яшчэ якісь...

Волька тады тоўстая была, на восьмым месяцы. Але на работу пакрысе хадзіла. Падвечар тое было... Чáпае на лужок паштарка, Котлубава сястра, і проста да нас. Думалі, пісьмо ад Калатушкіна, а яна дастае звяшчэнне тое. Маленькая паперка, з паўдалонькі. Гляджу я на Вольку, а яна як затохнулася ўсядно: ні к сабе не дыхне, ні ад сябе... Шкробае шыю пальцамі, чарнее. Я махаю на яе фартухом, пад руку хапаю, каб дадому весці. Думала, пачынаецца ўжо ў яе, раней часу. А бабы папіць ёй далі, грудзі змачылі. Пасадзілі яе на капў — адпусціла нямнога сэрца...

У яе і цяпер тыя скрабкі ад кіпцяў. Так не відаць, а як разнервіцца, пачырванее — праступаюць.

Дак жа на гэтым не ўсё!

Чуем раз: трахкоча штось, як Мішка палкаю па плоце вядзе. Толькі часценька і крэпка, ажно вушы закладае, неба расколваецца. Павыскоквалі з хаты — ераплан коламі за дрэвы чапляе, садзіцца на лужку. Такі, што дзве крыле — зверху крыло і пад брухам крыло. Скок, скок ераплан на лужку, спыняецца. Хлапчонкі, Мішка наш, туды сыпануліся. І дзяўкі туды... А старыя не вельмі адыходзяцца ад двара, хоць і дзіва такое. Чакаем, што з гэтага будзе...

Выйшлі з тэй дзвюкрылкі двое ваенных, афіцэраў, а самалёт — фыр-р! Паляцеў далей кудысь...

Адзін ваенны вышэйшы, ногі стрынгаляватыя. Другі чарнявы, ніжэйшы — шчырак, крэпкі. Нясе чарнявы ў руцэ мяшок-пляцак, шлейкі па зямлі валочацца. Мальцы вядуць іх, абкружыўшы, на нашу хату пальцамі паказваюць. Ваенныя яшчэ штось пытаюць у дзяцей. Мальцы расступаюцца, вытаўхываюць напярод нашага Мішку. А тэй упіраецца, што бычок, не йдзець. Ніжэйшы ваенны дае штось яму, хоча самога на рукі ўзяць, а тэй адступае, хаваецца за спіны.

Далей яны ідуць, на наш двор паглядваюць...

Волька першай пазнала Зайкоўскага, патупала ў хату. Многа было кругаля вачэй, не хацела, каб бачылі, як сустрэнуцца.

Ідзе Зайкоўскі, як бы хто яму падэшвы прыклейвае — нага за нагу. Высокі то пачакае яго, то апярэдзіць, зноў крутнецца да Зайкоўскага і штосьці гаворыць яму, гаворыць, нашатырвае, сячэ перад грудзьмі рукою...

«Схадзі на раку, скупніся... Я скора!» — спраўвадзіў Зайкоўскі таго, высокага.

Зайшлі...

Волька да палка прыткнулася, рукі на жываце кафцёнку абдзёргываюць. Няма ў руках спакойнасці. «Во,— кажу,— гаварыце. А я магу выйсці, з Мішкам пагуляць...» — «Не трэба, мама,— Волька мне.— Няма ў мяне сакрэтаў ні ад кога».

Сеў Зайкоўскі на лаву, угнуўся, мяшок між ног паставіў. Круціць у руках шапку. «Дак каторы я ў цябе па шчоту?» — глядзіць спадылба на Вольку. «А так, што пятнаццаты ці дваццаты... Колькі табе надзяўкалі, столькі і ёсць».

Я і рот разявіла: што яна, чамярыцы наелася? Што яна вярзе?

«Думаў, хоць Мішка мой... Аказваецца, і сына ў мяне няма... Дурань дурны, з «прыданым» ужо браў».

«А што — мазгі ў цябе адсохлі? Я ніграматная баба, а і то помню, што Мішка праз год пасля вяселля радзіўся!» — не ўцерпела я.

«Памаўчы, мама... Не лезь... Ён сам добра ведае, чый гэта сын».

«Як гэта не лезь? Ён будзе плесці абы-што, а я не лезь? Калі нас не жадае слухаць, то хай па хатах пройдзе, паслухае. Хай людзі скажуць, што тут рабілася, як Мішку ратавалі!»

«Сціхні, мама...— яна на мяне.— З песні слова не выкінеш. Калатушкін жа быў...»

Устала Волька, пайшла к печы, корпаецца там, як бытта што трэба, адвярнулася да яго спінаю.

«Дастань,— кажу,— мо яшчэ шчавель там жывы. Дай чалавеку пахлёбаць з дарогі».

«Не, не! — падхапіўся Зайкоўскі.— Я не галадзён, не буду есці».

І тут рыпнулі дзверы — шморг у хату Мішка. Ушыўся паміж Волькаю і мною, учапіўся за спадніцы абедзвюм, выглядае.

«Ну што, сынок, паляцім са мною на самалёце?» — ступіў да яго Зайкоўскі, прыгнуўся.

«А бабу і маму возьмеш?» — Мішка пытае.

«Ведаеш, самалёт малы...» — мнецца Зайкоўскі.

«Не, я з бабаю застануся... І з мамаю... У нас яшчэ адзін тата быў — Калатушкін. Ён на фронце пагіб... Ён, ведаеце, які герой! Два медалі ў яго былі!»

«Ага, медалі, медалі...» — памармытаў Зайкоўскі, разагнуўся. Патаптаўся, усядно, як забыў, дзе дзверы. Пакорпаўся ў мяшку, паставіў на лаву высокую, на пядзю, банку тушонкі. Пачак пячэння паклаў, дзве шакаладкі, брусок мыла. Астатняга не вымаў, што было, на плячо мяшок закінуў. І «да свідання» не сказаў — пасунуўся ў дзверы.

«Ну і бог з ім! — думаю.— Усё выяснілі, усё на палічкі расклалі — застаецца толькі жыць...»

— Дазвольце... Асцярожна!.. Адну хвіліначку...— чуецца голас правадніцы. Яна прыносіць паднос, застаўлены шклянкамі з чаем.



Ляжаць і блакітныя, пляскатыя пачачкі цукру — па дзве лішкі ў кожнай, і пірамідка пачкаў пячэння.

Мы дружна падцялі ногі, каб праваднiца не спатыкнулася ў праходзе, не пааблівала нас.

— Колькі з мяне — гаварыце адразу! — падхапіўся салдат.

— Потым, потым... Піце на здароўе! Пабягу — к Магілёву пад'язджаем!

— Ох! — палохаецца і пачынае голасна ікаць таўстуха.— Гэта ж... ік!.. выходзіць мне трэба, а я раскісла тут...— і яна затузалася, выбаўляючыся з-за століка.

Салдат жвава схапіў з паліцы яе сумку, хацеў мо паднесці да выхаду.

— Сядзіце, малады чалавек! Я сама, сама...— паспяшыла яна забраць з яго рук груз.

І салдат з ахвотаю аддаў.

— Ну, во...— задаволена пацёр ён рукі, як толькі таўстуха выйшла з купэ.— Сядайце цяпер на покуць вы! — паказаў ён на тое месца Галене Васілеўне.

— Вы снедайце, снедайце самі... Я пазней! А то йшчэ замінаць буду...— запярэчыла яна.

І тады салдат крыху недалікатна прыўзняў бабку пад локці, падняў-пасунуў яе за столік.

— Будзьце як дома!

Бабка ўгнулася над сваім вузельчыкам.

— Дзесь тут у мяне яйкі былі... Э-э, раздушылася адно... Ну, нічога, я сама яго ўходаю... Во, бярыце, мо яшчэ хто захоча! — бабка расклала па краях падноса, дзе можна было, чатыры яйкі, бітае — каля сябе. Акраец хлеба стаўма запхнула паміж шклянкамі і пячэннем.

— З'ямо, бабка, з'ямо! — весела паабяцаў салдат і дастаў з трэцяй, багажнай паліцы свой чамадан. Выняў з яго батон, палку сухое каўбасы, кансерву, паклаў усё на шклянкі. І бутэльку шампанскага «Іскра» выняў.— Куды б яго? Ну, няхай пакуль тут пастаіць... За маю дэмабілізацыю разап'ём! — паставіў пад столік.

Я дастаў з партфеля дзве бутэлькі піва, далучыў да шампанскага. І тады ўжо і Севава мама, і жанчына ў чырвоным світары пачалі выкладваць, хто што меў: бутэрброды, малыя яшчэ і зялёныя яблыкі-папяроўкі, пакеты малака, якое «не кісне дзесяць дзён». Зялёных яблык насыпала жанчына ў світары, яна ж дастала з карзіны двухлітровы слоік з белабокімі трускалкамі, клінковы сыр, загорнуты на гарадскі манер у цэлафанавую плёнку, самаробных, з усякімі выкрунтасамі сухарыкаў-пернікаў.

— А, божанька мілы, а куды ўсё гэта? — хітала галавою бабка Галена і дробненька, радасна-здзіўлена смяялася.— І хто гэта ўсё з'есць? Гэта ж на тыдзень яды!

— З'ямо, бабка, з'ямо! — ужо не так упэўнена храбрыўся салдат.— Люблю я гэту работу.

Усе сцішана-сарамліва ўсміхаліся. Жанчыны папраўлялі на каленях спадніцы, цягнуўся рукою да ягад Сева. Нож быў толькі ў салдата, ён і гаспадарыў каля стала, нарэзваючы, раскладваючы.

— Ой, каб не забыць... Дык што — так зяць больш і не быў? — папытала жанчына ў чырвоным світары.

Поезд стаяў. За акном мітусіліся пасажыры.

Перш чым сказаць што далей, бабка Галена паўзіралася ў людзей на вакзале...

— Пасля пабеды прыйшоў, у канцы мая...

Зноў паселі гэтак, як і тады: Волька пры палку, каля калясці, Зайкоўскі на лаве. Зойка дрындуе на каленях у Волькі — дочка ад Калатушкіна нарадзілася... Сядзіць Зайкоўскі, супіцца. Няма ніякай у іх гаворкі — не палучаецца! То маўчаць, то сварацца...

«Чаго ты,— кажу,— прыехаў? Разлучэцеся па закону і не замінайце адно аднаму... Гэта раней, як абвянчае поп, то што вужышчамі звяжа. Любіш, не любіш — жыві! Але ж і тады разыходзіліся, як прыпякала...»

«Каб так усё проста было, як вам здаецца!..» — уздыхае ён.

«Усе бабры дабры, адна выдра ліхая...» — сказала я і пайшла з хаты. Хай без мяне пасядзяць... А ну ж мо рашацца на штось адно — каб не дзёргаў Вольцы нервы. Не жалезныя яны ў яе...

Доўга я сядзела — цішыня ў хаце. Жабы ўжо з-пад прызбы павылазілі, пашлёпалі жыватамі ў гародчык, а я ўсё сяджу, як выгнатая...

І не вытрывала, зайшла. Волька ў калясцы сцеле, хоча Зойку класці, малая на падлозе поўзае. Зайкоўскі сядзіць, як сірата, ані з месца... Ці гаварылі яны што, ці гэтак і прамаўчалі? Хто ведае...

Зойка поўзала па падлозе, поўзала — і да яго дашкрэблася, за штаны бярэ. А яго ажно скаланула ўсяго, пасунуўся ад яе далей. А Зойка на шлёпцы сваёй коўзь, коўзь, падымае к яму рукі: «Э... Э...» Крэхча, сіліцца штось гаварыць... І не ўтрываў ён, даў ёй адзін палец. А Зойка крэпкая ўжо была — круць! Устала на ножкі, топ-топ... Дак Зайкоўскі прысеў каля яе, стаў вадзіць па хаце, вадзіць...

Так і астаўся ў нас, і па сёння жыве. Добра жывуць... Толькі як перап'е, бывае, дак зубамі скрыгіча: «Вайна, вайна, што ты нарабіла?!»

А каб вы зналі, хто гадасць на Вольку яму пісаў, які дабрахот! І калі ўсё выяснілася! Котлуб гэты...

Поезд набіраў, прыспешваў ходу. Усё часцей і часцей мільгалі ў вокнах будынкі, дрэвы, слупы...

Усе сядзелі моўчкі, забыўшыся пра яду, пра сняданак.

Мы не маглі забыць вайну...

— Э-э, не кажы, хораша сёння поезд ідзе. Стараецца! — сказала ўцешліва бабка Галена і паўзіралася ў акно.

— Ага, стараецца-такі...— згадзілася і жанчына ў чырвоным світары, і ўсе таксама пачалі глядзець у акно.

— Пуці перашытыя крэпка...

— Ну але...

Недзе ў пачатку саставу задзёрыста гукнуў цеплавоз:

— Бягу-у-у!





***эдуард зубрыцкі***





ПАЭЗІЯ

## *На пачатку восені*

**Барвянага лета апошні прамень.**
**Барвянага клёна першая медзь.**
**У золкіх туманах барвяны алень**
**Купаецца, быццам баіцца згарэць.**
**Гаі барвянеюць, а ў іх — салаўі**
**Стаіліся, песень не чутна зусім.**
**І студзяць буслы на імшарах сваіх**
**Барвяныя ногі ў разлівах расы.**
**А верасень—хітры. Барвяны, як ліс,**
**Стаіўся і сочыць за ўсімі крадком**
**І думае, пэўна: што ж будуць рабіць,**
**Як возьмецца ўсё тут барвяным агнём?..**

■

**Абяцаў падарыць я табе неба сіняе,**
**Жураўлінае песні задумлівы звон,**
**Што плыве і плыве нада мной баравінамі**
**У сутонне асенніх асмужаных дзён.**
**За далёкаю даллю азёр і вытокаў,**
**Дзе дажджы закіпаюць на рыжых кастрах,**
**Спачываюць ад вечных вандровак аблокі,**
**Спачываюць на чуйных сівых трыснягах.**
**Я ўстаю на світанку, буджу іх, скалелых,**
**І аблокі ка мне неахвотна плывуць.**
**Як апошнія гронкі далёкага лета,**
**Не даплыўшы, спадаюць снягамі ў траву.**
**Я стаю і маўчу... Мне б хоць кропельку неба.**
**Неба сіняга, цёплага над галавой.**
**Толькі ж дыхае неба халоднае снегам...**
**А назад жураўы прылятаюць з вясной...**



*міхась даніленка*

# БАБІНА ЛЕТА

## АПАВЯДАННЕ

Жанчыны выбіралі бульбу на далёкім узлессі. Адсюль, з вышэйшага месца, як на далоні, віднеліся іх Вішнякі. Да вёскі беглі слупы тэлефоннай лініі. На дратах грэліся, весела шчабяталі ластаўкі: збіраліся ў далёкі вырай. Па бальшаку, што вёў краем поля да вёскі, запыліў матацыкл. Матацыкліст, відаць, ехаў не спяшаючыся — выбіраў раўнейшыя мясціны, дзе менш выбоін. Густы шлейф пылу цягнуўся ўслед за матацыклам.

Жанкі разагнулі спіны. Маленькая Поля штурхнула локцем Арыну, якая высыпала бульбу ў кошык.

— Канчай, Арынка,— гулліва сказала яна.— Твой паехаў.

Жанчыны, як па камандзе, паглядзелі на Арыну. А яна як стаяла з кашом, так і засталася стаяць. Толькі разгубленая ўсмешка асвяціла трохі абветраны, але ўсё роўна прыгожы, загарэлы твар.

— Ідзі, чаго ж,— пачуліся галасы.

— Чалавек такую дарогу праехаў, накарміць трэба.

— Самі закончым. Ідзі, Арына...

Былі ў тых галасах і спагада і ціхая жаночая ласка. Ды ўсё роўна Арына адчувала сябе ніякавата. Собіла ж гэтаму ветрагону Мікалаю надумацца ехаць сярод белага дня, на вачах усёй вёскі.

Арына ўжо ішла па бульбянішчы, асцярожна ставіла ногі ў паношаных боціках у мяккую зямлю. Часам нагіналася і адкідвала прывялае каліўе. Яе яшчэ па-дзявочаму зграбную постаць праводзілі позіркамі жанчыны.

Мал. **Л. Марчанкі**





На бальшаку Арына прыхілілася да тэлефоннага слупа і трохі пастаяла, аддыхалася: чамусьці зайшлося сэрца. Так выразна ўспомнілася ёй, як у першае ваеннае лета праводзіла па гэтай дарозе на станцыю свайго Івана. Тады яны толькі пажаніліся. Ужо сцёрся з памяці любы Іванаў твар, але добра помніла: быў ён у вышытай ёю касаваротцы і ўсё паўтараў:

— Гэта ненадоўга... Скора вярнуся.

Іван не вярнуўся. Казалі — разбамбілі іх эшалон, калі яшчэ толькі везлі на фронт. А Арына стала ні замужняй, ні дзяўчынай. Урэшце, тады ў Вішняках такія, як яна, былі амаль у кожным двары.

Апанас Корбут, які да вайны працаваў у іх старшынёй сельсавета, неяк угаварыў Арыну ўладкавацца ў нямецкую ўправу.

— Ты — увішная, маладая,— гаварыў ён.— Цябе возьмуць. А нам так трэба свой чалавек у той управе.

Блізка года яна ездзіла на веласіпедзе ў ненавісную ўправу. Часам папярэджвала праз надзейных людзей Корбута аб тым, калі немцы збіраюцца адпраўляць чарговы эшалон у Германію. Часам удавалася выкрасці бланкі прапускоў...

І яшчэ помнілася, як у сорак восьмым годзе сядзела паніклая, на многа год пастарэлая, у вузкім і доўгім, бы пенал, кабінеце.

Пасля, праз некалькі месяцаў, з Урала, дзе ён асталяваўся жыць, прыязджаў Апанас Корбут. Што ён заступіўся за яе, Арына не ведала — Корбут заўсёды быў негаваркі. Яна трохі правяла яго гэтым бальшаком на станцыю. Калі стаялі, Апанас усё не мог злаўчыцца прыпаліць папяросу: тушыў вецер.

— Дай я, Апанаска,— папрасіла Арына.

Ён зацягнуўся дымам і, паглядаючы на жанчыну, сказаў:

— Ведаеш, Арына, я ехаў тады ў эшалоне з тваім Іванам. Можна сказаць — на маіх руках ён сканаў. Усё цябе клікаў...

Яна доўга стаяла і глядзела, як нёс адзінай рукой чамаданчык Корбут. Усё меншай і меншай станавілася яго постаць. А потым і зусім знікла за пагоркам.

Тады таксама стаяла яснае, бы пагодлівым летам, надвор'е. Над пожняй вялікімі чародамі ляталі шпакі. Сіваваронкі сядзелі на правадах. А высока, у па-восеньску пабляклым небе павольна плыло павуцінне. У Арыніным гародчыку цвіло, аж бушавала «бабіна лета». Неяк яна хацела яго выпалаць, але маці не дазволіла.

— Няхай расце. Усё-такі кветкі,— гаварыла старая.

Міналі гады, і ў Арыніных валасах заблытвалася ўсё больш і больш белых павуцінак. І твар Івана яна ўжо амаль не помніла. Здавалася, зусім і не такім ён быў, як на тым павялічаным партрэце, што вісіць у чысцейшай палавіне хаты.

Усяго было ў Арыніным жыцці — і добрага, і благога. Радасць жыццё адмервала ёй скупа, ды жанчына на тое і не крыўдавала. Шчыравала і на ферме, і ў полі. І радавалася ціхай радасцю, калі багацела родная вёска, паяўляліся новыя вуліцы.

А потым зачасціў да яе ён, Мікалай, механік з рамонтных майстэрань. Вядома ж, ніякі ён не ветрагон. Гэта так толькі для сябе, у думках, часам называла яго Арына. Памерла год назад у Мікалая жонка, трое малых дзяцей у чалавека на руках...

Арына ішла, апанаваная ціхім одумам, дарогай змахвала з твару ўчэпістыя павуцінкі, слухала, як шчабечуць ластаўкі. Можа гэта яе позняе жаночае шчасце пакінула след рубчастых матацыклетных колаў на пыльным бальшаку? Хто ведае. І хоць яна ні разу яшчэ не бачыла Мікалаевых дзяцей, а ўжо шкадавала іх чулым, падатлівым сэрцам.

Ля Арынінага дома сядзела маці — старэнькая, бяззубая, прыгорбленая.

— Прыехаў,— кіўнула яна на матацыкл, што астываў у цяньку ад яблыні.

Арына прыпынілася ля старой. Востры жаль працяў сэрца: у маршчыністых, сухенькіх матчыных руках яна ўбачыла букецік дробных кветак з гародчыка. Старая акуратна складвала сцяблінку да сцяб лінкі і нешта шаптала тонкімі вуснамі...







***фёдар янкоўскі***

# АБРАЗКІ

## БАЦЬКА

Павольна і ціха, але шырока расчыняюцца дзверы, і парог пераступае бацька. Які б ні быў у мяне занятак, а не магу працягваць яго і ўстаю гатовы пачуць. А ён, усё адно як баючыся забыцца на штосьці або з чымсьці спазніцца, хуценька і старанна разгладжвае свае русыя багатыя вусы і, не адыходзячы ад парога, пытаецца:

— А ці запісаў ты сабе такое слова? (Дарэчы, у бацькі ўсё было словам: і прыказка, і кароткі дыялог, і жарт). Пра лісу... Ліса й пад барану хавалася: то ў зуб, то ў прут, а ўсё міма!

Надчэкваючы, каб усё было запісана, ён настройваўся сказаць яшчэ нешта — прыказку, кленіч, ласкавае і далікатнае прывітанне (Дзякуй табе, хлопчыку! Вялікі расці! Здаровенькі бегай!) ці жорсткае і, як джала, пякучае зламоўнае пажаданне (Каб нашыя варагі ды выкацілі да нагі).

Другі раз:

— А такое? Яе (маленькую чырванатварую і вельмі рухавую жанчынку з куслівым языком) завуць жагляўка. Чаго так? Малесенькія, спрытныя, але вельмі куслівыя мурашкі — жагляўкі, а большыя мурашкі не такія. І не так баліць, як укусіць. Нічогенькі — дык слабенькі, нядужанькі, кволы... Тэпае? Рабіць — дык не, от, каля хаты трохі тэпае, хіба толькі курэй з град спудзіць...

Ці яшчэ:

— А чаго там?.. Не шкадуй, рана ажаніўшыся й рана ўстаўшы... Каб у

Мал. У. Чарнышова



навуцы проста было, то й казлы б у настаўнікі выходзілі... I бога ашукае і ў чорта адхопіць... Кажуць, што й масла хлебам мажуць... Дачакалася Знайда (клічка сучкі) помачы: сама ляжыць, а дзеткі брэшуць...

Не два і не дваццаць разочкаў прыносіў мне, ужо настаўніку і сакратару рэдакцыі газеты, гэтыя найдаражэйшыя гасцінцы. I рабіў гэта толькі тады, калі не было сведкаў; а калі ў хаце хтосьці з сямейнікаў пачынаў казаць, што «ўсё піша й піша», «запісвае й запісвае багата чаго», бацька рашуча, без ніякіх тлумачэнняў і разважанняў перапыняў размову. Я бачыў: мая праца здавалася бацьку незвычайнаю, мае клопаты — не ўсім зразумелыя, мой занятак — далікатны і нейкі святы. I нельга, каб «абы-хто ведаў». «Чаго там!..»

Калі я бачу партрэт Францішка Багушэвіча ці чую гэтае імя, побач устае вобраз бацькі. I наадварот. У абодвух былі амаль такія самыя вусы. Абодва хударлявыя, энергічныя, няўрымслівыя і, здаецца, нястомныя. Абодва дарагія мне. Адзін — родны бацька, другі — той, хто, як ніхто да яго, сказаў свету пра Беларусь і беларусаў, каго ў савецкім друку не раз называлі бацькам.

## СУСТРЭЧЫ З ГАДЗЮКАМІ



— Бедная ды страдная мая галовачка!.. Што ж я зрабіла? Я ж сама вінаватая...— ламала рукі маці.

Яна дазволіла сыну, гэтаму спрытнаму, але нямоцнаму, гэтаму няўрымсліваму шпачку, два дні запар, удвух з суседавым сынам, цягаць за каморнікам ленту.

Пасля першага дня Адась вярнуўся прытомлены, узбуджаны. Маці паглядзела на яго раз, другі і сказала, што больш не пусціць з каморнікам. Але сын настойліва і неадступна прасіў і дамагаўся дазволу пайсці другі, трэці і больш дзён.

— Вы ж не ведаеце, мама, які ён — гэты каморнік! Я сказаў, што пайду і заўтра, калі толькі возьме мяне.

Мералася балота — мокрае, гнілое, куп'істае. Каморнік, як і ўсе гэтыя хуткаходы, спрытна сігаў з купіны на купіну і не стамляўся. I прыпаў жа ён да спадобы хлапчукам-сямікласнікам! Першы дзень спяваў і паўтараў адну песню, праз нейкі час — другую, трэцюю. I спяваў хораша, мякка, неяк далікатна. А другі дзень, як прыселі адпачыць, чытаў верш. Прачытаў і тут жа: «А мабыць, хлопцы, так лепей будзе?» — і замяніў апошнюю страфу, ці, як тады мы казалі, апошні куплет. Хлопцы здагадаліся: каморнік чытаў свой верш... Спытаўся, ці чыталі Паўлюка Труса — яго земляка, разумнага і прыгожага, гонар роднай вёскі Нізок.

I хлопцы стараліся. Стараліся хутчэй «цягнуць ленту», стараліся пад каманду ісці то ўлева, то ўправа. Стараліся і дагаджалі ўжо другі дзень. Не брала, здаецца, стома. Хадзілі подбежкам, лёгка скакалі з купіны на купіну, спрытна ўтыкалі вешкі, крычалі каморніку: «Гатова! Можна далей!» На нагах — лапці, быццам сённяшнія басаножкі, на целе — толькі адны трусікі (навіна ў вёсцы першага лета трыццатых гадоў). За дзень цела ў аднаго і другога каморнікавых памочнікаў пачырванела, нібы падпяклося.

Быў кароткі, пастухоўскі, з торбачак абед. Быў кароткі, як на працы, адпачынак, але хлопцы паспелі смачна заснуць. Сон зрабіў іх млявымі, яны неяк раптоўна аслабелі і ўжо цяжкавата ўставалі, ногі перасталі слухаць і быццам не ступалі, а валакліся. Спыніліся. Каморнік глядзеў на карту і паказваў, колькі абыдуць яны да вечара. I раптам добры, лагодны юнак роспачліва і моцна крыкнуў: «Уцякай!» А сам выхапіў з-пад папругі сваю паходную сякеру і секануў там, дзе толькі што стаяў Адась. У траве варушыліся кавалкі гадзюкі. Разгледзелі, ад следу Адасёвых ног да гадзюкі было сантыметраў дзесяць.

Млявасць знікла. Лента пайшла далей. Вымерваліся новыя кварталы. I калі заставалася прамераць небагата, пачулася Адасёва раптоўнае і трывожнае «Ой!»: на купіне, на якую цэліўся ён скочыць, ляжала, падняўшы галаву, тоўстая, як біч, чорная гадзюка. А праз нейкі час ледзь не наступіў ужо на трэцюю...

Скончыўся працоўны і трывожны дзень. Адась ішоў задні, ішоў моўчкі, стомлены і знясілены. Балела цела. Не разаслаўшы пасцелі, ён лёг і адразу заснуў. Будзіла маці. Прасіла легчы як трэба, а ён — нібы разбіты, гудзела ў галаве, смылела прыпечанае на сонцы цела. Маці падышла да ложка і, накрываючы пасцілкаю («А мой ты заработнічак!»), дакранулася да цела — яно гарэла, як у агні. I сон ужо быў не сон...

Усю ноч у хаце свяцілася газнічка. Уся сям'я прастаяла над хлопцам да самай раніцы, шукалі рады, бегалі, прыводзілі суседак, замаўлялі.

А ён кідаўся, нешта гаварыў праз сон. У яго пыталіся, а ён нічога не адказваў, глядзеў шырока расплюшчанымі вачыма і нікога не пазнаваў. Так прайшла не адна ноч. А з імі на доўгі час застаўся страх — гадзюка.

А больш як праз дзесяць гадоў зноў была сустрэча з гадзюкаю.

У дні блакады 1944 года, што цягнулася больш за месяц, той самы каморнікаў памочнік з групаю партызан-разведчыкаў апынуўся ў акружэнні. Была не адна сутычка з карнікамі і не адна спроба выйсці з акружэння, але сілы былі няроўныя,— трэба было ратавацца маскіроўкаю. У балоце з высокаю асакою, куп'ём і рэдкімі чэзлымі хвойкамі, стаіўшыся і не варушачыся, хлопцы ляжалі па адным, услухоўваліся, як набліжаліся карнікі; ішлі яны ланцугом, лаяліся, галёкалі, пераклікаліся, часта пастрэльвалі, наводзячы страх на разрозненыя невялікія групкі акружаных, галодных і безабаронных. Адась пачуў і праз асаку ўбачыў: справа, ледзь не проста на яго, ідуць два здаравенныя ў палатках-накідках карнікі, а недалёка — яшчэ два, тры... Іх было многа. Тыя два, бліжэйшыя, ішлі павольна і гаварылі, быццам бачылі свае ахвяры і раілі: «Лепш выходзьце!» Крокаў за дзесяць ад хлопцаў паліцаі спыніліся, выпусцілі па аўтаматнай чарзе, разанулі па хвойках, што стаялі блізка перад Адасём; пасыпалася на траву і купіны ссечанае галлё. Ён заўважыў, як на купіне заварушылася ссечаная галінка, потым з-пад галінкі папаўзла ўніз з купіны яна — гадзюка. Спаўзла павольна і, выгінаючыся, ішла проста на яго. А паліцаі стаялі побач і курылі. Гадзюка паўзла і спы-

нялася, паўзла павольна і зусім нячутна па моху ў рэдкай траве, паўзла проста на Адася. Нельга было і паварушыцца: пачуюць. Што ж зрабіць? І калі да галавы гадзюкі заставалася сантыметраў 20—30, Адась выцягнуў губы і падзьмуў на гадзюку. Яго фу-у-у адразу спыніла гадзюку, яна падняла галоўку, павярнула назад і застыла на месцы. Наструніліся нервы. Увесь ён стаў зрокам і слыхам. Рука ўсё мацней сціскала пісталет; застаўся толькі адзін патрон, а іх з гадзюкаю разам — толькі побач — аж тры. Аднаго патрона на трох не падзеліш...

Непадалёку хлопнуў стрэл з ракетніцы,— гэта быў сігнал. Абодва паліцаі павярнулі амаль назад і, не спяшаючыся, пайшлі. Гадзюка, бачыў Адась, успаўзала на сваю купіну.

## ЛЮБЛЮ НЁМАН, ГРОДНА



Люблю Нёман, горад на Нёмане Гродна, люблю Гродзеншчыну.

...Выязджаеш з Гродна туды, на Друскенікі,— і ўсцяж пры дарозе ідуць адна за адной ціхія вёскі. І бачу невыказнае, гледзячы на гэтыя вёскі, і чую невыказнае, паўтараючы назвы гэтых вёсак:

...Грандзічы!
...Дарніца!
...Зарніца!
...Пальніца!
А пятая, далейшая — Гожа!
Там, на Гродзеншчыне, светлы і чысты, як з расы, Нёман.
Там чыстая і светлая, як з расы, святая Свіцязь...
Там Мастаўляны і Астрына, Навагрудак і Кушляны.
Там Шчорсы і Загор'е...

Наведваюся ў Гродна, на Гродзеншчыну. І планую: кожнае наступнае лета трэба завітаць на Гродзеншчыну — мілы край — хоць на тыдзень. Мо і таму, што памятаю дзедаў успамін: дзесьці ў 30-х гадах XIX ст. яго (дзедавага) дзеда перагналі злосныя людзі і злосная ўлада з Гродзеншчыны пад Слуцк, а пасля мяцяжу (1861 год) — з-пад Слуцка ў Клетнае, пад Бабруйск.

## НА АСТРАШЫЦКІМ ВОЗЕРЫ



Сцішваецца. І ўсё возера падзялілася на палоскі: адна люстраная, а побач ветравая, быццам сцяжынка, па якой бегаюць не ногі, а самі добрыя душы. Урэшце ўсё возера стала вялікім люстэркам. То — хоць плотачка торкала, сяды-тады яна ўскідвалася следам за паплаўком і траплялася на дне лодкі. А цяпер — хоць сам клюй... Можна і не глядзець на паплаўкі. Побач, таксама ў лодцы, бравы, год пад 50, чалавек. Разы са два ён спрабаваў пачаць размову. А я не магу: гэта той, што прывозіць на возера белыя чэрві; як толькі рыбакі раз'едуцца, ён спяшаецца расцягнуць перамёт кручкоў на 200 і ўсцяж перамёта высыпае назапашанае вядро белых, мясных чарвякоў, потым хваліцца: «У мяне пуста не бывае. Белы чарвячок дзелае сваё дзела (белы чарвячок гэты збіраюць у ямах на мясакамбінатах ці за горадам, куды вывозяць смецце і бруд).

Гляджу на бераг. Гляджу на ўсё даўно знаёмае і вядомае. Шукаю, на чым запыніцца.

Чарот. Ён сёння лепшы, бо маўчыць (не вельмі музычна слухаць, як шасцяць чараты)...

Хвоі, што тройцаю падышлі да саменькае вады.

Зусім да вады падступілася сядзіба, гарод, абнесены нізкім плотам. Да яго бягуць тры дзяўчынкі (калі ішоў на возера, яны сустрэліся і пахваліліся мне: «А мы ўжо ў шосты перайшлі!» «А нас у шосты перавялі!»). Дзяўчаткі адна за адною ўскочылі на плот. Селі — чыста ластавачкі на дроце. Зашчабяталі, зарагаталі і загаварылі цішэй, я ледзь-ледзь улавіў: «А мы ціхенька, каб не пачуў, што «цалавала Янку...» І заспявалі гэтыя змоўшчыцы («каб не пачуў...») — мае знаёмыя яшчэ дзесьці з іх другога ці першага класа, калі самая смелая дапыталася: «Скажыце, дзядзька, якое слова вы ведаеце, *што ляшчы ў вас бяруцца?*».

І яны заспявалі:

...Перад ім Алёна мыла ручнікі...

...Ой, плыве, знікае...

...Стала ціха-ціха...

...Ручнікі плылі.

Потым спявалі яшчэ. Паўтаралі песню «ручнікі плылі», якой дагэтуль я не чуў.

А калі сабраліся ісці, перапыніў:

— А дзе ж такую песню ўзялі?

— Учора ў радзіве спявалі, мы й запомнілі яе, толькі трохі блытаемся, памыляемся.

За адказам пайшоў дыялог (яго проста шкада прапусціць):

— Ці ж учора? Заўчора!

— А мо не заўчора, а пазаўчора!

— Ты яшчэ зманіш, што мо запазаўчора? (Гэта з таго словаўтварэння, якое яшчэ і не спрабавалі апісаць, не толькі вывучыць). Учора, заўчора, пазаўчора, запазаўчора...

А ўвечары званіў, пытаўся і даведаўся: тэкст песні — Веры Вярбы, мелодыя — Міколы Пятрэнкі, выхаванца Мінскага педагагічнага інстытута, героя вайны.

Мне стала няёмка: аж да сустрэчы з песняю на Астрашыцкім возеры я не быў уважлівы да публікацый Веры Вярбы.

Так яно...

Хай бы яна, гэта песня, была адна, хай бы адна-аднюсенькая, адненькая-аднюткая — і ўжо не бясследнасць!

— А ляшчы?

— Бог з імі, з ляшчамі...

## І ЗАВЯЛА ПЕСНЮ МАЦІ



На ўроку літаратуры, калі я вучыўся ў пятым класе, настаўнік гаварыў пра вусную народную паэзію; спаслаўшыся на аднаго вучонага (памяць не захавала яго імя), прадыктаваў, каб запісалі прыкладна такую фразу: «Фальклор — гэта адгалоскі праклятай мінуўшчыны». Потым запісвалі мы радкі, пра тое, што з'яўленне ў сям'і дзіцяці было няшчасцем сям'і, горам бацькоў.

У мяне былі пяцёра братоў. І я поўнасцю аддаўся вырашэнню задачы: ці ўсе мы, браты і дзве сястры, ці толькі хто-небудзь з нас, можа — я, сталі горам, бядою матцы, бацьку, сям'і? Кормяць, абуваюць, апранаюць, у нядзелю сітніцаю частуюць, каго на дзве, каго на больш зім аддавалі ў школу.

І раптам на занятках, у школе...

Карцела, рупіла, непакоіла, трывожыла і мучыла.

А неяк той самай зімою, увечары, да нас сышліся на вячоркі суседкі (хто прадзе кужаль, хто воўну, хто трасціць ніткі, хто з маткоў робіць клубкі). Спявалі песні. У адной — сям'я дзякуе богу, што маці «яшчэ сынка прывяла». І — як у нас кажуць — завяла гэту песню мая маці.

Далікатная рэч — народнае слова, народная песня. Каб гаварыць пра яе, трэба ведаць яе, разумець яе. Трэба, каб і гаварылі пра яе далікатна.

## УРЫВАК З ДЫЯЛОГУ

Стоўбцы. Базар. Аж гнуцца сталы ад зеляніны — садавіны і гародніны. А тых, якія купляюць, малавата. Можна выбраць — што душа прымае. Можна і «ўпалявацъ» адно-другое слоўца, толькі не спяшайся ні выбіраць, ні купляць, не ўздумай аберагчы нейкі там рубель.



На адным століку маці і дачка налажылі цэлую гару яблыкаў, груш, гарбузоў. Падыходзяць і ўсё пытаюцца пра гатунак яблыкаў, груш, якая цана. І можа толькі сёмая ўзяла ў рукі гарбуз і спыталася:

— Тыква?

— Не, родненькая,— гарбуз! І зварыць добра, і гарбузікі смачныя. Купеце.

— Тыква! Які там «гарбуз»?!

— А нашто так? Кажу ж вам: гарбуз.

Але паразумеліся. Адна прадала, а другая купіла. Першая на развітанне:

— І зварыць добра, і гарбузікі смачныя. А яшчэ можна, калі ёсць варыстая печ у хаце, спячы на падочку.



● Густаў МАРЦІНАК



# ЗНОЙДЗЕНЫЯ СКАРБЫ

АПОВЕСЦЬ

Мал. **К. Ціхановіча**

Малады, зусім малады дырэктар шахты «Леакадзія» задумаўся над раскладзенымі картамі. Яны былі старыя, ужо добра такі з'едзеныя моллю, вылучалі асаблівы пах, падобны да паху зляжалай вільготнай вопраткі, сатлелай у пакінутым штрэку драўніны і затхлага тытунёвага дыму ў неправетраным пакоі карчмы.

Апроч таго, кожная карта, і асабліва гэтая самая старая, была абвеяна чароўнасцю мінулых дзён. Пакрэсленая дзівоснымі знакамі, спярэшчаная заблытанымі лінейкамі, займальнымі гатычнымі літаркамі, з майстэрскімі выкрутасамі на канцы нядоўгага сказа, яна ляжала на вялізным дырэктарскім пісьмовым стале пад шчодрымі сонечнымі праменнямі, што надавалі ёй такое ж хараство, якое мелі для дырэктара Лігензы апавяданні яго старой маці.

Гэта былі цудоўныя хвіліны, і шкада, што яны ўжо не вернуцца. Старая, шчырая матулька не дачакалася той часіны, калі яе сынок Зефлік пойдзе на ўласны хлеб, ажэніцца, праб'ецца праз жыццё і будзе аж дырэктарам. Маці марыла толькі аб пасадзе штэйгера. А тут сын, Зефлік, абагнаў яе мары і стаў дырэктарам! Шкада, што не дачакалася... Памерла ад суму, калі ён схаваўся ў бескідскіх лясах і ў якасці камандзіра партызанскага атрада рабіў дзёрзкія вылазкі з Бескідаў у даліну Віслы, каб узрываць цягнікі, масты, мачты з правадамі высокага напружання, каб паралізаваць рух на чыгунцы. За яго галаву гестапа ўстанавіла ўзнагароду. Па ўсёй Сілезіі расклеілі афішы, дзе было аб'яўлена, што той, хто даставіць жывога або забітага Юзафа Лігензу, атрымае тысячу марак. Аднак ніяк ніхто не квапіўся на тыя прадажніцкія грошы, а Юзаф Лігенза быў увесь час няўлоўны і ўвесь час рабіў вылазкі ў даліны і сістэматычна пускаў пад адхон эшалоны, узрываў масты, забіраў харчы з нямецкіх магазінаў, караў здраднікаў і правакатараў. Маці доўга нудзілася і жыла ў вялікім неспакоі, а потым памерла.

— Памерла яна ад тугі і маркоты,— сказалі суседкі і праводзілі яе на могілкі.

Зефлік даведаўся аб яе смерці. Аднак на пахаванне не прыйшоў, бо ведаў, што трапіў бы ў пастку гестапа. Яны ж толькі гэтага і чакалі! А потым?..

Дырэктар Лігенза ачнуўся ад задуменнасці, загледзеўся на карту вугальных пластоў «Іды». Ён пачаў павольна чытаць гатычныя літары надпісу.

І зноў яму прыгадалася маці. Ён помніць, як яна ў асеннія вечары садзілася на зэдлік каля печы і апавядала малому Зефлічку чароўныя казкі, вераванні, легенды, паданні і іншыя гісторыі, як іх звычайна называла. У гэтых паданнях і легендах адбываліся незвычайныя справы. Вось Мелюзіна з рыбіным хвастом замест ног плакала ў коміне па сваіх дзетках. Рабіла яна гэта тады, калі за вокнамі мітусіліся чорныя віхуры і тупымі лбамі стукалі ў бярвенні старэнькай хацінкі шахцёра Ганыса Лігензы. Хатка калацілася, за вокнамі выла так, што думалася, быццам гэта не віхуры, а табун п'яных д'яблаў грукоча капытамі па вільчаку, упіраецца плячыма ў сцены, спрабуе перакуліць; у коміне ж нешта галасіла балесна, тоненька, пісклівa... Гэта была Мелюзіна, што плача па сваіх дзетках. Потым былі нейкія пудзілы, шыбельнікі, нячысцікі, вядзьмаркі, пернікавыя хаткі, разбойнікі з даўжэзнымі нажамі, каралевы з залатымі каронамі, пасаджанымі на лысыя галовы, нешчаслівыя дзяўчаты, залатакудрыя каралеўны, лютыя сямігаловыя змеі, агністыя коні, што бегаюць па даўніх панскіх межах... Уласна кажучы, гэта былі душы злых паноў, якія імкнуліся адабраць у мужыкоў зямлю і ў пакаранне былі ператвораны ў агністых безгаловых коней... Маці такога каня бачыла, калі яшчэ была дзяўчом. А потым былі яшчэ рыцары, якія спяць у гары Чанторыі, што ў Бескідах, надта вялікі вуж у гары Гадулі над рэчкай Ользаю, быў белы алень з крыжам на галаве паміж рагамі і былі зачараваныя скарбы. А гэтых скарбаў процьма — незлічоная колькасць. Пільнавала іх жаба, такая вялікая, як цельная карова. Яна нікому не дазваляла наблізіцца да бочак з каштоўнымі каменнямі, золатам, срэбрам, дукатамі, залатымі кубкамі і многімі іншымі дарагімі рэчамі. І ўсё ж такі аднойчы знайшоўся такі смяльчак і скарбамі гэтымі завалодаў...

— Матулька, раскажыце, як гэта было з Урбанам, што тыя зачараваныя скарбы здабыў? — не раз прасіў малы Зефлік.

Вось так і пачынала маці апавяданне, хоць і паўтарала тую ж гісторыю ўжо столькі разоў, што малы Зефлічак павінен быў ведаць яе амаль на памяць. Ведаў, але ж маці заўжды нешта перайначвала, дадавала, упрыгожвала, і таму можна было слухаць невядома колькі разоў. А калі ён слухаў, дык уяўляў сябе даўганосым Урбанам, які смела ідзе ў падзямелле і ў старой, надзьмутай, з вытрашчанымі вачыма ды такой вялікай, як цельная карова, жабы забірае бочкі з дукатамі.

— Цыц, чортава мямля! — пакрыкваў ён і зноў перажываў гісторыю Урбана.— Цыц, чортава мямля, бо як дам аплявуху! — крычаў грозна на выдуманую жабу.

Спалоханая жаба хавалася ў мышыную норку, а ён, закасаўшы рукавы, паплёўваў на далоні і пачынаў выкочваць бочкі з дукатамі. Адну бочку вырашыў аддаць маці, другую — бацьку, а рэшту... Ха, тут ужо была гісторыя нечуваная! Вось ён склікаў суседзяў, суседак, шахцёраў з усяго пасёлка і пачынаў раздаваць ім поўнымі прыгаршчамі дукаты. Што тады толькі не рабілася! Ушчынаўся такі радасны крык, што аж стары пузаты паліцмайстар, гер Капістран, прыбягаў з шабляю, якая матлялася каля боку, і разганяў натоўп. Але аднойчы не разагнаў, бо і яму дастаўся зламаны грош: ён ашалеў ад радасці, і яго завезлі ў дом вар'ятаў, што ў Рыбніку.

Дырэктар Лігенза ўсміхнуўся са сваіх наіўных успамінаў і зноў задумаўся. Зусім нечакана ён яшчэ раз убачыў сябе ў ролі даўганосага Урбана, які знайшоў скарбы ў пячоры.

У месцанараджэнні «Іда» яшчэ павінен быць вугаль. Ужо на працягу месяца бытуе сярод калектыву шахты «Леакадзія» трывожная вестка, што можа яшчэ месяц, можа два, найбольш тры — і шахце канец.

— А чаму гэта, трасца яго матары, канец? — здзіўляюцца шахцёры.

— Бо канчаецца вугаль,— цярпліва тлумачыць інжынер Кухарчык.

— Немагчыма! — абураюцца шахцёры.

— А я вам кажу, што магчыма,— заяўляе інжынер Кухарчык, які лічыць, быццам ён разумнейшы за ўсіх шахцёраў і што ён значна вышэй ад такога дырэктара, які раней калупаўся ў вугалі.

Дырэктар скончыў толькі тэхнікум, ён жа, інжынер Кухарчык, скончыў даваенную акадэмію. Тое, што дырэктар-вылучэнец, Юзаф Лігенза, мае ў галаве, то ён, інжынер Альбін Кухарчык, мае ў мезеным пальцы. І тут ён паказваў шахцёрам мезенец з брудным пазногцем ды лёгка ім пашавельваў у доказ, што свайго шэфа дырэктара-вылучэнца мае ні за што.

— Таварыш дырэктар! — звярталіся да Лігензы шахцёры ў забоі.— Ці гэта праўда, што наша «Леакадзія» ўжо дабіта да ручкі?

— Пакуль што нічога не магу вам сказаць,— адказваў дырэктар спакойна. Толькі яго чорныя вочы паблісквалі агеньчыкамі.— Як самі бачыце, дабіваем апошні пласт, падыходзім да скіду, і калі рэшткі вугалю выберам, то здавалася б, што канец. Але яшчэ пабачым...

— А калі ж пабачым?

— Скажу, калі надыдзе час. А цяпер вы мне скажыце, ці ведаеце такога шахцёра пенсіянера, які б працаваў на слаі «Іда»?

— На тым вычарпаным, на трэцім узроўні?

— На тым.

— Хм, цяжка такога знайсці,— пачаў было старэйшы штэйгер Моджык.— Але ж





ёсць! На Сплюхаве жыве стары Мітрэнга. Яму каля дзевяноста. Ён, мне здаецца, на трэцім узроўні працаваў...

Стары, ужо лядашчы Мітрэнга ўвайшоў у кабінет дырэктара і пакорліва спыніўся ля парога.

— Сядайце, калі ласка, побач са мной! — запрасіў яго дырэктар Лігенза.

Здзіўлены Мітрэнга сеў. Што за д'ябальшчына? Калісьці дырэктар быў як сам бог, а гэты загадвае яму сесці на такім выгодным, парадным, мяккім крэсле... Сеў і з асалодай выпрастаў ногі.

— А... прабачце, пан дырэктар! А люльку магу я тут закурыць?

— Калі ласка! — адказаў Лігенза і паднёс запалку з агнём, чым яшчэ больш здзівіў старога.

І вось пачалася асаблівая гаворка. Стары, крыху глухаваты Мітрэнга сядзеў у дырэктарскім крэсле, пыхкаў люлькаю, смурodзіў бязлітасна, падносіў далонь да вуха, калі дырэктар у яго пытаўся, і расказваў. Яго сівыя, быццам палінялыя вочы пачалі блішчэць, пасвятлеў яго зморшчаны твар — ён жа расказваў аб сваёй шахце «Леакадзіі».

— Ха, гэта быў час, не тое, што сёння! Па пальцах тэпалі...

— Як гэта «па пальцах»? — спытаў дырэктар, хоць ён ведаў.

— Па пальцах? Гэта ж па драбінах сыходзілі ўніз. А цяпер ліфтам ф'юць — і ўжо ўнізе. Без турбот і пакут...

Ён міжвольна зірнуў на пальцы і ўздыхнуў. Чаму ўздыхае? Ха, бо колькі ж разоў той, што зыходзіў над ім, наступаў яму на пальцы, якімі ён трымаўся за верхнюю прыступку... Чортава мямля! Ды што было рабіць? Хутчэй, хутчэй, бо чакае праца, і калі б кожны асцерагаўся, дык не зарабіў бы і на соль. А потым жа яшчэ далёка пехатою ў забой. Нізка, цесна, чортава парылка!..

— Газы былі? — спыніў яго дырэктар.

— Ха, яшчэ колькі! Газаў было да чортавай гібелі. Вы прабачце! Але і ў тым зямным смуродзе трэба было рабіць не менш за дванаццаць гадзін. А даводзілася працаваць і больш. Чатырнаццаць і нават пятнаццаць. Справа ўсё ў тым мізэрным заробку.

— А як з газамі спраўляліся?

— Ха, як мы газам давалі рады? Гэта было так... Калі хто-небудзь у нечым правініўся, нагарлапаніў панам, крычаў, напрыклад, што людзі мала зарабляюць, што прыдзецца з такімі заработкамі здыхаць з голаду, дык паны на такога бунтаўшчыка мелі свой метад. Прыйшоў жандар, а тады жандары былі прускія, і мілага мяцежніка прыводзілі да дырэктара, які яму казаў: або пойдзеш у астрог на два гады, або на працягу месяца будзеш загладжваць віну...

— Як гэта загладжваць віну?

Дырэктар Лігенза добра ведаў, як выглядала пакаянне, але пытаўся знарок, бо ён упершыню слухаў сведку іх нядолі.

Стары Мітрэнга пыхкануў люлькаю і прадоўжыў перапыненае апавяданне. Дык вось такі пакаяннік зарабляў на некалькі грошыкаў больш, але павінен быў на працягу месяца апускацца ўніз на дзве гадзіны раней змены і абыходзіць з жэрдкаю ўсе забоі. Канец жэрдкі быў абкручаны намочанымі ў алей анучамі. Падыходзячы да забою, трэба было запаліць жмут ад лямпы і ісці далей. Калі траплялiся газы, то выбухалі, аж страх, гарэлі блакітным полымем. Бедны пакаяннік ляжаў на зямлі і часам быў ужо нябожчыкам, іншы ж раз агонь толькі абсмальваў яму валасы, бровы, вопратку, апякаў твар і рукі. Бывала па-рознаму... Але газы былі выпалены і, калі прыйшлі людзі, то маглі працаваць бязбоязна.

— А вы, Мітрэнга, такім пакаяннікам былі? — перапыніў яго Лігенза.

Быў. Двойчы. Гэта значыць, два месяцы. Але не запар, бо паміж адным і другім пакаяннем быў год часу. Але тады ён быў яшчэ вельмі малады. Пісалася тады — 1871 год. Мітрэнга прымаў удзел у забастоўцы, занадта моцна грэзіў панам, і паны запыталі, што ён лічыць за лепшае: два гады турмы або месяц пакаяння? Вось так і стаў пакаяннікам. Толькі адзін раз агонь апаліў яму рукі.

Ён адкасаў правы рукаў і паказаў на далонны сустаў, дзе скура была ружовая і зморшчаная. Дырэктар Лігенза агледзеў шрам.

— А чаму на згіннанні? — запытаўся ён.

Мітрэнга быў разумны і хітры. Калі ён ішоў з запаленым на канцы жэрдкі факелам у забой, дык заўжды накідаў на галаву мокры мяшок, а на далоні нацягваў старыя скураныя рукавіцы. Аднак тады паміж рукавом і рукавіцаю чамусьці стварылася шчыліна і агонь апаліў сустаў. Другія былі менш спрытныя. А яшчэ іншыя гінулі ад таго, што сілай выбуху кідала іх на крапеж ці скалу. Справа была ў тым, каб у часе падпальвання газаў не стаяць, а ляжаць на плячах... Хто гэтага не трымаўся, аддаваў канцы.

— Што?

— Так кажуць, значыць адпраўляўся на той свет.

— Скажыце мне, Мітрэнга, як вы тады рабілі? Ці вы вырабілі ўвесь пласт вугалю ці пакідалі пад завал?

Мітрэнга ўсміхнуўся, што можа даць дырэктару і такую інфармацыю. Вядома, працавалі пякельна, але было вось гэтак: вугалю было ўдосталь, паны-скнары на ўсім эканомілі...

— Скажыце мне спярша, як і чым вы працавалі?

— Ну чым мы працавалі? Былі такія шрамоўкі, якія мы называлі пікамі, і тымі пікамі мы падразалі пласт знізу. Шахцёр клаўся на левы або правы бок, як там было зручней, ды пачынаў дзяўбці пікаю. Выдзёўбваў даволі вялікі ўруб, на нейкія палавіну ці тры чвэрткі метра, іншы раз глыбей, і тады клінамі адбівалі вугаль... Часам лупілі кувалдай, кайлом... Забойшчыкі разбівалі вугаль на дробныя кавалкі, а вуглякопы набіралі яго ў такія начоўкі, неслі і высыпалі ў ваганеткі. Ваганеткі былі тады драўляныя, рэйкі таксама...

— А ў пласце «Іды» вырабілі ўвесь вугаль?

— Ды адкуль! Бралася, дзе бліжэй і найбольш зручна. Рэшту пакідалі! Там павінна быць яго яшчэ да халеры.

— Дык вы, Мітрэнга, кажаце, што яшчэ многа? — падхапіў Лігенза.

— Дальбог! Не аплачвалася здабываць яго ў далёкіх забоях. Абы толькі бліжэй да штрэка. Выбралі, і канец!

Дырэктар паглядзеў на старую карту пласта «Іды». Пласт быў падзелены на палі, і кожнае поле закрэсленае, выкарыстанае.

— Зірніце на карту,— сказаў ён, паказваючы старому заштрыхаваныя ўчасткі.

Мітрэнга паважна пыхкануў з люлькі, начапіў акуляры і загледзеўся ў перапблытаныя лініі і штрыхоўкі.

— Нічога не разумею,— сказаў ён урэшце.— Гэты чорт маркшэйдар... Ён быў страшэнны абібок. Вось зірніце сюды. Заштрыхаваны ўсе дзялянкі, а там жа засталося да чорта вугалю. Маркшэйдара называлі Пыл. Ён назаўсёды застаўся ў шахце, у часе выбуху газаў... Потым ён страшыў...

Лігенза пачаў шукаць на карце лічбы... Ён выбраў адну з дзялянак, спыніўся над ёю і запытаў.

— А вы, Мітрэнга, калі-небудзь працавалі на захад ад трэцяга штрэка? Ад трэцяга брэмсберга? — дадаў на сваім жаргоне.

— А як жа, працаваў. Вугаль там сыпаўся, як спелыя грушы. Грузчыкі не паспявалі прыбіраць...

— Гэта вось тут,— Лігенза паказаў на карце прамавугольнік.— Ці помніце вы, увесь участак тады выбралі?

— Ды адкуль там. Пакалупалі крыху з краю, ля берага, так як дзеці калупаюцца ў святочным калачы, і пайшлі далей.

— А ў іншых дзялянках?

— Што ў іншых дзялянках?



— Ці ў другіх дзялянках вашы сябры таксама калупаліся, як дзеці ў святочным калачы?

— Таксама! А што было рабіць? Справа ж у заробку, а чым далей да штрэка, тым горш з дастаўкай. Вось вугаль і застаўся!

Гутарка са старым Мітрэнгам канчаткова ўпэўніла дырэктара Лігензу ў тым, што не толькі на трэцім узроўні, у слаі «Іды», але і ў пластах «Эльзы», «Ірмы», «Ёахіма», «Гайнрыха», «Курта» таксама здабывалі драпежніцкім спосабам. Значыць, і там засталося многа нявыбранага вугалю. У гэты момант увагу прыцягваў толькі пласт «Іды». Потым прыйдзе чарга і на наступныя. Пласт «Іды» меў таўшчыню сем метраў, ды і вугаль быў там, які каксуецца... Калі расказ Мітрэнгі праўдзівы і калі падлікі пакажуць тое ж самае...

Ён знайшоў лічбы, адзіныя на ўсёй карце, якія скурчыліся ў рагу заштрыхаванага прамавугольніка на захад ад трэцяга штрэка. Сёння ўжо яны пабляклі і невыразныя, калі аднак зірнуць на іх праз лупу, то з бядою папалам можна прачытаць, колькі вугалю выбралі на гэтым участку.

Дырэктар учапіўся за лічбы і з упартасцю будаваў на іх свае планы. На працягу некалькіх тыдняў ён спрачаўся з інжынерам Кухарчыкам. Інжынер Кухарчык, чалавек укормлены, з поўным круглым тварам, пераконваў, што на трэцім узроўні вугалю няма. Адкуль бы яму там узяцца?! Трэці ж штрэк пакінулі пяцьдзесят гадоў таму назад як цалкам выкарыстаны, і карты ж паказваюць, што там адны завалы, ды і дырэкцыя шахты «Леакадзія» не была б такой наіўнай і легкадумнай, каб пакінуць там нявыбраны вугаль. Хоць бы нават з пункту гледжання ўзнікнення пажару.

— Вам жа павінна быць вядома...— пачаў інжынер з самахвальствам у голасе, у знак таго, што ён значна лепш разумее горную справу.

— Ведаю, ведаю! Гэта якраз мне вядома: магло быць самазагаранне вугалю. Але і вы мусіце ведаць,— падхапіў Лігенза яго тонам,— што не кожны вугаль лёгка самазагараецца, і каб гэты працэс наступіў, неабходны доступ паветра. Скразнякі...— дадаў.— А ў старых шахтах, дзе вентыляцыйныя каналы завалены, іх, мабыць, няма...

— Падумаеш, вялікая справа, калі закрыюць «Леакадзію»! — пачаў зноў Кухарчык.— Пяройдзем на іншую шахту, і канец гамонкі.

— Але ж тут справа ў кожным кавалку вугалю!

— Якая нам да гэтага справа? — запытаў інжынер, аднак закусіў язык і смешна заміргаў павекамі.— Я не так сказаў. Я ведаю, што неабходна змагацца за кожны кавалак вугалю, бо ён патрэбны Народнай Польшчы і гэтак далей! Першамайскія стандартныя фразы, пустаслоўе!.. Вядома, што патрэбны. Аднак улада не патрабуе рызыкі. А шукаць вугаль у трэцім штрэку так, навобмацак, на падставе старых недакладных карт...

— Вось іменна недакладных. Таму я і мяркую, што там застаўся вугаль.

— Але ж вы самі бачыце, што ўсе палі заштрыхаваны. Значыць, вугалю няма! — упіраўся Кухарчык.

— І заштрыхоўка магла быць недакладная, як, між іншым, і ўся карта.

— Можна было б падлічыць, калі б мы мелі дадзеныя аб усім здабытым вугалі з пласту «Іды»,— сказаў Кухарчык.— Вы ж маеце на ўвазе пласт «Іды»? Але каб падлічыць запасы, трэба ж ведаць формулы падліку. Сінусы, косінусы, тангенсы... А вы ў тэхніку не іх вывучалі?

— Дарэмна вы, пан інжынер, турбуецеся! — кісла спыніў яго дырэктар.— Формулы я ведаю...

— Ну, у такім разе, няма чаго мне тут рабіць.

Ён непаваротліва падняўся, яшчэ раз кпліва зірнуў на дырэктара і павольна выйшаў. Яго позірк Лігенза нават не прыкмеціў, бо ён, каб не паказаць свайго раздражнення, нахіліўся над картаю. Паскуднік! Хоча паказаць дырэктару, быццам ён невук. Трэба ведаць формулы падліку запасаў вугалю!.. Гэта ж кпіны!

Лігенза ведае, што інжынер Кухарчык пойдзе да сваіх сяброў, каб пахваліцца, як зашахаваў дырэктара формулай падліку запасаў вугалю, сінусамі, косінусамі... І зноў пачне балбатаць, як ён ужо «сплавіў» такіх дваіх дырэктараў-вылучэнцаў з рабочых і што зробіць тое ж самае з Лігензай. А тыя скажуць, каб не перашкаджаў у яго дзівацкіх намерах. Хай, маўляў, спаткнецца на пласце «Іды»!

— Д'ябальшчына! — прабурчаў Лігенза і сціснуў кулакі на дырэктарскім пісьмовым стале.

Усё гэта было ўчора. Сёння Мітрэнга пераканаў яго, што ў трэцім штрэку застаўся вугаль. Лічба, адкрытая ў кутку прамавугольніка, які абазначае поле за трэцім штрэкам, павінна прыблізна акрэсліваць колькасць тон запасаў вугалю. Справа толькі ў тым, што ці паказваюць тыя лічбы, колькі ўжо яго здабыта.

Стары Мітрэнга пайшоў, цяпер зноў прыйдзе інжынер Кухарчык. Лігенза разгарнуў усю карту і яшчэ раз пачаў вывучаць участак за ўчасткам, павольна, з роздумам. Нечакана ён узняў галаву і прыкмеціў у бакавой паверхні кніжнай шафы адбітак свайго твару. Ён усміхнуўся, бо ўбачыў свой кашчавы нос з гарбінкаю.

«Даўганосы Урбан я! — падумаў ён, коратка засмяяўся.— Даўганосы Урбан пойдзе па зачараваныя скарбы!»

Лігенза спыніўся на ўчастку за трэцім штрэкам, перапісаў лічбы і пачаў вылічэнне. Паглядзеў на маштаб карты, змераў лінейкаю даўжыню стараны прамавугольніка і шырыню пласта. Вынік памножыў на ўдзельную вагу вугалю. Задумаўся, які ўзяць множнік. Ці 1 коска 2, ці 1 коска 5?.. Рашыў: 1 коска 3. Памножыў і атрымаў колькасць тон вугалю, які тэарэтычна змяшчаецца на гэтым участку. Параўнаў з лічбаю, перапісанай з карты. І здзівіўся... Гэта ж на полі за трэцім штрэкам засталося $^{2}/_{3}$ запасаў чорнага золата. Немагчыма! Дзве трэці запасаў вугалю!

Пад вечар ён паклікаў інжынера Кухарчыка.

— Ну і што, пан дырэктар? — запытаў той жартаўліва.— Вы яшчэ не кончылі гнесці гэтую няшчасную «Іду»?

Дырэктар Лігенза ўжо прыняў рашэнне.

— Паслухайце! — пачаў ён спакойна. Яго чорныя вочы блішчэлі цвёрда. Сонца, якое заходзіла і пранікала цераз запыленыя шыбы, пакрыла яго чорныя, гладка зачэсаныя валасы залацістай эмаллю.

— Слухаю вас! — кінуў Кухарчык, бо Лігенза не скончыў пачатую фразу.

— На падставе дадзеных, адкрытых на карце, я падлічыў, што на ўчастку за трэцім штрэкам засталося яшчэ каля дзвюх трэціх запасаў вугалю.

— Магчыма,— прамармытаў марудна Кухарчык.— І што вы намераны зрабіць?

— Хачу параіцца з вамі, як з лепшым тэарэтыкам.

— Калі ласка, я заўжды гатовы.

— Абапіраючыся на лічбы і на справаздачы старога Мітрэнгі...

— Старога Мітрэнгі? — здзівіўся Кухарчык.

— Я ўпэўнены, што не памыляюся.

— Ха, калі стары Мітрэнга здолеў вас пераканаць...— пачаў Кухарчык, але спыніўся, бо Лігенза шырока абапёрся рукамі на карту і сказаў:

— Заўтра зранку вы, пан інжынер, разам са штэйгерам, замершчыкам і некалькімі рабочымі апусціцеся ў шахту. І прашу вось у гэты штрэк... Падыдзіце, калі ласка, да карты. Бачыце? Вось тут перакоп, тут галоўны штрэк у пласт «Іды». Перакоп не парушаны, уваход у пласт «Іды» загароджан абвалам. Прашу патурбавацца, каб заўтра, у часе ранішняй змены, людзі адкапалі ўваход у паклад «Іды».

— Добра, усё будзе выканана ў адпаведнасці з вашым загадам,— працадзіў праз зубы Кухарчык.— Аднак скажыце мне, калі ласка, навошта вам патрэбны ўваход у «Іду»?

— Хачу прайсці па старой частцы шахты.

— Прайсці? Старую частку? — здзівіўся Кухарчык. У яго голасе пачуўся спалох.

— Так! Прайсці старыя выкапы, каб упэўніцца ў сваіх меркаваннях.

— Але ж паслухайце! Там жа завалы! Там ёсць газы!.. Павінны быць газы.

— Вазьму кіслародны апарат.

— Вы маеце намер пайсці адзін?

— Не адзін! Разам з вопытным шахцёрам.

— Гэта самагубства. Вы разумееце, што збіраецеся рабіць? Не кажучы ўжо, што там вокіс і двухвокіс вугалю, метан... Для гэтага існуюць кіслародныя апараты... Але ж там завалы! Умацаванні ўжо даўно чорт узяў. Гэта ж мінула пяцьдзесят гадоў.

— Ведаю! У добрых умовах дубовы крапеж можа стаяць трыццаць гадоў, сасновы — дваццаць пяць,— апярэдзіў Кухарчыка Лігенза.— А там умовы добрымі не былі. Я гэта ведаю.

— Але ж, пан дырэктар! Я магу зразумець усё. Але лезці ў старыя завалы...

— Можа вы яшчэ пачнеце страшыць мяне духам Скарбніка, які там недзе блукае?

Інжынер Кухарчык падняўся. Цяпер ён быў падобны да заклапочанай квактухі, ад якой уцяклі кураняты. І ад гэтай заклапочанасці ён папрыгажэў. Лігенза прыкмеціў, што ў таго забілася сэрца шахцёра, што ён прагне перашкодзіць, не дапусціць, каб таварыш падвяргаў сябе небяспецы... «Ну, добра, добра! Усё будзе ў парадку». Дырэктар устаў з крэсла і падаў руку Кухарчыку.

— Дзякую, калега! — сказаў ён цёпла.— Прашу заўтра выканаць маю просьбу.

Назаўтра інжынер Кухарчык разам са штэйгерам, замершчыкам і шасцю рабочымі спусціўся ў трэці штрэк. Сярод жа калектыву маланкаю разнеслася вестка, што паход інжынера ў штрэк нацэлены на выратаванне шахты. Больш дасведчаныя сцвярджалі, што гэта работа не інжынера, а маладога дырэктара, які ўжо год кіруе шахтаю. А ях жа, прыстойны мужык! Пра другіх можна сказаць: «Забыў бык, што цялём быў...» Лігенза з іншай дзесяткі! Прыстойны, людскі, памяркоўны, не задзірае нос, а перш-наперш не пустагаловы. Тое, што ён скажа,— святое, хай сабе Кухарчык фанфароніць і мудрагельствуе, што яго сам д'ябал не зразумее, гэта ўсё глупства. Дырэктар Лігенза не такі. Вось прыйдзе ў забой і кажа:

— Бачу, Францак, ты адважны, нічога не баішся.

— А чаго мне баяцца?

— А вось зірні на скляпенне! Калі ўпадзе на тваю галаву, Францак, вось гэты каменьчык, дык з галавы зробіць блін... Трэба дбаць аб умацаванні, інакш цябе д'яблы паклічуць да сябе. Ну, як ты мяркуеш?



Стары шахцёр, якому далі мянушку Францак, пазірае на скляпенне і згаджаецца з дырэктарам. Калі ж бы на месцы дырэктара апынуўся інжынер, то кідаўся б, як верабей у клетцы, крычаў бы, як голы ў крапіве, грaзіў бы караю, балабоніў бы аб раўнавазе зямлі і парушэнні здабычаю складу яе структуры, нават чорт не зразумеў бы, у чым справа! Фыркаў бы, аблаяў бы, назваў бы гультаямі, паабяцаў бы суровую кару і пайшоў бы задаволены, што шахцёры слухаюць яго гаворку як пропаведзь ксяндза ў касцёле. Ён нават не прыкмеціў бы, што рабочым яго «вучоныя» вывады і пакрыкванні да лямпачкі. Іншая гаворка, калі прыйдзе дырэктар Лігенза. Адразу відаць, што мужык ён законны. Загаворыць як да сябра. Злёгку пакпіць, назаве Францакам, часам дапаможа паставіць падпорку, падняць ваганетку, якая сышла з рэек, пасядзіць з шахцёрамі, запытае, як працуецца, што трэба зрабіць, каб было лепш, уважліва выслухае парады старэйшых, ды і на мякіне яго не купіш, адным словам, выдатны мужык, яшчэ які.

І калі цяпер па ўсім нізе і падбудоўцы разнеслася вестка, што дырэктар Лігенза загадаў ліквідаваць завал ля ўваходу ў галоўны штрэк у пакладзе «Іды», усе падумалі:

«Ага, мабыць, «стары» плануе нешта добрае!»

Некаторыя шахцёры паспелі пагутарыць з групаю інжынера Кухарчыка.

— На якую халеру будзеце адкопваць уваход у «Іду»? — пыталі яны.

— А чорт яго ведае. «Стары» нешта камбінуе.

— Хіба ж ён туды палезе? — пачалі трывожыцца адны.

— Там жа завалы! Газы! — дадавалі іншыя.

— Не хвалюйцеся, сябры! Наш «стары» добра ведае, што трэба рабіць. Ён жа шахцёр ад бацькі, дзеда і хто ведае, ці не ад прадзеда. Тое, што ў такога Кухарчыка ў галаве, у Лігензы — у крыві і сэрцы.

— Яно то і ў галаве трэба мець,— дапаўнялі іншыя.

— Але ж калі няма ў сэрцы і крыві, дык хана! Праўда?

— Правільна! — падтакнулі ўсе старому Бадуры, бо і ён быў шахцёрам ад дзеда і прадзеда.

Такім чынам, вестка аб тым, што «стары» нешта задумаў, і што «Леакадзія» ўсё ж такі будзе выратавана, імчалася ад забою да забою, ахапляла ўсе куткі. Хоць з закрыццём «Леакадзіі» беспрацоўе, так як было раней, нікому не пагражала, аднак шкада было пакінуць шахту, з якой чалавек зжыўся з маленства. Гэта было б, як смерць каго-небудзь вельмі блізкага і дарагога.

Чакалі тады ўсе нецярпліва, што з гэтага атрымаецца.

Між тым, у падземным ходзе на трэцім узроўні інжынер Кухарчык і замершчык карпелі над картаю і вялі мудрагелістую гаворку, штэйгер жа Махей, мужчына строгі, з рыжымі вусамі, не звяртаў увагі на іх вучоны дыспут, а загадаў сваёй брыгадзе капаць. І людзі капалі, адкідалі кавалкі пясчаніка, рабілі праход у засыпаны галоўны штрэк пласта «Іды». Пад канец змены яны прайшлі завал, часова замацавалі яго і заявілі, што штрэк адкрыты. Хто хоча, хай лезе. Але ўвойдзе туды толькі чалавек нечувана смелы і мужны. Досыць было падняць карбідную лямпу і зірнуць углыб напалову заваленага штрэка. Цяжкае і душнае паветра, збуцвелы крапеж, пушыстая, накшталт вялізных белых, сатканых з дробных іголак, шапак, плесня, згрыбелая старызна, усведамленне, што там няма нічога, літаральна нічога, толькі пустэча, цемра і цішыня, а ў гэтай цішыні, магчыма, смерць...

У трынаццатым штрэку, што ў шостым пакладзе, працаваў малады Ліберда. Ён быў падобны да дырэктара Лігензы. Такія ж чорныя вочы, крыху завялікі нос, цвёрдыя вусны, чорныя валасы і ўпартасць, якая вырысоўвалася на сціснутых скіўцах, калі яму даводзілася пераадольваць цяжкасці. Да таго ён верны сябар Лігензы, бо разам хадзілі ў школу, разам пасвілі коз на тэрыконе. Потым настала беспрацоўе, і Эрык Ліберда павандраваў з бацькам у Францыю. Вярнуўся ён пасля вайны так званым «французам».

Угаварыў яго вярнуцца Лігенза, які тады яшчэ і не сніў аб пасадзе дырэктара. Далей Лігенза стаў кіраўніком, а яго сябар з хлапчуковых часоў, Эрык Ліберда,— першым камбайнерам на шахце «Леакадзія» і неразлучным таварышам. Яны разам раіліся, як узняць вытворчасць «Леакадзіі», і разам па начах задумваліся над яе лёсам. А які ў ёй вугаль! Надзвычайны вугаль. Адзіны камбайн, які пачаў працаваць на шостым узроўні, здабываў вугаль так, што цяжка паспець з ваганеткамі. Паравозікі бегаюць, імчацца па падземных ходах, як звар'яцелыя, парода грыміць пад коламі цягнікоў, падымальная машына працуе з такой хуткасцю, што машыніст Гоцэк не мае нават часу з'есці кавалак хлеба са скваркамі, да які ён вельмі ласы. З кожным днём уздымаецца крывая здабычы. Аднак адначасова з кожным днём апускаецца крывая жыцця шахты. Вялікае жыццё шахты напружвае апошнія сілы. Камбайн выціскае апошнія сокі, паскарае яе сканнне. А потым?..

Ну, што потым?

Застанецца паміраючая шахта, пакінутая, спустошаная. Пойдуць людзі, забяруць машыны, «выграбуць», што толькі можна, і стане магільнік. Лянівыя ветры будуць плесціся па адзінокіх штрэках, павольна паміраць, пакуль цалкам не сканаюць. Тады з'явяцца газы. Яны запоўняць усю шахту, ператвораць яе ў трухляк. А потым прыйдзе

чарга на мацаванні. Стойкі, бэлькі, увесь крапеж пачне ламацца, стане асядаць скляпенне, з'явяцца завалы, і гэта ўжо будзе канчатковая смерць «Леакадзіі».

У шахтнай вежы вароны і сварлівыя вераб'і саўюць гнёзды. На абвіслых канатах радком пасядуць пісклявыя ластаўкі. Двары зарастуць травой і пустазеллем. У машынным аддзяленні без аконных рам будуць па начах страшыць совы і сычы. А на самым высокім коміне паўстане расколіна, такая крывая, капрызная, апусціцца да падмуркаў. І, аднойчы, калі людзі не апярэдзяць вясенні або асенні віхор, ён заваліць комін.

Шахцёры, якія будуць праходзіць міма, скажуць сваім маладым зменшчыкам:

— Паглядзіце, сысункі! Тут была наша шахта «Леакадзія»!..

Юнакі ж засвішчуць песеньку пра Каралінку, што пайшла ў Гагалін, і песня будзе бестурботная, як іх юнацтва. Якая ім справа да старога трухляка, што калісьці называлі «Леакадзія»? Яны нават не прыкмецяць, што старыя шахцёры будуць замест тытуню жаваць горкія словы і што іх шурпатыя сэрцы напоўнены палыном.

Эх, і прынесла ж нячыстая!..

Так было перад ад'ездам ранняй змены ўніз. Шахцёры гутарылі аб хуткім сканчанні шахты, нылі, як шчарбатыя плачкі на нейчым пахаванні, засмучаліся і маркотна паплёўвалі. Нечакана яны ўбачылі, як з канторы выйшаў дырэктар Лігенза, а побач з ім — Ліберда, абодва з кіслароднымі апаратамі на плячах, з кайламі, яшчэ без процівагазаў, кожны з падвойнымі лямпамі. Адна электрычная, другая бензінавая. Значыць, усё ж такі!..

— Куды вы, пан дырэктар, ідзяце? — пытаюць пажылыя.

— У пласт «Іды».

— Самі?

— Бачыце, што з Лібердай.

— І вы хочаце туды залезці? У завалы?

— Нічога не зробіш. На аўтамашыне не заеду, таму трэба лезці.

— Засыпле ж вас!

— То вы мяне адкапаеце.

— Жадаем шчасця, пан дырэктар! Жадаем удачы, Ліберда!

— Шчасця, удачы! — і ліфт папёр іх на трэці ўзровень. Людзі глядзелі на дрыжачыя канаты і адчувалі балесны ціск сэрца. А калі не вернецца?

Вярнуўся ён праз тры гадзіны. Выехаў на паверхню крыху сярдзіты, з бляскамі ў вачах, але спакойны. Ліберда з ім. Ён жаваў тытунь, сплёўваў, як пажылы шахцёр. Дырэктар аддаваў загады. Заўтра палезе ў другі раз, а з ім трое вопытных шахцёраў, якія застануцца ў пераходзе ў трэці паклад і будуць пільнаваць. У іх будзе палявы тэлефон.

Першым у выраб пойдзе Лігенза, а за ім Ліберда, які будзе мець на плячах шпульку з тэлефонным провадам.

На другі дзень дырэктар спусціўся з Лібердай, Ганусам, Вантуракам і Грымам. Увесь калектыў глядзеў на іх са здзіўленнем. Вось ідуць яны, падобныя да суровых воінаў. Працўнік прытаіўся ў старых вырабішчах, дрэмле і чакае. Калі ж да яго падыдуць, ускочыць і пазбавіць жыцця.

— Не пазбавіць!

— Занадта, даражэнькія, не хвалюйцеся! — суцяшаў сяброў пажылы Фірмуга.— Наш «стары» ведае, што робіць. Ён жа не хлапчук.

Малады Жучак расказваў, што калі быў на вайне і лёс загнаў яго на Атлантычны акіян, дык ён бачыў, як на марское дно да затопленай падводнай лодкі апускаўся ў скафандры вадалаз. У лодцы былі людзі, вадалаз ішоў ім на ратунак.

— Выратаваў ён іх? — перапыніў нехта найбольш нецярплівы.

— Выратаваў. Але справа не ў тым. Калі бачыў я, як вадалаз апускаецца ў марскую глыбіню, дык мярцвеў ад страху, бо мне здавалася, што ён ідзе на сваю смерць. Уявіце сабе! Смерць на марскім дне!.. І вось цяпер, калі бачу, як «стары» едзе ліфтам на трэці ўзровень, адчуваю тое ж самае...

— Сціхні ты, балаболка! — вылаяўся Фірмуга.

Потым брыгада за брыгадаю пачалі з'язджаць на шосты ўзровень. Кожная клетка ліфта, якая праязджала міма трэцяга пакладу, на нейкую долю секунды акуналася ў мільгатлівае святло і зноў прападала ў цемры. Як быццам нехта заплюшчанымі вачыма міргнуў толькі разок і зноў закрыў іх вейкамі. Людзі ў ліфце бачылі той агеньчык. Ён тырчэў над круглавым пачарнелым бетонным уваходам у штрэк. І кожны з іх сардэчна падумаў аб дырэктары Лігензе, які пайшоў адкрываць вугаль. Калі адкрые, «Леакадзія» будзе жыць. Калі ж не, усё пойдзе на глум!

— А калі не будзе ні вугалю, ні «старога» з Лібердай?

— Не мяліце вы, чэрці, дарэмшчыну! — зазлаваў у трэці раз стары Фірмуга.

Дырэктар Лігенза бачыў з глыбіні штрэка, як праплываюць клеткі ліфта. Іх апераджаў нарастаючы ў шахце грукат, які набрыньваў, даходзіў да найвышэйшага напружання. Тады з кабіны мільгалі лямпы шахцёраў і ў той жа час знікалі, а гром аддаляўся, згасаў.

Дырэктар Лігенза падумаў, што трэба памяняць вядучыя рамы ліфта, якія ўжо зналіся.



«Калі не будзе вугалю на трэцім узроўні...» — падумаў ён, але прагнаў гэтую думку, бо, маўляў, яна не яго, а Кухарчыка. Інжынер да апошняй хвіліны не раіў ісці ў паход у «Іду».

— Вы яшчэ пераканаецеся, што я маю рацыю! — былі яго апошнія словы.

— Ці выпадкам ваша імя, пан інжынер, не Томаш?

— Не. Альбін. Чаму Томаш?

— Бо вы падобны да таго біблейскага Томаша, які не верыў.

Лігенза рушыў у пласт «Іды». Ліберда ўжо ўстанавіў тэлефон, каля якога селі на кукішкі тры шахцёры. Яны былі падобныя да старых выліняных катоў, што выпаўзлі і чакаюць сонца, каб адагрэцца. Яны нешта мармыталі і жавалі тытунь. Ліберда стаяў ля адкапанага ўваходу. Ён усё падрыхтаваў да паходу. Шпулька з тэлефонным провадам павешана на плячах ніжэй кіслароднага апарата. Падвойная лямпа ў левай руцэ, кайла — у правай. Процівагаз гатовы, і кожную секунду можна надзець яго. Правераны тэлефонны апарат. Ціск у манометры дзвесце дваццаць атмасфер. Хопіць надоўга...

Падышоў Ліберда. Ён яшчэ раз праверыў лямпы. Электрычная заблішчэла яркім святлом. Паставіў, агледзеў бензінавую. Дзьмухаў каля шкла, уважліва глядзеў, ці не задрыжыць агеньчык, ці не пашкоджана ахоўная сетачка.

— Пайшлі! — сказаў дырэктар рашуча.— А вы, сябры, сачыце. Можа будзем званіць. А ведаеце што? — прыпомніў ён раптам і ўвесь пачырванеў ад сораму.

«Які ж я разява!»

— На ўсякі выпадак вы, Ганус, ідзіце і пазваніце, каб сюды прыслалі яшчэ дваіх, з выратавальнай службы, і хай яны возьмуць чатыры кіслародныя апараты. Два з іх будуць запаснымі. Хай чакаюць ля ўваходу.

«Чорт вазьмі! — хваляваўся ён нейкі час.— Як жа я не падумаў аб гэтым раней! Вось разява».

Ён не мог дараваць сабе гэтага, на першы погляд, дробнага недагляду. Самакрытычна падумаў, што з яго яшчэ не вельмі моцны дырэктар, калі не змог прадугледзець такую простую, элементарную справу. Як жа можна ісці ў завалы без рэзерву! Без запасных кіслародных апаратаў!

— Пайшлі! — паўтарыў ён і рушыў першы. Ліберда за ім.

І пачалося дзіўнае вандраванне па вымерлай частцы шахты. Яны ішлі павольна, моўчкі. Толькі іх крокі чуваць былі ў чорным пекле ды на плячах Ліберды папісквала шпулька, з якой разматваўся тэлефонны провад. Абодва ведалі, што ўваходзяць у таямнічы свет. Учора яны дабраліся толькі да першага бакавога штрэка і вярнуліся. Лігенза зразумеў, што можа спатрэбіцца тэлефон. Сёння ён упэўніўся, што магчымасць вяртання павінен забяспечыць рэзервам і запаснымі кіслароднымі апаратамі. Як жа ён не падумаў аб гэтым раней!

«І разява ж я!»

Стойкі стаялі павыгінаныя, са зламанымі там-сям раскосамі, з выступаючымі з бакавой і скляпеннай абшыўкі бэлькамі. Лігенза стукнуў кайлом па тоўстай стойцы. Лязо патанула ў збуцвелым мякішы, а потым, вырванае, адлупіла ладны кавалак. Другі раз ён стукнуў тупым канцом. Стойка пераламалася папалам і з сухім шалясценнем абсунулася. Са скляпення пасыпаліся дробныя камені.

Увесь час яны ішлі павольна, асцярожна, пільна сачылі за кожным шорахам. Яны нагадвалі салдат, якія рупліва шукаюць ворага. Паветра было цяжкае, цёплае і салодкае, перанасычанае пахам спарахнелай драўніны. Месцамі са стоек, падкосін, распорак звісалі вялікія пасмы плесні. Яна была белая і пушыстая. Дастаткова дакрануцца да яе, як яна рассыпалася. Там і сям на падпорках і прагонах купчасціліся вялізныя агідныя з непрыемным пахам грыбы. І была там цішыня. Цішыня такая вялікая, што Лігензе здавалася, быццам яна становіцца нечым успрымальным. Святло бензінавай лямпы пранікала ў змрок усяго на некалькі крокаў.

Лігенза стараўся ўсё ўбачыць і на ўсё пільна звяртаў увагу. Яму здавалася, быццам ён, як злодзей, уварваўся ў гэты падзямельны свет. Ён аглядаў скляпенні, вырубы ў вугальнай цаліне. Пакалупаў кайлом, выкрышыў на далонь вугалю, які быў тлусты, прыгожы, лёгкі, пабліскваў пірытам. Ён ведаў, што гэты вугаль яшчэ ні аб чым не гаворыць. Гэта могуць быць падпорныя сцены або «ногі», якія забяспечваюць штрэк перад абвалам, за імі ж — завалы. Месцамі абваленае скляпенне загароджвала ім дарогу. Тады падымаліся на кукішках на завал, зазіралі ў прорву, вывучалі, ці можна адважыцца перайсці на другі бок. Змогуць... Прасоўваліся па апоўзні і з палёгкаю сыходзілі з другога боку.

Штрэк быў просты. На нізе засталіся сляды разабранай вузкакалейкі, у стойках тырчэлі вялікія ржавыя цвікі, на якіх калісьці вісеў водаправод. Акрамя гэтага, нішто не паказвала, што тут кіпела жыццё «Іды».

Лямпы свяцілі ясна. Лігенза набраў жменю пылу, падкінуў яго пад скляпенне. І ўважліва назіраў. Пыл апаў крыху наўскос, у напрамку перадка. Значыць, ёсць прыйма. Між іншым, сведчыць аб гэтым і чысты агеньчык у бензінавай лямпе. Калі ён пачне рыжэць, будзе знак, што скончылася цыркуляцыя паветра, што ўваходзяць на загазаваную двухвокісам вугалю тэрыторыю. Метану яшчэ не высачыў.

Увесь час ішлі моўчкі. Абодва паддаліся ілюзіі, што трэба захоўваць цішыню, як ля

нябожчыка. Чулася толькі іх дыханне, стук абутку і грукат катушкі на плячах Ліберды. За імі цягнуўся тэлефонны провад.

Яны мінулі яшчэ два невялікія абвалы і дасягнулі скрыжавання. Перад імі адкрыліся два новыя бакавыя штрэкі. Галоўны ж не абрываўся, а вёў далей на захад.

— Колькі яшчэ ў цябе праваду? — запытаў Лігенза.

Ліберда зняў шпульку, агледзеў.

— Нямнога.

— Уключы тэлефон! — загадаў дырэктар і зірнуў на гадзіннік.

Чорт вазьмі! Ідуць ужо цэлую гадзіну, а яму здаецца, што толькі хвіліну таму назад пакінуў сяброў ля ўваходу.

— Гатова! — сказаў Ліберда.

Лігенза націснуў зумер. Узяў трубку. З хвіліну напружана чакаў. Ці адзавуцца яны? Адазваліся.

— Ало! Ало! Тут уваход! Ля тэлефона Грым. Ну як там у вас?

— Парадак! Людзі з рэзерву ўжо спусціліся?

— Ужо. Малады Гаек і Кулявік. Яны ўзялі з сабою чатыры кіслародныя апараты. Газы ўжо ёсць?

— Яшчэ няма.

— Вугаль ёсць?

— Ёсць толькі падпорныя сценкі, «ногі». Ліха яго ведае. Ало, Грым! Дайце трубку Гайку. Гаек? Слухайце, Гаек. Вазьміце кіслародныя апараты і прыйдзіце на першае скрыжаванне. Мяне тут ужо не будзе, бо мы пойдзем па нахіленым штрэку. Затрымайцеся і чакайце нас. З Кулявікам. Слухайце ўважліва, Гаек! Мы пойдзем па нахіленым штрэку ўніз. Калі мы не вернемся праз... праз чатыры гадзіны, ідзіце за намі, але з апаратамі сваімі і запаснымі.

— Добра, але як мы вас знойдзем?

— Мы на кожным скрыжаванні пакінем меткі.

— З чаго?

— З падпорак або са стоек. Вы мяне зразумелі?

— Зразумеў.

— Ну, тады наперад!.. Мы ідзем, вы чакаеце нас чатыры гадзіны. Калі б нас не было, ідзіце за намі. Лямпы ў вас падвойныя?

— Падвойныя.

— Я скончыў.

Ён паклаў трубку і азірнуўся. Ліберда стаіць і спакойна жуе тытунь. Быццам каза, якая перажоўвае горкую траву і вымушана сплёўвае. Дагэтуль ён увесь час маўчаў. Лігенза захапляўся яго вытрымкаю. Ён зайздросціў яго спакою. Сам жа ён — узбуджаны і нібы напоўнены турботаю. Не, гэта не страх перад невядомым у глыбіні «Іды», але боязь, што могуць не апраўдацца яго надзеі і разлікі.

— Хадзем! — сказаў ён суха Лібердзе.

Паглыбіліся ў нахілены штрэк. Нібыта нічога не змянілася. Такія ж спарахнелыя стойкі і паламаныя бэлькі, грыб, пушыстая плесня, цяжкі пах шахты, лёгкая салодкасць на паднябенні і гэтая праклятая цішыня. Раздражняльная цішыня...

Ён зноў набраў жменю пылу, падкінуў яго і сачыў. Пыл лёгенька падымаўся ўгору.

— Парадак! — мармытнуў ён.

Яны сышлі ўніз і спыніліся ў гарызантальным штрэку. Ліберда падняў дзве збуцвелыя распоркі. Яны рассыпаліся ў пальцах. Паклаў іх так, каб яны паказвалі напрамак.

І рушылі далей па штрэку, на захад.

Прайшлі яны толькі некалькі метраў, як Лігенза прыкмеціў, што святло бензінавай лямпы рыжэе.

— Двухвокіс вугалю,— прамармытаў Лігенза і надзеў процівагаз.

— Чортаў вокіс,— дадаў Ліберда.

— Не вокіс, дружа, а двухвокіс вугалю.

— Адзін д'ябал,— адказаў ужо з процівагаза Ліберда.

Абодва сталі падобныя на пачвар. Процівагазы на тварах выглядалі, як доўгія лычы, закончаныя зморшчанымі вужамі,ператварылі іх у панурых пудзіл. Яны адкрылі кісларод і шпарка рушылі наперад, каб як мага хутчэй прайсці загазаваную тэрыторыю. Калі дабяруцца да адносна чыстага паветра, процівагазы здымуць.

Бензінаўкі пагаслі і яны ўключылі электрычныя лямпы. Цяпер ім даводзілася прабірацца праз частыя абвалы і пралазіць пад звісаючымі скляпеннямі. Заходзілі ў бакавыя штрэкі, адзначалі дарогу падпоркамі і стойкамі, вярталіся, калясілі, часам спыняліся перад такім абвалам, які пераадолець было немагчыма, таму ішлі назад, шукалі іншы праход. Ліберда ўвесь час значыў дарогу, а Лігенза аглядаў адпрацаваныя ўчасткі. Шаленства... Тут жа процьма вугалю!.. Відаць, сапраўды людзі пакалупалі трохі з краю...

Яны падымаліся і апускаліся па стромкіх штрэках, дабіраліся да забояў, знаходзілі іржавыя кайлы з сатлелымі ручкамі, мінулі дзве перакуленыя ваганеткі, быццам пакінутыя ў нейкім перапудзе, і чым далей забіраліся ў тыя кратавіны, тым дзіўнейшы адкрывалі свет. Сустракалі закрыжаваныя ўваходы, нізкія разрэзы, знайшлі саржавелую лямпу-каганец, крук ад газоўкі быў забіты ў стойку.



Лігенза на памяць ведаў план «Іды». Ён жа столькі разоў угледаўся ў заблытаныя крэскі на карце, столькі разоў ствараў ва ўяўленні малюнкі падабенства свету, што вось цяпер валачыўся па ім і не баяўся заблудзіцца. Ведаў, што зараз будзе пад'ём, а далей спуск, потым скрыжаванне...

Паволі яны дабіраліся да самых старых частак пласта. Са здзіўленнем зноў убачылі ваганеткі, але з драўлянымі кксламі і драўлянымі рэйкамі. Што за д'ябал? Ён чуў, што некалі, гадоў сто таму назад, ваганеткі былі з драўлянымі коламі, а чыгуначны шлях з выдзеўбленых бэлек, але ніколі не мог уявіць сабе, як гэта выглядала. Цяпер вось яны абодва гэта бачаць, і ім смешна.

Праз бакавыя праходы яны зайшлі ў шырокі штрэк. Гэта быў прасторны ганак, відаць, галоўны транспартны, які вёў да скіду. Лігенза зноў падкінуў жменю пылу. Упаў ён наўскасяк. Дырэктар запаліў бензінаўку. Можна зняць процівагазы. Знялі і глыбока ўздыхнулі. Праверылі манометры. Кіслароду хопіць яшчэ больш чым на гадзіну. Парадак.

— Ну, як, Зефлік? — запытаў Ліберда.— Вугаль ёсць?

— Ёсць, ёсць!

— Дык гэта ж, мабыць, толькі «ногі»? — зрабіў заўвагу Ліберда.

— «Ногі»! А няўжо ты не прыкмеціў, што мы абышлі вялізны ўчастак?

— Не. Я толькі ведаю, што мы ідзем ды ідзем...

— Мы абышлі вялізную тэрыторыю. І я ўжо цвёрда ведаю, што вугаль ёсць. Зверху пакалупалі, рэштку пакінулі. Так, браток! «Леакадзіі» яшчэ доўга жыць...

Яны стаялі ў звонкай цішыні і міжвольна слухалі яе. Цішыня лучылася ў сэрцы і насычала іх неспакоем. Яны ведалі, што на першым скрыжаванні дзяжураць таварышы, але ўсё роўна неяк не па сабе... Аднак галоўнае — ёсць вугаль.

Радасць захапляла Лігензу пастутова, не адразу. Раней ён меркаваў, што калі ўпэўніцца ў слушнасці сваіх доказаў, ашалее. А тут нічога!.. Ёсць вугаль і канец. Як быццам паглядзеў на каляндар і сказаў: «Сёння чацвер, 27 мая»... І нічога асаблівага. Але радасць усё ж такі расла. Напаўняла яго трыумфам. Справа, між іншым, не ў інжынеры Кухарчыку. Ён — не ў разлік. Але ж многія не верылі, калі ён даказваў, што на трэцім узроўні павінен быць вугаль, калі гаварыў, што праект закрыцця «Леакадзіі» беспадстаўны. Слухалі ветліва, паддаквалі, толькі ў тоне голасу ён адчуваў недавер, нейкую паблажлівасць. Добра, добра. Маўляў, ты сваё, а мы сваё!.. А цяпер ён, Лігенза — пераможца!

Яму ўявіліся новыя штрэкі «Іды», якія пралягаюць праз вычарпаныя месцы, разразаюць завалы, пад'ёмы, спускі і вядуць да вялізных запасаў. Пасыплецца прыгожы, чысты, прыдатны да каксавання вугаль. Шахта будзе грымець яшчэ не адзін год.

Калі яны калясілі па старых штрэках і забоях, Ліберда не звяртаў асаблівай увагі на вугаль. Ён недаверліва лыпаў вачыма, ці не пагражае ім абрыў скляпення, ці не злязіць што-небудзь на галаву. Вядома, усё вісіць на валаску, бо спарахнелы крапеж не мае ніякай трываласці. Стаіць, бо стаіць, але дастаткова стукнуць нагой і стойка валіцца, рассыпаецца, робіцца парахнёй. Дзіўна, што парахня не свеціцца, як цёмнай ноччу ў лесе. Лыпаў ён тады недаверліва вачыма на скляпенне і сцены, абурана сыкаў, калі Лігенза моцна тупаў або збіваў нейкі камень. Ён баяўся, што хопіць такога шуму, каб на іх паляцела скляпенне. Адначасова ён несвядома пакарыўся прыгоствам вялікай таямніцы, якую яму ўдалося адкрываць. Таямніца чорная і непранікальная, як ноч. Яны ж, чорт вазьмі, лазяць па штрэках і вычарпаных дзялянках, у якіх бадай са сто гадоў нікога не было. А калі хто-небудзь са смельчакоў і спускаўся ў гэтыя мясціны, дык хуценька вяртаўся да людзей, бо ад жаху ўзнімаліся валасы.

Часам, калі яны спыняліся, з глыбіні цішы даходзіў рытмічны стук падаючых кропляў вады. Кроплі былі маленькія, але калі яны падалі на камень, ствара лася ўражанне, што ў старым завале сядзіць нехта жывы і б'е тонкім, лёгкім малаточкам. Цык, цык, цык... Або няскладны гадзіннік ляніва адмервае час. А час той цягнецца, як смала, чорная, ліпучая і агідная.

— Д'ябальшчына! — замармытаў ён,— можна звар'яцець, калі б чалавеку давялося блукаць па гэтым могільніку сам-насам.

— Што ты там мармочаш? — ачомваў яго гучны голас Лігензы.

— А, так, нічога!..

Дык вось, калі яны хадзілі вакол ды каля, асаблівай увагі на вугаль ён не звяртаў. Ведаў, што ёсць, бачыў яго, але не думаў, што так многа. Гэта ж, маўляў, звычайныя калоны, падпорныя сценкі... Глядзіць ён на трыумфатара Лігензу: як гэты чалавек перамяніўся, яго чорныя вочы гараць, чупрына ўскудлачаная. Падобны да чубатага пеўня. Пырснуў смехам.

— Чаго ж ты рагочаш? — запытаў Лігенза.

— З цябе! Ты такі ўзрадаваны, быццам нехта напляваў табе ў кішэню.

Цяпер засмяяўся Лігенза.

— Вугаль ёсць! — закрычаў ён знянацку, падняў рукі, растапырыў пальцы.— Ёсць вугаль! Чуеш ты, марскі д'ябал, ці не? Вугаль ёсць! А казалі, што няма. Ёсць! Чуеш, сябар?..



— Чую то чую, толькі не крычы так, бо нам яшчэ што-небудзь зляціць на галовы! — суцішаў яго Ліберда. Ён падняў лямпу і глядзеў на скляпенне.

— Вяртаемся,— кінуў дырэктар.— Я добра пераканаўся, што праўда на маім баку. Вяртаемся!.. З заўтрашняга дня пачынаем працу!

— Камбайн пусцім у ход?

— Пакуль што не. Спачатку трэба выбіраць участкі. Бачыш?

— Бачу.

— Ну, тады гайда!

Лігензу карцела спусціцца яшчэ ў бакавыя штрэкі. Яго вабіла таемнасць старых вырабаў. Яму хацелася быць падобным да адкрывальнікаў новых земляў, да...

— Да даўганосага Урбана, які адкрываў скарбы,— выказаў ён уголас сваю думку.

— Што, што?

— Нічога, нічога. Пусці мяне, я пайду першы. За трэцім бакавым штрэкам трэба надзець процівагазы.

— Вось д'ябал! Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Трэба ўсё прадбачыць,— буркнуў здаволена дырэктар. Па сэрцы быў яму гэты вокліч сябрука.

За трэцім штрэкам сапраўды пачалі тухнуць бензінавыя лямпы. Значыць, увайшлі ў загазаваны раён. Яны зноў надзелі процівагазы і роўным крокам рушылі наперад. Кіслародныя апараты дзейнічалі добра. Даследнікі не спяшаліся, каб лішне не дыхаць і празмерна не вычэрпваць кісларод. Лігенза глянуў на гадзіннік. Калі яны не паспеюць дайсці праз паўгадзіны, дык рэзерв будзе непакоіцца. Паспеюць ці не? Ён прыкінуў дарогу, якую ім трэба прайсці. Перад імі тры скрыжаванні, чатыры бакавыя штрэкі... Не паспеюць! Нічога. Тыя выйдуць насустрач.

Яны ўвайшлі ў першы пераходны ўчастак. Запаволілі крок, бо ў процівагазах хутка стамляліся. Выйшлі ў штрэк, адпачылі. Лігенза паспрабаваў запаліць бензінаўку. Загарэўся кнот, але агеньчык быў рыжы. Калі ж ён апускаў лямпу, агеньчык тух. Значыць, трэба карыстацца апаратамі. Увайшлі ў другі пераход. Зноў запаленая лямпа ўжо не гасла. Мабыць, сюды аднекуль прасочвалася свежае паветра. Яны знялі маскі і ішлі, прыгнуўшыся, адзін за адным.

Сустрэчныя абвалы перашкаджалі ім ісці. Трэба было перапаўзаць пад навіслымі глыбамі вельмі асцярожна, каб не дакрануцца, не зачапіць якую-небудзь.

Мінулі апошні завал, выбраліся ў галоўны штрэк. Бензінаўка Лігензы гасне. Значыць, зноў трэба нацягваць процівагазы! Дарога ўяўлялася больш маруднай. Цяпер, здавалася, больш цяжкасцей, чым тры гадзіны назад. Лігенза прыпамінаў, ці быў у гэтым штрэку абвал. Здаецца, што быў... Ужо хутка павінны дайсці да яго. О, ужо відаць! Кавалкі ашчаціненага пясчаніка загароджваюць дарогу. Дайшлі. Цяжка будзе прабрацца, бо прамежак вельмі нізкі. Трэба зняць кіслародныя апараты і перанесці іх над галавой, паўзучы, перасоўваць перад сабой акуратна, каб не пашкодзіць процівагазаў.

Яны паўзлі асцярожна. Вельмі асцярожна. Адчувалі, што ім пагражае смерць. Ледзь краі які-небудзь камень, збурыцца ўсё! Сэрцы біліся, як ашалелыя. Пот заліваў





вочы і расінкамі асядаў на акулярах. Займала дыханне. Калі ж урэшце скончыцца гэты пакутніцкі шлях?

А потым перапаўзлі. Мабыць, не сышлі, а скаціліся з таго боку. Цяпер ужо недалёка да таварышаў. Яшчэ адзін схіл, пад'ём. Наперадзе — тры абвалы. Але гэта быў найгоршы...

Адпачылі. Лігенза паспрабаваў запаліць бензінавую лямпу, але не атрымалася.

Ліберда зразумеў, што яны яшчэ на загазаваным участку. Што за халера? Яму здаецца, што якраз тут яны ішлі без процівагазаў! Гэта ж самае мусіў мець на ўвазе Лігенза. Ён падняўся, кіўнуў сябру. Пайшлі далей, бо пачаў ахапляць страх, ці хопіць кіслароду. У рэзервуарах яшчэ звыш пяцідзесяці атмасфер... Дайшлі да наступнага скрыжавання і спыніліся. Няўжо заблудзілі? Тут жа павінен быць знак з падпорак.

— Знаку няма! — усклікнуў Ліберда.

— Можа...— пачаў Лігенза, але не скончыў.— Пайшлі далей.

Пайшлі. Зноў скрыжаванне. Знаку не было. Пайшлі далей. Дабраліся да трэцяга, потым да чацвёртага, дабраліся да забою, знакаў няма.

— Мы заблудзіліся,— спакойна сказаў Лігенза.— Вяртаемся!..

Павярнуліся назад. Лігензу ахапіў гнеў. Як жа так? Ён, шахцёр, заблудзіўся ў шахце? Недарэчнасць! Тут нешта не тое. Ён прыпамінае, што газаў не было. А ёсць! Атрымліваецца, што пайшлі па іншым штрэку. Трэба зноў пераадольваць той пракляты завал, вярнуцца да таго скрыжавання і ўзяць вышэй. Так, правільна. Гэта ж ясна, як сонца! Цяпер ён успомніў. Са скрыжавання, замест таго, каб ісці ўгору, яны пайшлі па ніжэйшым штрэку. Толькі гэты пракляты пераход.

Спыніліся перад абвалам і адпачылі. Кіслароду ўжо мала. Няпоўныя сорак атмасфер. Калі будуць расходаваць эканомна, павінна хапіць.

Лігенза заўважыў, што Ліберда хвалюецца. Яго рухі сталі нервовыя. Дакрануўся да яго кайлом і з процівагаза выкрыкнуў:

— Дрэйфіш, дружа? Як старая баба?

Ліберда авалодаў сабою. Лігенза энергічна падштурхнуў яго. Каб ён першы палез на завал. Ліберда зразумеў. Лігенза хоча, каб у выпадку чаго быў выратаваны сябар. Бо калі Ліберда дакранецца да звіслых над завалам глыб, дык яшчэ будзе магчымасць вышмыгнуць, але скалы адрэжуць ход Лігензе або засыплюць яго. Ён завагаўся. Такой ахвяры не хацеў.

— Ты пойдзеш першы! Гайда!— крыкнуў Лігенза.

Ліберда здаўся перад загадам. І пачалося пякельнае вяртанне. Яны паўзлі вельмі павольна, стагналі ад напружання, прабіваліся асцярожна, перасоўвалі перад сабой лямпы і кіслародныя апараты, змагаліся ўпарта... Нарэшце выбраліся на другі бок. А цяпер у штрэк, дзе не патрэбны кіслародныя апараты.

Прыйшлі, знялі процівагазы, уздыхнулі з палёгкаю.

Вырашылі спыніцца на адпачынак, пакуль не супакоіцца сэрца. Бо яно так б'ецца, быццам прагне выскачыць з грудной клеткі. Трэба ж абмеркаваць, што рабіць далей.

Лігенза доўга абдумваў. Ён закрыў далонню вочы і стараўся ўзнавіць іх шлях. Так!.. Яны ўглыбіліся не ў той прамежны пераход, з якога выйшлі ў штрэк. Толькі гэты знак! Д'ябальшчына!

— Гэта твой знак?— запытаў ён у Ліберды, паказваючы на падпорку, якая накіроўвала іх у няправільным напрамку.

Ліберда агледзеў і сказаў, што не. Відавочна, яна ляжала тут даўно, а яны прынялі яе як паказальнік дарогі.

— Ну, тады пойдзем па гэтым штрэку.

Не паспелі яны падняцца і прайсці некалькі дзесяткаў метраў, як пачулі далёкі асцярожны водгук крокаў. Паказаліся два агеньчыкі. Лігенза зірнуў на гадзіннік. Парадак. Мінула чатыры гадзіны і дваццаць мінут. Гэта занепакоеныя сябры спяшаюцца на дапамогу! Ратаўнікі прыкмецілі святло лямп дырэктара і яго таварыша і, узрадаваныя, прыдалі кроку.

Сышліся яны ў палове дарогі.

— Жывыя? — закрычаў ратаўнік Гаек.

— Бачыш, Францак, што жывыя!

— Вугаль ёсць?— запытаў яго напарнік.

— Ёсць! «Леакадзія» будзе даваць на-гара, як тысяча д'яблаў.

— Значыць, вугаль ёсць? — паўтарыў пытанне Гаек.

— Я ж кажу, глухая цяцера, што ёсць. На некалькі гадоў!— адказаў дырэктар.

І тады Гаек і яго прыяцель знялі з плячэй запасныя кіслародныя апараты, паклалі іх на зямлю, падышлі да Лігензы і па чарзе абнялі яго. Ліберда стаяў збоку, спакойна жаваў тытунь. Ён толькі адчуваў, як быццам сэрца падлазіць пад кадык ды так нея ласкоча ў горле, так вельмі шчакоча, што ажно вочы робяцца вільготнымі.

Пераклаў з польскай Пётр СТЭФАНОВІЧ.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Уладзімір РАБЦАЎ
- Аляксандр ДУХАНІН
- Аляксей ГАРДЗІЦКІ
- Аляксей ЧЫЖЫК
- Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ
- Сяргей САМУШЧОЎ
- Эдзі АГНЯЦВЕТ
- Аляксандр ХАЗЯНІН
- Алесь МАРЦІНОВІЧ
- Зоська ВЕРАС
- Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ
- Барыс РОЗЕН
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ





Іван Огур — камандзір уборачнага звяна.

# СЯМЕЙНАЯ ЭСТАФЕТА

Зямля. Як эстафету прыняў яе, карміцельку, у свае мазолістыя рукі Павел Огур ад бацькі і дзеда — сялян, патомных земляробаў. Ягоная маладосць прыпала на той час, калі руйнаваліся быльняговыя сялянскія межы і загоны-палоскі злучаліся ў шырокія калгасныя гоні. Сялянскі сын Павел Огур адным з першых на Глушчыне асядлаў сталёвага каня — трактар. Не адну тысячу гектараў пераараў ён за перадваенныя гады, намалаціў горы збожжа!

Вайною Павел Іванавіч, як і многія яго землякі, больш двух гадоў партызаніў у родных мясцінах, а потым, калі партызанскі атрад злучыўся з часцямі Савецкай Арміі, ваяваў на тэрыторыі Польшчы, Германіі, вызваляў краіны Заходняй Еўропы ад фашысцкіх захопнікаў.

Вярнуўшыся ў родную вёску Клетнае, былы франтавік стаў працаваць брыгадзірам у МТС, затым у калгасе. Цяжкія былі тыя гады. Але такія людзі, як Павел Огур, не баяліся цяжкасцяў — дні і ночы яны неслі вахту на пярэднім краі мірнага фронту — барацьбы за хлеб.

Павел зноў на трактары араў поле, малаціў збожжа — любімай механізатарскай справе аддаваў усё: волю, вопыт, сялянскую кемлівасць.

Тым часам падрасталі ў механізатара сыны. Для іх, ведаў бацька, адкрыты ўсе шляхі: хочаш — будзь настаўнікам, урачом, інжынерам — толькі вучыся, старайся.

Адданасць зямлі, хлебаробскае майстэрства ад бацькі перадалося ўсім чатыром сынам. Усе яны выраслі ля бацькавага трактара і пайшлі па бацькавай дарозе, сталі механізатарамі. Служба ў Савецкай Арміі яшчэ больш пераканала іх, што механізатар — самая сучасная і вельмі патрэбная прафесія. Браты Огуры і служылі пры тэхніцы — тры танкісты і адзін шафёр.

У калгасе «Радзіма» і на ўсёй Глушчыне ведаюць сям'ю Огураў: Іван — звеннявы механізаванага звяна канчатковай прадукцыі, Антон — брыгадзір у мясцовым меліярацыйным атрадзе, Сцяпан — трактарыст, Мікалай — шафёр, а на час жніва — камбайнер.

Нягледзячы на пенсійны ўзрост і сам Павел Іванавіч яшчэ не спяшае ў запас — водзіць увішна свой трактарок «ДТ-20». Яму і ў летні час работы хапае: то насенне падвязе сейбітам, то кармы тралюе на ферму; ёсць для яго і іншы занятак — праполка прапашных культур.

— Не магу я без поля, — шчыра прызнаецца Павел Іванавіч. — Без работы ўраз састарышся. Ды і як можна сядзець, калі вакол людзі стараюцца, шчыруюць...

Сыны, як і трэба, далёка глядзяць наперад, не абмяжоўваюцца тым, што ведалі і ўмелі дзяды і бацькі. Сённяшнія механізатары — людзі адукаваныя, яны паспяхова выкарыстоўваюць у сваёй практыцы дасягненні навукі, вопыт перадавікоў.

Узяць хоць бы нядаўні прыклад. З-за маласнежнай і суровай зімы цяжкая была пасяўная. Усё рашалася ў лічаныя дні. І такія людзі, як камуніст Іван Огур, не разгубіліся — кожны дзень, кожную гадзіну яны разлічылі і выкарысталі поўнасцю. Поле, якое ўзараў Іван Паўлавіч, роўнае, чыстае; пасевы былі — люба паглядзець, і ўраджай вырас на славу. Не адзін раз на цэнтральнай сядзібе, у Клетным, у гонар лепшага механізатара падымаўся чырвоны сцяг.

І сёлета Іван Огур (яго звяно першае закончыла веснавую сяўбу) стаў пераможцам у сацыялістычным спаборніцтве механізатараў калгаса і раёна. Яго грудзі ўпрыгожвае высокая ўзнагарода Радзімы — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Успамінаецца, як Іван, атрымаўшы ўзнагароду, зайшоў да бацькі ў хату, дзе ўжо сабраліся і астатнія яго браты. Абнімаючы сына, Павел Іванавіч сказаў тады:

— Што ж, сынок, узнагарода вялікая. Насі здаровенькі. Толькі не зазнавайся цяпер. Памятай, што працоўнаму чалавеку вышэйшая ўзнагарода — павага ад людзей. Гонар хлебароба і гонар сям'і беражы яшчэ лепш.



Звяно Івана Огура ўбірае ячмень.



Антон, Сцяпан, Павел Іванавіч і Іван Огуры.

Калгас «Радзіма», у якім жывуць і працуюць механізатары Огуры,— адзін з лепшых на Глушчыне. Тут кожны год збіраюць багаты ўраджай. Механізуюцца працаёмкія працэсы вытворчасці. І ў выніку павялічваецца заробак, расце дабрабыт калгаснікаў. У калгасе многа моладзі. Камсамольская арганізацыя тут — самая вялікая ў раёне.

У тыя дні, калі рабіўся гэты фотарэпартаж, Огуры — Павел Іванавіч і яго сыны Іван і Сцяпан,— як і ўсе механізатары, убіралі збожжа. Яны добра працавалі.

У калгасе ёсць яшчэ адно сямейнае звяно — камбайнеры Грамыкі. На трох машынах працавалі Аляксей Рыгоравіч Грамыка, яго сын Пятро і пляменнік Леанід.

Працавітых людзей мы сустракалі тут не толькі сярод механізатараў. Пчаляр

Сцяпан Огур перад выездам у поле.







Звяно Аляксея Рыгоравіча Грамыкі.

Іван Мікалаевіч Марціновіч усё лета завіхаецца ля пчолаў, і калгасная пасека дае добры прыбытак. Марыя Іллінічна Ляпко — лепшая даярка. Яна ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Працоўныя здабыткі ў «Радзіме» такія плённыя таму, што тут бацькі сваім дзецям змалку прывіваюць любоў да зямлі. Мы бачылі, як на механізаваных таках завіхаліся старшакласнікі. Ёсць дзе праявіць сябе моладзі і ў вольны час. Юнакі і дзяўчаты ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, займаюцца спортам.

Фота **В. Ждановіча.**



Іван Мікалаевіч Марціновіч, пчаляр.

Даярка Марыя Іллінічна Ляпко.





**Віктар ГРАМЫКА. Жнівень.**



Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК. Народныя камісары БССР — Д. Ф. Жылуновіч, А. Ф. Мяснікоў, В. Г. Кнорын, І. А. Адамовіч, А. Р. Чарвякоў.



**● Аляксандр ДУХАНІН,**
**былы кіраўнік разведвальна-дыверсійнай групы на Гомельшчыне**

# НЯБАЧНЫ ФРОНТ

Дзеці заўсёды чакалі гэтай урачыстай хвіліны. Надзея Мікалаеўна ўваходзіла ў клас — з вясёлай, знаёмай усмешкай, а яны, дружна ўстаўшы з-за парт, адказвалі на яе прывітанне: «Добры дзень!».

Хлапчукі паважалі яе за аднолькава строгія, «без любімчыкаў», адносіны да ўсіх, а дзяўчынкі імкнуліся пераймаць і яе голас, і рухі. Ды хіба можна было не любіць гэтую жыццярадасную, добрую і ўважлівую настаўніцу, якая знаходзіла час і выступіць на камсамольскім сходзе, і з дзецьмі паспяваць у хоры...

Паважалі Надзею Мікалаеўну і дарослыя. Беразнякоўцы палюбілі яе за прастату і шчырасць, за чулыя адносіны да іх дзяцей. Надзея з ахвотай працавала з моладдзю. Яе абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса. Не ведала тады яшчэ Надзея, што ўсяго праз год ёй давядзецца са зброяй у руках змагацца з лютым ворагам.

...Стаяла чэрвеньская раніца 1941 года. Дзеці сабраліся ў школе, гаварылі пра заканчэнне навучальнага года. Потым усе разам пайшлі палоць калгаснае поле.

Днём прыйшоў брыгадзір і, паклікаўшы да сябе Надзею Мікалаеўну, штосьці ўсхвалявана загаварыў. Устрывожаная, вярнулася яна да дзяцей. Школьнікі абступілі яе. Надзея Мікалаеўна некалькі хвілін стаяла моўчкі, углядаючыся ў твары сваіх выхаванцаў, потым ціха сказала:

— Пачалася вайна...

Мужчын праводзілі ў ваенкамат, слухалі радыё і роспачна паўтаралі — вораг захапіў Мінск і рухаецца да Смаленска. Кожную ноч недзе ў баку ад Бабруйска, нібыта на гіганцкім экране, у барвовых воблаках гаслі вогненныя ўспышкі артылерыйскай дуэлі. Жанчыны, старыя і падлеткі збіраліся групамі, падоўгу не разыходзіліся: разам не такой страшнай здавалася тая небяспека, што з кожным днём набліжалася і да іх сяліб.

Нашы войскі адыходзілі на ўсход, а па палескіх вуліцах загрукалі кованыя боты акупантаў. Змоўклі песні, прыціх вясёлы гоман дзяцей.

Першыя дні Надзея заставалася дома, сярод сваіх людзей, потым пайшла ў райком партыі.

У кабінеце першага сакратара Даманавіцкага райкома М. Г. Чапёлкіна сталі трое. Надзея ціха прывіталася, сказаўшы: «Я Дзенісовіч, настаўніца Беразняцкай школы».

— Дзень добры, таварыш Дзенісовіч! — сказаў Міхаіл Георгіевіч.— Добра, што прыйшлі.

У кабінеце былі другі сакратар райкома партыі К. Х. Дагура і старшыня райвыканкома С. М. Раўнаполец.

Час ваенны, і размова была кароткай.

— Немцы наступаюць, і мы прымаем меры да эвакуацыі жанчын і дзяцей у савецкі тыл,— пачаў сакратар райкома.

Надзея зразумела яго і адказала:



— Я кандыдат у члены партыі. Прашу пакінуць мяне змагацца з ворагам у партызанскім атрадзе.

— Падыдзіце бліжэй,— папрасіў сакратар райкома, разгарнуўшы карту на стале.— Вось, бачыце, лясны масіў, тут мяркуем стварыць базу для партызанскага атрада.

— Я добра ведаю гэты лес,— сказала Надзея. Гэта недалёка ад вёскі Блудзім, дзе жывуць мае бацькі.

— Гэта мы і ўлічвалі,— адказаў сакратар. — Але я павінен вас папярэдзіць, што даручэнне райком дае вам не толькі важнае, але і сакрэтнае: месцазнаходжанне базы мы павінны трымаць у строгай тайне.

Надзея кіўнула галавой:

— Я ўсё зразумела.

...У тую ноч, задумлівая і маўклівая, сядзела Надзея ў райкомаўскай «эмцы». Машына павольна рухалася па пясчаніку, захоўваючы светамаскіроўку. Да вайны Надзея не раз ехала на спадарожнай машыне па гэтых мясцінах да бацькоў, але ніколі дарога не здавалася ёй такой доўгай, як цяпер.

Машына спынілася на ўзлеску за вёскай Даманавічы. Надзея ўзяла сваю сумачку, развіталася з шафёрам.

Вёску Блудзім абмінула ўзлескам і падышла да роднай хаты з супрацьлеглага боку. На ўсходзе паволі займалася світальная зара.

Надзея пастукала ў акно. Бацька адразу пазнаў дачку.

Убачыўшы Надзею на парозе, маці кінулася насустрач:

— Дзякуй богу, што ты, нарэшце, вярнулася. Я зачакалася, думала, што цябе ўжо няма на свеце!..

Супакоіўшы маці, Надзея сказала бацьку, што адпачываць няма калі — ёсць вельмі тэрміновая справа. Дачка паведаміла, з якім заданнем прыйшла, і спытала:

— Ці можна, тата, даверыцца нашаму суседу Філімону Уласенку? У райкоме адобрылі маю прапанову, каб і ён супрацоўнічаў з намі. Ці не памылілася я?..

— Думаю, што не,— адказаў бацька.— Сумленны чалавек, не падвядзе!..

Гаварылі надоўга. Трэба было спяшацца. На досвітку яны накіраваліся ў лес. Два дні ад золку да золку хадзілі па знаёмых глухіх лясных сцежках. На зыходзе другога дня Надзея з бацькам вярнуліся дамоў.

Перамагаючы стому, Надзея пайшла ва ўмоўленае месца і праз пасыльнага адправіла ў райком партыі першае данясенне.

...Пачаліся цяжкія, поўныя небяспекі дні. Надзея жыла ў бацькоў і ўважліва сачыла за дзеяннямі нямецкіх уладаў, якія ўсталёўвалі «новы парадак». У Даманавічах немцы адкрылі камендатуру, у навакольных вёсках назначалі старастаў, стваралі паліцэйскія гарнізоны. Пачаліся арышты, допыты, рабаванне савецкіх грамадзян.

Надышла восень. Неяк вечарам Філімон Уласенка прыйшоў да Дзенісовічаў. Ён расказаў, што на адным з лясных складаў пабывалі немцы. Яны раскапалі замаскіраваны бліндаж, дзе была схавана мука, сухары, кансервы і іншыя прадукты, а таксама некалькі вінтовак.

Раніцой Надзея накіравалася на сустрэчу да сяброў: што рабіць далей? Падпольшчыкі рашылі адзін са складаў, размешчаных непадалёку ад выяўленага немцамі, перакінуць у новае месца.

Цёмнай ноччу Надзея, яе бацька, Філімон Уласенка і Цімафей Рубцоў раскапалі бліндаж. Прадукты, патроны, гранаты пагрузілі на падводы, перавезлі далей у лес і старанна замаскіравалі.

Асцярожнасць падпольшчыкаў была своечасовай. Праз некалькі дзён акупанты пабывалі і на тым месцы, але там нічога не знайшлі.

Аднойчы да хаты Дзенісовічаў пад'ехала аўтамашына. Уварваліся ў дом немцы, вывелі Надзею пад аўтаматам на двор.

— Дзе ест партызан склад? — строга спытаў афіцэр.

— Ні пра які склад я нічога не ведаю,— адказала яна.

Афіцэр пачаў біць Надзею. Потым яе кінулі ў кузаў і павезлі ў камендатуру. Два дні трымалі ў адзіночнай камеры, катавалі.

Допыт вёў сам камендант — рыжы, таўшчэзны немец. Задавалі ёй адны і тыя ж пытанні: «Дзе размешчаны партызанскія склады? Каго яна ведае з паплечнікаў у тыле камуністаў?»

Перакладчыца камендатуры Вольга Бельц, немка, былая выкладчыца нямецкай мовы Даманавіцкай сярэдняй школы, ведала Дзенісовіч і на допытах пераконвала яе ўсё расказаць, абяцала за гэта захаваць ёй жыццё. Але ў адказ ні слова. Бяссонныя ночы і штодзённыя катаванні не зламалі духу і стойкасці Надзеі Дзенісовіч. Перамагла мужнасць. Праз два тыдні Надзею адпусцілі. Схуднелая, чорная ад сінякоў, прыйшла яна дамоў.

Дома Надзея даведалася, што з вёскі Ракаў Васілевіцкага раёна прыходзіла Ганна Моўчан. Яна расказала, што ў іх, у раёне, аб'явіўся Павел Кашавараў. Ён працаваў да вайны загадчыкам райза ў Даманавічах. Потым яго накіравалі ў Лагішынскі раён. У кастрычніку 1941 года Павел Антонавіч Кашавараў з'явіўся ў вёсцы Ракаў.

Амаль адначасова ў суседнюю вёску Хамічы прыйшоў лейтэнант Чырвонай



Надзея Дзенісовіч.

Арміі Міхаіл Гарбачоў. Тут жылі яго бацькі, з Заходняй Беларусі вярнуўся і яго брат Сяргей.

Міхаіл Дзянісавіч Гарбачоў у першыя дні вайны ўдзельнічаў у баях пад Рагачовам і Жлобінам. Рэшткі іх дывізіёна трапілі ў акружэнне, байцы спрабавалі прабіцца на ўсход, але няўдала. Тады камісар сказаў: «Мы амаль усе беларусы, пойдзем у родныя мясціны разгортваць партызанскую барацьбу».

Бацька Гарбачова, Дзяніс Захаравіч, нягледзячы на ўзрост, сам гатовы быў ісці ў партызаны.

На выходзе кастрычніка Міхаіл Гарбачоў, даведаўшыся, што Павел Кашавараў знаходзіцца ў бацькоў у вёсцы Ракаў, накіраваўся да яго. Яны былі знаёмыя, добра ведалі адзін аднаго. Дамовіліся сустрэцца з камуністамі, якія засталіся на акупаванай тэрыторыі.

Міхаіл вярнуўся дамоў у добрым настроі. Пра ўсё ён расказаў бацьку. Стары Дзяніс акрыяў:

— А што я казаў, сынок?.. Трэба дзейнічаць! Уключай у гэтую справу ўсіх: і мяне, і брата, і сястру Марыю. Калі трэба, усе пойдзем!..

Удзень ніхто з сям'і Кашаваравых з дому нікуды не выходзіў, каб не трапляць на вочы карнікаў. З надыходам вечара Павел ішоў у суседнія вёскі, адшукваў камуністаў, афіцэраў Савецкай Арміі, былых актывістаў, гутарыў з імі і адразу ж вырашаў, ці прыгодны гэты чалавек да сур'ёзнай справы.

З Надзеяй Дзенісовіч Павел сустрэўся ў канцы кастрычніка, вечарам, у хаце яе бацькоў. Яна таксама ведала Кашаварава, ведала, што ён напачатку вайны пайшоў у Чырвоную Армію, і раптам стаіць перад ёю, усміхаецца. Сядзелі ў пакоі пры газавай лямпе, завесіўшы вокны, ціха гутарылі. На стале ляжаў стосік вучнёўскіх сшыткаў, побач стаяла этажэрка з кнігамі і падручнікамі. Здавалася, дзяўчына толькі-толькі вярнулася са школы і, скончыўшы размову з суседам, возьмецца правяраць работы сваіх хлапчукоў і дзяўчынак.

Праз колькі дзён у доме Дзенісовічаў сабраліся Павел Кашавараў, Міхаіл Гарбачоў, Ісак Савіцкі, брат Матроны Уласенкі. Размова ішла пра стварэнне падпольнай групы з найбольш адданых таварышаў. Першы гаварыў Кашавараў, ён вызначыў асноўныя задачы: трэба выкрываць сярод жыхароў фашысцкую хлусню, у падпольную групу знаходзіць і ўцягваць новых людзей, асабліва камуністаў і камсамольцаў, якія гатовы перайсці да ўзброенай барацьбы, і, нарэшце, неабходна здабываць зброю і боепрыпасы.

На гэтай жа нарадзе вырашылі, што прапаганду сярод насельніцтва будзе весці Надзея Дзенісовіч. Міхаілу Гарбачову даручалася раздабыць радыёпрыёмнік і паклапаціцца пра канспіратыўную кватэру для нарад вузкай групы людзей. Ісаку Савіцкаму даручылі падабраць у лесе месца для захавання боепрыпасаў.

Дамовіліся, што Павел Кашавараў, як упаўнаважаны ЦК і найбольш вопытны таварыш, узначаліць агульнае кіраўніцтва падпольнай групай.

Падполле шырылася. З'явіліся новыя людзі: Панкрат Алісейка і два яго браты — Мікалай і Сямён, Сяргей Гарбачоў, Фёдар Алісейка, Антон Несцераў, Андрэй Савіцкі, былы райкомавец Сцяпан Уладыкоўскі, Аляксандр Скуранок, Цімафей Рубцоў, Марыя Варажун і Міхаіл Кучар, які выйшаў з акружэння. Структура падполля была пагрупавой: 5—6 чалавек у групе. На выпадак правалу адной з іх усе астатнія былі вядомы толькі Кашавараву, Гарбачову і Дзенісовіч.

Гітлераўская прапаганда трубіла пра здачу Масквы і Ленінграда, пра разгром Чырвонай Арміі. Здраднікі і карнікі лютавалі — людзей расстрэльвалі за знойдзеную савецкую газету, за выхад на вуліцу пасля шасці гадзін вечара, за дадзены савецкаму палоннаму прытулак... Рызыкуючы жыццём, Надзея Дзенісовіч прыходзіла ў вёску у забаронены час і з дапамогай надзейнага чалавека збірала людзей на гутарку, несла людзям словы праўды.







Павел Кашавараў.



Міхаіл Гарбачоў.

Сувязной Надзея Дзенісовіч выбрала Матрону Уласенка, сваю суседку, сястру падпольшчыка Ісака Савіцкага.

Неўзабаве да баявых сяброў далучыўся яшчэ адзін вельмі неабходны чалавек — фельчар Піліп Захарэнка, які да вайны, скончыўшы медтэхнікум, працаваў у Калінкавічах. З прыходам акупантаў ён прыехаў з сям'ёй у вёску Асташкавічы, потым прыйшоў да мясцовага каменданта прасіць яго «высокага» дазволу заняцца прыватнай медыцынскай практыкай. Дазвол быў атрыманы, і Піліп Пятровіч, напакаваўшы чамаданы медыкаментамі, паехаў па вёсках на кані. Камендант, вядома, не ведаў, што Захарэнка, перш чым трапіць да яго, атрымаў заданне ад падпольшчыкаў.

Піліп Захарэнка з кожнай паездкі вяртаўся не з пустымі рукамі: здабываў вінтоўкі, наганы, патроны. А неяк прывёз зусім спраўны кулямёт і два дыскі з патронамі да яго.

На пачатку лістапада падпольшчыкі ўжо мелі трыццаць вінтовак, адзін кулямёт, некалькі тысяч патронаў, наганы, гранаты. Гэта, вядома, няблага. Але каб узброіць цэлы атрад, пайсці ў лес і пачаць адкрытыя аперацыі, гэтага яшчэ было малавата.

6-га лістапада 1941 года на кватэры Матроны Варажун у вёсцы Гогалева сабраўся актыў падполля. Павел Кашавараў выступіў з прапановай пачаць узброеныя дзеянні. Пярэчанняў не было. Першую аперацыю вырашылі правесці ў лістападзе.

У сярэдзіне месяца ў вёску Карпавічы накіраваліся падпольшчыкі і з дапамогай сувязнога высветлілі, што паліцаі (а іх было каля 30 чалавек) сядзяць у валаснай управе, п'юць гарэлку і гуляюць у карты. Свіран з нарабаваным збожжам ахоўваюць двое.

Група на чале з Паўлам Кашаваравым рушыла да вёскі. Непадалёку ад управы вынырнуў паліцэйскі патруль, але стрэліць не паспеў: яго прыбралі без шуму. Падышоўшы з двух бакоў, падпольшчыкі акружылі будынак управы. Са звонам паляцелі шыбы: дзесятак руляў скіраваліся на п'яны балаган здраднікаў.

У перастрэлцы былі знішчаны начальнік паліцыі, бургамістр і 12 паліцаяў. Зерне і нарабаванае ворагам дабро падпольшчыкі вярнулі жыхарам.

Карнікі ў Даманавічах і Васілевічах усхадзіліся. У гэтай мясцовасці, як меркавалі яны, не было сілы, здольнай на такую аперацыю. Карнікі рушылі на пошук партызанаў. Мсціўцы хутка разышліся па хатах і спакойна назіралі, як мітусяцца эсэсаўцы. А партызанскі сувязны Аляксандр Бандарэнка нават удзельнічаў у пахаванні бургамістра і начальніка паліцыі.

На працягу студзеня 1942 года падпольшчыкі правялі яшчэ каля дзесяці ўзброеных аперацый, у выніку якіх былі разбіты гарнізоны ў Карэлі, Халадніках, Мнагавершы, Убалаці, Хамічах і іншых вёсках. Не толькі папоў-



Піліп Захарэнка.

ніўся запас зброі і боепрыпасаў, але і актывізавалася дзейнасць патрыётаў.

Калі падпольшчыкі вясной 1942 года перайшлі ў лес і пачалі актыўную барацьбу, узнікла вялікая патрэба ў медыкаментах. Здабыць лякарствы можна было толькі ў бальніцах, якія размяшчаліся ў вёсках, дзе стаялі немцы і паліцаі. Так, урач Азарыцкай бальніцы Васіль Капусцянскі мог падзяліцца з Захарэнкам медыкаментамі, але вывезці іх было не так проста. Тады Піліп Пятровіч рашыў пайсці на хітрасць: ён зноў сеў на свайго каня і накіраваўся ў Азарычы да нямецкага каменданта. Там ён выклаў сваю просьбу: мае вялікую сям'ю, медыцынскай практыкай пракарміцца цяжка, і ён хоча сумяшчаць работу медыка з камерцыяй: гандляваць гаршкамі, якія абпальваюць на цагельні «Барок» ля вёскі Карпавічы. Прынесеная пляшка самагонкі і некалькі дзесяткаў яек зрабілі сваю справу: камендант даў дазвол. Піліп Захарэнка адразу ж паехаў у «Барок», нагрузіў воз гаршкамі і паехаў па гарнізонах.

Першая «экспедыцыя» была пробная. У гарнізонах «пільныя» паліцаі абшукалі падводу, правяралі «аўсвайс». З першай паездкі частку свайго «тавару» Захарэнка наўмысна не збыў, а прывёз назад у Азарычы. Ён пабываў ва ўсіх дварах, у тым ліку і на бальнічным, некалькі гаршкоў напоўніў медыкаментамі і, пацiснуўшы руку Капусцянскаму, рушыў у дарогу. Паліцаі, сустрэўшы знаёмага доктара-гаршчэчніка, бегла аглядалі яго твар, дакументы і адпускалі без затрымкі.

Партызаны пачалі атрымліваць медыкаменты. Да «паездак» Захарэнкі акупанты прывыклі і перасталі нават правяраць у яго дакументы. Але ў жніўні нечакана яго спынілі на пўдарозе, арыштавалі і кінулі ў Парыцкую турму. Як высветлілася пазней, за ім карнікі сачылі даўно, яны ўстанавілі, што доктар мае сувязь з партызанамі. На працягу дзесяці дзён яго білі і катавалі, але мужнасць, маладосць і моцны арганізм дапамаглі вытрымаць усе здзекі. Ворагі не змаглі вырваць ніводнага слова прызнання. Сярод ночы Піліпа Пятровіча вывелі ў двор са скручанымі рукамі і, далучыўшы да іншых вязняў, павялі ў бок могілак пад моцным канвоем.

Па дарозе ён шэптам папярэдзіў іншых нявольнікаў, што іх вядуць на расстрэл і што трэба, не дайшоўшы да могілак, разбягацца. Сапраўды, калі наблізіліся да ўзлеску, вязні кінуліся ўроссып. Піліп Пятровіч галавой збіў побач ідучага эсэсаўца і кінуўся ў цемру. Пачалася страляніна, але многім, у тым ліку і Захарэнку, удалося ўцячы. Паранены, ён за ноч адолеў больш за сорак вёрст і прыйшоў у атрад. Крыху падлячыўшыся, ён уключыўся ў работу.

...У даманавіцкіх партызанаў узнікла неабходнасць наладзіць сувязь з патрыётамі Васілевіцкага раёна. Цікавасць да Васілевіч была выклікана тым, што яны стаялі на важным участку чыгункі Гомель—Брэст. Там размяшчаўся гітлераўскі гарнізон, гебітскамісарыят, СД і жандармерыя, дзе партызанская разведка магла мець каштоўныя звесткі.

Наладзіць сувязь даручылі Міхаілу Гарбачову. У студзені 1942 года ён з'явіўся ў Васілевічах, звязаўся з Ціханам Астапенкам, які па заданні райкома партыі быў пакінуты са спецыяльным заданнем. Ціхан Мінавіч Астапенка паведаміў, што ў Васілевічах ужо дзейнічае падпольная група, у якую ўвайшлі камуністы Любоў Курганская, Павел Астапенка, Якаў Астапенка, камсамольцы Ларыса Міланові, Антаніна Жукоўская, Анісім Белы, яго сястра Вольга, Марыя Капітонава, Васіль Сопат і іншыя. Кіруе гэтай групай ён, Ціхан Астапенка. Для маскіроўкі ён працуе старастам Васілевіцкай воласці. Ён ездзіць па вёсках, сустракаецца з патрэбнымі людзьмі. Яго баявы памочнік—Любоў Пятроўна Курганская, былая настаўніца Васілевіцкай сярэдняй школы, яе ўладкавалі сакратаром валаснога ўпраўлення.

На гэтай сустрэчы Астапенку было дадзена канкрэтнае заданне: наладзіць збор боепрыпасаў і зброі, аказваць дапамогу партызанскаму атраду.





Мікалай Алісейка.



Ціхан Астапенка.

Сапраўды, васілевіцкія падпольшчыкі актывізавалі сваю дзейнасць. Яны друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі боепрыпасы, медыкаменты і г. д. Камсамолка Ларыса Міланові ўладкавалася працаваць прыбіральшчыцай у леспрамгасе. Там была пішучая машынка. З іншых супрацоўнікаў ніхто не ведаў, што Ларыса ўмее друкаваць. Як усе разыходзіліся, Ларыса зачынялася на ключ і пачынала друкаваць лістоўкі. А ноччу чатырнаццацігадовы яе брат Ігар разам са сваім аднагодкам Васем Белым расклейвалі іх на платах, на паліцэйскіх хатах, на будынку станцыі і нават на спецыяльным стэндзе пад шклом каля дома культуры, дзе акупанты вывешвалі хвалебныя паведамленні пра свае перамогі. Асаблівы перапалох у ворага выклікалі лістоўкі з паведамленнем Саўінфармбюро пра разгром немцаў пад Масквой. Многія паспелі прачытаць, перш чым карнікі пачалі здзіраць іх з платоў. Каля дома культуры і на вуліцах павялічылася колькасць патрулёў, але лістоўкі не перасталі з'яўляцца.

З дапамогай васілевіцкіх падпольшчыкаў удалося выкрасці планы карнікаў супраць партызанаў і савецкіх патрыётаў. Так, напрыклад, вясной 1942 года фашысты рыхтавалі аперацыю па арышце і адпраўцы ў канцлагеры ўсіх ваеннапалонных, якія жылі па вёсках. Падпольшчыкі апярэдзілі карнікаў. Аперацыя гітлераўцаў сарвалася. Большасць былых ваеннапалонных пайшла ў лес, да партызанаў.

Рызыкуючы жыццём, дзесяткі разоў прабіраўся ў логава ворага Міхаіл Гарбачоў, каб сустрэцца з васілевіцкімі падпольшчыкамі, атрымаць ад іх здабытыя звесткі і перадаць новыя заданні. Аднойчы на кватэры Ларысы Міланові яго пазнаёмілі з новай падпольшчыцай — Бранiславай Рыгораўнай Кузьменка, маладой, прыгожай дзяўчынай, якая не так даўно перасялілася да Ларысы. У час гутаркі высветлілася, што яна камсамолка, да вайны працавала настаўніцай, добра знаёмая з Ларысай, а цяпер уладкавалася машыністкай у гебітскамісарыят.

— У мяне ёсць магчымасць здабываць сакрэтныя дакументы, якія вас зацікавяць,— заявіла Браніслава.

— Ну што ж, здабывайце, калі гэта каштоўныя дакументы,— адказаў Гарбачоў, а пра сябе падумаў: — «Трэба спытацца ў Ціхана, ці ведае ён новую падпольшчыцу».

Гэта было раніцой. Браніслава пайшла на работу, а Ларыса пачала даказваць, што Кузьменка—яе сяброўка і сумнявацца не варта.

Ціхан Мінавіч сказаў тое ж самае: акрамя Ларысы, Браніславу ведае Люба Курганская, і сумнявацца няма падставы.

З дапамогай васілевіцкіх падпольшчыкаў было падрыхтавана і здзейснена некалькі дыверсій. Так, у студзені 1942 года Кацярына Храменка, Іосіф Шаўцоў і Браніслаў Сечка спа-



Любоў Курганская.

лілі мэблевую фабрыку ў мястэчку Бабічы і мост цераз рэчку Ведрыч.

Вясной таго ж года патрыёты Анісім Белы, Аляксандр Фралоў, Пятро Штурма і Васіль Белы вывелі са строю электрастанцыю, якая жывіла электраэнергіяй увесь гарнізон. Крыху пазней каля станцыі Нахаў быў спушчаны пад адхон эшалон з тэхнікай, які ішоў на ўсходні фронт. Падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, вялі шырокую растлумачальную работу сярод насельніцтва.

Для канспірацыі вырашана было трымаць сувязь праз адну з падпольшчыц — Антаніну Жукоўскую, якая жыла ў вёсцы Навінкі непадалёку ад Васілевіч. Неяк напрадвесні Міхаіл Гарбачоў зайшоў да Антаніны Жукоўскай, каб перадаць указанні падпольшчыкам. І быў вельмі здзіўлены, убачыўшы там Браніславу Кузьменка.

— Я прыйшла па даручэнні Ціхана Мінавіча перадаць сакрэтны дакумент партызанам. Вельмі дарэчы, што мы з вамі сустрэліся, — і Браніслава падала невялікі пакет. У ім была дырэктыва вышэйшага камандавання з загадам узмацніць барацьбу з партызанамі, бо іх колькасць расце надзвычай хутка, а меры па папярэджанні дыверсій недастатковыя. На дырэктыве стаяў грыф «строга сакрэтна», ніжэй «толькі старшым афіцэрам».

— Такі дакумент каштоўнасці не мае, можна было і не рызыкаваць,— сказаў Міхаіл Гарбачоў.— Тое, што немцы з кожным днём узмацняюць барацьбу супраць партызанаў, мы ведаем. Нас цікавіць, калі і куды карнікі збіраюцца ісці на партызанаў. Каго яны мяркуюць арыштаваць, дзе будуць рабаваць нашых людзей. Спадзяюся, такія звесткі вы таксама зможаце здабыць?

— Буду старацца,— адказала Браніслава.

У час размовы Васіль Сопат сядзеў моўчкі. Калі Браніслава Кузьменка пайшла, ён, уважліва паглядзеўшы на жонку, прамовіў:

— Нешта мне не падабаецца гэтая Броня.

Партызанскі атрад, створаны з даманавіцкіх падпольшчыкаў, усё шырэй разгортваў свае баявыя дзеянні. Камандзірам яго стаў Павел Кашавараў, камісарам абралі Надзею Дзенісовіч, начальнікам штаба — Ісака Савіцкага. Партызаны дзейнічалі. Але не драмаў і вораг. Яшчэ ў студзені 1942 года загінуў у няроўным паядынку Яўстрат Дзянісавіч Гарбачоў, баявы партызан. У сутычцы з паліцаямі загінуў і Сяргей Гарбачоў, а ў чэрвені быў схоплены і закатаваны бацька Гарбачовых — стары Дзяніс.

З выхадам у лес цяжэй стала трымаць сувязь з Васілевіцкім падполлем. У гэты цяжкі час самымі надзейнымі сувязнымі былі жанчыны.

Матрона Уласенка і яе муж Філімон ведалі ў навакольных лясах кожную сцяжынку, кожнае балотца і выспу. Звесткі, якія паведамлялі Антаніна Жукоўская, Марыя Капітонава і Ціхан Астапенка, Матрона праз мужа, які часта быў у лесе, перадавала партызанам. Часам да Матроны з атрада прыходзіў і яе брат Ісак, і тады ў сям'і было сапраўднае свята.

Матрона была не толькі ласкавая, шчырая, але і знаходлівая і мужная жанчына. Па даручэнні Надзеі Дзенісовіч яна сустракалася з патрэбнымі людзьмі, наладжвала сустрэчы, пякла партызанам хлеб, мыла бялізну. І ўсё яна рабіла хутка, з добрым жартам. Не раз яна трапляла ў рукі да бобікаў-паліцаяў, якія ведалі, дзе яе брат, але яе не чапалі, бо, відаць, баяліся партызанскай помсты.

6-га чэрвеня 1942 года ў Васілевічы пачалі прыбываць салдаты, апранутыя ў агульнавайсковую форму. Як высветлілася, гэта былі карнікі, эсэсаўцы. Першую аперацыю яны пачалі ў мястэчку Бабічы і вёсцы Ліскі. Ціхан Астапенка і Вольга Шчорская накіраваліся з Васілевіч у іншыя вёскі перадаць падпольшчыкам сігнал трывогі. Гэта дапамагло — многія з патрыётаў перайшлі да партызанаў. Але выратаваць падпольшчыкаў у Васілевічах не ўдалося, іх дамы былі пад наглядам патрулёў. Ціхан Мінавіч вярнуўся дадому ўсхваляваны. Жонка Ганна Трафімаўна параіла яму ўцякаць, пакуль не позна. Але ён рашуча адмовіўся.





Антаніна Жукоўская.



Ігар Мілановіч.

Ён спаліў на прыпечку ўсе паперы, што датычылі падполля. Не паспеў штосьці сказаць, як раздаўся стук у дзверы. Уварваліся эсэсаўцы, схапілі яго, надзелі наручнікі і павялі пад канвоем.

У Васілевічах схапілі ўсіх падпольшчыкаў. А Антаніна Жукоўская праз балота прабіралася ў вёску Гогалева, каб папярэдзіць Марыю Варажун, а праз яе і партызанаў пра небяспеку. Двор Варажуноў яна заўважыла здалёк і паклікала Марыю да сябе.

— Хутчэй да партызанаў. З Васілевічаў ідзе батальён карнікаў.

Сяброўка дапамагла Антаніне пераапрануцца, пачаставала гарачым чаем, а сама ляснымі сцежкамі кінулася ў партызанскі атрад.

Праз гадзіну яна паведаміла штабу пра небяспеку, а сама, не затрымліваючыся, пабегла назад — дома застаўся адзінаццацігадовы Валодзя, які можа не схаваць прыёмнік і сам трапіць у кіпцюры карнікаў. Ззаду засталіся вёскі Блудзім, Мнагаверш. Засталося перабегчы родную вёску Хамічы, а там і Гогалева. Але Хамічы ўжо занялі карнікі.

...Яшчэ з раніцы на сустрэчу з сувязнымі, якія абяцалі прынесці пішучую машынку, пайшла ў Блудзім Надзея Дзенісовіч. З хвіліны на хвіліну чакалі яе партызаны, не мяняючы месца стаянкі. Сёй-той пачаў нервавацца: усе ведалі, што супраць партызанаў ворагі кінулі карны атрад. Але ісці без камісара яны не хацелі. Рашылі паслаць Ісака Савіцкага папярэдзіць яе, каб хутчэй вярталася. Але ён не паспеў... Надзею арыштавалі дома, толькі паспела яна пераступіць парог. Яна ўбачыла маці, бацьку і пятнаццацігадовую пляменніцу Міру: яны ляжалі на падлозе пад рулямі аўтаматаў.

Надзею выштурхнулі на двор, а дом, абліты бензінам, запалаў з усіх бакоў. Надзея пачула крык маці, што даляцеў з агню, ірванулася і страціла прытомнасць.

Матрону Уласенка, яе мужа Філімона і іхніх чацвярых дзяцей фашысты заспелі за снеданнем. Усіх выцягнулі на вуліцу і запатрабавалі весці да партызанаў.

— Ніякіх партызанаў мы не ведаем,— строга паглядзеўшы на мужа, адказала Матрона.

Дзяцей спалілі на вачах у Матроны, а яе і мужа звязалі і штурхнулі ў машыну. Нечалавечыя катаванні перанесла яна, але вораг не пачуў ні слова прызнання.

— Мяне арыштавалі вечарам шостага ліпеня ў вёсцы Ліскі,— расказвае Павел Аляксеевіч Астапенка, які ўцёк з-пад расстрэлу.— Адразу ж прывезлі ў жандармерыю і спрабавалі наладзіць допыт, але гаварыць я адмовіўся. Мяне збілі і кінулі ў камеру. Раніцой у гэтую ж камеру ўвялі арыштаваных Ціхана Астапенку, Якава Астапенку, Любоў Курганскую, Ларысу Мілановіч і яе маці Аляксандру і іншых. Усяго 27 чалавек.

Допыт вёў гебітскамісар Орлічак і афіцэр з гестапа ў чыне капітана. Ніводны падпольшчык не даў паказанняў. Два эсэсаўцы люта білі кожнага і адцягвалі ў камеру. Такое паўтаралася па некалькі разоў на дні.

Катаванні і допыты цягнуліся чатыры дні. Але ніводзін падпольшчык не папрасіў літасці. Усе трымаліся мужна і стойка да канца.

11 ліпеня 1942 года падвечар гестапаўцы загналі змучаных людзей у дзве крытыя машыны. Разам з дарослымі кінулі і дзяцей: чатырохгадовую Лору Курганскую і яе двухгадовага брацiка Валерыка, піянера Ігара Мілановіча, чатырох дзяцей Мікалая Брэля ад двух да сямі гадоў.

Ларыса Міланові́ч, Любоў Курганская, Антаніна Жукоўская, едучы праз пасёлак, крычалі: «Смерць фашыстам!», «Перадайце нашым, што мы не здаліся!», «Бывайце, таварышы!»

Іх расстралялі ва ўрочышчы Рубанікі ў чатырох кіламетрах ад Васілевіч. Выратавацца ўдалося толькі двайм: Паўлу Астапенку і Мікалаю Алісейку. Яны прыйшлі ў атрад і расказалі пра ўсё, што адбывалася ў засценках гестапа.

Не паспелі перажыць цяжкасць страт, як партызанаў спасцігла новае гора: у сярэдзіне ліпеня ў няроўнай схватцы з карнікамі загінуў камандзір атрада Павел Кашавараў. Увесь атрад цяжка перажываў гэтую страту. Але партызаны за смерць таварышаў спраўна адпомсцілі фашыстам. На базе Даманавіцкага атрада да лета 1943 года выраслі дзве партызанскія брыгады і сталі грознай сілай для гітлераўцаў.

Яшчэ ў 1942 годзе імёны даманавіцкіх падпольшчыкаў уведала ўся краіна. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 13 лістапада 1942 года сярод беларускіх партызанаў узнагароджаны пасмяротна ордэнам Чырвонай Зоркі камісар атрада Надзея Мікалаеўна Дзенісовіч, камандзір партызанскага атрада Павел Антонавіч Кашавараў, а таксама ордэнам Чырвонага Сцяга былі адзначаны тры члены сям'і Дзяніса Захаравіча Гарбачова — дачка Марыя і сын Яўстрат пасмяротна, сын Міхаіл, які пасля гібелі Кашаварава стаў камандзірам Даманавіцкага партызанскага атрада.

Мінулі дзесяцігоддзі. На магілах ва ўрочышчы Рубанікі стаяць абеліскі. Золатам на мармуры напісаны імёны герояў.

■ ■ ■





# ДЗЕ СІНЕЮЦЬ КАРПАТЫ...

Мне даўно хацелася наведаць заходнюю Украіну. Можа таму, што сам нарадзіўся кіламетраў за пяцьдзесят якіх ад граніцы з ёю. Словам, усё карцела ўведаць — а як там? Блізкае суседства братняга народа адчувалася шмат у чым: у асаблівасцях мясцовай гаворкі, у звычаях, у вялікай прывязанасці да народных украінскіх песень, што вечарамі чуліся па абодва бакі: варта было з'явіцца там, напрыклад, «Чарэмшыне», як амаль ці не ў той жа дзень яе заспявалі і нашы дзяўчаты.

Дык як яно там, у суседзяў?

Што думаюць яны пра нас?

...Львоў сустрэў мяне ранішняй прахалодай. У трамваі, куды я сеў, нехта раптам папрасіў: «Зачыніце акно, зімна». Глядзі ты — у нашых мясцінах таксама замест «холадна» ка-

жуць «зімна»! І здалося мне, што знаходжуся сярод сваякоў.

Рана-раненька, а на пагорыстых вулачках горада — ланцужкі рабочых. «Цок-цок-цок», — чуецца на асфальце, які блішчыць, нібы люстраная паверхня ракі. Горад прачнуўся.

Мне ж трэба на кватэру паэта Уладзіміра Лучука.

— А мы вас яшчэ ўчора чакалі, — кажа той, выходзячы насустрач. — Івасілку, уставай, дзядзька беларус прыехаў.

І чорныя вачаняты пазіраюць ужо крадком з другога пакоя. І зноў, — быццам дома, дзе цябе чакалі. На вакзале я падсілкаваўся, і гаспадар з дакорам кідае:

— Навошта было есці, я ж добра гатаваць умею. — А пасля жартуе: — Шкода, што вы дзяцей яшчэ не маеце. У мяне ж выйшла дзіцячая кніжка. Давядзецца надпісаць дарослую.

І ён бярэ з паліцы свой першы, выдадзены ў 1959 годзе, зборнік вершаў «Довір'я». Пасля шукае зборнік Максіма Багдановіча, выдадзены ў 1967 годзе ў серыі «Перлы сусветнай лірыкі».

— Калі я вучыўся яшчэ ў Рожыцы на Валыні, — гаворыць Лучук, — то вычытаў, што ёсць славянскае аддзяленне ў Львоўскім універсітэце. Тады і ўбілася ў галаву, што мне трэба вывучыць усе славянскія мовы. Першай беларускай кніжкай для мяне была «Вязанка» Янкі Лучыны, 1903 года выдання. Знаёмства з Купалам і Коласам пачынаў па ўкраінскіх перакладах. Пасля пайшлі арыгінальныя кніжкі, стаў чытаць «Полымя», «Маладосць», якія прывозіў мой таварыш студэнт-беларус. Натрапіліся вершы Караткевіча, Барадуліна, Наўроцкага. Стаў перакладаць. Напачатку перакладаў, што пад руку трапляла. Пайшло ўглыбіню, калі сустрэўся з творамі Багдановіча. На Украіне гэты паэт прапісаны назаўсёды. Я не к таму, што яго магіла ў Ялце. Ён жа быў дзівосным знаўцам не толькі вашай, але і нашай літаратуры. Сярод украінскіх работ я такога глыбокага артыкула яшчэ не чытаў пра Уладзіміра Самійленку, як Багдановічаў. А артыкулы пра Шаўчэнку, Галіцкую Русь... Пасля яго ўжо і Караткевіч для мяне нейк па-новаму засвяціўся — сваёй эпічнасцю і шчырасцю, Барадулін — ігрою словам.

— Нават гукам.

— Так, і гукам...

— А што, на вашу думку, падобнае і непадобнае ў сучаснай украінскай і беларускай паэзіі?

Гаспадар на маё пытанне адказвае не адразу.

— Як я пачынаў пісаць, дык мяне залічылі да эксперыментатараў, — напэўшчэ гаворыць ён. — І сапраўды, мяне цягнула да нечага новага ў паэзіі. Гэтая хваля і ў вас і ў нас была. У душэўнасці, скарыстанні фальклору, любові да роднага слова, у далейшых пошуках вобразнасці, нават у фармальных, рытмічных пошуках я бачу падобнасць. У народным думанні. Адраджэнне глыбіні філасофскай думкі і разам з тым пошукі новых, нават мадэрных форм уласцівы і Танку і Малышку. Непадобнае? У выразным адчуванні кожным з нас сваёй нацыянальнай асновы. У тым жа скарыстанні фальклору, які мае з нашым шмат агульнага і ў той жа час непадобнага, непаўторнага. Той жа Багдановічаў «Падвей». У нас яго няма.

— Гавораць, калі паэт сапраўдны, то ён не падобны на іншых. Гэтыя словы можна аднесці ўвогуле да любой нацыянальнай паэзіі.

— Так, так. Я дужа высокай думкі пра беларускую паэзію, яна разамаітная, шматфарбавая. Мова ваша вельмі падабаецца, чытаю на ёй з асалодай, слухаць люблю...

— У беларусаў да Львова даўнія сімпатыі. Можна нагадаць хоць бы тое, што тут жыла некалі Цётка. Сёння ж для нашых кантактаў умовы большыя.

— Так, — адказвае Уладзімір. — Я рады, што далучыў да перакладу Рамана Лубкіўскага. Добры паэт і перакладчык, ён зараз падрыхтаваў кніжку «Славянскае неба», дзе ёсць цэлы раздзел з беларускай паэзіі. Беларускую літаратуру ў нас перакладаюць таксама Аксана Сенатовіч, Раман Кудлык, Ігар Калінец, Віктар Лазарук.

Шчырую заклапочанасць аб далейшым развіцці братэрскіх сувязяў я адчуў і ў Львоўскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў, куды мы пазней трапілі з Уладзімірам Лучуком. «Думаем устанавіць мемарыяльную дошку Элаізе Пашкевіч, — расказваў кіраўнік аддзялення паэт Расціслаў Братунь, — хочам зрабіць гэта хораша. У адной з бібліятэк горада мяркуем адкрыць аддзел беларускай літаратуры. Добра было б, каб кнігі беларускія пастаянна прадаваліся ў нас». У сваю чаргу мне падумалася: а чаму б не арганізаваць у адным з кніжных магазінаў Мінска аддзел украінскай літаратуры?

На рабочым стале Лучука — рукапіс паэмы пра Аляксандра Гаўрылюка, які загінуў у Львове разам са Сцяпанам Тудорам 22 чэрвеня 1941 года ад першай фашысцкай бомбы, што ўпала на горад. Згадваю, што значная частка дзейнасці члена Камуністычнай партыі Заходняй Украіны, вядомага рэвалюцыянера-падпольшчыка, пісьменніка-грамадзяніна Аляксандра Гаўрылюка прайшла ў паўднёвай частцы Брэстчыны.







Дзеці старадаўняга Мукачава.

Шмат агульных дарог вымерана ўкраінцамі і беларусамі. А пройдзеныя разам у цяжкія гадзіны гісторыі, яны становяцца асабліва дарагімі. У Львове, Івана-Франкоўску, Галічы я не раз чуў пра подзвіг беларуса, ураджэнца вёскі Родня Клімавіцкага раёна Леаніда Бутэліна ў галіцкім небе. У першы дзень вайны ён збіў фашысцкі самалёт і, калі скончыліся боепрыпасы, тараніў другі. Было 5 гадзін 15 мінут раніцы. За якую гадзіну вайны

савецкія лётчыкі ўчынілі два тараны. Лейтэнант Бутэлін пайшоў на трэці. Подзвіг маладога лейтэнанта тут настолькі вядомы, што мне нават назвалі дзень нараджэння героя — 18 жніўня 1919 года, чаго я не змог уведаць з другога тома БелСЭ, дзе пазначаны толькі год нараджэння.

У Івана-Франкоўску я сустрэўся з пісьменнікам Рыгорам Васільевічам Кірылюком. Вось ужо каля трыццаці гадоў ён трымае сувязь з Беларуссю. 26 лістапада 1943 года Рыгор Кірылюк узняў сцяг перамогі над Гомелем. Дывізійная газета «Бей врага» I-га Беларускага фронту 5 снежня 1943 года пісала: «Гомель. (Па радыё). Сцяг у цэнтры Гомеля ўзнялі ў час бою лейтэнант Р. Кірылюк (супрацоўнік рэдакцыі газеты «Бей врага»), малодшы сяржант Антоненка і аўтаматчык Балашоў».

Рыгор Кірылюк заўсёды жаданы госць гамяльчан. Ды і не толькі гамяльчан і не толькі госць. Некаторыя творы яго знайшлі другое жыццё на беларускай мове. Нядаўна дзеці зачытваліся аповесцю Кірылюка «Бывальшчына пагранічніка Грывы», якую з нумара ў нумар друкавала газета «Піянер Беларусі». Новы твор Кірылюка — аповесць «Сцяг над ратушаю». У аснову яе пакладзены факт забойства камсамольца Аўгусціна Еўчука ў час аховы чырвонага сцяга, што быў вывешаны над ратушаю горада Станіслава (цяпер Івана-Франкоўск) напярэдадні вызвалення Заходняй Украіны Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года. Думаю, што перажытае ў час вайны ў Гомелі было адной з прычын з'яўлення гэтага цікавага твора.

— Украінец вызваляў Гомель, а беларус Павел Несцяровіч вызваляў Кіеў, — расказвае Рыгор Васільевіч, — і за фарсіраванне Дняпра атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Цяпер ён жыве ў Гомелі. Шкада, што вы не зможаце ўбачыць Коршуна Якава Фаміча. Ён з-пад Баранавіч. Пасля вызвалення вучыўся ў Львоўскім політэхнічным. Ён удастоены звання заслужанага вынаходніка Украіны. Робіць Якаў Фаміч у нас начальнікам нафтаўпраўлення «Надворна нафта». Зараз у замежнай камандзіроўцы. А сам газаправод Дашава — Львоў — Мінск — гэта ж таксама вынік братэрскай працы.

Я заўважаю, што ў кватэры гаспадара вісіць партрэт прэзідэнта Чэхаславакіі Людвіка Свободы з аўтографам. Цікаўлюся, як трапіў гэты партрэт да яго.

— Напісаў я дакументальны нарыс «Дзеці Свабоды», — тлумачыць Рыгор Васільевіч. — пра двух украінскіх хлопчыкаў-братоў, якіх у час вайны выратавалі ад смерці чэхі. Тыя браты манціравалі не так даўно Бурштынскую электрастанцыю, што дала энергію Украіне і Чэхаславакіі. Калі Свобада даведаўся пра нарыс, то прыслаў мне гэтае фота.

Адчуванне пастаяннай і трывалай дружбы і ўзаемадапамогі, своеасаблівай пераклічкі паміж народамі-суседзямі не пакідала мяне за ўвесь час падарожжа. Жывы ўдзел у гэтай суседскай пераклічцы і глыбокая павага да свайго, народнага, нацыянальнага надаюць тутэйшаму чалавеку асабліва характар і прывабнасць.

Мы гаворым з Рыгорам Васільевічам, а за акном ужо хлопцы спяваюць пад гітару даўнюю песню «Верховино, світку ти наш», а пасля «Червону руту». Трапяткая, дзіўна-трывожная песня, з добрым спалучэннем традыцыйных і сучасных матываў. Аб ёй шмат спрачаюцца, але ўжо відавочна, што яна «пайшла». Штогод у гэтым краі нараджаецца песня, якую спяваюць пасля ва ўсіх кутках нашай Радзімы. Такімі песнямі былі і задуменная «Гуцулка Ксеня», і энергічная, жвавая «Верховино, мати моя», спакойна-апавядальная «Чарэмшына»... Відаць, моцны духам той край, які так багата можа даваць цудоўных узораў песеннай творчасці.

— Як хочаце пазнаёміцца з нашым народным мастацтвам, то лепш за ўсё едзьце ў Косаў або ў Каламыю, — раіць на развітанне Рыгор Васільевіч. — У Каламыі багаты музей, затое ў Косаве вы ўбачыце ўсё ў натуры.

Заходнія вобласці Украіны падарылі свету арыгінальнае і непаўторнае мастацтва. Пад рукамі разбяроў, ткачоў, ганчароў, вышывальшчыц нараджаліся і нараджаюцца сёння казачна дзівосныя вырабы, вядомыя, бадай, ва ўсіх краінах зямлі. На цябе нахлынае такі паток уражанняў, што цяжка з ім саўладаць, табе здаецца, што ўсё важна, што нічога нельга ўпусціць, пра ўсё трэба расказаць. Нарэшце, супакойваеш сябе тым, што трэба яшчэ і яшчэ раз сюды прыехаць, каб больш-менш глыбока напісаць пра народнае мастацтва, што ты зусім не прафесіянал і таму, як можаш, раскажы пра ўбачанае і адчутае — пра тое, што ўсхвалявала сэрца.

Слова «гуцул» паходзіць ад румынскага «гуц» («мсцівец»). Гуцул, як тут кажуць, — гэта ўкраінец, які некалі збег у горы ад прыгнятальнікаў і помсціў ім. Таму, магчыма, натуральна было б пачаць з апавядання пра зброю гуцула, якую ён умеў рабіць, удала спалучаючы дрэва і метал, любіў упрыгожваць гравіроўкай і інкрустацыяй. Але пра характар і моц гуцульскай зброі лепш за ўсё раскажа легенда. Вось яна.

Там, дзе дуб цалуецца з хмараю, дзе злы вецер шпурляе снегам, гуляў горды важак апрышкаў Алекса Доўбуш. Не ведаў ён страху ні перад стрэлам варожым, ні перад зверам дужым. Але сталася так, што выдаў доўбушава войска папоўскі сын. Закавалі ўсіх апрышкаў паны ў кайданы, адабралі зброю. А ноччу разарваў ланцугі магутны Алекса, усіх пабрацімаў вызваліў. Уцяклі яны зноў у горы. Засумаваў славуты важак — чаго варты апрышка без крэсіва і пістолі? Да яго падышоў парубак. «Не гожа табе, Доўбуш, пахмурным хадзіць. Знаю я майстра, які зробіць усяму нашаму гурту і крэсівы, і пістолі. А трэба даць яму для гэтага дванаццаць дзён і дванаццаць начэй. Нікому ён ніколі не даваў зброі сваёй, а табе дасць. Калі бярэцца ён за работу — жанкі перастаюць прасці, каб не запрасці шчасця стральцоў, каб вораг не кружыўся, як верацяно...» Сто крэсіваў і сто пістоляў майстар падарыў Доўбушу, а яшчэ і сто ражкоў для пораху. Была гэтая зброя прыгожая і цудадзейная. Ніводзін жандар не мог пацэліць у апрышка, а апрышкава куля ляцела прамесенька да варожага сэрца. І з таго часу не ведалі апрышкі, што гэта значыць — уцякаць ад лютага ворага.

Здаўна гуцул прагнуў упрыгожыць свой побыт. Матэрыял для вырабаў даваў карпацкі лес. Стол, ложак, кубак, лаўка арнаментаваліся так званаю «сухою» разьбой. З часам «сухую» разьбу пачалі спалучаць з інкрустацыяй металам, перламутрам, бісерам, мораным дубам, а таксама іншымі пародамі дрэў. Майстрам быў бадай кожны жыхар. Але найбольш праславіўся Юрый Шкрыбляк (1822—1884), ад якога пайшла цэлая дынастыя майстроў Шкрыблякоў. Гэты самавук-разбяр з Яварава аддаваў перавагу «сухой» разьбе, хоць часам спалучаў яе з інкрустацыяй медным дроцікам, барановым рогам. Філігранная тонкасць разьбы, чоткі рытм вылучаюць любую рэч, зробленую некалі майстрам.

Да аднаго ўжо з сучасных чарадзеяў-майстроў я завітаў у Косаве. Васіль Іванавіч Кабын — член Саюза мастакоў Украіны. Я невыпадкова падкрэсліваю гэта, бо справа народнага мастацтва, клопаты аб узбагачэнні і далейшым развіцці народнага промыслу пастаўлены тут, як кажуць, на высокі ўзровень. У свой час Кабыну не давялося вучыцца ў інстытуце, але вось ужо пяцьдзесят гадоў, як ён аддадзены цалкам мастацтву. Настаўнікам сваім ён лічыць старога косаўскага майстра Васіля Дэўдзюка. Кватэра Кабына нагадвае музей. Прыхільнік сухой разьбы і інкрустацыі, ён стварае касеткі (прамавугольныя шкатулкі), раквы (круглыя шкатулкі), бачыўкі (мініяцюрныя бочачкі), пагарцы (драўляныя кубкі), тройцы (падсвечнікі), файкі (люлькі)... Здаецца, пералік можна весці бясконца. І хай то будзе медальён ці пацеркі, пісьмовы прыбор ці перачніца — ва ўсім адчуваецца чоткасць апрацоўкі і, пры даволі багатым арнаменце, нейкая зграбнасць. У Кабына адна рэч ніколі не паўтарае другую. Я бачыў яго калыску (з крэслам), выстаўленую ў Івана-Франкоўскім музеі, і калыску ў яго хаце, зробленую для ўнука. Калыска, што экспануецца ў музеі, зроблена ў стрыманай форме, пры чоткай арнаментацыі і строгай сімволіцы. Афармленне калыскі для ўнука Любаміра — больш раскаванае, з выкарыстаннем рэалій дзіцячага свету.

Была нядзеля, і я пайшоў на косаўскі базар, які славіцца тут на ўсё наваколле. На кожным кроку сустракаюцца жанкі ў вышытых кофтачках, распісаных кіптарыках (кажушках без рукавоў). Я захацеў сфатаграфаваць маленькую дзяўчынку ў прыгожа расшытай узорамі сукенцы, а бацька яе кажа: «Каб ведалі такое, то яна надзела б яшчэ прыгажэйшую». На платах паразвешаны вядомыя на ўвесь свет карпацкія кілімы, лежнікі з воўны. Здаецца, сюды спусцілася з гор уся Гуцульшчына, каб падараваць людзям сваё характэрна, сваю радасць. І я не паверыў экскурсаводу Івана-Франкоўскага музея, якая ў зале, дзе экспануецца дзівоснае гуцульскае адзенне, «па сакрэце» сказала, што зараз на Гуцульшчыне не ходзяць у нацыянальных уборах, што гэта, маўляў, толькі ў кіно паказваюць.

Косаў — традыцыйны цэнтр народнай творчасці: разьбы па дрэве, мастацкай керамікі, ткацтва, вышывання, апрацоўкі каляровых металаў, вырабаў са скуры. Усё гэта сёння можна набыць, і яно мае попыт. У Косаве створана прамыслова-мастацкае аб'яднанне «Гуцульшчына», працуе тэхнікум народных мастацкіх промыслаў. Любоў і проста сардэчную павагу не толькі да свайго адзення ці народных вырабаў, а ўвогуле да ўсяго народнага, нацыянальнага я асабліва адчуў, калі папрасіў чатырохгадовага ўнука Кабына — Любаміра прачытаць якія-небудзь украінскія вершы. З вуснаў чатырохгадовага дзіцяці пяшчотна паліліся радкі:

Мова рідна, слово рідне,  
Хто вас забуває,  
Той у грудях не серденько —  
Тільки камінь має.

За кіламетраў дваццаць ад Косава, на беразе імклівай і, як усе горныя рачулкі, даволі сярдзітай Пістыні ста-



На Ужоцкім перавале.





На вуліцах закарпацкіх гарадоў — моладзь, моладзь, моладзь...



Гуцул з Ярэмчы.



Добры настрой.



Лёгка ўзносяцца над гарамі помнікі дойлідства.

іць вёска Шашоры. Сюды я трапіў да вядомай ткаллі Ганны Васільеўны Васілішчук. Вось і невялікая хата яе — побач ужо будавалася новая, прасторная. Я хваляваўся, ці адбудзецца гутарка, ці ўзнікне кантакт, бо, як мне сказалі, вельмі ж шмат тут бывае наведвальнікаў — турысты, мастацтвазнаўцы, наогул цікаўныя людзі. На твары Ганны Васільеўны я ўбачыў такую прыязна-ласкавую ўсмешку, што падумаў толькі адно — у гэтай хаце пануе свет дабраты і хараства. Любімы паэт Ганны Васільеўны — Тарас Шаўчэнка. Па матывах творчасці Кабзара яна стварыла каля 80 ручнікоў. За лепшыя з іх ёй прысуджана Дзяржаўная прэмія УССР. Ручнікі Васілішчук — я падкрэсліваю, яны тканыя на кроснах, не вышываныя — можна разглядаць бясконца. I ўсё знаходзіш новыя колеры і ўзоры, новыя тэмы. Тут «Сонце іде і за собою день веде» і «Нашчо мені карі очі», «Зоре моя вечірняя» і «Іван Підкова»...

— Па-сапраўднаму, творча я стала адносіцца да працы з шэсцьдзесят чацвёртага року, — расказала Ганна Васільеўна. — Раней ткала так сабе. Рыгор Мястэчкін, мастацтвазнаўца з Кіева, мне параіў: «Як маеце любімую песню, то стварыце пра яе ручнік». Я зрабіла першы ручнік на песню «Гуцулка Ксеня», або як яшчэ яе называюць «Темна нічка гори вкрила». Песня гэта створана ў Шашорах. Мне цяжка было перадаць стан, як страдае душа, спалучаючы зялёны колер карпацкай паланіны з фарбамі цёмна-сіняй ночы. Узяла яшчэ чорны з чырвоным. Узоры я добра ведаю, а пра колеры мне шмат расказваў мастак Рыгор Сініца... А вось паглядзіце, ручнік — пра цяжкую долю Тараса, яго жыццё. Мне хацелася, каб гэтыя малюсенькія светлыя ўзоры нагадалі нараджэнне Тараса, а ўзоры, што палаюць, нібы вогнішчы, — апавяданні дзеда Івана пра гайдамакаў. Тут у мяне пайшла палоска чорных сардэчкаў, бо дзіця асірацела. А гэтыя кветкі гавораць пра выкуп Тараса з прыгонніцтва, пра яго волю. Далей я расказваю пра першы зборнік «Кабзар...» Бачыце, ручнік доўгі, як жыццё. Мне дужа словы паэта памагаюць, твор мяне сам вядзе. Першы верш, пачуты мною ў дзяцінстве, быў верш Шаўчэнкі...

Так, кожны чалавек упершыню сустракаецца з мастацкім творам у дзяцінстве. А потым праз усё жыццё пранось імя таго пісьменніка, чый твор адкрыў яму дарогу ў свет мастацкіх вобразаў, у свет праўды і хараства. I некалі для мяне першым такім пісьменнікам быў таксама Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка. Тады, за буржуазнай Польшчай, у нашай хаце вісеў яго партрэт. Як зараз памятаю: паэт быў намаляваны ў чорнай каракулевай шапцы і кажуху. Гэта найпершае дзіцячае ўражанне. Потым у нашу сям'ю прыйшла Тарасава песня «Садок вишневий коло хати», якую напявала маці вечарамі. Тая песня хвалявала нас, дзяцей. Але я змаўчу, хай пра гэта раскажа наш Янка Купала:

Чаму ў сэрцы беларускім
  Песня Тарасова
Адгукнулася, запела
  Зразумелым словам?
Чаму вецер з Украіны
  З думкаю крылатай
Далятаў да Беларусі
  І шумеў над хатай?
Бо йшла доля беларуса
  З доляй украінца
Аднальковa — у поце, у слёзах,
  Церневым гасцінцам.

Тарас Шаўчэнка блізкі беларусам яшчэ і таму, што ў мінулым стагоддзі, калі Беларусь не мела Купалы і Коласа, Шаўчэнка быў выразнікам і нашых дум, і нашых спадзяванняў. З пашанаю да бессмяротнага Кабзара жыхары майго роднага Брэста назвалі адну з найпрыгожых вуліц горада бульварам Шаўчэнкі. Выносістыя маладыя таполі праводзяць вуліцу да самай рэчкі, да паўднёвай ускраіны горада і шапочуць, пасылаючы сваё прывітанне Украіне, радзіме вялікага паэта, чые творы любыя сэрцу кожнага беларуса.

Я не пабаяўся гаварыць так доўга, бо ўвесь час Ганна Васільеўна вельмі ўважліва слухала, а калі скончыў, яна пачала чытаць творы Шаўчэнкі. Затым Руданьскага, Стафаніка. У яе ціхім, па-хатняму мілым вымаўленні столькі шчырасці і непасрэднасці, столькі «свайго», душэўнага, што мне было на момант здалося — гэта яе творы, яна іх напісала. Пачынаеш гадаць, што ж яна лепш робіць: тчэ ручнікі ці чытае вершы? I калі яна разгарнула наступны ручнік, то ў пералівах зялёных, чырвоных і чорных узораў узнік новы матыў: пажары, смерць і кроў, перад табой паўстаюць стэп, маці салдата, абеліскі. I нібы самі прыходзяць словы з украінскай песні:

Степом, степом йшлі у бій солдати,
Степом, степом даль заволокло...
Мати, мати жде свого солдата,
А солдат спить вічним сном.

Як і ў нас, у Беларусі, тут жыве памяць аб Айчыннай вайне, памяць аб праяўленым гераізме і панесеных ахвярах.

Маё падарожжа па Прыкарпацці заканчвалася ў Ярэмчы. Тут яшчэ і яшчэ раз адчуваеш, што тая братэрская еднасць, якая замацавалася сёння паміж народамі-суседзямі, вырастала на карэннях гісторыі, гісторыі даўняй і нядаўняй.

У музеі партызанскай славы ў Ярэмчы вісіць партрэт прыгожай беларускай жанчыны Аляксандры Карпаўны Дзямідчык. Па заданні С. А. Каўпака і С. В. Руднева яна прабралася ў размяшчэнне славацкай вайсковай часці і перадала яе камандзіру падпалкоўніку Іозэфу Гусару пісьмо партызанскага камандавання з заклікам змагацца супроць фашыстаў. Яна не спадзявалася, што вернецца жывой, і таму апранула чорную сукенку. Але падпалкоўнік перадаў ёй карту дыслакацыі бліжэйшых нямецкіх гарнізонаў і сказаў, што не будзе перашкаджаць пераходу асобных салдатаў на бок партызанаў. У адным злучэнні з Аляксандрай Карпаўнай Дзямідчык змагаўся ўкраінскі паэт Платон Варанько.

Перад подзвігам салдатаў і партызанаў, вядомых і невядомых, жывых і загінуўшых, тут кожны нізка схіляе галаву... Гарады-героі Масква, Кіеў, Адэса, Ленінград прыслалі жменю сваёй легендарнай зямлі.

Імя кожнага загінуўшага пры вызваленні Ярэмчы і вёсак Надварнянскага раёна навечна запісана ў музеі на памятных дошках. На брацкай магіле ніколі не вянуць кветкі. Сэрца зашчымела, калі ўбачыў жменю зямлі з гераічнай Брэсцкай крэпасці. Побач — зямля, прысланая роднымі і блізкімі воінаў-грузінаў, загінуўшых пры вызваленні Ярэмчы. Былыя партызаны прывезлі зямлю з Спадшчанскага лесу на Сумшчыне, дзе ўзнік атрад С. А. Каўпака. Для мяне цікава было даведацца, што каўпакоўскі рэйд на Карпаты пачынаўся ў раёне сяла Мілашэвічы і хутара Канатоп Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

Зусім непадалёку ад Ярэмчы, паміж гор, знаходзіцца месца, дзе адбываўся прарыў, які ў гісторыі атрымаў назву Брусілаўскага. Чамусьці сёння мала дзе прачытаеш, што за праяўлены гераізм у час прарыву В. І. Чапаеў і С. А. Каўпак былі ўзнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі. Агульная дарога, што засеяна зернямі гераізму і вялікай дружбы, пачалася вельмі даўно, аж ад часоў «Слова аб палку Ігаравым».

...Удалечыні віднеецца перавал «Беркут» — там пачынаецца Закарпацце. Яно таксама кліча да сябе.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

Фота **В. Ждановіча і У. Мяжэвіча.**



# ХЛОПЕЦ З БЕЛАЙ ДУБРОВЫ

З ім я знаёмы даўно. Пры апошняй нашай сустрэчы ён адразу спытаў:
— Вы ў нашым цэху былі?
— Даўнавата.
— Шкада. Цяпер яго не пазнаеш. Вакол зеляніна. Залюбуешся. Дрэвы, кусты ўжо свае ёсць. І яшчэ — салаўі. Спяваюць проста пад вокнамі... Але гэта не ўсё. Ці чулі вы, наша прадукцыя — спірты — цяпер са Знакам якасці. На сусветны рынак выйшлі. Ад рэалізацыі метанолу толькі за апошні год атрымалі больш чым 700 тысяч рублёў звышпланавага прыбытку. Прыходзьце, паглядзіце, як працуем пад салаўіны спеў!..

І я пайшоў. Трапіў на другую змену. Аціхла дзённая мітусня, самы раз пагаварыць. Селі да століка. Міхаіл Кузьміч разгарнуў свой рабочы журнал, прачытаў свежыя запісы. Потым раптам устаў:
— Можа, спачатку пройдзем па цэхах? Тэхніку пакажу.

На кантрольна-вымяральных прыборах пад шклянымі квадратамі і кругамі паволі пагойдваюцца стрэлкі, пёры вычэрчваюць хвалістыя крывыя. Недзе за шчы-

том шчоўкаюць рэле, гамоняць трансфарматары... Абсталяванне працуе на поўную нагрузку.

Звычайная вада, паветра і газ ходзяць па трубаправодах, трапляюць у апараты, то награваюцца, то ахалоджваюцца. Стадыі вытворчасці завуць тут талеркамі. На дваццаць сёмай з іх тэмпературу трэба трымаць у межах 70—72 градусаў па Цэльсію. А дзе ніжэйшая—менш метанолу атрымаеш. Калі ж тэмпература падымецца вышэй—павялічыцца працэнт вады ў ім. Тут глядзі ды глядзі...

І ціск рэгулюецца: у адным месцы памяншаецца, у другім—рэзка ўзрастае; спірт з апошняй калоны ідзе рэктыфікаваны, ачышчаны ад усялякіх прымесяў.

Самі рэктыфікацыйныя калоны вынесены на адкрытую пляцоўку. Яны нагадваюць бочкі, зваленыя на «рабро», заціснутыя хітравата пакручанымі змеямі тоўстых і тонкіх труб. Адна труба высунулася абсечаным канцом з калоны. З яе льецца сцёкавая вада.

Тэхнолаг Міхаіл Кузьміч Прыжанкоў спыніўся перад гэтай трубой, слухае гамонку струменя:

— Адна вада ідзе. А метанол—на склад. Увесь!..

Міхаіл Кузьміч засяроджаны, нейкі ўважлівы без напружання, імклівы, але спакойны. Ад калоны ён зноў ідзе да прыбораў. Тэхніка надзейная, але вока ля яе патрэбна пільнае.

Я нават не спрабую звяртацца да яго. Чуў я ад іншых ды і сам не раз пераконваўся: на рабоце тэхнолаг думае толькі пра работу, сэрцам слухае, па гуках вызначае тэхналагічны рэжым.

Перад тым, як ісці на камбінат, я гутарыў з начальнікам цэха Пятром Антонавічам Князевым. У хіміі ён, як кажуць, зубы з'еў. На шляху да цяперашняга свайго становішча не абмінуў ніводнай пасады: хадзіў у вучнях, быў радавым і старшым апаратчыкам, майстрам, начальнікам змены, аддзялення. Кожны фланец, кожную пракладку мацаў сваімі рукамі. Пётр Антонавіч разам з Міхаілам Кузьмічом укараніў зусім новы рэжым акіслення прымесяў у метанальна-воднай сумесі. Цяпер выключаны доступ непрарэагаванага перманганату калію ў калоны асноўнай рэктыфікацыі. Зроблена гэта не дзеля скарачэння працэсу. Мелася на ўвазе іншае: паляпшэнне якасці спірту і эканомія затрат. Яна склала сто тысяч рублёў.

Змяніўся рэжым падачы паравога кандэнсата ў калоны папярэдняй рэктыфікацыі. І тут неблагая выгада.

Для ачысткі метанолу ад мікрапрымесяў, якія ўтрымлівае азот, вучоныя падабралі марку катыяніту. Ужо была гатова тэхнічная дакументацыя на ўзвядзенне спецыяльнага збудавання. Але ўзводзіць яго не прыйшлося. Умяшаліся рацыяналізатары. Яны значна спрасцілі прапанаваную схему. Патрэба ў абсталяванні, якое меркавалі купіць за мяжой, адпала. Увялі ў дзеянне наяўныя рэзервы. Сваімі сіламі зманціравалі фільтры ачысткі метанолу на катыянітах.

Праца па мантажу фільтраў цягнулася месяц. Адразу ўвялі іх у дзеянне. Лабаранты ўзялі першую пробу. Зрабілі аналіз—вынік цудоўны: мікрапрымесяў тых як і не было, спірт па сваіх паказчыках пераўзышоў сусветныя стандарты.

Неяк праз тыдні тры Міхаіл Прыжанкоў прыйшоў у касу, каб атрымаць зарплату. Узяў грашовую ведамасць, разглядае. Бліжэй да вачэй падносіць, на твары збянтэжанасць: лічба незвычайная. І ён не стаў распісвацца—вярнуў ведамасць назад касіру.

— Замнога грошай, Света. Сума не тая, трэба выправіць.

— Як не тая сума?—здзівілася касірка.—Зарплата плюс сто рублёў па загаду дырэктара хімкамбіната. Прэмія. За фільтры.

— Не чакаў. Але калі так... Дык дзякуй.

П. А. Князеву за інтэнсіфікацыю сінтэзу хімічнай вытворчасці была прысвоена Дзяржаўная прэмія. А праз пэўны час прыйшла яшчэ радасць—яго ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а Міхаіла Прыжанкова ордэнам Леніна.

Я прысутнічаў пры ўручэнні гэтых высокіх узнагарод. Атрымаўшы ордэн, Пётр Антонавіч спакойна сышоў са сцэны актавай залы, а Міхаіл Кузьміч крочыў неяк асцярожна—першая ўрадавая ўзнагарода. І якая! На яго грудзях у промнях сонца ззяў дарагі воблік Ільіча.

— Я рады і за Прыжанкова, і за тое, што ён працуе ў нашым цэху,—шчыра сказаў мне Князеў.—Міхаіл—злітак сілы. Працаўнік з працаўнікоў. Ці чулі пра асабістыя планы хімікаў? Яго ініцыятыва. Ён—пачынальнік спаборніцтва за ганаровае званне ўдарніка Ленінскай вахты на камбінаце. Цяпер ідзе гарачае змаганне за гэтае званне. Прысвоілі ж яго пакуль што шасцярым. І першаму з іх—нашаму Кузьмічу.

Лічбы... Яны кандэнсуюць у сабе сілу, здольнасці людзей. Вось глядзіце. Прыжанкоў за апошнія пяць гадоў больш чым на 15 працэнтаў павялічыў прадукцыйнасць працы, сэканоміў сыравіны і матэрыялаў на 17 тысяч рублёў. Я кажу яму пра гэта. У адказ—толькі ўсмешка.

— Лічбы верныя: ні больш, ні менш,—сказаў і змоўк.

А ў вачах блішчаць жывыя іскрынкі. Я разумею: да вызначанай мэты ён дайшоў нават раней, чым думаў. Але яна, тая мэта, не канчатковая. Не. Гэта толькі вяха на вялікай дарозе, якая вывела яго на арбіту новай пяцігодкі.






Міхаіл Прыжанкоў.

Мне захацелася даведацца пра галоўнае: у чым корань поспеху? У вопыце? Можа на карысць пайшла навука? Ён скончыў рамеснае вучылішча, праходзіў стажыроўку ў вопытных апаратчыкаў на іншых прадпрыемствах краіны, вучыўся на курсах, у тэхнікуме.

Мне здалося, што гэтыя пытанні самыя цяжкія для Прыжанкова. Ён думаў з мінуту-дзве. У яго карых вачах успыхвалі і гаслі іскры: шырокія бровы сталі рухомымі.

— Так, вядома. Без навукі цяжка. Вопыт таксама не капейку каштуе. Але галоўнае ўсё ж не ў гэтым. Проста трэба мець рабочае сумленне. Помню, як бацька... Двухжыльным называлі. Нядаўна пахавалі яго...

Міхаіл гаварыў павольна, а потым зусім сціх. І ўжо іншым, нейкім прыглушаным голасам сказаў:

— Добрую навуку даў баця. Згадаю—і вось ён, перада мной. Вярнуўся ён з калгаснай працы. Стомлены зусім. Выпіў шклянку малака і—за сякеру. А маці:

— Ты што, Кузьма, не напрацаваўся за цэлы дзень? Адпачыў бы хоць хвіліну якую.

— Не, Прося,—кінуў ён з парога.—Без справы сядзець, можна і адубець. Пайшлі, Міхась, пастукаем трохі...

Міша памятае, як сядзеў тады побач, абхапіўшы рукамі парэпаныя ногі. Прыемна пахлі акораныя бёрны, а ён уважліва сачыў, як бацька спрытна завіхаецца, толькі стружкі пырскаюць з-пад сякеры...

— Хачу, сыне,—сказаў бацька,—каб ты, як і я, зямлю любіў. Яна ўвесь белы свет корміць... І каб цяслярную справу адолеў—за плячамі яе не насіць. А там... Жыццё—яно такое... Магчыма здарыцца, што аблюбуеш іншае рамяство. Але, як бы там ні было, трэба, каб людзі не гаварылі благое пра цябе, пра твой род—гэта ганьба, самая страшная!..

Кузьма Фёдаравіч меў залатыя рукі і добрае сэрца. Усё жыццё ён пеставаў зямлю ў беларускай вёсцы Белая Дуброва. І ніхто ніколі не казаў пра яго благога слова. Міхаіл—увесь у бацьку. Усё ўзяў ад яго. Толькі прафесію абраў іншую.

Ехалі вясковыя хлопцы ў Данбас, і ён—з імі. Маці, Праскоўя Архіпаўна, неахвотна збірала сына ў дарогу. Паглядала то на яго, то на мужа і, шкадуючы, ківала галавой.

— Дык што гэта такое, Кузьма? Маем сямёра дзяцей, а застанёмся адны. Разлятаюцца, і ты сабе ні слова. На край свету—у Данбас. Паедзе—ні пабачыцца, ні слова сказаць...

Калісьці Кузьма Фёдаравіч быў на вайсковай службе ў Данбасе. Ён добра ведае і Лісічанск, куды збіраўся яго сын, і гасціннасць украінцаў. Ён сказаў спакойна, але так, каб чулі жонка і ўсе ў хаце:

— Навошта пярэчыць. Ёсць жаданне—няхай едзе. Чыкавы ж пускаюць свайго Валодзю, Казловы—Рамана. Наш ім равеснік. Няхай едзе...

Вось так і пайшоў у людзі Міхаіл. У Лісічанску ў рамесным вучыўся, а ў Варонежы праходзіў стажыроўку. А пасля—у Паўночнаданецк, на хімічны камбінат. Выбару не шукаў. Накіравалі ў цэх рэктыфікацыі метанолу. Ён пайшоў туды. Рыхтавалі да пуску агрэгаты, Міхаіл убачыў першую прадукцыю.

Мінуў год, і Міхаіл Прыжанкоў добра асвойтаўся ля прыбораў. Выпрацавалася сваё чуццё. Паглядзіць і толькі ўсміхнецца: тэмпературу трэба падымаць.

Здаралася, што ў Войкава былі лепшыя паказчыкі. Ён і больш здыме метанолу з адзінкі абсталявання і знізіць страты яго ў кубавой астатку. Дзе прычына? Прыжанкоў пайшоў да тэхнарука.



**Прыйшло пісьмо з Белай Дубровы. Вестку ад землякоў прыйшоў паслухаць і Уладзімір Чыкаў.**

— Мікалай Якаўлевіч, аднолькавыя апараты ў нас з Войкавым і працуем, здаецца, аднолькава, а вось вынікі—розныя.

— Што табе, хлопча, сказаць? Галоўнае—вопыт. А ў цябе яго не хапае. У Войкава больш ведаў.

— Мы ж разам з ім пачыналі. Ён мне сам сказаў: хіміі дагэтуль не нюхаў.

— Хіміі—не. Гэта праўда. А што датычыць вытворчасці? Ён ужо быў слесарам на Нікалаеўскім суднабудаўнічым.

— Ведаю. І ўсё ж... Тут нешта іншае.

— Не зусім так. У цябе *што-небудзь сапсуецца—хутчэй слесара клічаш*, а ён—не, сам ведае, дзе падкруціць ці аслабіць гайку. Зразумеў?

Непадалёку ад цэха капалі катлаван пад новае збудаванне. Грымеў экскаватар, у яго сударгавым гуле быццам чулася нейкая ўзбуджанасць. Нешта такое было і на душы ў Прыжанкова. Ён усё узважваў сказаныя тэхнаруком словы. Хацеў паверыць ім, ды не мог. А што калі перакананцца самому. За гэта ніхто не абгаворыць. Застаўся пасля змены ў цэху. Падышоў да Войкава.

— Хачу, Мацвеевіч, папрацаваць у цябе падручным.

Войкаў высокі, стройны, яшчэ не стары, але ў яго коратка падстрыжаных, ярпыстых валасах пачала ўжо прабівацца срабрыстая шэрань. Твар яго строгі. Ён рэзка сарваў з галавы кепку, кінуў яе на стол.

— Не разумею.

— Ды ты не глядзі на мяне так,—ціха сказаў Міхаіл.—Нічога не здарылася. Я так рашыў, на грамадскай аснове. Хачу паглядзець, як ты вядзеш рэжым.

— Жартаваць захацеў?

— Ды што ты? Я сур'ёзна.

Войкаў зажмурыўся.

— У чужы чаравік—сваю нагу? Ну што ж, сачы! Толькі ўмова: глядзі, колькі ўлезе, а да прыбораў, венцеляў не лезь—сам буду рэгуляваць!..

Міхаіл прабыў ажно дзве лішнія змены. Але затое высветліў усё. Яны з Войкавым на адну і тую ж рэч глядзелі рознымі вачамі: ён строга прытрымліваўся інструкцыі, а Уладзімір пераступіў яе грозную рысу—падняў вышэй нормы тэмпературу на дзесятай талерцы. На якасці спірту гэта не адбілася. Затое ўцечка з адыходнай вадой знізілася з 0,5 да 0,11 працэнта. Адсюль—выгада: на кожнай тоне гатовай прадукцыі Войкаў эканоміў 40 кілаграмаў метанолу.

— Эканомія—гэта добра. Але яна ж у цябе ідзе праз парушэнне інструкцыі. Глядзі, каб не ўляцела за гэта,—папярэдзіў Міхаіл.

Войкаў стаў у позу, скрывіў, нібыта ад жмені журавін, губы:

— Ад каго ж гэта ўляціць? Ад цябе?

— Навошта ты так? Я—што... А вось калі нечакана Мікалай Якаўлевіч даведаецца.

— Ён ужо ўсё ведае, у курсе справы. Дазволіў гэты эксперымент. Калі «адстаіцца» рэжым—унясе дапаўненне да інструкцыі.

Прыжанковым авалодала пачуццё пакутнай няпэўнасці. Як жа так? Гаварыў тэхнарук адно, а на справе—іншае. Пайсці зноў да яго? А калі Валодзька пусціў у вочы туман?

Прыкідваў і так і гэтак. Войкаў—майстар увогуле неблагі, знайшоў у тэхніцы скрытыя сілы, бярэ ад яе больш, чым ён, Прыжанкоў, нават болей, як разлічвалі тыя, хто даў апаратам жыццё. Тым больш загадкава: чаму б пра гэта не сказаць адкрыта, не падзяліцца той навінкай з усімі апаратчыкамі? Няхай бы і яны выпускалі больш прадукцыі, больш эканомілі. Справа ж адна, агульная.

— І да чаго ж прыйшлі?—спытаў я Міхаіла Кузьміча.

— Выступіў на рабочым сходзе. Расказаў усё, як ёсць. Што было пасля? Бура. Субоціну перапала. І Войкаву дасталося на арэхі. І мяне не пагладзілі па галоўцы—Пётр Антонавіч стружку зняў: маўляў, чакаў сходу, не мог раней сказаць. Але нічога. Галоўнае—вынік. Тады ж, адразу пасля сходу, інструкцыю дапоўнілі. А пасля яшчэ я сёе-тое знайшоў.

Не раз і не два мы сустракаліся. І я зразумеў: Міхаіл Прыжанкоў—адкрыты, праўдзівы, сумленны чалавек. І душа ў яго напорыстая, з жарам. Ён не з тых, хто думае перш за ўсё пра тое, каб пагрэць рукі ля аганьку чужой славы. Ён працаўнік, які не ведае, што такое спакой. Сам да ўсяго даходзіў. І ніколі ні ад кога не хаваў сакрэтаў. Добрая сотня маладых рабочых прайшла школу яго майстэрства і цяпер працуе самастойна.

Міхаіл не пройдзе міма добрага. І да адмоўнага не застанецца раўнадушны. Усё заўважае, усё бярэ блізка да сэрца. Не аднаго чалавека ён надзяліў сілай духу, не аднаму дапамог у цяжкую гадзіну.

Аднойчы прыйшла зменная лабарантка Людміла Чупрына браць метанол на аналіз. Глянуў на яе Прыжанкоў—не пазнаць: уся нейкая напружаная, жорсткая.

— У цябе, Люда, нешта непрыемнае?—спытаў.

Жанчына цяжка апусцілася ў крэсла.

— Нешчаслівая, Кузьміч, я. Усё не так, як у людзей.

Жыццё яе ішло не па зялёнай вуліцы. Сірата круглая. Расла без бацькоў. Замуж выйшла. Двое дзяцей нарадзіла. Нялёгка было. А цяпер яшчэ большая бяда: муж пакінуў. Разгубілася: як быць? Дачка пайшла ў школу, а сын маленькі. Аднаго дома не пакінеш.

— А калі ў дзіцячы садзік яго?—спытаў Міхаіл.

— Сказалі: чакай, будзе месца—уладкуем. А ў мяне—сам бачыш...

Міхаіл супакоіў яе, а ў самога душа кіпела. Па-казённаму падышлі. Дзіцячых садоў набудавалі—на пальцах не пералічыш. Амаль у кожным жылым квартале. Няўжо нельга ўладкаваць адно дзіцё? Пайшоў у заўком. А на другі дзень бачылі яго ў горадзе—хадзіў з аднаго садзіка ў другі. І свайго дабіўся. Лабарантка не ведала, як і дзякаваць Міхаілу.

— Ды ты што, Люда? Нічога асаблівага... То ж абавязак. Член гаркома партыі я. І тут, у цэху, ты ведаеш, даручэнне ёсць—прафгрупорг. Людзі, бачыш, давяраюць...

Давяраюць людзі Міхаілу недарэмна. Ён усяго сябе аддае вытворчасці, пра людзей клапоціцца, а пра сябе... За ўвесь час працы ў цэху ні разу не ездзіў у санаторый, нават у доме адпачынку не пабыў.

— Што ж вы так, Кузьміч?—пытаю.

— Так. Трэба было б адпачыць. Але неяк усё не збярúся...

І перавёў размову на іншае. Расказаў пра аднавяскоўцаў, тых хлопцаў-беларусаў, з якімі разам хадзіў у школу і сумесна прыехаў у гэты край. Усе яны працуюць на Паўночнаданецкім хімічным камбінаце. Пятро Лашчанка і Уладзімір Чыкаў выраслі да начальнікаў змен, Раман Казлоў—тэхнік, яго брат Уладзімір—машыніст, карбамід выпрацоўвае. У тым жа цэху працуе машыністам Васіль Варонін. Іван Ярашэнка—старшы апаратчык. Ды і ён, Міхаіл... Толькі ў яго нейкая свая, асаблівая дарога. Раней ён абслугоўваў адну калону, затым—дзве. Сам папрасіўся. Ніхто яму не рабіў ніякай даплаты. І працаваў за двух. Калі скончыў вячэрні тэхнікум, кіраўнікі цэха прапанавалі яму пост майстра ці начальніка змены. Адмовіўся. І на здзіўленне ўсім пайшоў у слесары.

Кажуць, добры салдат носіць у паходным ранцы жэзл маршала. А як Прыжанкоў? Можа, у ягоным ранцы няма зусім такога жэзла?

— Ёсць,—усміхаецца Міхаіл.—Прамацаю ўсё сваімі рукамі, як Пётр Антонавіч некалі мацаў. І тады ўжо можна будзе і майстрам ці на змену стаць.

І ў адносінах да інжынераў ён мае свае меркаванні: адны з іх працуюць, як кажуць, ад званка да званка. І творча не думаюць, ходзяць, так сказаць, па вузкай службовай дарожцы. А варта рабіць так, як Князеў,—дысцыплінаваць свой розум. У асобе Пятра Антонавіча Прыжанкоў бачыць не толькі свайго разумнага, чулага начальніка. Ён для яго—ідэал наогул.

Не думаў Міхаіл Кузьміч, што так горача палюбіць і прыданецкі край, і яго людзей, украінцаў, і хімію. А сталася так. Прыкіпеў тут усім сэрцам. І брата Мікалая ў Паўночнаданецк запрасіў—слесарам працуе ў цэху воцатнай кіслаты. А сястра Соня, тая яшчэ раней сюды пераехала. Таксама на хімкамбінат. І маці тут. Пенсіянерка ўжо. З Міхаілам жыве. У доме гаспадарыць. Унука гадуе. У Белай Дуброве застаўся толькі адзін Пятро.

— Бачыце, не звёўся наш хлебаробскі род,—гаварыў Міхаіл, усміхаючыся сваёй добрай усмешкай.—І за зямлю трымаецца. Бацька ўсё жыццё шчыраваў у полі. А Пятро, сын яго, а мой, значыцца, брат, на машынах па тых палетках ездзіць. Механізатар шырокага профілю. Усё ўмее. Прысылаў газеты, дзе пра яго пісалі ды партрэты змяшчалі. Добра і ён жыве, і землякі. Дастатак прыйшоў да ўсіх...

Радасна, што Міхаіл Прыжанкоў знайшоў тут, у Паўночнаданецку, сярод братоў-украінцаў, сваё шчасце.

**Аляксей ЧЫЖЫК.**

# ЧАРОЎНЫЯ РУКІ

У Кіеве жыве цудоўны чалавек, заслужаны майстар народнай творчасці УССР Мікола Сяргеевіч Сядрысты, мікраменіяцюрыст, які сваімі залатымі рукамі стварае дзівосныя рэчы.

Хто не ведае пра казачнага Ляўшу, які ў свой час падкаваў блыху? Сядрысты яшчэ на пачатку свайго творчага шляху падкаваў блыху меднымі, на сталёвых цвічках, падковамі. А пасля, калі медзь каразіравала, пераклаў яе нанова залатымі падкоўкамі.

Творы чараўніка-майстра можна разглядаць толькі праз спецыяльныя павелічальныя акуляры. Вось мадэль балалайкі з дрэва, у ёй сорак дэталяў. Яна ўкладзена ў чорны паліраваны футарал. Да яе прыкладзены партрэт кампазітара В. В. Андрэева. Усё разам змяшчаецца ў скрыначцы, зробленай з макавага зярнятка.

Шаўчэнкаўскі «Кабзар» — самая маленькая ў свеце кніга. Тры мікраскапічныя томікі могуць змясціцца ў макавым зярнятку. Вершы і малюнкі гравіраваны на лакавых плёначках і павуцінкай, трывалейшай за сталь, ушыты ў пераплёт з пялёсткаў бяссмертніка. Гартаць кнігу можна толькі з дапамогай завостранага валаска.

Галерэя акварэльных партрэтаў на зрэзах яблычных і грушавых зярнятак. Барэльеф украінскай спявачкі на шліфе метэорнай крупінкі. Гравіраваны партрэт на зрэзе чалавечага воласа. Столік, на якім ляжаць два замкі з ключамі: адзін замок сабраны, другі разабраны. Па аб'ёме яны ў пяцьдзесят тысяч разоў меншыя за шпілечную галоўку.

Іх, гэтых казачных цуда-твораў, многа. Электраматорчык такі малюсенькі, што пад лапкай звычайнай лясной мурашкі ён выглядае, як электрабрытва ў руках чалавека. У кубічным міліметры можа змясціцца дзвесце такіх маторчыкаў.

Празрыстая ружа ў бакале з чалавечага валаска. Сарцавіна яго выбрана, і ўнутры — ружа, як жывая.



Самая маленькая на зямлі рэч — сталёвая шахматная фігурка. Іх магло б змясціцца ў макавым зярнятку — тры мільёны! Яны меншыя за некаторыя мікраарганізмы.

...Альбом паэзіі ў макавым зярнятку, паланез Агінскага на пялёстку хрызантэмы, барэльеф актрысы на пясчынцы...

Не верыцца, што ўсё гэта не казка, што ўсё зрабілі чалавечыя рукі.

«Спецыяльнага рацэпту па вырабе інструмента для мікратвораў быць не можа, як немагчымы падручнік па напісанні вершаў і музыкі,— гаворыць Мікола Сяргеевіч.— Тым не менш інструменты ў прынцыпе звычайныя — разцы, напільнікі, пёравыя свёрлы...»

Мікратворы М. С. Сядрыстага вядомыя ў розных кутках свету.

■ ■ ■



# УЗМУЖНЕННЕ

Маладзёжны рух у Балгарыі мае даўнюю і слаўную гісторыю. Ён узнік у канцы мінулага стагоддзя. Пад кіраўніцтвам Балгарскай Камуністычнай партыі моладзь разам з прагрэсіўнымі сіламі сваёй краіны змагалася супраць жорсткай капіталістычнай эксплуатацыі і фашысцкай тыраніі. На працягу больш чатырох дзесяцігоддзяў Саюз рабочай сацыял-дэмакратычнай моладзі (СРСДМ), Балгарскі Камуністычны маладзёжны саюз (БКМС), Рабочы маладзёжны саюз (РМС) зарэкамендавалі сябе выпрабаванымі кіраўнікамі рабочай, сялянскай і студэнцкай моладзі краіны.

Па ініцыятыве партыі яшчэ ў канцы жніўня 1912 года ў горадзе Русе быў скліканы ўстаноўчы сход маладзёжнага рэвалюцыйнага саюза, які аб'яднаў у адну арганізацыю прагрэсіўную моладзь краіны. На ўстаноўчым сходзе прысутнічаў Георгі Дзімітроў. Ад імя Цэнтральнага Камітэта партыі ён вітаў стварэнне Саюза рабочай сацыялістычнай моладзі. У сваёй прамове таварыш Дзімітроў падкрэсліў, што ЦК партыі будзе садзейнічаць росту і ўмацаванню саюза, які павінен стаць моцнай і адзінай баявой арганізацыяй, аб'яднаўшы вакол сябе ўсю пралетарскую моладзь. Вызначаючы галоўную задачу маладзёжнага саюза, Георгі Дзімітроў асаблівую ўвагу ўдзяліў выхаванню юнакоў і дзяўчат, іх падрыхтоўцы да барацьбы за ажыццяўленне вялікага пралетарскага ідэалу — стварэння сацыялістычнага грамадства.

Пад уплывам ідэй Вялікага Кастрычніка Балгарская рабочая сацыял-дэмакратычная партыя (цесных сацыялістаў) пачала ператварацца ў масавую партыю балгарскага пралетарыяту, вызваляцца ад сваіх ранейшых сацыял-дэмакратычных поглядаў і метадаў барацьбы, арыентавацца на засваенне бальшавіцкіх ідэй і тактыкі.

У канцы мая 1919 года БРСДП (цесных сацыялістаў) была перайменавана ў Балгарскую Камуністычную партыю (БКП). Працэс абнаўлення, які пачаўся ў БКП, не мог не закрануць маладзёжны саюз, які знаходзіўся пад непасрэдным ідэйна-палітычным кіраўніцтвам партыі.

Адначасова са з'ездам партыі склікаецца III канферэнцыя СРСДМ, якая аднадушна прыняла праграму і дэкларацыю БКП. Выходзячы з асноўных прынцыпаў дзейнасці маладзёжнага саюза — быць верным памочнікам партыі ў ажыццяўленні яе праграмы,— канферэнцыя пастанавіла перайменаваць СРСДМ у Балгарскі Камуністычны саюз моладзі (БКМС). Ажыццяўленне ленінскіх прынцыпаў і метадаў барацьбы ў значнай ступені садзейнічала таму, што ў 1920 годзе БКМС уступае ў рады Камуністычнага інтэрнацыянала моладзі. Балгарскія дэлегаты рэгулярна ўдзельнічалі ў кангрэсах КІМа, а орган БКМС газета «Младежна правда» шырока прапагандавала рашэнні КІМа сярод балгарскай моладзі.

Яскравай старонкай у дзейнасці Балгарскага камсамола з'явіўся ўдзел у верасьнёўскім паўстанні 1923 года.

Пасля паражэння паўстання пачаліся варварскія праследаванні і дзікія расправы над яго ўдзельнікамі. Жорсткі тэрор і рэпрэсіі вымусілі камсамольскія арганізацыі перайсці ў падполле. У выніку паслабіліся іх сувязі з працоўнай моладдзю. Выходзячы з гэтага, партыя ўсе свае намаганні накіравала на стварэнне легальных маладзёжных арганізацый. Першым крокам да стварэння легальнага маладзёжнага саюза з'явіўся выпуск легальнай маладзёжнай газеты «Младежка дума», вакол якой пачалі ствараццa першыя ячэйкі будучага новага маладзёжнага саюза.

30 студзеня 1927 года «Младежка дума» змясціла карэспандэнцыю з Пірдопскага краю аб рабоце мясцовай маладзёжнай арганізацыі на чале с сакратаром Іванам Пеневым. Заметка заканчвалася заклікам стварыць класавую легальную арганізацыю працоўнай моладзі. Пачатак паклала працоўная моладзь Сафіі, якая 3 красавіка 1927 года абвясціла аб стварэнні легальнага саюза моладзі — РМС. У канцы красавіка наступнага года яна звярнулася з прапановай да ўсіх гарадскіх і сельскіх арганізацый краіны склікаць устаноўчы сход.

24 мая 1928 года з'ўляецца днём нараджэння легальнай арганізацыі балгарскай моладзі — Рабочага маладзёжнага саюза (РМС). Статут РМС быў выпрацаваны на аснове ленінскіх арганізацыйных прынцыпаў, вопыту міжнароднага камуні-

стычнага руху моладзі і галоўным чынам ВЛКСМ, з улікам спецыфічных умоў Балгарыі.

У ходзе барацьбы за эканамічныя і палітычныя інтарэсы моладзі, за дэмакратыю і мір РМС мужнеў арганізацыйна і ідэйна. Пераносячы сваю дзейнасць на прадпрыемствы, у вёску, у пярвічныя арганізацыі, ён умацоўваў свае нелегальныя і легальныя пазіцыі. К канцу 30-х гадоў у Балгарыі амаль у кожным горадзе, у кожнай вёсцы была свая маладзёжная арганізацыя альбо група. Усё гэта гаворыць аб тым, што РМС працаваў з бальшавіцкім уменнем, кіраваў барацьбой юнакоў і дзяўчат супраць галоўнага ворага — фашызму.

Калі партыя разгарнула шырокую ўзброеную барацьбу супраць фашызму ў перыяд 1941—1944 гадоў, РМС прыняў самы актыўны ўдзел у гэтай барацьбе. Члены РМС складалі асноўнае ядро партызанскіх атрадаў і брыгад. Назаўсёды застанецца ў памяці балгарскага народа гераічны подзвіг яго адважных сыноў і дочак, такіх як Йардана Ніколава, Аляксандр Дзімітроў (Сашо), Адалберт Антонаў (Малчык), Свілен Русеў, Ліляна Дзімітрова і шмат іншых.

Перамога народнага антыфашысцкага паўстання 9 верасня 1944 года з'явілася адной з самых значных падзей у шматвяковай гісторыі Балгарыі. У гэты час партыя паставіла перад РМС задачу: аб'яднаць у адзіную класавую арганізацыю моладзі ўсе маладзёжныя саюзы, каб больш актыўна садзейнічаць камуністычнаму выхаванню юнакоў і дзяўчат і накіроўваць іх энергію на барацьбу за гаспадарчую перабудову краіны. Стварэнне адзінай маладзёжнай арганізацыі ў Балгарыі праходзіла пад непасрэдным кіраўніцтвам Георгія Дзімітрова і закончылася аб'яднаннем усіх маладзёжных саюзаў у адзіную баявую, антыфашысцкую, грамадска-культурную, патрыятычную арганізацыю прагрэсіўнай балгарскай моладзі. У такой абстаноўцы 21 снежня 1947 года ў Сафіі сабраліся дэлегаты моладзі ўсёй краіны, якія зацвердзілі стварэнне Саюза народнай моладзі (СНМ).

Такім чынам было здзейснена поўнае арганізацыйнае і палітычнае адзінства моладзі, падрыхтаваны ўмовы для яе марксісцка-ленінскага выхавання.

У снежні 1948 года адбыўся V з'езд БКП. З трыбуны з'езда партыя заклікала народ шляхам індустрыялізацыі і электрыфікацыі краіны, механізацыі земляробства дамагчыся, каб за 15—20 гадоў закласці асновы сацыялізму ў Балгарыі. Палымяны заклік партыі знайшоў гарачую падтрымку ў шэрагах моладзі. Маладыя рабочыя заводаў станавіліся ініцыятарамі сацыялістычнага спаборніцтва, наватарамі вытворчасці. Ствараліся першыя маладзёжныя звенні, фермы, трактарныя брыгады. Партыя высока ацаніла дзейнасць Саюза народнай моладзі ў будаўніцтве сацыялізму. Указам Прэзідыума Народнага Сходу СНМ у 1949 годзе быў узнагароджаны «Залатым ордэнам працы».

2 чэрвеня 1949 года памёр Георгі Дзімітроў, вялікі сын Балгарыі, любімы настаўнік моладзі. У тыя жалобныя дні СНМ прыняў імя свайго правадыра і стаў называцца Дзімітроўскім саюзам народнай моладзі (ДСНМ).

27 лістапада 1949 года на сваім з'ездзе моладзь краіны аднадушна адобрыла рэзалюцыю аб перайменаванні саюза. Дэлегаты рашылі аб'явіць з'езд IX з'ездам Дзімітроўскага Камуністычнага Саюза моладзі.

IX з'езд увайшоў у гісторыю камсамола Балгарыі важкасцю рашэнняў аб ролі камсамола ў развіцці маладзёжнай навуковай і тэхнічнай думкі, паляпшэнні патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання, аб паходзе моладзі за масавую фізічную культуру. З'езд заклікаў балгарскую моладзь настойліва авалодваць марксізмам-ленінізмам. Рашэннем з'езда камсамол узяў шэфства над самымі буйнымі будоўлямі — металургічным камбінатам у Крэмікоўцах, азотнатукавым заводам у Старой Загоры, цеплаэлектрастанцыяй «Марыца—Усход».

У маі 1959 года ЦК БКП прыняў зварот да балгарскага народа з выпадку 15-й гадавіны ўзброенага народнага паўстання 9 верасня 1944 года. Зрабіўшы агляд развіцця краіны, ён заклікаў усіх працоўных прыняць самы актыўны ўдзел у барацьбе за датэрміновае выкананне трэцяга пяцігадовага плана. Паміж гарадамі, прадпрыемствамі і кааператыўнымі гаспадаркамі разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва. У агульнанародную справу актыўна ўключылася і моладзь. У барацьбе за паскоранае эканамічнае развіццё сярод рабочай моладзі Габрава нарадзілася ганаровая назва «Брыгада ўдарнай камсамольскай працы». Узнікшы на прыкладзе руху за камуністычную працу ў Савецкім Саюзе, рух брыгад за ўдарную камсамольскую працу быў узначалены камсамолам і атрымаў падтрымку партыі. Ён хутка разросся і ахапіў усю краіну. Гэта спрыяла развіццю навукова-тэхнічнай думкі ў краіне, паляпшэнню арганізацыі працы.

Вялікае значэнне, якое партыя надае рабоце сярод моладзі, знайшло сваё адлюстраванне ў тэзісах Палітбюро ЦК БКП (12 кастрычніка 1967 года) і ў рашэннях Пленума ЦК БКП (26 і 27 снежня 1967 года) аб рабоце з моладдзю і камсамолам.

Пленуму папярэднічала двухмесячная дыскусія ў друку аб шляхах далейшага развіцця і ўмацавання маладзёжнага саюза. Амаль усе юнакі і дзяўчаты ў ходзе дыскусіі на пытанне аб важнейшых напрамках у дзейнасці ДКМС адказалі:



— камуністычнае, класавае выхаванне;

— непасрэдны ўдзел ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці краіны;

— цікавасць да тэхнікі, навукі, спорту, турызму, мастацкай самадзейнасці.

У прынятых дакументах падкрэслівалася, што павышэнне ролі і аўтарытэту ДКМС у палітычным, эканамічным і грамадскім жыцці Балгарыі з'яўляецца важным момантам і неад'емнай часткай далейшага ўдасканалення сацыялістычнай дэмакратыі. Камсамол павінен стаць галоўным арганізатарам фізкультурнай і турыстычнай работы, ваенна-патрыятычнага выхавання і дапрызыўнай падрыхтоўкі, мастацкай самадзейнасці, тэхнічнай творчасці сярод моладзі. Камсамолу была перададзена неабходная матэрыяльная база: стадыёны, ціры, базы тэхнічнай творчасці, шэраг дамоў моладзі.

Па рашэнні партыі пры Савеце Міністраў НРБ быў створаны Камітэт па пытаннях моладзі і спорту. Камітэт узначальвае першы сакратар ЦК ДКМС.

Згодна з рашэннямі снежаньскага Пленума ЦК БКП і XI з'езда ДКМС распрацаваны і зацверджаны сімвалы і традыцыі ў Дзімітроўскім Камуністычным саюзе моладзі і Дзімітроўскай піянерскай арганізацыі «Септэмврыйчэ».

Дзімітроўскі камсамол мае свой сцяг, значок і марш. Камсамольскія арганізацыі носяць імёны герояў рэвалюцыі, вайны, працы і ганаровых членаў Ленінскага камсамола. У традыцыю ўведзены камсамольскі парад, урачыстая камсамольская паверка, ганаровая камсамольская варта. Кожная арганізацыя ўрачыста адзначае Дзень балгарскай моладзі, провады ў армію, 2 чэрвеня — Дзень памяці герояў, а 8 снежня — нацыянальнае студэнцкае свята. Праводзяцца святы ўраджаю, уступлення ў шэрагі рабочага класа, дзень выпускніка.

Арганізаваным і згуртаваным атрадам, авангардам маладога пакалення з'яўляецца Дзімітроўскі Камуністычны саюз моладзі, які ўступіў у сваё другое 50-годдзе.

ДКМС сёння гэта:

— звыш 31 тысячы пярвічных арганізацый і 17 тысяч груп — на кожным прадпрыемстве, будоўлі, у кожнай гаспадарцы, навучальнай установе альбо ў воінскім падраздзяленні;

— арганізацыя, больш паловы якой складаюць маладыя рабочыя, кааператары, інжынеры, што сваёй працай і ўменнем памнажаюць матэрыяльныя багацці краіны, аддаюць свае веды і талент на паскарэнне тэхнічнага прагрэсу;

— каля паўмільёна студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў, вучылішчаў і гімназій, якія рыхтуюцца стаць кваліфікаванымі, адукаванымі і ідэйна загартаванымі спецыялістамі.

Саюз моладзі выдае 23 маладзёжныя газеты і часопісы разавым тыражом звыш мільёна экземпляраў. Кожны год камсамольскае выдавецтва выпускае звыш 2 мільёнаў экземпляраў кніг. Да паслуг юнакоў і дзяўчат — маладзёжная радыёстанцыя «Гарызонт», маладзёжная рэдакцыя тэлебачання.

25 тысяч маладых камуністаў знаходзяцца на выбарнай камсамольскай рабоце і складаюць касцяк усяго актыву арганізацыі.

ДКМС супрацоўнічае з 220 маладзёжнымі і студэнцкімі арганізацыямі ўсіх кантынентаў планеты.

З году ў год мацнее супрацоўніцтва паміж ВЛКСМ і ДКМС. Ідэя Ленінскага заліку знайшла шырокую падтрымку ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях Балгарыі. Балгара-савецкі клуб творчай моладзі стаў прыкметнай з'явай у культурным жыцці нашых краін.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ,**
**аспірант Інстытута гісторыі**
**АН БССР.**

■ ■ ■




# 1972

## ЛІСТАПАД

**3**

90 гадоў з дня нараджэння (1882) Якуба Коласа (К. М. Міцкевіча), народнага паэта Беларусі. Памёр у 1956 годзе.

60 гадоў з дня нараджэння (1912) В. П. Палескага (Станкевіча), беларускага драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памёр у 1971 годзе.

**4**

85 гадоў з дня нараджэння (1887) Цішкі Гартнага (З. Х. Жылуновіча), вядомага беларускага пісьменніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Памёр у 1937 годзе.

**6**

45 гадоў назад (1927) у Мінску ўступіў у строй першы ў Беларусі хлебазавод.

**7**

55 гадоў (1917) Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

**8**

55 гадоў назад (1917) быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронту на чале з А. Ф. Мясніковым.

**9**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Н. Ф. Сакалоўскага, беларускага кампазітара, аўтара Дзяржаўнага гімна БССР. Памёр у 1950 годзе.

**10**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) Л. Б. Гейлера, доктара тэхнічных навук, прафесара-кансультанта кафедры электраабсталявання і аўтаматызацыі прамысловых установак Беларускага політэхнічнага інстытута.

**11**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) Ю. Б. Беленькага, доктара тэхнічных навук, прафесара кафедры аўтамабіляў Беларускага політэхнічнага інстытута.

**14**

30 гадоў з дня гібелі (1942) К. С. Заслонава, Героя Савецкага Саюза.



Вячаслаў Палескі.



Цішка Гартны.

**15**

55 гадоў з дня падпісання (1917) У. І. Леніным «Дэкларацыі правоў народаў Расіі».

**17**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) В. С. Швяцова, беларускага мастака-графіка.

**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) М. А. Машары, беларускага пісьменніка.

60 гадоў з дня нараджэння (1912) П. Н. Кавалёва, беларускага пісьменніка.

**19**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Анатоля Вольнага (А. І. Ажгірэя), беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памёр у 1937 годзе.

**20**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) А. П. Воінава, вучонага-архітэктара, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР, прафесара кафедры архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута.

**22—29**

45 гадоў назад (1927) праходзіў XI з'езд КП(б)Беларусі.

**26**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Р. Х. Даўгялы, прафесара І кафедры шпітальнай тэрапіі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

**28**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) А. М. Шаўчэнкі, беларускага мастака-жывапісца.

**29**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) М. В. Дземенева, доктара тэхнічных навук, прафесара, загадчыка кафедры хіміі Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава, акадэміка Акадэміі навук Кіргізскай ССР.

**ЛІСТАПАД**

15 гадоў назад (1957) у Мінску адкрыўся Дзяржаўны мастацкі музей БССР.



Міхась Машара.



Анатоль Вольны.

**● Сяргей САМУШЧОЎ,**
**заслужаны**
**настаўнік БССР**

# ШКОЛЬНЫЯ БУДНІ

## СУСТРЭЧА

Лёнька Мінаў ніколі не бачыў в'етнамцаў, хоць і вучыўся ў сталічнай школе. Праўда, каб не маніць, ён іх бачыў па тэлебачанні, але то ж па тэле... А вось так, блізка-блізенька — ніколі. А як хочацца з імі сустрэцца, расказаць, што ён, Лёнька, з 4-га «А» больш за ўсіх сабраў макулатуры, калі даведаўся, што ўсе выручаныя грошы будуць накіраваны ў В'етнам. Але потым падумаў: ці добра хваліцца? Сапраўдныя сябры памагаюць моўчкі, без лішніх слоў.

І толькі падумаць! Нібы па Лёнькавым загадзе, у іх клас увайшла старшая важатая і абвясціла, што сёння ў школу прыдуць в'етнамскія студэнты.

— Здарова! — усклікнуў Лёнька.

Ён жыў цяпер толькі В'етнамам. Перад яго вачамі паўставалі велізарныя сосны, бярозы, за якімі хаваўся вораг. Ён добра бачыў, што гэта вораг, бо на касках былі фашысцкія павукі...

«Вунь яны! Страляй!» — ужо гатоў быў крыкнуць Лёнька, але спакойны голас настаўніцы перабіў яго думкі:

— Мінаў! Ты з кім гэта ваюеш?

Лёнька ўздрыгнуў, моўчкі сцяў кулакі: «Эх, выпусцяць гадаў...»

Трывожна прайшоў у яго той урочны час. Пасля ўрокаў Лёнька заспяшаўся ў актавую залу.

...Як толькі дзверы актавай залы адчыніліся, хлопчыкі і дзяўчынкі падхапіліся са сваіх месцаў і стоячы віталі гасцей. Тыя падняліся на сцэну і селі за стол. Настала цішыня.

Ліля Фёдараўна, іх кіраўнік, пачала расказваць пра тое, што в'етнамскія студэнты паўгода ўжо вучацца ў Мінску. Яны вельмі старанныя і настойлівыя.

— Зойдзем да іх позна вечарам, а яны сядзяць над падручнікамі, вучаць. Ды няхай вам раскажуць пра сябе яны самі. Табе слова, Гі Ен.

«Хто ж такі Гі ен?» — думае Лёнька і ўглядаецца ў гасцей.

Ніхто не падымаецца. Толькі адзін апусціў нізка галаву.

«Чаго ён так баіцца, тут жа ўсе свае»,— думае Лёнька, і яму хочацца крыкнуць: «Смялей, смялей, Гі Ен!»

І Гі Ен, нібы адчуўшы падтрымку, падняўся, агледзеў залу. Лёньку здавалася, што Гі Ен затрымаў свой позірк на ім і толькі тады пачаў гаварыць — нетаропка, узважваючы кожнае слова:

— Дазвольце ад усіх в'етнамскіх студэнтаў перадаць вялікае прывітанне...

Лёнька аж падаўся ўперад ад здзіўлення: «Ого, усяго паўгода вучыцца, а як гаворыць па-нашаму!»

— У нас у В'етнаме школы не такія,— сказаўшы гэта, Гі Ен змоўк.

Лёнька бачыў, як мяняецца яго твар, які суровы становіцца позірк.

— Амерыканскія самалёты ляжаць на небе...— Гі Ен запнуўся, змоўк, і хоць усе ведалі, што самалёты не могуць ляжаць на небе, ніхто не ўсміхнуўся: чакалі, што ён скажа далей.

— Яны што ўбачаць на зямлі — усё гэта разбураюць. Школы пагэтаму будуюць пад зямлёй.

Гі Ен расказаў, што дзецям часцей за ўсё прыходзіцца вучыцца ноччу, бо ўдзень трэба працаваць у полі за старэйшых, якія на фронце.

— У нас гавораць, што вучоба — гэта таксама фронт. Таму нашы дзеці вучацца вельмі добра. Усё.

Гі Ен сеў, стомлены сваім кароткім выступленнем.

Пачаў гаварыць Ту Ань. Пра тое, як дзеці В'етнама вучацца і што вучыцца ў зямлянцы ноччу няўтульна і нядобра.

— Цяжка ім там,— шапнуў Лёнька свайму суседу.

— Нялёгка,— уздыхнуў той.— Ды ты лепш слухай.

Лёнька больш не звяртаўся да суседа. Ён ужо слухаў Ту Аня, які гаварыў:

— Мы любім Маскву. Вы таксама любіце Маскву. Я буду гаварыць маленькі верш аб Маскве,— і, выразна вымаўляючы кожнае слова, прачытаў некалькі радкоў з верша «Мая Масква».

— Цяпер нашы дзяўчынкі Нінь і Хань,— сказала Ліля Фёдараўна,— праспяваюць в'етнамскія песні.

Дзяўчаты заспявалі на сваёй роднай мове, і хоць Лёнька слоў не разумеў, але яму здавалася, што ў песні гаворыцца пра хлопчыка, які не ведае стомы ў працы і чакае, калі ён пойдзе на фронт біць ненавіснага ворага.

Потым госці заспявалі на рускай мове «Зямлю патрэбна любіць». На гэты раз Лёнька не вытрымаў:

— І калі яны паспелі вывучыць усё гэта?

— Ты што, не чуў, што яны кажуць? Вучоба для іх — фронт...

«Для іх фронт... А для нас?.. Для нас таксама... Каб ісці першымі, трэба больш ведаць...»

З задумення Лёньку вывела песня. Спявалі пра юнага барабаншчыка, і старшая важатая тлумачыла в'етнамскім студэнтам словы песні. «Ворагі стралялі ў барабаншчыка, але ён пеў, б'ючы ў барабан. Песню дапець не паспеў — яго забіла варожая куля. Загінуў юны барабаншчык, але песня аб ім не памрэ».

Песню «Узвейце кастрамі, сінія ночы» пелі ўсе. Потым дзяўчынкі з 4-га «В» сталі перад сцэнаю і дружна пачалі вітаць гасцей.

«Чаму гэта ўсё дзяўчынкі і дзяўчынкі? — незадаволена нахмурыўся Лёнька.— Хіба хлопчыкі нічога не могуць?»

Ён азірнуўся па баках. Што гэта зрабіць, каб гэты дзень быў памятны для яго, Лёнькі, і для в'етнамскіх хлопцаў?

Яго позірк спыніўся на вялікім партрэце Ільіча. Нікому нічога не сказаўшы, ён падхапіўся са свайго месца і хутка пайшоў да выхаду. Выйшаўшы на калідор, куляй кінуўся на першы паверх.

На калідоры цішыня, ідуць урокі. Ён ціхенька адчыніў адны дзверы. Не, не тут. Другія — і не тут... Толькі ў трэцім класе знайшоў сваю першую настаўніцу.

— Што здарылася, Лёня?

— Мне вельмі патрэбна зорачка,— хвалюючыся, сказаў ён.

— Навошта?

— У актавай зале госці з В'етнама, і мне патрэбна чырвоная зорачка. Дайце мне, калі ласка. Я заўтра прынясу.

Ён так шчыра прасіў, так хваляваўся, што настаўніца паспяшалася даць яму чырвоную зорачку.

Гасцей ён сустрэў у дзвярах: яны выходзілі з залы. Каму ж яе даць? Гі Ену... Але ад хвалявання і разгубленасці Лёнька цяпер не мог пазнаць Гі Ена і працягнуў зорачку таму, хто стаяў бліжэй да яго.

Госць узяў зорку. На яго глядзеў Ленін. Госць працягнуў руку, моцна, па-сяброўску паціснуў Лёнькаву руку і ўсміхнуўся — шчыра, радасна.

## ЦІ ВЕРЫЦЕ МНЕ?

У кабінет зайшла вучаніца восьмага класа Валя Сакалова і, прычыніўшы за сабою дзверы, падышла да стала.

Яна нечым устрывожана. У руцэ трымае партфель і ўсё паглядвае на яго, другой рукой прыгладжваючы і так гладка прычасаныя валасы.

— Сядай, Валя.

Яна села, паставіўшы на калені партфель.

— У партфелі штосьці-небудзь вельмі важнае, што баішся з ім расстацца?

Валя кіўнула галавой.

— Калі не сакрэт, пакажы. Чаго марудзіць...

Нічога не сказаўшы, яна адкрыла партфель, нейкі момант падумала і дастала з яго анкету. Падаючы мне, папрасіла:

— Сяргей Данілавіч, я вас вельмі прашу, дайце мне рэкамендацыю ў камсамол.

Я прачытаў яе заяву. Потым анкету. У памяці ўсплыло...

...Збор дружыны падыходзіў к канцу. Не дачакаўшыся, калі закончыцца канцэрт мастацкай самадзейнасці, адна дзяўчынка паднялася са свайго месца, накіравалася ў гардэроб, апранулася і хуценька пакінула Палац прафсаюзаў.

Калі пачалі апранацца ўсе, адна вучаніца падышла да свайго класнага кіраўніка са слязамі на вачах: у яе прапалі ключы і грошы, якія яна пакінула ў кішэні паліто.

— Хто, па-вашаму, мог узяць іх?—спытаўся я ў класнага кіраўніка.

— Папрасілася пайсці раней за ўсіх Валя. Сказала, што ў яе хворая маці.

Сказаць, што грошы і ключы ўзяла Валя, у нас не было ніякіх падстаў. Праўда... Але гэта было раней, і таму цяпер мы яшчэ не былі ўпэўнены, што гэта магла зрабіць яна.



Роберт ЛАНДАРСКІ. Бабіна лета. Акварэль.



Ісак ДАВІДОВІЧ. В'етнам.

Я папрасіў класнага кіраўніка Ніну Васільеўну давесці дзяцей да школы, а самой зайсці да Валі.

Як там здарылася, якая была размова класнага кіраўніка са сваімі вучнямі, але яны рашылі ісці да Валі ўсе разам.

Валя праз акно ўбачыла сваіх аднакласнікаў і адразу адхінулася за фіранку. Колькі яны ні званілі, дзвярэй яна не адчыніла. Тады яны вырашылі паклікаць мяне. Я прапанаваў дзяцям пачакаць на вуліцы, а сам з класным кіраўніком падняўся на другі паверх. Пазванілі. Доўга чакаць не прыйшлося, Валя адчыніла дзверы, і мы зайшлі ў кватэру. У кватэры ўтульна, прыбрана. Ніна Васільеўна, устрывожаная ўчынкам сваёй вучаніцы, нервова хадзіла па пакоі. Я паглядзеў на Валю доўга і пранікнёна. Баючыся глядзець на мяне, яна адводзіла свой позірк. Пасля працяглага маўчання я запытаўся ў яе:

— І ты змагла так зрабіць? Няўжо табе мама не дае грошай?

Яна не адказала на маё пытанне, а толькі паўтарала:

— Я не хацела... Я не хацела...

— Чаго ж ты не аддала ключы і грошы, калі яны прыйшлі да цябе?

— Я баялася...

— Рабіць дрэнны ўчынак не пабаялася, а тут дык струсіла...

Больш звяртаючыся да Ніны Васільеўны, чым да Валі, я кажу:

— Пойдзем у школу, няхай дзеці правядуць збор атрада і вырашаць, што рабіць.

— Лепш тут, у мяне,— са слязьмі на вачах пачала прасіць Валя.— Няхай лепш тут...

— Тады кліч,— прапанаваў я ёй.

Яна падышла да акна. Паклікала рукою.

У пакой моўчкі зайшлі ўсе аднакласнікі. Пачаўся незвычайны збор атрада. Кожны выказваў усё, што ведаў пра Валю, пачынаючы з першага класа. Прыпаміналі ёй усё. Яна ж пасля кожнага выступлення толькі гаварыла:

— Дзевачкі, паверце мне. Вось пабачыце, больш ніколі-ніколі гэтага не будзе...

Нарэшце выгаварыліся, гнеў улёгся. Чакалі, што скажу я.

Абмеркаванне Валінага ўчынку было суровае і справядлівае. Таму я толькі сказаў:

— Заўтра ты мне скажаш — у пісьмовай форме — усё, што думаеш пра свой учынак.

Назаўтра ў мяне на стале ляжала Валіна споведзь, выкладзеная на двух лістах, выдраных са сшытка:

«23 красавіка. Чужыя рэчы я пачала браць з трэцяга класа. Я іх брала таму, што мне падабаліся. Ручка спадабаецца, я яе вазьму. Я ўжо колькі разоў давала сабе слова, што больш браць нічога чужога не буду. Некаторы час я не брала нічога чужога, але ў мяне не хапала сілы волі. Я ўжо прывыкла к гэтаму, і мне здаецца, што я нічога дрэннага не раблю. Учора я ўзяла ў Лены кашалёк, а там былі грошы і ключы... Каб вы ведалі, як я ўчора перажывала і плакала. Я вас вельмі прашу, каб вы мне паверылі, што я больш так ніколі не буду рабіць. Усё ж як дрэнна не мець сяброў».

Прачытаўшы гэта, я пагутарыў з класным кіраўніком, каб яна больш увагі звярнула на Валю, знайшла ёй работу ў класе.

Час ішоў. Аднойчы зімовай раніцай да мяне зайшла Валіна маці, каб паскардзіцца на дзяўчынак:

— Сцераглі Валю пасля ўрокаў. Яна ледзь уцякла.

— Можа вы ведаеце прычыну? — запытаўся я.

— Не прыйшла на конкурс разам з класам.

— Чаму?

— Я ёй сказала, каб адразу ж пасля ўрокаў прыйшла да мяне на работу, каб разам пайсці ў магазін.

— Вось бачыце, вы і не падумалі запытацца ў дачкі: можа ў яе ёсць якія справы ў школе? Ды і яна не адчувае адказнасці за агульную справу. Дзяўчынкі на яе і злуюцца.

Маці пайшла ад мяне ў роздуме.

У той жа дзень я паклікаў да сябе дзяўчынак. Яны наперабой пачалі даказваць, што Валя падводзіць іх.

— Вы толькі падумайце,— пачала адна з іх,— у клуб ходзіць, выступае, а з намі на конкурс не пайшла.

— Дык за гэта трэба біць?

— Мы яе хацелі правучыць, каб больш не падводзіла.

Тлумачу ім, што такая «вучоба» не прынясе карысці ні «вучню», ні «настаўнікам». А да Валі трэба адносіцца больш чула: у яе ж няма бацькі.

Валя займалася ўжо ў сёмым класе і пачала сябраваць з дзяўчынкаю са свайго класа. Наведваліся адна да другой, тады-сяды разам рыхтавалі ўрокі, хадзілі ў кіно.

Аднойчы да мяне прыбегла са слязьмі Валя.

— Кажуць, што я ў сваёй сяброўкі ўкрала грошы. Сяргей Данілавіч, даю вам чэснае піянерскае, я іх не брала!

— Перастань плакаць і пакліч да мяне сваю сяброўку.

Хутка яны абедзве стаялі перада мной.

— Валя мне казала, што ў вас прапалі грошы.

Яна кіўнула галавой.

— Ты можаш сказаць, дзе яны ляжалі?

— Яны ляжалі ў кашальку, а кашалёк ляжаў на стале.

— На якім стале? У хаце ж не адзін стол.

— На стале ў другім пакоі, там, дзе я рыхтую ўрокі.

— А Валя падыходзіла да таго стала? — дапытваўся я.

— Добра не памятаю.

— Хіба ты забылася,— пачала са слязьмі Валя.—Я ў другі пакой не заходзіла.

Валя глядзела на мяне і, заліваючыся слязьмі, пыталася:

— Сяргей Данілавіч, вы мне верыце? Паверце. Я іх не бачыла. Я іх не брала!

Я ёй верыў.

— Пашукайце лепш,— сказаў я Валінай сяброўцы.— Грошы знойдуцца.— Успомніце, дзе палажылі.

Праз некалькі дзён мне стала вядома, што грошы знайшліся. Іх схавала ў шафе маці Валінай сяброўкі. Перабіраючы адзенне, знайшла кашалёк. Толькі шкада, што, абразіўшы дзяўчынку, не знайшла смеласці папрасіць у яе прабачэння.

...Валя глядзела на мяне і чакала, што я ёй адкажу. Я моўчкі ўзяў анкету і, зрабіўшы адпаведны запіс, распісаўся.

Праз некалькі дзён сакратар камітэта камсамола Саша Віхман пасля аднагалоснага рашэння камітэта, віншаваў Валю з прыняццем у камсамол. Яна дзякавала. Я глядзеў на яе і думаў:

«Шчаслівай табе дарогі ў вялікае жыццё, Валя... Знай, я веру табе».

### ВІЦЕВА НОЧ

Здавалася, з працоўным лагерам усё вырашана. Станіслаў Феліксавіч паедзе з дзецьмі ў Міханавічы, пасяляцца там у школе і пачнуць працаваць. Мы не адзін раз, выязджаючы ў працоўны лагер, жылі ў школе. Але на гэты раз было інакш. Як толькі нашы вучні ступілі на тэрыторыю Міханавіцкай школы, яе дырэктар няветліва спытаў:

— Чаго прыехалі? Чаму не прыехаў ваш дырэктар? Мы з ім не дамовіліся пра плату.

— Мы ніколі не плацілі за начлег,— зазначыў Станіслаў Феліксавіч.

— А цяпер будзеце,— і дырэктар прыняў ваяўнічую позу, баючыся, што нашы вучні самі пойдуць у школу.

— Не пускаеце ў школу, дык дазвольце пазваніць у Мінск,— папрасіў Станіслаў Феліксавіч.

— Званіце,— пасля доўгага маўчання кінуў дырэктар.

— Нас не прымаюць,— пачуў я ў трубцы голас Станіслава Феліксавіча, калі мяне паклікалі да тэлефона.— Але ніхто не хоча вяртацца дадому.— Што рабіць?

— Сёння яшчэ ёсць цягнік на Мінск?

— Ёсць.

— Тады прыязджайце. І перадайце дзецям, што іх чакаюць у саўгасе «Волма». Я зараз дамоўлюся.

Галоўны аграном саўгаса сказаў, што ён з задавальненнем прыме нашых вучняў і прышле заўтра па іх машыны.

Сцямнела, калі дзеці ў поўным зборы вярнуліся ў школу са сваёй няўдалай паездкі.

— Не хочуць ісці дадому. Па дарозе дагаварыліся начаваць у школе — баяцца, што калі вернуцца дадому, заўтра іх бацькі не пусцяць,— сказаў Станіслаў Феліксавіч.

Я расказаў дзецям пра сваю размову з галоўным аграномам саўгаса «Волма» і папрасіў іх ісці начаваць дадому.

Пайшлі, але па дарозе рашылі ўсім гуртам гуляць па пасёлку да самай раніцы, а потым ехаць у «Волму».

Болей за ўсіх абрадаваўся гэтаму Віця: «Вось добра! А то ўсё дома, дома...»

Але патроху іх дружная грамадка пачала меншаць: бацькі, сустрэўшы сваіх дзяцей на вуліцы, вялі іх дадому.

— Пойдзем да мяне,— прапанаваў тым, хто застаўся, Коля Белаволаў.

Пайшлі. Дома ў Колі нікога не было. Ён сабраў усё, што можна было, і па-

слаў на падлозе. Паляглі. Пачалі расказваць розныя пацешныя гісторыі, потым нехта прапанаваў перакусіць. Пацягнуліся да рэчавых мяшкоў. Разаслалі пасярод пакоя байкавую коўдру, выгрузілі, у каго што было, і пачалі есці. От жа смачна... Асабліва калі возьмеш кавалак у таварыша, а ён — у цябе...

Перакусіўшы, зноў уляглiся на шырокай агульнай пасцелі, і пацякла вясёлая гаворка. Не было ні мулка, ні цвёрда, а толькі хораша ад таго, што ўсе разам, што адны і што могуць вось так, самастойна, нешта вырашыць і зрабіць, і паклапаціцца самі пра сябе. Толькі пад раніцу заснулі здаровым, моцным сном.

А раніцай, калі Віця з таварышамі, надзеўшы на плечы рэчавы мяшок, спяшаўся ў школу, на рагу вуліцы яго чакала мама.

— Віця-я! — на ўсю вуліцу крыкнула яна.

Віця падбег да яе, голас яго аж дрыжаў ад радасці:

— Мама, я... Мы начавалі ў Колі. І едзем у «Волму»...

— Ах ты, бессаромны... У цябе што — лыжка свайго няма? Усе дзеці як дзеці, а ты... Нікуды не паедзеш! Давай сюды рукзак!..

Яна прыйшла да мяне ў школу:

— Забараніце Віцю ехаць у лагер! Я вас вельмі прашу!

— Скажыце, вы калі-небудзь пускалі Віцю ў паход, дазвалялі яму начаваць з хлопцамі ў лесе ці бываць на рыбалцы? — пытаюся ў яе.

— Не, ён заўсёды быў з намі...

— Зразумейце яго правільна. Дзеці заўсёды шукаюць рамантыкі, і ваш сын таксама. Каб я не ўмешваўся, ідзіце і самі дазвольце яму ехаць у працоўны лагер.

Віця ў тую ж раніцу разам з усімі дзецьмі адправіўся ў саўгас «Волма».

...Даўно закончана школа, але Віця і цяпер успамінае сваю першую ноч, праведзеную з сябрамі.

## УРОК

У дзевятым класе камсамольскі сход праходзіў бурна. Ішло абмеркаванне паводзін Віктара Цімчука.

Віктар прапускаў урокі, атрымліваў «двойкі», уступаў у спрэчкі з настаўнікамі. Не паспее настаўнік падняць яго з месца, каб адказваў урок, як ён пачынае: «Усё мяне ды мяне... Чаго чапляецеся...»

Надакучыла гэта ўсім, сабралі класны сход і выказалі Віктару ўсё, што пра яго думалі.

У заключэнне ўзяла слова камсорг Вольга Казырэвіч:

— Я думаю, за парушэнне дысцыпліны трэба аб'явіць яму вымову. Даручыць аднаму з камсамольцаў узяць яго пад асабісты кантроль і перавыхоўваць у індывідуальным парадку.

— Правільна. Вось і бяры яго пад асабісты кантроль,— пачуўся голас з задняй парты.

— Дык што гэта ў нас выходзіць? Як толькі хто ўнёс прапанову, дык яму і даручаюць яе выконваць...

— Гэта табе індывідуальнае даручэнне. Будзеш болей на свежым паветры,— не ўнімаўся ўсё той жа голас.

— Камсорг, а баішся,— папракнула Вольгу Іра Пятровіч.— Праяві рашучасць.

— Якія яшчэ будуць прапановы? — абвяла вачамі клас Вольга.

— Прапанова была. Галасуй,— раздаліся галасы.

Прагаласавалі.

Так Вольга атрымала даручэнне: у індывідуальным парадку перавыхаваць Віктара Цімчука.

Пасля сходу Віктар не спяшаўся дадому. Калі ў класе засталося некалькі чалавек, ён падышоў да Вольгі і ціха, каб чула толькі яна, праз зубы працадзіў:

— Пачакай... Наплачашся са сваім перавыхаваннем.

— Хто?

— Ты.

— Я плакаць не ўмею.

— Навучу.

Вольга паглядзела на яго і ўсміхнулася:

— Паглядзім.

Бег дзень за днём, але прыкметных змен у паводзінах Віктара не назіралася. На перапынках наўмысля не выходзіў з класа, а перад самым званком усе ў клас, а ён — з класа. У дзвярах штурханіна, сварка.

— Куды лезеш супраць плыні? — цiснуліся ў дзверы хлопцы.

— Трэба, дык і лезу,— працуючы локцямі, адказваў ён.

Хлопцаў прапускаў, каб не атрымаць здачы, а дзяўчынкі, каб быць далей ад непрыемнасцяў, расступаліся перад ім. А яму толькі тое і трэба. Вольга глядзела



на ўсё гэта і не ведала, як да яго прыступіцца. Нарэшце сказала аднойчы, пасля заканчэння заняткаў:

— Ты можаш пачакаць?

Ён падумаў і адказаў:

— Чакаю.

— Дапамажы прыбраць у класе.

— Ты прасіла пачакаць. Вось і пачакаю, пакуль прыбярэш,— адказаў ён і сеў на крэсла, засунуўшы рукі ў кішэні.

Вольга пачала падымаць крэслы і ставіць на сталы. Ён сядзеў і глядзеў. Яна пакінула каля дзесятка крэслаў і выйшла з класа. Вярнулася з вядром, венікам. Паглядзела на крэслы — усе стаялі на сталах.

— Дзякуй, што здагадаўся.

— Ты хутчэй прыбірай. У мяне ў жываце бурчыць...

— Вазьмі ў мяне ў партфелі грошы і схадзі ў буфет.

— Мае бацькі не такія бедныя, каб я еў за чужыя грошы.

— Бацькоўскімі грашыма і разлічышся.

Віктар памаўчаў, падумаў. Потым адказаў:

— Не памру.

Выцягнуў з кішэні цыгарэту, закурыў.

У Вольгі дыханне перахапіла, калі яна ўбачыла, як ён задыміў у класе.

— Кінь хутчэй... Кінь, кажу табе...

— Гэта каб не так есці хацелася...

— Віцька, перастань курыць! Я ж цябе прашу...

— Дакуру і перастану.

Вольга пачала прыбіраць хутчэй, каб хто не зайшоў і не ўбачыў, як яна потым казала, «гэтую жудасную сцэну».

Закончыўшы ўборку, яна прапанавала Віктару:

— Пойдзем паабедаем.

— Я перахацеў. Можа не памру з голаду...

— Як хочаш.

— Дык што ты мне хацела сказаць, камсорг?

— Заўтра скажу. Толькі глядзі, не спазняйся на заняткі.

Назаўтра першы ўрок быў літаратура. Віктар не падрыхтаваўся да яго. «Абавязкова выкліча... Яна заўсёды выклікае, калі не падрыхтуюся»,— падумаў ён пра настаўніцу літаратуры. Тут пачуўся званок, і Віктар завярнуў за вугал школы. Прыйшоў у клас перад пачаткам другога ўрока. Уразвалку пайшоў да свайго месца, сеў...

Вольга ўвесь час сачыла за ім, маўчала. Закончыўся шосты ўрок. Вольга падышла да Віктара. Ён падумаў, што зараз пачнецца чарговая натацыя за прагул, але пачуў неверагоднае:

— Пойдзем сёння ў кіно, Віця?

— Гэта можна. Калі?

— Зараз.

— Зараз дык зараз... А куды?

— У «Сучаснік». Там ідзе фільм «Афіцэры».

— А можа паглядзім мульці-пульці?..

— Спачатку ў «Сучаснік».

Хадзілі ў «Сучаснік», хадзілі і ў іншыя кінатэатры. Час ішоў. Неяк на калідоры я спыніў Вольгу, пытаюся:

— Як справы?

— Дрэнныя.

— Чаму?

— Не выходзіць у мяне з перавыхаваннем. Слабахарактарная. Ён больш на мяне ўплывае. Пачала менш да ўрокаў рыхтавацца.

— Такога быць не можа. Старайся — і даб'ешся свайго. Толькі не адступай.

Вольга не адступала. Яна пачала разам з Віктарам рыхтавацца да ўрокаў.

Аднойчы ў час перапынку яна стаяла на калідоры ля свайго класа. Дзверы былі адчынены, і яна пачула Віктараў голас:

— Перавыхоўвае. Цукеркамі частуе, каб не курыў. У кіно водзіць за свае грошы...

— Не брашы,— нечы, з сумненнем, голас.

— Чаго брахаць? Усё праўда, як тое, што сёння марозны дзень...

— У наш час усё можа быць,— зазначыў нехта другі.

Вользе горача стала ад гэтых слоў, але яна не зайшла ў клас і не спыніла гаворкі.

Як толькі закончыўся шосты ўрок, яна павярнулася да Віктара:

— Мне трэба з табою адзін урок разабраць.

— Які яшчэ там урок,— незадаволена прабурчэў ён.

— Убачыш.

Яна ўзяла свой партфель і доўга перакладвала ў ім сшыткі. Чакала, пакуль усе выйдуць з класа. Калі зачыніліся дзверы за апошнім вучнем, Вольга паднялася і падышла да Віктара: ён сядзеў верхам на крэсле.

— Устань,— строга сказала яна.

Віктар нехаця пачаў падымацца.

— У цябе ёсць кніга сумлення?

Віктар хацеў нешта сказаць, глянуў на Вольгу і замест лагоднай усмешкі ўбачыў суровы твар і злыя агеньчыкі ў яе вачах.

— Маўчыш! На! Атрымай!

Па пакоі разнёсся звонкі ўдар, і Віктарава шчака ўспыхнула агнём.

— Цяпер ідзі і пахваліся хлопцам. Да пабачэння.

Вольга выбегла з класа.

Такога Віктар не чакаў. Ён няўцямна глядзеў перад сабой. Рука яго міжволі пацірала пачырванелую шчаку.

«Разабрала ўрок»,— падумаў сам сабе і ціханька падаўся дадому.

Пасля гэтага Віктар прыціх, хадзіў у задуменні. Маўчала і Вольга.

Аднойчы яна падышла да Віктара. Ён захваляваўся.

— Рыхтуйся, выхаванец. Хутка камсамольскі сход, адчытвацца будзеш.

На сходзе ў Віктара спыталі, як ідуць у яго справы. Ён адказваў неахвотна. «Нічога. Так. Выпраўляюся. Вучуся. Задаволены»...

Пасля камсамольскага сходу Вольга зусім аддалілася ад яго. Віктар цягнуўся да яе, шукаў з ёю сустрэч, але яна пазбягала іх.

Закончыўся навучальны год. Адплыло ў вырай гарачае лета. У школу яны прыйшлі ўжо дзесяцікласнікамі. Сабраліся разам, жартавалі, смяяліся.

— А наш Віцька пацішэў. Глядзіце,— заўважыў нехта.

— Летам раман завёў. Думае, як яго прадоўжыць.

— Раманаў ён не любіць. Можа Раманаўну...

Усе дружна засмяяліся. Віктар прамаўчаў.

Пачаўся апошні навучальны год. Усе пасур'ёзнелі. Мала каго прыходзілася падганяць з вучобай. Віктар перастаў спазняцца, пярэчыць настаўнікам, у яго зніклі «двойкі».

Дзесяты рыхтаваў навагодні вечар. Кожны меў сваю справу. Вольга размалёўвала шыбы, Віктар павінен быў устанавіць ёлку, але яе яшчэ не прывезлі. Ён хадзіў па зале, спыняўся то ля аднаго, то ля другога вучня. Так падышоў да Вольгі.

— Лоўка ў цябе выходзіць. Сапраўдны мастак.

Вольга прамаўчала.

Віктар агледзеўся. Паблізу нікога не было.

— Ты правільна тады зрабіла, што дала мне па мордзе. Я быў скацінай. Але чаму цяпер мяне пазбягаеш?

— Па-першае, я ўдарыла не па мордзе, а па твары. Па-другое, я тады зрабіла памылку.

— Паўтары яшчэ раз сваю памылку. Мне лягчэй будзе.

— Няма за што.

Гаворкі не было. Памаўчалі. Потым Віктар адышоўся.

Апошні школьны вечар — выпускны. Радасць. Весялосць. Смутак. Расстанне. Невядомыя дарогі ўперадзе.

Вольга падышла да мяне:

— Вось і ўсё, Сяргей Данілавіч...

— А можа і не,— усміхнуўся.— Ты лепш скажы, які ў цябе характар?..

— Цвёрды, як сталь!

■ ■ ■



Эдзі АГНЯЦВЕТ

# БАЦЬКОЎСКІ ЗАПАВЕТ

Вясна, вясна
Жаданая,
Ты прыдзеш зноў,
Ты вернешся!
Вясёлы спеў
Прыветлівы
Вады ў руччах
Пачуецца.
Ачнецца гай
І з песнямі
У зялёны ліст
Адзенецца.
Напоўніць лес
Птушыны свіст,
Травою луг
Акрыецца.

Песня маладая, коласаўская, празрыстая, як веснавое паветра.

Помню пачуццё першаадкрыцця паэзіі Коласа: настаўнік спяваў прачытаў нам словы, якія не трэба было запісваць, яны запомніліся адразу. Рытмічная, гнуткая мелодыя сама сабой заспявалася праз момант пасля таго, як настаўнік сыграў яе на флейце.

Здавалася, што ходзіш па красавіцкіх гаях, перагукваешся з птушкамі, з ручаямі.

А каго ж не зачаравала ў дзіцячыя і юнацкія гады паэма «Сымон-музыка»? З паэмай я не разлучалася, як з дарагой рэліквіяй. Нават клала яе на-нач пад падушку, каб прысніўся Сымон-музыка!

Пазней, ужо ў ваенны час, убачыўшы на ташкенцкім стале Якуба Кола-



Якуб Колас сярод студэнтаў і маладых выкладчыкаў Горацкай сельгасакадэміі. 1927 год.


М. І. Калінін уручае Якубу Коласу ордэн Леніна. 1939 год.

са кнігу «Сымон-музыка», я набралася адвагі і расказала Канстанціну Міхайлавічу пра тую сваю паэтычную падушку...

У адказ на мой успамін Якуб Колас падаў мне кнігу і сказаў: «Вазьміце яе да майго ад'езду ў Маскву». Гэта быў адзіны экземпляр, які захаваўся ў паэта, і я ўспрыняла часовы дар Коласа як неспадзяванае шчасце...

Некаторым людзям Канстанцін Міхайлавіч здаваўся замкнёным, негаваркім. Сапраўды, ён не любіў кідаць словы на вецер. Ён любіў людзей і прыроду вялікай любоўю, без гучных прызнанняў і воклічаў. Ад сэрца любіў моладзь, быў нашым добрым, старэйшым другам.

Успаміналася, як у адным шпіталі Сярэднеазіяцкай ваеннай акругі Колас сустрэў цяжка параненую партызанку з Беларусі Фёклу Струй. Ён вельмі зацікавіўся яе лёсам, станам здароўя. Я часта наведвала Фёклу Фёдараўну, і Канстанцін Міхайлавіч усё распытваў: «Як там наша зямлячка, ці палепшала? У яе такія засмучоныя вочы...»

У дні вайны ў Ташкенце Канстанцін Міхайлавіч шукаў сустрэч з землякамі: з імі гаварыў пра свой родны, мілы кут, пра сваю Беларусь—знявечаную, але не заваяваную.

Свае ваенныя вершы, гнеўныя, поўныя болю і смутку, Якуб Колас часта чытаў у шпіталях, воінскіх часцях.

Мне давялося бачыць, з якой любоўю і ўвагай слухалі людзі народнага паэта Беларусі. Яго слова было бацькоўскім запаветам для байцоў, якія ад'язджалі на фронт.

У адной ваеннай акадэміі, эвакуіраванай у Сярэднюю Азію, Колас выступаў па запрашэнні палкоўніка-беларуса Я. В. Леашэні.

І цяпер, праз многія гады, генерал-лейтэнант Леашэня з незвычайнай цеплынёй успамінае свае знаёмства і сустрэчы з Якубам Коласам. Канстанцін Міхайлавіч адчуваў сябе шчаслівым, калі размаўляў з Яўгенам Варфаламеевічам, згадваючы родную Мікалаеўшчыну, мілыя прасторы зямлі беларускай.

Якуб Колас асабліва чула адносіўся да людзей у цяжкія дні, калі людзі мелі патрэбу ў суцяшэнні.

Бывала, прыйду ў ташкенцкі дом Міцкевічаў, а Канстанцін Міхайлавіч гляне і спытае: «Што з вамі? Ці не захварэлі?»

Добрая, сардэчная Марыя Дзмітраўна запрашала да стала. Я саромелася есці. Канстанцін Міхайлавіч злаваўся: «Вас і пачаставаць нельга! Не саромцеся, мы ж свае людзі».

Неяк я пахвалілася, што ўмею смажыць бульбу на вадзе. Канстанцін Міхайлавіч вельмі здзівіўся: «Упершыню чую, каб бульбу смажылі на вадзе». Я паказала свае «майстэрства». Канстанцін Міхайлавіч яшчэ больш здзівіўся: «Сапраўды смачна. Хто ж вас гэтаму навучыў?» Я адказала: «Вайна навучыла». А Колас адразу засмуткаваў: «Бедная ты мая гаспадынька...»

Не забуду, як Канстанцін Міхайлавіч чытаў дома свае вершы і ўрыўкі з паэмы «Суд у лесе». Чытаў нягучна, затоена, вельмі выразна.

Праз акно ўрываўся лёгкі ветрык, дрыжэў аркуш паперы. Бісерныя, коласаўскія літары! Радкі былі то трапяткія, ласкавыя:

«Зямля мая, нябёсаў родных сінь,
Лугоў зялёныя пасцелі»,

то вострыя, як кулі:

«Не плач, зямля! Народ мой,
не тужы—
Вышэй ўзнімі сваю сякеру!
За здзек, за кроў, за грабяжы—
На Гітлера, на звера!»

З Ташкента па радыё, з газетных лістоў даходзілі да беларускіх партызанаў словы народнага паэта-змагара.

Узбекскія пісьменнікі шчыра любілі Канстанціна Міхайлавіча. У памяці засталося тое, што казалі нашы сябры.

Айбек: «Колас—мудры. І просты—у самым высокім сэнсе гэтага слова».

Зульфія: «Я люблю Коласа за яго чалавечнае, добрае сэрца. Яно ва ўсім: у яго турботах аб людзях, у яго сапраўды народнай паэзіі».

Уйгун: «Я вучыўся на паэзіі Купалы і Коласа. Мяне пакарыла народная мудрасць і напеўнасць верша».

Якуб Колас ад сэрца аддзячыў узбекскаму народу за любоў і дабрату. Вершы «Салар», «Чымган», «Узбекістану», перакладзеныя на ўзбекскую мову, чытаюць з захапленнем дзяўчаты і юнакі, якім ужо не давялося бачыць Коласа: бацькі ім перадаюць імя Коласа і яго вобраз як светлае, народнае паданне.

Пасля ад'езду з Ташкента Канстанцін Міхайлавіч часта пісаў мне, цікавіўся здароўем маёй маці, сястры, нашым жыццём-быццём, работай.

З вялікім хваляваннем пісаў пра сваю першую сустрэчу з вызваленай беларускай зямлёй...

У пачатку 1945 года цяжка захварэла верная паплечніца яго жыцця Марыя Дзмітраўна.

У Ташкенце яе назвалі землякі «Беларуская маці». Усіх яна саграваля сваёй дабратой, для ўсіх знаходзіла ласкавае слова.

Канстанцін Міхайлавіч востра перажываў надыходзячыя хвіліны развітання са сваім добрым другам. Яму неабходна было падзяліцца сваім горам з тымі, хто ведаў і любіў Марыю Дзмітраўну.

10 мая 1945 года Канстанцін Міхайлавіч прыйшоў у маскоўскую гасцініцу «Гранд-атэль», дзе часова жылі мая маці і я. На вялікі жаль, мяне не было на месцы. Колас пакінуў мне ліст: «Я перажываю такія горкія і цяжкія дні, якіх ніколі не было ў маім жыцці. Мая мілая, добрая Маруся падыходзіць к канцу сваёй дарогі ў жыцці. Ляжыць яна ў Сакольніцкай бальніцы, 7 корпус, у палатцы, дзе ляжаць асабліва цяжкахворыя. Як відаць, у яе рак лёгкіх. Дактары праўды не кажуць... Хацеў бы з вамі пабачыцца».


Якуб Колас. 1945 год.

Пасля гэтага ліста я наведала Марыю Дзмітраўну ў бальніцы. Тыя ж светлыя, добрыя вочы. Той жа цёплы, грудны голас. За тыдзень да смерці яна жыва цікавілася ўсім і не скардзілася на цяжкае самаадчуванне. Не любіла скардзіцца...

У Мінску я рэдка заходзіла да Якуба Коласа, не хацелася яго турбаваць, адбіраць дарагі час, хоць кожная сустрэча з ім прыносіла духоўную радасць.

Коласа заўсёды турбавалі людскія клопаты, няўдачы, перамогі. Ці не таму цяпер часта ўспамінаецца яго імя, якое ператварылася

в пароходы,
в строчки
и в другие долгие дела.

У чэрвені гэтага года вялікая група пісьменнікаў і кампазітараў ездзіла ў Докшыцкі раён. Мы стаялі каля высокага, у рост чалавечы, жыта. Глядзелі на камяні-валуны паабапал дарогі. І зноў успаміналі Коласа...

У свой час на сесіі Вярхоўнага Савета БССР і на пісьменніцкіх сходах народны паэт настойліва гаварыў аб неабходнасці ачысціць палі ад каменняў: тады і зямля прынясе багаты плён.

Людзі выканалі яго запавет.

Докшыцкія палі! Налівaліся, шумелі каласы, і думалася пра чалавека, які даў сабе імя: Колас.

■ ■ ■




**В. П. РАГОЙША. ПЕРАКЛАЎ ЯКУБ КОЛАС. Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1971.**

# ДЗЕЛЯ САДРУЖНАСЦІ ЛІТАРАТУР

Пра Якуба Коласа-перакладчыка нашаму беларускаму чытачу вядома параўнальна мала. Гэты бок творчасці народнага песняра Беларусі не прыцягнуў яшчэ належнай увагі нашых літаратуразнаўцаў. Навуковых прац, у якіх бы Я. Колас даследаваўся як перакладчык, у нас да гэтага часу яшчэ не было, хоць артыкулы, у якіх разглядаўся гэты бок дзейнасці народнага паэта з'яўляліся ў перыёдыцы. Гэта артыкулы М. Базарэвіча «Якуб Колас— перакладчык» («Літаратура і мастацтва», 1958 г.), В. Рагойшы «Перакладзена Коласам» («Літаратура і мастацтва», 1964 г.) звярталі ўвагу на Коласа-перакладчыка С. Александровіч, А. Сіранькоў. Вось, напэўна, і ўсё, калі дадаць да гэтага пераліку яшчэ некалькі артыкулаў тых жа М. Базарэвіча і В. Рагойшы. Таму кніга Вячаслава Рагойшы «Пераклаў Якуб Колас» адкрывае нам Коласа яшчэ мала вядомага, а можна сказаць, і зусім не вядомага, Коласа— перакладчыка літаратуры іншых народаў на мову свайго народа.

Якуб Колас — адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, зазначае даследчык, меў геніяльны талент мастака і энцыклапедычныя веды ў лексічных, фразеалагічных і іншых пластах роднай мовы. Пры перакладах ён карыстаўся прынцыпам: «Дасканала ведай родную мову, валодай мовай арыгінала». Адзначым, што гэты коласаўскі прынцып знайшоў сваё ўвасабленне ў працы нашых сучасных перакладчыкаў, знаўцаў моў народаў СССР і замежных,— А. Куляшова (украінская), М. Танка (украінская, польская), Я. Семяжона (англійская, нямецкая, французская), Ю. Гаўрука (англійская, нямецкая), Р. Барадуліна (латышская), Н. Гілевіча (балгарская, сербахарвацкая) і інш.

Я. Колас, зазначае В. Рагойша, як і кожны добры перакладчык, выбіраў для перакладу творы «па любові», а не «па разліку». Аднак любоў да твора і да яго аўтара, якой бы вялікай яна ні была, сама па сабе яшчэ не можа гарантаваць перакладу высокую якасць. Неабходна яшчэ, зазначае В. Рагойша, каб і творчыя прынцыпы перакладчыка і любімага ім пісьменніка былі падобныя. Пераклад у Я. Коласа — высокамастацкі, дакладны. У сваёй размове з рускім паэтам М. Рыленкавым народны паэт Беларусі выказаўся пэўна і катэгарычна:

«Пра дакладнасць перакладу... я вам вось што скажу. Яшчэ ў глыбокай старажытнасці, у X стагоддзі ці што, балгарскі экзарх Іаан пісаў: «Слова прыгожае у адной мове, у іншай непрыгожае, страшнае ў адной, у іншай нястрашнае, у адной мае добры сэнс, у другой мае іншы... У сувязі з гэтым і мы, адмаўляючыся часам ад тоеснасці ў словах, наглядалі тоеснасць сэнсу, таму што дзеля сэнсу перакладаем гэтыя кнігі, а не дзеля тоеснасці ў словах».

«Дзеля тоеснасці сэнсу...» Варта запомніць гэтыя словы, у іх — увесь сэнс работы перакладчыка.

Якуб Колас перакладаў шмат — мы гэта ведаем, але ж парад, як перакладаць, у пісьменніка мы не знойдзем. Ён перакладаў А. Пушкіна і М. Лермантава, Т. Шаўчэнку і А. Міцкевіча. Дзякуючы вопытнаму беларускаму перакладчыку на беларускай мове загучалі бессмяротныя «Палтава» А. С. Пушкіна, «Дэман» М. Ю. Лермантава, верш А. Міцкевіча «Паніч і дзяўчына», вялікая колькасць твораў украінскага Кабзара Т. Шаўчэнкі, сярод якіх паэмы «Ерэтык», «Неафіты», «Марыя», «Сляпы» («Нявольнік»), вершы «Чыгрыне, Чыгрыне», «Гогалю» і іншыя. А пераклад твораў У. І. Леніна на беларускую мову? Чытаючы творы Леніна па-беларуску, мы з удзячнасцю ўспамінаем класіка роднай літаратуры Якуба Коласа.

Якуб Колас як перакладчык узрос на плённай ніве, падрыхтаванай яго далёкімі і бліжэйшымі папярэднікамі. Яшчэ ў XIV ст. Ф. Скарына пераклаў на тагачасную беларускую мову дванаццаць дзве кнігі «Бібліі». Яго традыцыі плённа развівалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі (Амельяновіч). Дунін-Марцінкевіч выдаў у перакладзе на беларускую мову першую частку паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», пра пераклад якой польска-беларускі вучоны і літаратар Адам Кіркор сказаў, што «перакладчык перамог неадольныя цяжкасці». Каштоўную спадчыну пакінулі нам Адам Гурыновіч, Янка Лучына, Марыя Косіч, Максім Багдановіч. На шырокую аснову перакладчыцкае мастацтва ў Беларусі паставілі Янка Купала і Якуб Колас.

В. Рагойша прасочвае ў кнізе, як фарміраваўся Колас-перакладчык. Найбольш перакладаў Колас у 30-я гады. Ён браў для перакладу толькі тых пісьменнікаў, якія былі блізкія яму сваім гуманістычным пафасам, дэмакратычнасцю. Праз усё жыццё ён пранёс любоў «да сонца рускай паэзіі» — Пушкіна, і адным з самых значных перакладаў на беларускую мову была неўміручая паэма «Палтава». Ёй у кнізе В. Рагойша адводзіць значнае месца, прыходзячы да думкі, што ў ёй Колас імкнуўся «дакладна перадаць змест арыгінала».

Успомнім велічны запеў «Палтавы» Пушкіна:

> Богат и славен Кочубей,
> Его луга необозримы;
> Там табуны его коней
> Пасутся вольны, нехранимы.
> Кругом Полтавы хутора
> Окружены его садами,
> И много у него добра,
> Мехов, атласа, серебра
> И на виду, и под замками.
> Но Кочубей богат и горд
> Не долгогривыми конями
> Не златом, данью крымских орд,
> Не родовыми хуторами —
> Прекрасной дочерью своей
> Гордится старый Кочубей.

А вось як гучыць гэты запеў у перакладзе Я. Коласа:

> Багаты слынны Качубей,
> Яго лугі — разгон прастору;
> Там табуны яго каней
> Пасуцца вольна без прызору.
> Вакол Палтавы хутары
> Яго атулены садамі,
> Жыве ў раскошы і дабры,
> І п'е і есць на серабры,
> І шмат багацця пад замкамі.
> Ды Качубей багат і горд
> Не даўгагрывымі канямі,
> Не золатам, данінай орд
> І не фамільнымі дварамі.
> А ганарыцца Качубей
> Красуняй дочкаю сваей.

Дзякуючы Я. Коласу загучэў на беларускай мове і шаўчэнкаўскі «Кабзар». Невядома, піша Рагойша, калі ўпершыню пачаў чытаць Якуб Колас творы Тараса Шаўчэнкі, але муза Кабзара стала блізкай Я. Коласу на ўсё жыццё, ён палюбіў паэзію вялікага ўкраінскага паэта і шмат часу аддаваў яе перакладу на беларускую мову.

Па-новаму загучаў і «Дэман» М. Ю. Лермантава ў перакладзе Якуба Коласа. Прыгадаем, гаворыць В. Рагойша, што ўпершыню «Дэман» загучаў на беларускай мове ў 1926 годзе ў перакладзе Макара Краўцова, аднак ён быў «надта з'іначаны, залішне абеларушаны». Тут нельга не пагадзіцца з даследчыкам: у віленскім беларускім «Дэмане» наглядаецца зніжэнне тону паэмы (там, дзе ў Лермантава конь, у перакладзе — конік, дзе нагайка — бізунчыкі і г. д.)

«Дэман» Коласа — той жа ўнутрана супярэчлівы, шматгранны вобраз, праз які раскрываецца «цэнтральная для Лермантава думка пра прыгажосць і безнадзейнасць адзінокага бунту і пра тое, што ізаляваны герой-бунтар, які супрацьпаставіў сябе ўсяму на свеце, непазбежна адчувае трагічныя вынікі гэтага супрацьпастаўлення».

В. Рагойша «адкрывае» нам Якуба Коласа і як перакладчыка ўласных твораў на рускую мову. У прыватнасці, у раздзеле «Аўтарызацыя? Не толькі» аўтар сцвярджае, што галоўным клопатам Якуба Коласа ў пасляваенны час была «аўтарызацыя перакладаў уласных твораў». У раздзеле ідзе гаворка пра пераклады паэмы «Новая зямля», зробленыя вядомымі літаратарамі М. Ісакоўскім, С. Гарадзецкім, Я. Мазальковым, П. Сямынінным...

Пазнаёміўшыся з цікавай кнігай В. Рагойшы, можна сказаць, што яна прынясе немалую карысць літаратуразнаўцам, выкладчыкам вышэйшых навучальных устаноў, перакладчыкам і ўсім тым, хто цікавіцца тэорыяй і практыкай мастацкага перакладу. Той, хто пазнаёміцца з гэтай кнігай, адкрые па-новаму для сябе вялікага песняра беларускага народа Якуба Коласа, які шмат зрабіў, каб, як сказаў Чарнышэўскі, «перакладчыцкая літаратура ў кожнага з новых еўрапейскіх народаў прымала важны ўдзел у развіцці народнай свядомасці».

**Аляксандр ХАЗЯНІН.**




**Уладзімір КУЗЬМЯНКОЎ.
ІШЛА ВЯСНА. Апавяданні.
Выдавецтва «Беларусь»,
Мінск, 1972**

# ДАРОГА Ў ЖЫЦЦЁ

У гэты зборнік увайшло дзесяць апавяданняў. Кароценькая выдавецкая анатацыя — тая самая, на якую даўно наракаюць крытыкі,— наўрад ці можа што сказаць аб творчым аблічы аўтара. Гэта правільна, што сюды ўвайшлі апавяданні пра нашага сучасніка, пра дзяцінства, апаленае вайной, пра каханне і пра сяброўства. Правільна, але і надзвычай агульна.

Шмат жа ў чым зразумець свет, у якім жывуць героі Кузьмянкова, дапамагае нам апавяданне, якое дало назву кнізе.

«Ішла вясна» — гэта апавяданне пра двух журналістаў, людзей розных, не падобных як характарамі, так і поглядамі на жыццё, пра Саломку, які хоць і можа сказаць свае слова, але заўсёды «трымціць» перад рэдактарам, і пра Паўла, маладога, ціхманага, які ў калектыве зусім нядаўна, таму заўсёды на пасылках. Саломка — журналіст вопытны. Яго пасылаць у камандзіроўку адно задавальненне: і матэрыял напіша, і падасць яго, як след. Не тое, што Павел.

Але ці такі Саломка на самай справе, якім ён здаецца таварышам па рабоце? Вось першае знаёмства з ім. Трэба ехаць у камандзіроўку, а Саломка адмаўляецца — маўляў, жонка захварэла. Потым чыстасардэчна прызнаецца Паўлу: «Не ў жонцы тут справа, разумееш?» — Саломка насмешліва хмыкнуў.

— А ў чым?

— У чым, а чаму. Навучыўся ты задаваць пытанні. Таму што я — Саломка. Разумееш? Са-лом-ка, на якой мулка спаць... Няма дурных ехаць цяпер гразь мясіць. Хіба я мала паездзіў? А табе яшчэ можна. Ты — малады».

У камандзіроўку едзе Павел. «Там, разумееш, факт такі. Тэхніка стаіць, а ўгнаенне на конях возяць, дзедаўскім спосабам. Яшчэ і палавіну не вывезлі. Адным словам, на тры... не, хопіць і двух. На два дні. І там паглядзі яшчэ: можа заатэхніка зробіш» — успамінаецца яму рэдакцыйны наказ.

Здавалася б, звычайная камандзіроўка. Але па задуме аўтара, па саміх абставінах, з якімі сустракаецца герой, яна становіцца для яго выпрабаваннем не толькі прафесійнай, але і чалавечай годнасці.

Калі глядзець з чыста адміністрацыйнага боку, заданне Павел не выканаў. Фельетон не напісаў. Фельетон напісаў бы Саломка, абавязкова напісаў бы. Рэзкі, актуальны. Для яго асноўным быў бы факт: адставанне з вывазкай угнаенняў. Астатняе яго мала цікавіла б. А Павел? Успомнім ягоную размову з дырэктарам саўгаса:

«Вось угнаенне, вазіць яшчэ многа, абавязацельства ж вялікае. Вясна вотвот... А ў вас яго на конях возяць. На трактарах было б куды хутчэй. А яны ў вас стаяць».

Дырэктар саўгаса ўважліва выслухаў Паўла, потым сказаў:

«Яно на трактары было б хутчэй, дык ведаеце, людзі прыходзяць, работу просяць. Да пенсіі ім мала засталося. Трэба ж неяк улічваць гэта. А каб вы ведалі, якія то людзі. Дык яны ж гэты саўгас на голым месцы колькі разоў з нічога ўзнімалі!»

З невясёлымі думкамі вяртаўся Павел з камандзіроўкі: у рэдакцыі яго пэўна не пахваляць, што ён вернецца з пустымі рукамі. Зноў з'едліва будзе пасміхацца Саломка... Ну і што ж. І няхай... У памяці ў яго зноў усплылі словы дырэктара, успомнілася пісьмо маці, у якім яна пісала, што падала на пенсію дакументы, і гэта па-сутнасці вырашае для Паўла ўсе сумненні. Ён ужо ведае, што яму рабіць. Фельетон пісаць ён не будзе; ён не пойдзе на кампраміс са сваім сумленнем.

Героі У. Кузьмянкова часта як бы прыходзяць на споведзь да чытача, раяцца з ім, як з добрым дарадчыкам і сябрам. Адно з апавяданняў зборніка так і называецца — «Споведзь». У ім няма нічога агульнага з так званай «спавядальнай» прозай, характэрнай для творчасці маладых у пяцідзесятых — першай палове шасцідзесятых гадоў. Яго герой — не юны «бунтар», усім незадаволены, а чалавек вялікага жыццёвага вопыту, які, аднойчы пакрывіўшы сумленнем, усё жыццё так і не адолеў у сабе маральную слабасць і пакорлівасць.

Чалавек адказвае за свае ўчынкі, у якіх бы цяжкіх абставінах яны ні былі зроблены — такая асноўная думка гэтага твора. Аўтар уважліва прасочвае шлях Піліпа Піліпавіча, цяпер паважанага чалавека, начальніка аддзела кадраў адной будоўлі, спрабуе ў псіхалогіі гэтага чалавека ўгледзець, скуль можа ўзяцца бяздушнасць і маральная слабасць. Была вайна, палон, і беларуская дзяўчына Настуля выратавала Піліпа, выцягнуўшы яго за руку з калоны ваеннапалонных, крыкнуўшы «мой»! Некалькі дзён горкага кахання, потым аблава. Ён шчасліва выратаваўся. Ужо праз гады, успамінаючы Насцю, Піліп Піліпавіч спрабаваў даказаць самому сабе, што, магчыма, і не было ў іх ніякага кахання. Ён не знайшоў у сабе смеласці знайсці Настулю. І вось сустрэча з чалавекам, які, як здаецца Піліпу,— яго сын. Усе падрабязнасці супадаюць, але ўжо няма Настулі. Яна нядаўна памерла. «Піліпу Піліпавічу дамоў ісці не хацелася. Цяпер ён ужо добра разумеў, што ніколі не даруе сабе той баязлівасці. А думка, што няма больш чалавека, перад якім ён мог бы скупіць сваю віну, яшчэ больш вярэдзіла яго душу...» Абуджэнне прыйшло, але якое ж яно позняе!

Пра каханне напісана шмат. Гэтая тэма ў літаратуры і мастацтве вечная. Шкада толькі, а часам і прыкра, калі маладыя пісьменнікі (ды ці адны маладыя) сапраўдныя пачуцці сваіх герояў падмяняюць сентыментальшчынай, учынкі, характары, узаемаадносіны закаханых падаюць у нейкім ружовым святле.

Не абмінуў гэтай тэмы і У. Кузьмянкоў. Так ці інакш яна прасочваецца ў многіх творах зборніка. Гэта і апавяданне «Споведзь», і гумарыстычная «Вяснушка», і «Падыход». Маральна-этычная тэма вырашаецца і ў апавяданні «Такая доўгая ноч». Сюжэтныя ходы гэтага твора ў пэўнай ступені знаёмыя. Жаніцьба, потым сваркі ў сям'і, беспадстаўная рэўнасць. Як тут лёгка пісьменніку збіцца на звычайную меладраму, чуллівую, слязлівую, але далёкую ад сапраўднага жыцця.

Гэтага не здарылася дзякуючы той надзвычайнай праўдзівасці, рэалістычнасці, якая ў лепшых апавяданнях зборніка з'яўляецца асноўнай творчай меркай пры раскрыцці характараў. Пісьменнік асноўную ўвагу засяроджвае на ўнутраным стане свайго героя, прасочвае шлях яго маральнага абуджэння. Яго цікавіць жыццё Лісовіча, няхай і не заўсёды правільнае, але поўнае ў аснове сваёй імкнення да сапраўднага шчасця. Ён любіць сваю Надзю, але ўжо так атрымліваецца, што ў паўсядзённым побыце ім неяк нялёгка зразумець адно аднаго.

Тая доўгая ноч, якую праводзіць Лісовіч на вакзале ў чаканні цягніка, каб назаўсёды з'ехаць з дому, не праходзіць бясследна. Ён зноўку, цяпер ужо ў думках, праходзіць сцежкамі пражытага і раніцой добра ведае, што нікуды ад Надзі не паедзе.

Найбольш цэласным, завершаным апавяданнем аб каханні з'яўляецца «Вяртанне». Гісторыя, якую расказвае аўтар, не новая, але тыповая. Вяртаецца з фронту салдат у родную вёску, а дзяўчына, якую ён калісь кахаў, ужо замужам. Зося кахала Ахрэма, кахала горача, шчыра. Але ўсе светлыя мары знішчыла вайна. Каб немцы не вывезлі ў Германію, яна паспешліва выходзіць замуж, а праз тыдзень мужа, які ішоў да партызанаў, застрэлілі паліцай. Застаецца Зося адна.

Пісьменнік заглядвае ў душу сваёй гераіні, расказвае аб тым, як пражыла яна гады вайны. «Жыцейская» гісторыя ператвараецца ў сапраўдную паэму пра чалавечнасць, людскую дабрату і шчодрасць. І Зося, якая адчувае, што ў яе ўжо і гады не тыя, і што ўдава яна, раптам паўстае перад чытачом ва ўсёй жаночай прыгажосці. Калі яна даведалася, што ў вёску вярнуўся Ахрэм, неяк перайначылася ўся. У гэтых унутраных зменах адчуваецца і дзявочая няўпэўненасць, сарамлівасць, і развага жанчыны, шмат навучанай жыццём, якая разумее, як нялёгка даецца сапраўднае каханне.

Усё апавяданне па-сутнасці — маналог самой Зосі, які перадаецца аўтарам праз яе думкі, перажыванні. Вось ляжыць яна на сенавале, прыслухоўваецца, як ідзе па вуліцы і размаўляе Ахрэм: «Што калі Ахрэм зойдзе да іх? Ёй зрабілася горача, радасна і трывожна. Неяк няроўна і трапятліва забілася сэрца. Падумалася, калі Ахрэм зойдзе, тады яна хуценька апранецца і таксама пойдзе ў хату, скажа, што была ў Сцяпанавых. Зося слухае, але крокаў не чуваць» ...Думкі пра Ахрэма не пакідалі яе ні на хвіліну: «Яна думала пра яго, калі была ў лузе і калі бегла ў Зарэчча, у краму. Адно трывожыла, не давала спакою: сустрэне Ахрэм, што спытае, што скажа?»

Самае моцнае меса ў апавяданні — сустрэча Зосі з Ахрэмам. Аўтар тонка перадае душэўны стан гераіні. Зося раскрываецца перад намі ва ўсёй сваёй чалавечай і жаноцкай прыгажосці,

яна поўная светлага пачуцця, таго самага пачуцця, якім жыла і якое было растаптана вайной. Прайшоўшы праз суровыя жыццёвыя выпрабаванні, каханне вяртаецца да людзей яшчэ больш моцным. Знайшлі яго і Зося з Ахрэмам, каб пранесці праз усё жыццё.

«Ішла вясна», «Споведзь», «Такая доўгая ноч», «Вяртанне» — лепшыя апавяданні зборніка. У іх адчуваецца аўтарская пазіцыя, свае адносіны да той ці іншай тэмы.

Аднак гэтыя творы складаюць толькі частку кнігі. А як жа астатнія? «Вяснушка» і «Падыход» (дарэчы, ў перыёдыцы яны змяшчаліся пад іншымі назвамі) гумарыстычныя ў сваёй аснове. Гэта вымагае сваіх асаблівасцяў як у моўнай структуры, так і ў разгортванні дзеяння. Аднак у якім бы жанры ні быў напісаны твор, ён павінен узнімаць нейкую тэму, нейкую жыццёвую праблему. На жаль, прачытаўшы гумарыстычныя апавяданні У. Кузьмянкова, нічога новага для сябе не вынесеш. На нейкі момант з'явіцца ўсмешка, калі будзеш чытаць пра паходжанні герояў (інакш і не назавеш іхнія ўчынкі), аднак праз некалькі мінут у памяці нічога не застаецца.

Прычына тут у тым, што аўтар ідзе старымі, бітымі сцежкамі, на якіх ужо не аднойчы спатыкаліся і больш вопытныя празаікі. Возьмем хаця б апавяданне «Вяснушка». Так завуць дзяўчыну, якая прыходзіць у брыгаду мужчын. Вядома, спачатку гэта ім не надта спадабалася, тым болей, што дзяўчо настырнае. Але яна хутка наводзіць парадак, на рабочым месцы нават кветкі з'яўляюцца. Перавыхоўваецца і Эдзік, які не ўжыўся ў некалькіх рабочых калектывах.

Апавяданне «Падыход» (часопісны варыянт «Восем дзевак — адзін я») некалькі выйграе ў параўнанні з папярэднім. Тонкі гумар, месцамі ўдалыя рэплікі герояў — усё гэта ў пэўнай ступені прыцягвае ўвагу да твора. Але, думаецца, гэтага мала. Пісьменніку, калі ён сур'ёзна думае брацца за гумарыстычны жанр, трэба шукаць новых, значных, сваіх тэм, якія патрабуюць не толькі тонкага гумару, а можа месцамі і вострай сатыры.

Некалькі апавяданняў зборніка так ці інакш звязаны з тэмай вайны. Напісаны яны ў розных стылявых кірунках, на розным фактычным матэрыяле, але гэта яшчэ не бяда, калі б аўтар не ступаў у чужы след, не паўтараў сказанага другімі пісьменнікамі. У творчы здабытак У. Кузьмянкова можна аднесці толькі апавяданне «Вяртанне», у астатніх выпадках ён не ідзе далей простай канстатацыі фактаў. Напрыклад, апавяданне «Страшная гульня». Гэта пра пакаленне, якое ў маленстве спазнала цяжар ліхалецця. У кожнага з нас самыя светлыя пачуцці да тых, каго няма сёння на зямлі. Яны заслугоўваюць нашай усеагульнай павагі і памяці. І пісьменнік, які ўзяўся за гэтую тэму, павінен пісаць пра гэта шчыра, усхвалявана, альбо — зусім не пісаць.

Няхай даруе нам аўтар за рэзкі тон, але апавяданне «Страшная гульня» — яскравае сведчанне таго, як не трэба пісаць пра вайну. Не, у ім няма ні спрэчных мясцін, ні тым болей імкнення падаць вайну ў ружовым святле. У ім усё правільна. Але гэтая «правільнасць» ператвараецца ў пратакольнае апісанне таго, што адбылося, у раўнадушнасць. Тадзік падарваўся на фашысцкай міне, калі гуляў у вайну. Ён загінуў, але гэта, як ні страшна, не адзываецца болем у нашым сэрцы.

«Бацька» і «Іх аставалася трое» наўрад ці можна назваць апавяданнямі. Хутчэй за ўсё гэта невялічкія накіды, да таго ж — паспешлівыя. Асабліва гэта датычыць замалёўкі «Бацька». Лірычная па сваім складзе, яна, на думку аўтара, павінна была паказаць непарыўную сувязь дня ўчарашняга і сённяшняга, даць адчуць, што чалавечая памяць нічога не забывае, а бацькоўскі боль не прытупляецца з гадамі.

На жаль, далей добрых намераў справа не пайшла. Фальшыва гучыць увесь твор. За ракой дзяўчаты спяваюць песню пра партызанку Галіну. Яе слухае стары Цімох, у якога ў вайну загінула дачка. Зададзенасць адчуваецца ўжо і па тым, што дачку Цімоха таксама завуць Галінай. Вядома, такое супадзенне магло быць, але сказаць пра гэта трэба было так, каб чытач паверыў, што стары сапраўды думае, што гэтая песня пра яго дачку.

У другім творы, «Іх аставалася трое», жыццё падменена літаратурнымі штампамі. Аўтар не пранік у характары герояў. Узнікае такое адчуванне, што ён спяшаецца, каб хутчэй закончыць твор. Ды гэта і можна зразумець: жыццёвы матэрыял аўтар ведае слаба.

Ніжэй аўтарскіх магчымасцяў напісана і апавяданне «Два білеты ў цырк». Пісьменнік паўтарае сваіх папярэднікаў М. Стральцова, М. Капыловіча, А. Кудраўца, якія напісалі цікавыя творы пра псіхалогію вясковага чалавека, які не можа прызвычаіцца да гарадской мітусні і паспешлівасці і якому часта ўспамінаецца «сена на асфальце».

Алесь **МАРЦІНОВІЧ**.





● Зоська **ВЕРАС**

# ГАРОДЗЕНСКІ ГУРТОК

## З УСПАМІНАЎ



**Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас). 1910 год.**

Як вялікая рака бярэ свой пачатак з малых ручайкоў, так і беларускі прафесійны тэатр XX стагоддзя меў свае вытокі ў легальных і нелегальных аматарскіх тэатральных гуртках, якія ўзнікалі ў той, здаецца, нядаўні і ўжо такі далёкі і суровы для нашай Бацькаўшчыны час на зломе вякоў.

Нелегальны тэатральна-асветніцкі Гродзенскі гурток беларускай моладзі, які ўзнік у 1909 годзе, быў адным з першых гэтых ручаёчкаў, з якіх выцякала рака.

Двух добрых людзей пакінуў жыць з тых часоў няўмольны лёс, двух таварышаў — Зыгмунта Абрамовіча і Зоську Верас, мілую «пані Людвіку». І мне сніцца іх маладосць...

Прайшлі гады, і не загінула праца. Бацькі нашы чыталі «Заранку» — выдатны і папулярны ў былой Заходняй Беларусі беларускі часопіс для дзяцей. Ён выходзіў з 1926 па 1931 год. Арганізавала, выдавала і рэдагавала часопіс Зоська Верас. Акрамя таго, яна пісала вершы, легенды і казкі для дзяцей. Друкавалася яшчэ ў «Нашай ніве» (1911 г.). Вершы і імпрэсіі яе друкаваў у сваёй «Хрэстаматыі» (1927 г.) І. Дварчанін.

Аграном па спецыяльнасці, Зоська Верас выдавала ў 1934—1937 гадах часопіс для вёскі «Беларуская борць». Змяшчала там артыкулы па пчалярстве, садоўніцтве, агародніцтве. Яшчэ раней, у 1924 годзе, у Вільні выйшаў беларуска-польска-руска-лацінскі батанічны слоўнік — паважны плён яе шматгадовай працы.

Зоська Верас сустракалася і асабіста была знаёма з Максімам Багдановічам, Браніславам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Міхалам Федароўскім, Аркадзем Смолічам, Змітраком Бядулем, Ядвігіным Ш., Альбертам Паўловічам, Галляшам Леўчыкам, Уладзімірам Самойлам, Уладзіславам Галубком, Усеваладам Фальскім, Фларыянам Ждановічам і іншымі беларускімі грамадскімі дзеячамі, паэтамі, вучонымі, акцёрамі і рэжысёрамі, якія ў 1916—17 гадах у прыфрантавым Мінску ратавалі людзей ад голаду і вайны, збіраліся ў «Беларускай хатцы», думалі, раіліся і стваралі беларускі прафесійны тэатр і мастацтва. Сярод іх сціплым, адданым і ахвярным працаўніком была Людвіка Сівіцкая — Зоська Верас, актрыса, арганізатарка і ўдзельніца Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Аб ім і піша яна ў сваіх успамінах.

30 верасня гэтага года Зосьцы Верас споўнілася 80.

Добрага здароўя Вам, Людвіка Сівіцкая, мілая Зоська Верас!

Зянон **ПАЗНЯК**.

1909 год. Восень. У маленькім памяшканні ў Бернардынскіх мурах сабралася невялікая грамадка моладзі. Гэта арганізацыйны сход беларускага гуртка. Былі там гімназісты апошніх класаў: А. Бычкоўскі, Ф. Эйсмант, П. Аляксюк, сёстры Салянка Ганна і Марыя, Гелена Шагідэвічанка і я, Людвіка Сівіцкая, вучаніца 6-га класа. Гаварылі аб патрэбе сваёй арганізацыі, выбралі назву: Гародзенскі гурток беларускай моладзі. Абдумалі, якую зрабіць пячатку, і выбралі кіраўніцтва: старшыня А. Бычкоўскі, віцэ-старшыня П. Аляксюк, сакратар З. Абрамовіч, бібліятэкар Л. Сівіцкая.

На адным з пасяджэнняў мы пастанавілі выехаць з нашым спектаклем на вёску. Зрабіць гэта было нялёгка. На-

ступіла зіма. Наладзіць спектакль у якой-небудзь адрыне немагчыма, а хаты вясковыя цесныя, на гэтакую імпрэзу не надаюцца. Думалі, думалі і нарэшце пастанавілі звярнуцца да ўласнікаў аднаго маёнтка (Крыштапарова пад Новым Дваром Сакольскага пав.). І вось паехалі — Францішак Грынкевіч, А. Бычкоўскі і я. Падарожжа было не зусім прыемнае: з Гародні цягніком да ст. Бяляне, а там фурманкай вёрст пяць. Снег, мяцеліца і мароз немалы. Наш старшыня ў вучнёўскім шэрым пальтэчку жартаваў: «Каб не ўмеў дрыжэць, то б змерз». Але вынікі былі як найлепшыя: нам не толькі далі вялікі пакой, але і абяцалі зрабіць сцэну. І сапраўды, калі мы прыехалі ў назначаны дзень, сцэна была гатовая.

На жаль, гледачоў было не шмат. Магчыма таму, што вёскі Пагаране, Мілянкоўцы і Вернікі былі нам мала знаёмыя, не было належнай агітацыі, ды і пагода мала спрыяла. Усё ж такі нейкі пачатак быў зроблены.

Нягледзячы на тое, што перад спектаклямі работы мелі шмат, мы ўсё ж пачалі ладзіць перыядычныя лекцыі. На першай лекцыі, якая адбылася ў лютым 1910 года, мы пазнаёміліся з межамі Беларусі, адзначылі на карце губерні і паветы, дзе жылі беларусы, і г. д.

На другой лекцыі чыталі народнае апавяданне «Хітры мужык», гаварылі пра Багушэвіча і чыталі яго творы. На трэцяй — заняліся суседзямі-славянамі.

Апрача лекцый, ішлі рэпетыцыі хору і струннага аркестра.

І вось новы 1910-11 школьны год. Пасля адпаведнай агітацыі ў сябры гуртка запісалася шмат новых вучняў гімназіі. Пры новым складзе неабходна было падзяліцца на секцыі. У старшай секцыі былі старыя сябры і крыху новых з апошніх класаў, якія займаліся самаасветай, кіраўніцтвам гуртка, а таксама вялі заняткі з сярэдняй секцыяй і з малодшай. У малодшай дзеці вучыліся чытаць па-беларуску, пісалі дыктоўкі, вучыліся дэкламаваць вершы і г. д. Раз у месяц рабіліся для іх вечарынкі з дэкламацыямі, спевамі і гульнямі.

Адразу з восені пачалі падгатаўляцца да вечарыны-спектаклю. Для пастаноўкі выбралі «Моднага шляхцюка» К. Каганца. Пачалі вучыць ролі, і заварушыўся наш гуртоК. Рэпетыцыі, спеўкі, рэпетыцыі аркестра, маляванне дэкарацый запаўнялі ўсе вольныя ад навукі хвіліны... На гэты раз пастараліся зрабіць заслону — з блакітнага паркалю з чырвонай аблямоўкай, угары намаляваныя хмаркі, з-за якіх ўсходзіць залатое сонца. Купілі таксама крыху рэквізіту: бароды, вусы, фарбы. Галоўнай праблемай была вопратка.

Але тут знайшоўся выхад зусім просты: якіх вёрстаў 17—18 ад Гародні, у Сакольскім павеце, была вёска Бяляне, дзе ў мяне было шмат знаёмых. І вось паехала я туды, пагаварыла, і нам абяцалі пазычыць вясковыя вопраткі — як мужчынскія, так і жаночыя. Апошнія на выбар: даматканыя спадніцы, андаракі, папярэчкі — што мне падабаецца, нават са старых бабуліных скрыняў. Зналі мяне бялянскія сяляне ад малога, так што ахвотна згадзіліся памагчы ў нашым клопаце. Апрача вопратак, удалося мне завербаваць музыку-скрыпача Яна Шыдлоўскага, які іграў заўсёды на вясковых вяселлях, вечарынках і г. д.

Нарэшце ўсё было гатова. Памяшканне дасталі добрае: вялікі пакой з сумежным малым на гардэроб. Нашы хлопцы зрабілі сцэну выгодную, нават з суфлёрскай будкай пад сцэнай.

На пару дзён перад спектаклем паехалі ў Бяляне па вопраткі. Набралі два вялікія мяхі ўсяго ўсякага, аж да ботаў уключна.

Прыйшлося пераначаваць, але было не да сну: у Бялянах была тады тайная школа, у якой вучыла дзяцей сяброўка нашага гуртка Марыся Бобрык. Праўда, вучыла па-польску, бо сяляне-каталікі лічылі польскую мову неразлучнай з «польскай верай», але Марыся ўмела паміж іншым прачытаць дзецям беларускую кніжку, верш, праспяваць з дзецьмі беларускую песню. Вось мы з ёю цэлую ночку і прагаварылі.

Раніцой сяляне адвезлі нас на станцыю, а там спаткалі нас нашы таварышы і сярод смеху, жартаў даваладлі мяшкі да нашага «тэатра». У назначаны на спектакль дзень прыехаў і музыка.

Перад пачаткам быў прачытаны рэферат А. Бычкоўскага «Адгалосак душы беларускага народа ў яго песнях, казках і легендах». Далей пеў хор, было некалькі дэкламацый. Паміж іншым дэкламавала мой верш «Што я люблю» малая дзяўчынка Юзя Грынкевічанка. Тут выйшла смешная сцэнка. Я (з-за сцэны) шапчу ёй: «Юзя, не кажы, чый верш», а наш старшыня грозна: «Юзя, скажы абавязкова», а яна павярнулася да нас і кажа ўголас: «То каго ж з вас я маю слухаць?» — аж публіка засмяялася. «Модны шляхцюк» выйшаў вельмі добра.

Публікі было шмат, быў нават адзін настаўнік літаратуры з рэальнай гімназіі, разумны, паступовы чалавек. Але найбольшую радасць адчувалі мы, убачыўшы на спектаклі госця з Вільні: Іван Луцкевіч на нашы запросіны не адмовіўся прыехаць. Пасля, у «Нашай ніве» № 8, 1911 год, змясціў карэспандэнцыю: «Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі падглядзець, падсцерагчы характар вясковых сватанняў, умелі наладзіць усё так, як яно папраўдзе бывае ў хаце беларусаў».— У канцы карэспандэнцыі кажа: «Вынес я ў падзяку за прыемны вечар веру, што гарадзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад».



На другі дзень прыйшлося спектакль паўтарыць для вучнёўскай моладзі (малодшай), для якой у першы дзень не хапіла месца.

Аддаючы вопраткі бялянскім сялянам, мы абяцалі, што прыедзем са спектаклем да іх.

У хуткім часе мы мелі тры дні свабодных ад навукі. Вось у гэты час мы пастанавілі паехаць.

Недалёка ад вёскі Бяляне быў маёнтак гарадзенскага архірэя — Дубніца, там мы дасталі ў арандатара меншбольш адпаведнае памяшканне. Разумеецца, прыйшлося тром нашым сябрам паехаць раней, каб зрабіць сцэну. Я паехала з імі, бо ўся гэтая ваколіца была мне добра знаёмая. Сцэну зрабілі. Пакуль хлопцы працавалі, я абышла блізкія вёскі: Бяляне, Хварасцяне і Стрэльчыкі ды паведаміла жыхарам, калі адбудзецца спектакль.

У назначаны дзень мы прыехалі цягніком на станцыю Бяляне, а адтуль пехатой у Дубніцу.

На гэты раз была нас немалая грамада: «артысты», хор, аркестр. Ізноў вопраткі прыгатавалі нам бялянскія жанчыны і музыка той самы з'явіўся нават без просьбы.

Праграма: рэферат асветна-агітацыйны А. Бычкоўскага, крыху дэкламацыяў (з «Дудкі беларускай», «Смыка»), хор, аркестр і «Модны шляхцюк».

Усё ўдалося добра. Публікі было шмат. Цесната такая, што адны другіх на сцэну выпіхалі. Ну, але нічога. Арандатар не злаваў, чалавек быў добры і з пачуццём гумару.

Позна вечарам мы пайшлі на станцыю. Свяціў месяц, пагода была добрая; мы ішлі радасныя з музыкай і песнямі. Цягнік быў не хутка, і мы, чакаючы ў пустой на той позні час пачакальні, пайшлі скакаць «Лявоніху».

Але гэтая такая прыемная і вясёлая вечарынка ледзь не скончылася для некаторых з нас вельмі сумна... У арандатара Дубніцы не было на сцэну дошак, і ён параіў нам пайсці ў фальварак Малая Дубніца да манаха і ўзяць дошкі адтуль. Дошкі манах даў, але ў хуткім часе, паехаўшы да архірэя, пахваліўся: «А ў нас быў спектакль, прыязджала моладзь». Архірэй да губернатара: «Каму даваў дазвол?» Губернатар, разумеецца, нічога не ведаў, паслаў у мястэчка Новы Двор у паліцыю, тыя таксама нічога не ведалі; звярнуліся на станцыю Бяляне да жандара і начальніка станцыі і так па нітцы да клубка дайшлі, што прыязджала моладзь з Гародні. А хто? Уся амаль моладзь тутэйшая, а ведалі толькі мяне і яшчэ аднаго чалавека, які паходзіў з в. Хварасцяне. І ён і я былі ў апошніх класах, і нас, разумеецца, у найлепшым выпадку выгналі б са школы. Але на нашае шчасце, у губернатарскай канцылярыі працаваў бацька аднаой з нашых сябровак. Баючыся, каб і





Зыгмунт Абрамовіч. 1910 год.

яго дачку не прыцягнулі да адказнасці, пастараўся, каб наша «дзела» прапала...

Ізноў пачалося нармальнае жыццё гуртка.

У гэтым самым школьным годзе ў маі адбылася ў нас вечарынка, на каторай гурткоўцы развіталіся з вялікім жалем са сваім арганізатарам і першым старшынёю Адамам Бычкоўскім: ён скончыў гімназію і выязджаў з Гародні.

Нядоўга пачакаўшы, усе сябры раз'ехаліся на летні адпачынак.

З'ехаўшыся ўвосень, мы першым чынам мусілі выбраць сабе старшыню. Быў выбраны Казюк Калышка, гімназіст VIII класа. Пачаліся, як і раней, лекцыі, спеўкі і вербаванне новых сяброў. У кастрычніку, на імяніны кіраўніка, малодшая секцыя гуртка прыгатавала маленькі спектакль.

Ігралі ў нашым памяшканні, на Гарадніцанскай вуліцы. Прывезлі поўны воз ёлак, кветак і зрабілі сцэну — лясную палянку. Апрача «Пастушкі», было крыху дэкламацыяў і жывыя вобразы, асветленыя каляровымі агнямі. Усё выйшла добра, дзеці, самыя малодшыя нашы сябры, былі вельмі здаволеныя сваёй работай. Пасля гэтага пачалі думаць аб спектаклі, манячыся паставіць «У зімовы вечар» Э. Ажэшка. Пачалі нават рабіць рэпетыцыі. Але ж пераканаўшыся, што сілы заслабыя і добрага выканання трудна спадзявацца, пакінулі думку аб спектаклі і пастанавілі зрабіць калядамі ёлку для дзяцей у якой-не-



**Гродзенскі гурток беларускай моладзі ў 1910 годзе. У першым радзе першы злева — Зыгмунт Абрамовіч, у другім радзе другая злева — Зоська Верас.**

будзь вёсцы. Выбралі вёску Серуцёўцы, Сакольскага павету, бо ў той бок мы яшчэ не дабіраліся. Грошай у касе гуртка было мала, так што мы зрабілі складчыну. Купілі цукерак, пернікаў, арэхаў, яблыкаў... Зрабілі крыху цацак і, ўзяўшы з сабой вялікую колькасць газет, календароў і кніжак, каб раздаць сялянам, паехалі. Ізноў да станцыі Бяляне, а там пехатой. Трэба было ісці вёрстаў 6 ці 7. Зіма, снег, добра, што мароз быў невялікі. Пакуль зайшлі, ужо сцямнела. Зараз жа гаспадар хаты прынёс ёлку. Прыбралі, запалілі свечкі. Дзяцей і дарослых набралася поўная хата. Крыху пагулялі з дзецьмі каля ёлкі, раздалі дзецям цукеркі і г. д., а дарослым — календары і кніжкі і пачалі збірацца на цягнік. Цяпер ужо было лепш, бо запрэглі каня і адвезлі нас на станцыю. Ездзіла нас, здаецца, чалавек 6. А ў наступную нядзелю ў парафіяльным касцёле (у м. Новы Двор) з амбона пробашч лаяў нас (завочна) за беларускую прапаганду. Толькі «бацюшка» маўчаў, мусіць, не ведаў, што там былі і яго «авечкі».

Памятаецца энергічная праца на падрыхтоўцы матэрыялаў для аднаднёўкі. Рэдакцыйная калегія ў складзе А. Зенюка, Язэпа Лявіцкага, Л. Сівіцкай, М. Бабрыкоўны і Ф. Лабянца працавала шчыра і заўзята. Я. Лявіцкі (псеўд. «Юрка Снапко») даў свае вершы, А. Зянюк і М. Бобрык — апавяданні; таксама з апавяданнем выступіў Ф. Лабянец; я напісала перадавіцу. Пазычылі шапірограф і позна ўвечары, пазавешваўшы вокны, узяліся за работу. А. Зянюк перапісваў (ён прыгожа пісаў), а я і Лявіцкі адбівалі. Прасядзелі амаль да раніцы, адбілі 50 экз. Назва аднаднёўкі — «Колас беларускай нівы». На вокладцы — загаловак і малюнак каласоў...

Якая радасць, можна сказаць, шчасце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактараў, калі ўгледзелі сваю працу! Здзейснены праект неяк і дадаў веры ў свае сілы.

Крыху аднаднёўкі прадалі, параздавалі сябрам гуртка, паслалі тым, хто выехаў, і ў мяне астаўся адзін экземпляр, і то бракоўны. Вазіла яго з сабой у Варшаву і ў Мінск, ды назад у Гародзеншчыну, аж тут, у Вільні, на вялікі мой жаль, прапаў...

У восені 1913 года я выехала ў Варшаву на курсы.

Гурток астаўся пад кіраўніцтвам Адольфа Зенюка. Як ён мне пісаў у Варшаву, прабавалі весці сякую-такую працу далей, але гэта нядоўга трывала.

Гурток скончыў сваё існаванне.



# ЧАТЫРЫ ФАКЕЛЫ Ў ЦЕМРЫ

Царква ўсюды і заўсёды падвяргала ганенню іншадумцаў — каб трымаць народ у вечным страху перад прыгнятальнікамі. Навошта, каб людзі сумняваліся ў царстве нябесным, тады яны могуць усумніцца і ў царстве зямным! І гэта не толькі ў Заходняй Еўропе, але і ў Беларусі.

Гісторыя нашага краю ведае не адну ахвяру такіх ганенняў, якім, паводле слоў У. І. Леніна, прыгнятаючыя класы «плацілі... заўсёднымі праследаваннямі, сустракалі іх вучэнне самай дзікай злосцю, самай шалёнай нянавісцю, самым бесшабашным паходам хлусні і паклёпу».

Для эпохі Адраджэння і народнай Рэфармацыі, якая была пралогам новай, буржуазнай эры, што падрыхтавала людзей і час для пераможных буржуазных рэвалюцый, характэрны вобраз медыка-вальнадумца.

Напэўна, цяжка назваць іншы факультэт, акрамя медыцынскага, і рэдка якую практыку, акрамя ўрачэбнай, якія б у такой ступені скіроўвалі чалавека на пошукі разгадак таямніц прыроды, на спробы рацыянальнага філасофскага вытлумачэння навакольнага свету.

І наша краіна не была чужой для ідэй Адраджэння і народнай Рэфармацыі. З усіх зямель, якія ўваходзяць цяпер у склад СССР, найбольш уцягненымі ў працэс Рэфармацыі былі Літва і Беларусь, якія з XIII—XIV па канец XVIII ст. складалі Вялікае княства Літоўскае (да 1569 г. у яго склад уваходзілі і ўкраінскія землі, а ў розныя перыяды і рускія — Вярхоўскія княствы, Смаленская і Северскія землі і інш.). З Рэфармацыяй звязана «абуджэнне нацыянальнасцяў» (К. Маркс), фарміраванне беларускай народнасці, узнікненне кнігадрукавання ў Беларусі, развіццё нацыянальнай літаратуры і мовы. У многіх выпадках Рэфармацыя ў нашых землях была люстэркам гуманістычнага руху.

У гуманістычным і рэфармацыйным руху прымалі актыўны ўдзел перадавыя медыкі Беларусі. Да прычын, якія спрыялі развіццю ў беларускіх землях ідэй Адраджэння, Рэфармацыі, гуманізму, трэба аднесці і імкненне мясцовых магнатаў да палітычнай незалежнасці ад вялікакняскай улады; іх нелюбоў да уніі з Польшчай, якая падрывала іх эканамічную магутнасць; і жаданне шляхты пажывіцца за кошт зямельных уладанняў царквы; і, галоўнае — развіццё гарадоў і рост саслоўя гараджан, ідэалогіі якога ў сістэме рэфармацыйна-гуманістычных ідэй выказвалі антыфеадальныя настроі. Сацыяльна-рэлігійныя канфлікты ў краіне абумоўліваліся ў першую чаргу ўнутранымі абставінамі, хоць нельга адмаўляць і таго відавочнага факта, што ў гэты перыяд Беларусь была нібы тым «горнам, у якім, — паводле слоў беларускага паэта М. Багдановіча, — пераплаўляліся і своеасабліва спалучаліся рускія і чужаземныя зародкі». «Таму няма нічога дзіўнага, — піcаў паэт у іншым месцы, — што ў эпоху Адраджэння агульны разумовы ўздым, які пачаўся на Захадзе, знайшоў адлюстраванне і ў Беларусі».

У аддаленую ад Заходняй і Цэнтральнай Еўропы Беларусь (таксама як і ў Сяміграддзе, зараз Трансільванію, дзе былі сходныя палітычныя ўмовы) і ўцякалі вальнадумцы, што справядліва спадзяваліся знайсці сховішча ад менш моцнай у гэтых памежных з іншавернымі краінамі каталіцкай царквы.

Большасць медыкаў-вальнадумцаў, якія шукалі ў Вялікім княстве

Літоўскім прытулку ад рэлігійных ганенняў, былі выхадцы з Італіі і яе ўладанняў. Аб ролі італьянскіх зямель у пашырэнні ідэй Адраджэння і гуманізму Ф. Энгельс пісаў у «Дыялектыцы прыроды»: «У той час уся Заходняя і Цэнтральная Еўропа, уключаючы сюды і Польшчу (так традыцыйна ў літаратуры называлася Рэч Паспалітая, унія Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.— **В. Г.**), развівалася... на ўзаемнай сувязі, хоць Італія дзякуючы сваёй атрыманай у спадчыну ад старажытнасці цывілізацыі, прадаўжала яшчэ стаяць наперадзе». Невыпадкова ў Падуі атрымаў ступень доктара медыцыны першадрукар усходняга славянства Францыск Скарына з Полацка.

Бацька вядомага ў першай палове XVII ст. прапаведніка вучэння антытрынітарыяў Міхаіла Гіціха (антытрынітарыі адмаўлялі дагмат Тройцы, прызнавалі за Ісусам Хрыстом толькі чалавечую сутнасць, сумняваліся ў бессмяротнасці душы. Іх ідэолагам быў М. Сервет. Адлюстроўваючы імкненне дэмакратычных слаёў насельніцтва, антытрынітарыі выступалі супраць царкоўнай іерархіі, часам даходзілі да адмаўлення прыватнай уласнасці, дзяржаўнай улады, патрабавалі адмены прыгоннага права і прызнання роўнасці людзей) немец Марцін Гіціх быў урачом у Венецыі, але з-за сваіх рэлігійных перакананняў вымушаны быў уцячы ў Вялікае княства Літоўскае.

Найбольш характэрныя фігуры медыкаў-вальнадумцаў у Літве і Беларусі гэтага часу — гэта Джорджа Б'яндра́та, П'етра-Сімоне Сімоні, Іосіф-Саламон Дэльмядзі́га і Іяган-Фрыдрых Ба́кстрам. Нам нярэдка даводзіцца меркаваць аб поглядах вальнадумцаў тых далёкіх часоў не толькі па іх уласных выказваннях (у якіх яны часцей за ўсё вымушаны былі хаваць свае сапраўдныя думкі з-за небяспекі ганенняў), але і па абвінавачваннях, якія прад'яўлялі ім іх апаненты. Можна дадаць, што з XVI — XVIII ст.ст. да нас дайшло так мала крыніц, і гэта ў значнай меры ўскладняе даследаванні. Таму часта даводзіцца звяртацца да тых перадавых філосафаў, думкі і ідэі якіх падзялялі і на якія спасылаліся нашы вальнадумцы.

Хоць Д. Б'яндрата пражыў у Беларусі няшмат часу, ён адыграў відную ролю ў развіцці ідэй гуманізму ў нашых краях. Нарадзіўся ён у 1515 г. ля падножжа Альпаў у італьянскім гарадку Салуцца. З 1530 па 1533 гг. вучыўся медыцыне ва ўніверсітэце французскага горада Манпелье, адначасова з будучым выдатным гуманістам і пісьменнікам Франсуа Рабле, аўтарам бессмяротных «Гарганцюа і Пантагруэля». У 23 гады Д. Б'яндрата атрымаў ступень доктара медыцыны ў Балонскім універсітэце.

Ён праніксяя ідэямі вядомага галандскага гуманіста Эразма Ратэрдамскага, які асуджаў багасловаў за іх варожасць навуцы, але сам пайшоў далей за Эразма. У галіне філасофіі Д. Б'яндрата лічыў сябе паслядоўнікам шатландца І. Дунса Скота (1265 — 1308). Паводле слоў К. Маркса, І. Дунс Скот «прымушаў самую тэалогію прапаведаваць матэрыялізм» і абвяшчаў немагчымасць лагічнага абгрунтавання багаслоўя і немагчымасць довадамі розуму даказаць вучэнне аб утварэнні свету з нічога і ідэю бессмяротнасці.

У 1553 г. у італьянскім горадзе Падуя Д. Б'яндрата ўзначальвае пратэстанцкі рух, але праз 4 гады ў сувязі з пагрозай арышту бяжыць у «пратэстанцкую сталіцу» Жэневу. Як чалавек з крытычным складам розуму, ён пачынае сумнявацца ў хрысціянскіх дагматах, карэнным пытаннем якіх была праблема тройцы.

Шмат хто з мысліцеляў XVI ст. ад адмаўлення ідэі супадзення трох асоб у адзіным бажастве перайшоў да адмаўлення асабістага бажаства, а затым — да ідэі супадзення бога і прыроды. Матэрыялы судовых працэсаў над вядомымі вальнадумцамі Джардана Бруна і Мікелем Серветам — абодва былі спалены за свае перадавыя ідэі на кастры — пацвярджаюць, што і яны прайшлі гэты шлях. Галоўнае абвінавачанне супраць іх заключалася ў адмаўленні боскасці Хрыста і атоесамліванні бога з прыродай. Жэнеўскія суддзі, якія прыгаварылі ў 1553 г. М. Сервета да спальвання, назвалі яго вучэнне «пантэізмам, тоесным атэізму».

Пад уплывам твораў М. Сервета Д. Б'яндрата ўсумніўся ў ідэях пратэстантызму, якія вельмі настойліва стараўся пашыраць «жэнеўскі папа» Кальвін, па загадзе якога і спалілі Сервета. Баючыся лёсу Сервета, Б'яндрата ўцёк спачатку ў Польшчу, а адтуль у 1560 г. у Беларусь і Літву. Тут ён меў вялікі поспех як урач.

Каб процідзейнічаць пашырэнню прапаганды іезуітаў у Беларусі і Літве, іх праціўнік Мікалай Радзівіл «Рыжы» спрабаваў у 1567 г. заснаваць некаталіцкі ўніверсітэт у Вільні і запрасіць туды прафесараў пры дапамозе Д. Б'яндраты. Але дапамога магнатаў, якая часцей за ўсё залежала ад іх капрызаў і настрояў, ні да чога не прывяла.

Для нас важна, што Д. Б'яндрата завёз у нашы краі творы М. Сервета, пра гэта ён пісаў свайму вучню, перадавому грамадскаму дзеячу Беларусі, Гжэгажу Паўлу, а ў выдадзены ў 1569 г. твор «Пра царства Хрыста» увёў цэлы раздзел з кнігі Сервета «Аднаўленне хрысціянства».

Настаўнік Д. Б'яндраты М. Сервет упершыню ў Еўропе ў сваёй кнізе «Аднаўленне хрысціянства» апісаў малы круг кровезвароту і гэтым абвергнуў антычнае вучэнне аб прасочванні крыві з правай сардэчнай камеры ў левую праз неіснуючую ў здаровых людзей адтуліну ў міжжалудачкавай перагародцы. Амаль увесь тыраж кнігі быў спалены інквізітарамі ў Ліёне, з тысячы экземпляраў да нашых дзён дайшло толькі тры, і адзін з іх, паводле ўсіх дадзеных, належаў Д. Б'яндраце.

Ёсць усе падставы меркаваць, што Д. Б'яндрата быў першым уладальнікам менавіта таго ўцалелага ад кастра экземпляра кнігі М. Сервета «Аднаўленне хрысціянства», з якога шырокія колы медыцынскай грамадскасці ў 1694 г. даведаліся аб адкрыцці лёгачнага кругу кровезвароту.

Значыць, перадавыя ідэі М. Сервета — і філасофскія, і анатамічныя — атрымалі вядомасць у нашых краях не пазней (а, магчыма, і раней), чым у іншых еўрапейскіх краінах. І не выпадкова Кальвін у сваіх пісьмах перасцерагаў літоўскіх і беларускіх пратэстантаў не слухаць Д. Б'яндрату.

Д. Б'яндрата, якога праследавалі царкоўнікі, вымушаны быў пакінуць Беларусь і Літву і паехаць у Сяміграддзе. Ён адыграў відную палітычную ролю ў гісторыі Усходняй Еўропы. Дзякуючы Д. Б'яндраце ў Сяміграддзі быў упершыню ў Еўропе прыняты закон аб свабодзе сумлення і раўнапраўя рэлігіі. Памёр ён 5 мая 1588 г.

Малодшы сучаснік Д. Б'яндраты П'етра-Сімоне Сімоні (1532 — 1602) быў родам з італьянскага горада Лукі. У Падуі ён атрымаў ступень доктара медыцыны. Пасля пераходу ў пратэстантызм П.-С. Сімоні давялося пакінуць радзіму. З Жэневы, дзе ён быў прафесарам мясцовага ўніверсітэта, у 1582 г. П.-С. Сімоні пераехаў у Рэч Паспалітую, дзе стаў урачом Стэфана Баторыя і лячыў караля ў час яго апошняй хваробы ў студзені 1586 года ў Гродне. Анатаміраванне цела Стэфана Баторыя, на якім прысутнічаў П.-С. Сімоні, было першае вядомае з дакументаў анатамічнае ўскрыццё ў Беларусі і з'явілася моцным ударам па сілах рэакцыі.

Уся папярэдняя дзейнасць П.-С. Сімоні сведчыла аб яго вальнадумстве. Неаднаразовая перамена П.-С. Сімоні сваёй веры (ён тройчы мяняў веравызнанне) гаворыць пра яго абыякавасць да пытанняў рэлігійнай прыналежнасці і ўскосна пацвярджае абвінавачанні яго ў атэізме, з якімі выступалі яго праціўнікі і канкурэнты ўрачы К. Вількоўскі і М. Скварч'ялупі. М. Скварч'ялупі пісаў, быццам П.-С. Сімоні сцвярджаў, што не існуе прычын звышпрыроднага паходжання, што неба і зямля — бацькі ўсіх рэчаў, а прычынай усяго ўсякага ёсць цяпло. Калі дапусціць, што абвінавачванні гэтыя заснаваны на фактах, то можна меркаваць, што П.-С. Сімоні адвяргаў боскае паходжанне рэчаў.

У сваіх творах, якія дайшлі да нас, П.-С. Сімоні быў блізкі да італьянскага філосафа П. Пампанацы (1462 — 1525), які карыстаўся антычным вучэннем Арыстоцеля для выступлення супраць схаластыкі, развіваў ідэі матэрыялізму і атэізму і адмаўляў бессмяротнасць душы. П.-С. Сімоні таксама быў праціўнікам схаластыкі і лі-

чыў сябе тут прыхільнікам французскага філосафа П'ера дэ ля Раме (1515—1572), які патрабаваў, каб логіка была звязана з жыццём. Як і гэты французскі філосаф (ён загінуў у час Варфаламееўскай ночы), П.-С. Сімоні вывучаў прыроду і ішоў услед за вучэннем старажытнагрэчаскага ўрача Гіпакрата, які ў сваім вучэнні апіраўся толькі на назіранні прыроды і тлумачэнне яе з'яў. П.-С. Сімоні прытрымліваўся поглядаў італьянскага матэрыяліста і крытыка схаластыкі Бернардзіна Тэлезіа (1509—1588), які лічыў, што задача навукі заключаецца ў доследным вывучэнні прыроды і вытлумачэнні яе заканамернасцяў, а не ў тлумачэнні «свяшчэннага пісання». Б. Тэлезіа зыходзіў з прызнання матэрыі, якую ён лічыў вечнай. Рухаючымі сіламі сусвету Б. Тэлезіа лічыў цеплыню і холад, а псіхічную дзейнасць чалавека тлумачыў наяўнасцю ў мазгах асобага цеплавога рэчыва—«духа». Погляды Б. Тэлезіа зрабілі значны ўплыў на перадавых філосафаў Ф. Бэкона, Т. Кампанелу і Д. Бруна.

Б. Тэлезіа быў непаслядоўны і дапускаў існаванне бога і наяўнасць «бессмяротнай душы». Але мы не павінны выкрэсліваць на гэтай падставе імёны Б. Тэлезіа і яго паслядоўніка П.-С. Сімоні з ганаровага спісу стваральнікаў матэрыялістычнай філасофіі. Нават у такога матэрыяліста і атэіста, як Б. Спіноза, указвае К. Маркс, сапраўдная ўнутраная будова яго сістэмы зусім розніцца ад формы, у якой ён яе свядома падае.

П.-С. Сімоні (як ён сам прызнаваў) услед за Б. Тэлезіа паўтараў, што бог існуе, але толькі па-за матэрыяй, што ў прыродзе існуюць дзве сілы, і яны праяўляюцца ў выглядзе двух родаў руху—цеплыні, што імкнецца да пашырэння, і сціскаючага холаду; гэтыя сілы ўздзейнічаюць на матэрыю, якая ўключае ў сябе неба (сферу цеплыні) і зямлю (сферу холаду). Неба стварае ўсё, што знаходзіцца ў яго межах, а зямля—усё тое, што існуе на ёй. П.-С. Сімоні адвяргаў бога як стваральніка рэчаў, дазваляў свабодна дзейнічаць сілам прыроды, адкрываў шлях да разумення з'яў спосабам, вельмі далёкім ад дапушчэння пастаяннага ўмяшання звышпрыродных фактараў.

Гэтага было дастаткова, каб даць магчымасць М. Скварч'ялупі абвінаваціць вучонага ў атэізме. А такое абвінавачанне ў тыя часы было прамой пагрозай кары. Таму П.-С. Сімоні ўцёк з Рэчы Паспалітай у Чэхію.

П.-С. Сімоні быў праціўнікам багаслоўя, прыхільнікам вызвалення філасофскай думкі з-пад уплыву рэлігіі. Але перш за ўсё ён быў урачом, як і Д. Б'яндрата, і як урач выступаў супраць схаластычнага тлумачэння арабскімі медыкамі твораў антычных урачоў Гіпакрата і Галена. Як філосаф П.-С. Сімоні ў процівагу рэлігійным дагматыкам прапаноўваў ачысціць ад рэлігійных напластаванняў вучэнне стыхійнага матэрыяліста старажытнасці Арыстоцеля, хоць як даследчык прыроды ён поўнасцю адмаўляў вучэнне Арыстоцеля аб прыродзе. Біёграф П.-С. Сімоні Т. Грабоўскі піша: «Пакуль новае прыродазнаўства не абгрунтавалася, чалавечая думка рухалася наперад дзякуючы назіранням, за якія урач Баторыя (П.-С. Сімоні) заплаціў абвінавачаннем у атэізме, а Джардана Бруна, такі ж раўнівы прыхільнік Тэлезіа,—смерцю на кастры ў Рыме».

Праз паўстагоддзя ў Нясвіжы пасяляецца яшчэ адзін выхадзец з італьянскіх зямель—Іосіф-Саламон Дэльмядзіга (1591—1655). Нарадзіўся ён у сям'і выхадцаў з Венецыі, у горадзе Кандзія (цяпер Іраклён) на востраве Крыт, які тады належаў Венецыянскай рэспубліцы. Тут ён меў магчымасць вывучыць шэраг моў і спадчыну антычнай культуры. У 1606 г. І. Дэльмядзіга паступіў вучыцца медыцыне ў Падуанскі ўніверсітэт, больш незалежны ад царкоўнага ўплыву, чым іншыя ўніверсітэты Італіі. Ён вывучаў астраномію пад кіраўніцтвам Г. Галілея, успрыняў яго матэрыялістычныя погляды. Г. Галілею І. Дэльмядзіга быў абавязаны сваімі прыродазнаўчымі поглядамі. Як і італьянскі вучоны, ён выбраў шлях барацьбы са сляпым пакланеннем старажытным і царкоўным аўтарытэтам.

У 1613 г. І. Дэльмядзіга вярнуўся на родны востраў, але праз тры гады быў вымушаны пакінуць яго назаўсёды, кінуўшы ўсё—родны дом, сям'ю, маленькую дачку, маёмасць, багатую бібліятэку і каштоўныя рукапісы. Прычынай гэтаму былі ганенні царкоўнікаў за вальнадумства маладога вучонага, пра якое гісторык і філосаф І. Фройдэнталь пісаў: «Ён (Дэльмядзіга) сумняваўся ў цудах, пра якія расказвала біблія, ... вучыў, што складальнік знойдзенай ім у «Кнізе цароў» (раздзеле Бібліі.— **В. Г.**) «Хронікі аповесцяў» адвольна ўпрыгожваў апавяданне. Не выказваючы ніколі адкрыта і канкрэтна свае думкі, больш ці менш прыхаванымі намёкамі ён выказваў шматлікія ерэтычныя погляды. Ён не прызнаваў, што свет створаны з нічога; многія цуды, пра якія гаварылася ў бібліі, тлумачыў прыроднымі прычынамі; у прароцтвах бачыў толькі найвышэйшую ступень дзейнасці цвярозага розуму. Лічыў, што існаванне анёлаў не даказана, а гіпотэза аб перасяленні душ—не грунтоўная. Наогул, ён падвяргаў сумненню кожную думку, якая асноўвалася не на доказе, а на веры».

Пасля бадзянняў па Егіпце, Турцыі, цяперашняй Румыніі І. Дэльмядзіга прыехаў у Нясвіж і Вільню, дзе працаваў урачом князя Радзівіла і, як ён сам пісаў пазней, «вымушаны быў пастаянна пераязджаць з аднаго месца на другое, бо паны і магнаты (якіх ён лячыў.—**В. Г.**) жывуць у сваіх маёнтках далёка адзін ад другога».

Праз 6 гадоў (тыя ж самыя ганенні) ён паехаў спачатку ў Лівонію, затым у Германію і Галандыю, а апошнія гады жыцця працаваў і жыў у Празе.

І. Дэльмядзіга быў высокаадукаваны вучоны—энцыклапедыст і даследчык прыроды, ведаў дзесяць моў. З яго доследаў асаблівай увагі заслугоўвае адзін, пра які вучоны пісаў:

«Я рабіў доследы над дзвюма жалезнымі іголкамі, намагнічанымі адным і тым жа магнітам, і заўважыў, што адна рухалася ўслед за другой. Гэта навяло мяне на тую думку, што калі ўмацаваць намагнічаныя іголкі на дзвюх круглых пляцоўках, на якіх напісаны ўсе літары алфавіту, і рухаць з дапамогай дотыку жалезнага дроту адну іголку да вядомай літары, то і другая іголка, якая ўмацавана на другой пляцоўцы і знаходзіцца на вядомай адлегласці ад першай, будзе рухацца ў напрамку да той жа літары.

Такім чынам, дамовіўшыся наперад наконт таго, якое значэнне надаваць становішчу іголкі другой літары, адзін мог бы з дапамогай гэтага перадаваць свае думкі другому на пэўнай адлегласці. Калі навуцы ўдасца адкрыць умовы, пры якіх дзеянне іх можа працірацца на далёкія адлегласці, гэта будзе самае важнае, самае вялікае з адкрыццяў, зробленых калі-небудзь чалавекам».

Як мы бачым, вучоны падышоў ушчыльную да ідэі адкрыцця электрамагнітнага тэлеграфу.

У астраноміі ён прытрымліваўся поглядаў М. Каперніка, у філасофіі выступаў супраць сярэдневяковай схаластыкі, у медыцыне заклікаў больш давяраць сваім уласным адчуванням і поглядам, чым меркаванням вучоных мінулага, аўтарытэтамі якіх, як правіла, прыкрываліся царкоўнікі і невукі.

Лёс чацвёртага «факела ў цемры»—Іягана-Фрыдрыха Бакстрама—самы трагічны.

Гэты чалавек нарадзіўся ў сям'і ювеліра ў 1686 г. у гарадку Равіч на захадзе Польшчы і працаваў цырульнікам. У кола заняткаў цырульнікаў таго часу ўваходзіла не толькі стрыгчы і галіць, але і кровапусканні і іншыя хірургічныя маніпуляцыі. Само слова «цырульнік» ідзе ад польскага «cyrulik», што азначае грэчаскае «cheirurgos» (рукадзел). Дактары з універсітэцкай адукацыяй хірургіяй тады не займаліся і лічылі яе рамяством, а не навукай.

Ён вучыўся ў Познані і Вроцлаве, саматугам авалодаў французскай, італьянскай, рускай і турэцкай мовамі. Пасля гімназіі І. Бакстрам займаўся ў Іенскім універсітэце багасловем і медыцынай. З 1717 г. выкладаў у гімназіі ў Таруні (на поўначы Польшчы). Яго пропаведзі былі не па гусце пратэстанцкім багасловам, і маладога выкладчыка спачатку кінулі ў карцар. І. Бакстрам уцёк у гарадок Венгруў пад Варшавай. Але тут яго пачалі ганяць іезуіты, і Бакстраму давялося схавацца ў Варша-

ве, адкуль ён спачатку хацеў паехаць у Расію, а пасля ў Стамбул. Там ён пражыў два гады (1729—1731), наладзіў друкарню, у якой друкаваў кнігі, перакладзеныя з усходніх моў. Тут І. Бакстрам беспаспяхова спрабаваў стварыць акадэмію навук.

У 1737 г., калі І. Бакстраму было 51 год, Радзівілы запрасілі яго ў новы свой маёнтак у цэнтры Налібоцкай пушчы. Прыехаў І. Бакстрам у Налібокі, каб лячыць князя Іераніма Радзівіла, вядомага сваёй жорсткасцю, ад гугнявасці. Урач патраціў на гэта два гады і дабіўся поспеху, за што Іеранім падараваў яму дом у Слуцку. Радзівілы адначасова былі зацікаўлены ведамі ўрача ў тэхніцы і даручылі яму пабудаваць шкляную, керамічную і фарфоравую фабрыкі. Фарфор у той час цаніўся вельмі высока. Сакрэт прыгатавання фарфору старанна ахоўваўся кітайцамі. З вялікай цяжкасцю нямецкі аптэкарскі памочнік І. Бётгер незадоўга перад гэтым адкрыў гэты сакрэт пасля шматгадовых эксперыментаў у пошуках міфічнага «філасофскага каменя», які нібыта дазваляў атрымліваць золата з свінцу. І. Бакстрам практычныя работы па атрыманню фарфору ставіў «значна вышэй за дарэмныя пошукі філасофскага каменя або вечнага рухавіка».

У 1738 г. І. Бакстрам заснаваў фарфоравую фабрыку ў Свержані і загадваў шкляной мануфактурай, якая была закладзена ў 1737 г. ва Урэччы, працаваў над пытаннямі драблення каменю, над тэорыяй прыроды алмазаў і над вырабам фарфору.

Апрача пытанняў хімічнай тэхналогіі, І. Бакстрама працягвалі цікавіць пытанні філасофіі, за што яго не любілі і пратэстанцкія багасловы, і іезуіты. Пра яго погляды мы ведаем яшчэ менш, чым пра погляды Б'яндраты, Сімоні і Дэльмядзіга. Вядома толькі, што ў сваіх творах урач адказваў на такія пытанні:

«Што ёсць сутнасць рэчаў? Якая розніца паміж розумам і целам? Што ёсць час і што ёсць вечнасць? Што ёсць жыццё? Ці знаходзіцца душа ў чалавечым целе? Што ёсць розум і воля, і што з іх над чым пануе? Што ёсць дабро і што ёсць зло? Што ёсць ідалапаклонства? Якая розніца паміж Старым і Новым заветамі? Ці не супярэчыць любові да бліжняга пакаранне смерцю? Ці не супярэчаць войны любові да бліжняга і асабліва Новаму завету? Ці з'яўляюцца негры асобай чалавечай расай?»

Дастаткова заўважыць, што многія з гэтых смелых для таго часу пытанняў самі па сабе выклікалі адмоўную рэакцыю духавенства сваёй дзёрзкасцю.

Іезуіты ўзмацнілі свае нападкі на І. Бакстрама. Князь Іеранім узненавідзеў вучонага. Фармальнай прычынай для цкавання І. Бакстрама была перапіска ўрача з сенатарам Міхалам Радзівілам, які жыў у Варшаве. Урач паслаў сенатару два пісьмы. Абвінавацію́шы ў здрадзе, князь кінуў яго ў турму і падвергнуў катаванням.

Не вытрымаўшы катаванняў, 56-гадовы І. Бакстрам «жыцця свайго сам скараціў дні», як гаворыць пісьмо яго дачок Хрысціны Шэйба і Хрысціны Крупскай ад 15 кастрычніка 1764 г. Князь Іеранім канфіскаваў падараваны ім у свой час дом у Слуцку, дарагі медыцынскі і матэматычны інструментарый І. Бакстрама на вялікую суму — 8.000 фларынаў. Так патух апошні з чатырох факелаў, якія свяцілі ў змроку сярэдневякоўя.

На жаль, пра людзей, пра якіх мы коратка расказалі, на беларускай і рускай мовах прац́ыў няма (за выключэннем брашуры аб І. Дэльмядзіга, выдадзенай у 1895 г. у Адэсе). Калі знаёмішся з іх біяграфіямі, міжвольна ўзнікае пытанне: хіба можна не пераказаць іх мастацкім словам?

Няхай не забудуцца ў наш час светлыя фігуры вальнадумцаў мінулага, якія, як маглі, змагаліся з фанатызмам і цемрашальствам у свае часы.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

*Лістапад*

# НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ

## «Спявай песню, паэт»



Фільм пра Сяргея Ясеніна. Аўтары паставілі перад сабой нялёгкую задачу — раскрыць сродкамі кінематографа ясенінскае ўспрыманне Расіі, адлюстраванае ў паэзіі. Паэтычныя вобразы, створаныя Ясеніным, паўстаюць перад намі як жывыя.

Фільм зняў заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Сяргей Урусеўскі, вядомы нам па такіх выдатных работах, як «Сельская настаўніца», «Сорак першы», «Ляцяць журавы» і інш. У новай стужцы Урусеўскі выступае ў трох асобах: — сцэнарыст (сумесна з Генадзем Шпалікавым), галоўны аператар і рэжысёр-пастаноўшчык.

У ролі Сяргея Ясеніна здымаўся малады акцёр Сяргей Никаненка, знаёмы гледачам па кінафільмах «Людзі і звяры», «Журналіст», «Красная плошча», «Вызваленне» і інш. Ролю Ганны Снегінай іграе маладая актрыса Наталля Белахвосцікава, якая не так даўно паспяхова дэбютавала ў фільме С. Герасімава «Ля возера».

## «Схватка»

Нашы гледачы добра ведаюць фільм Адэскай кінастудыі «Аповесць пра чэкіста». Цяпер адэскія кінематаграфісты завяршылі работу над другім фільмам, які стаў працягам кінааповесці пра адважнага савецкага разведчыка Мікалая Гефта.

Фільм пераносіць нас у невялікі нямецкі гарадок на беразе Балтыйскага мора. Час дзеяння — 1944 год.

Па заданні савецкага камандавання Мікалай Гефт выдае сябе за прыхільніка гітлераўскага рэжыму, уступае ў нацысцкую партыю і на працягу доўгага часу паспяхова працуе ў глыбокім тыле ворага. Але калі фільм «Аповесць пра чэкіста» быў створаны на сапраўдных фактах падпольнай работы Мікалая Гефта ў акупаванай Адэсе, то «Схватка» пабудавана ў асноўным на мастацкім домысле. Адпраўным пунктам для сцэнарыя паслужыла дастаўка савецкаму камандаванню каштоўных сакрэтных дакументаў ваенных караблебудаўнікоў Германіі, за якія Мікалай Гефт заплаціў сваім жыццём.

У ролі Мікалая Крафта (так завуць у фільме Мікалая Гефта) выступае акцёр Вільнюскага драматычнага тэатра Лаймонас Нарэйка. У карціне здымалася таксама папулярная кінаактрыса Людміла Чурсіна. Сцэнарый напісаў Аляксандр Лапшын, пастаноўка Сцяпана Пучыняна.

## «Цеплыня тваіх рук»



Фільм створаны рэжысёрамі Шата і Надарам Манагадзе на кінастудыі «Грузія-фільм» па сцэнарыі Суліко Жгенці, які атрымаў першую прэмію на Усесаюзным конкурсе, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Тут, як і ў сцэнарыі «Бацька салдата», адзін індывідуальны лёс вырастае да маштабаў лёсу народнага.

На экране — адзін з маляўнічых куткоў Грузіі — Гурыя з яе раскіданымі па схілах гор кукурузнымі палямі, на якіх працуюць пад спякотным паўднёвым сонцам сяляне. Пад гарой цячэ крыніца. Тут, ля гэтай крыніцы, мы знаёмімся з гераіняй фільма — маладой Сіданіяй, тоненькай вясёлай дзяўчынай, якая радуецца сонцу, маладосці і мірнаму шчасліваму жыццю, якое ёй наканавана пражыць у родным краі з любімым чалавекам Ясонам. Жыццё Сіданіі праходзіць у нас перад вачыма — яно нялёгкае, але цудоўнае, бо поўнае дабраты, мужнасці і стойкасці.

На пятым Усесаюзным кінафестывалі ў Тбілісі фільм «Цеплыня тваіх рук» быў прызнаны лепшым фільмам пра сучаснага савецкага чалавека. Ролю Сіданіі іграе папулярная грузінская актрыса Сафіко Чыаурэлі, выдатная работа якой адзначана на тым жа фестывалі прэміяй за лепшую жаночую ролю.

## «Чырвоны мак Ісык-Куля»

У аснову гэтага новага каляровага кіргізскага шырокаэкраннага мастацкага фільма пакладзена аповесць А. Сыціна «Кантрабандысты Цянь-Шаня», якая расказвае пра станаўленне савецкай улады ў Кіргізіі, пра барацьбу з кантрабандыстамі, якія перапраўлялі цераз граніцу опіум, пра станаўленне самасвядомасці ў простых працаўнікоў Кіргізіі.



Паставіў фільм рэжысёр Балот Шамшыеў, які, яшчэ будучы студэнтам Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі, быў удастоены прыза кінафестывалю рэспублік Сярэдняй Азіі і Казахстана 1964 года за лепшы акцёрскі дэбют у фільме «Спёка».

На пятым Усесаюзным кінафестывалі ў Тбілісі прэміяй за лепшае выкананне мужчынскай ролі была адзначана работа Сюйменкула Чакмарава, які стварыў у фільме «Чырвоны мак Ісык-Куля» вобраз чырвонаармейца Карабалты. Гэтай жа прэміі ён быў удастоены на Усесаюзным кінафестывалі ў Мінску за ролю Бахтыгула ў сваім першым фільме «Стрэл на перавале Караш». Цікава, што Сюйменкул Чакмараў — не прафесійны акцёр, а мастак-жывапісец, выпускнік Ленінградскай Акадэміі мастацтваў.

На экранах рэспублікі будуць таксама дэманстравацца новыя мастацкія кінафільмы: «Слухайце на тым баку» (кінастудыя «Масфільм»),— пра адзін з эпізодаў баёў на Халхін-Голе, дзе змагаўся невялікі атрад Мангольскай Народнай і Чырвонай Арміі, створаны для дэзінфармацыі японскіх войск; «Іжорскі батальён» (кінастудыя «Ленфільм») — пра подзвіг рабочых Іжорскага завода ў дні Вялікай Айчыннай вайны; «Ні дня без прыгод» (Кіеўская кінастудыя імя А. П. Даўжэнкі),— пра жыццё і вучобу піянераў.





# СКАРБЫ НЯПТУНА

### З МАРСКІХ ГЛЫБІНЯЎ




Амаль сем кілаграмаў солі з'ядае чалавек за год. А за ўсё жыццё? Каб перавезці ўсю соль, што ўжываюць людзі і хатняя жывёла штогод, патрэбна было б звыш 25 тысяч таварных вагонаў. Соль ідзе не толькі для ежы, яна — каштоўная хімічная сыравіна. Больш як 75 працэнтаў усёй спажыўнай солі, што здабываюць у свеце (больш як 80 мільёнаў тон), перапрацоўваецца на соду, хлор, шчолачы. Соль патрэбна металургам і гарбарам, фарбавальшчыкам і мылаварам... Без яе не абыходзяцца медыкі і нафтавікі. Больш за 1.400 розных прымяненняў солі знайшлі вучоныя.

Яшчэ ў старажытныя часы кітайцы, індусы, егіпцяне, якія жылі каля паўднёвых мораў і акіяна, заўважылі, што пры выпарэнні марской вады пад гарачымі промнямі сонца на беразе застаецца белы пласт солі. У марскую ваду пачалі апускаць бярвенні, затым высушвалі іх на сонцы і сашкрабалі соль. Але болей чым за тры тысячы год да нашай эры кітайцы навучыліся атрымліваць соль больш дасканалым спосабам. Непадалёк ад мора на вялікім участку (500—600 кв. м.) яны рыхлілі зямлю і капалі равы. Атрымлівалася нешта накшталт разграфлёнай равамі шахматнай дошкі. У добрае надвор'е вясною і ўвосень (летам там частыя дажджы) па полі разлівалі марскую ваду. Паступова яна сцякала ў равы. Адтуль яе зноў вычэрпвалі і зноў разлівалі па полі. Так рабілі некалькі разоў, пакуль вада не выпаралася. Праз пяць—шэсць дзён збіралі зямлю, насычаную соллю, пласт таўшчынёю прыкладна 4—5 сантыметраў, прамывалі марской вадою і атрымлівалі насычаны расол. Залівалі расолам адкрытыя жалезныя патэльні і выварвалі з іх соль. Прамытую ж зямлю зноў раскідалі па саляным полі. Гэты спосаб атрымання солі з марской вады з невялікімі зменамі захаваўся да нашых дзён у некаторых прыморскіх раёнах Карэі і Паўночнага Кітая. Такая соль ідзе цяпер толькі на саленне рыбы, бо яна з пяском і глеем.

У іншых цэнтрах старажытнай цывілізацыі—Грэцыі, Рыме, Індыі, дзе лета звычайна сухое і гарачае,— на марскім беразе выкопвалі ямы (а потым і басейны) і напаўнялі іх марскою вадою, якая паступова выпаралася, а на дне шчыльным пластам асядала соль. Гэты спосаб пачалі ўжываць потым і іншыя краіны паўднёвай Еўропы—Францыя, Іспанія, Партугалія. Так здабывалі соль і ў нас у Крыме, а ў Еўпаторыі да гэтага часу існуе промысел марской солі.

Па спосабе здабычы марскую соль часта называюць басейнавай, у адрозненне ад каменнай, якую здабываюць з шахтаў, або вываранай, што вывараецца з саляных крыніц і расолу. Такая соль не чыстая: у ёй ад 87 да 97 працэнтаў хлорыстага натрыю, астатняе—прымесі хлорыстых і сернакіслых соляў магнію і кальцыю.

Важнае значэнне мае арганізацыя здабычы солі з марской вады і для нашага Далёкага Усходу, дзе шмат яе трэба для салення рыбы, а прывозяць яе з Волгі ці з Сібіры.



### КОЛЬКІ СОЛІ У МОРЫ

Калі б можна было ўзважыць усе солі, раствораныя ў морах і акіянах, атрымалася б лічба ў 48 мільярдаў тон, з іх спажыўнай—38 мільярдаў. Марская вада — гэта слабы раствор спажыўнай солі ў сумесі з іншымі солямі. У сярэднім акіянская вада мае 3,5 працэнта соляў. У закрытых морах працэнт меншы: у Чорным, воддаль ад берага — каля 1,8 працэнта, у цэнтральным басейне Балтыйскага —

усяго 0,6—0,8 працэнта, і толькі Міжземнае і Краснае моры маюць каля чатырох працэнтаў.

У морах і акіянах раствораны солі амаль сарака розных хімічных элементаў, між іх шмат такіх каштоўных, як магній, медзь, цынк, калій, кальцый. У мільённых долях працэнта ёсць ртуць, торый, уран, цэзій, срэбра. Нават золата ў марской вадзе—на тысячу тон каля чатырох міліграмаў.

Ледзь не да 70-х гадоў мінулага стагоддзя з марской вады здабывалі толькі спажыўную соль. Поспехі сучаснай хіміі далі магчымасць здабываць іншыя солі. Калійныя солі, якіх у адным кубічным кіламетры марской вады знаходзіцца каля 700 тон, патрэбны для фатографаў і фармацэўтаў, шклавараў і мылавараў, ужываюцца яны і пры вырабе фарбаў, скур, чорнага пораху, пры адбелцы, ачыстцы і пратраўліванні тканіны ў тэкстыльнай прамысловасці.

Упершыню здабыча калійных соляў з марской вады пачалася ў Японіі ў часе першай сусветнай вайны, калі з-за блакады асноўны пастаўшчык іх на сусветным рынку—Германія спыніла свой экспарт. Больш за тры дзесяткі гадоў здабываюць з марской вады такі каштоўнейшы метал, як магній, які вельмі патрэбны для металургіі: дадатак магнію да чыгуну памяншае вагу сплаву на 30 працэнтаў. Лёгкія алюмініева-магніевыя сплавы шырока ўжываюцца цяпер у авіябудаванні і аўтамабільнай прамысловасці. Сусветная вытворчасць «марскога» магнію перавысіла ўжо 500 тысяч тон (без СССР).

Хімікі распрацавалі зручны і танны спосаб атрымання магнію з марской вады. У адным кубаметры яго знаходзіцца 1,3 кілаграма. Да гэтага часу магній здабываўся амаль выключна шляхам электролізу расплаўленага мінералу карналіту (вялікая колькасць гэтага мінералу ёсць у Салікамску) ці хларыстага магнію. Цяпер моцныя помпы нагнятаюць марскую ваду на фільтры, адсюль яна сцякае ў вялікія чаны—рэзервуары, куды падсыпаецца гашаная вапна, якая пачынае ўзаемадзейнічаць з солямі магнію, растворанымі ў марской вадзе. Утвараецца гідрат вокісу магнію. Вада са ўзважанымі ў ёй часцінкамі гідравокісу магнію падаецца ў адстойнікі. Яе зліваюць, асадак высушваецца на фільтрах і нейтралізуецца салянай кіслатой. Потым у выпаральніках выдаляецца вада, і ўжо ў сушылках ён канчаткова абязводжваецца. Атрыманы хларысты магній ідзе на электроліз, пасля чаго адліваецца ў невялікія балванкі вагою 7—8 кілаграмаў. Абязводжаны гідрат вокісу магнію, ці магнезія—цудоўны вогнетрывалы матэрыял (плавіцца толькі пры тэмпературы 2 000 градусаў), які ўжываецца пры абліцоўцы доменных і заводскіх печаў.

Вырабляюць цяпер на аснове магнезіі таксама цеплаізаляцыйныя матэрыялы для цеплаізаляцыі—н'ювель і савеліт, для будаўніцтва—фібраліт і ксіламаліт, якія атрымліваюцца пры змешванні гідравокісу магнію з пілавіннем і стружкамі.




## «АПЯКУН» АЎТАМАБІЛІСТАЎ

Невялікі французскі гарадок Монпелье на ўзбярэжжы Міжземнага мора славіцца сваім універсітэтам, які збудаваны яшчэ ў XIII стагоддзі, і марской соллю. У 1826 годзе выкладчык хіміі фармацэўтычнай школы Антуан Балар зацікавіўся салянымі матачнікамі, што засталіся пасля здабычы спажыўнай солі, з марской вады на мясцовых саляных промыслах. Зрабіўшы іх хімічны аналіз, Балар знайшоў новы, невядомы яшчэ тады хімічны элемент. Гэта была вадкасць чырвона-бурага колеру, у тры разы цяжэйшая за ваду, з вельмі непрыемным пахам. Новы элемент аказаўся блізкім родзічам хлору, яго назвалі бромам (ад грэчаскага слова «бромас» — смярдзючы).

Неўзабаве заўважылі, што растворы бромістых соляў—цудоўныя лекі для нерваў. А праз два дзесяткі гадоў бром спатрэбіўся і фатографам, бромажэлацінавай эмульсіяй пачалі пакрываць фотаплёнку і фотапласцінкі. У наш час бурнага развіцця арганічнай хіміі брому знайшлося яшчэ шмат спраў. Калі ў малекулы некаторых арганічных рэчываў увесці атамы брому, атрымаюцца яркія, стойкія да выгарання фарбы. Напрыклад, брамірующы флуорасцэін—з яго робяць фарбу для шоўку,— эазін, які дае цэлую гаму яркіх і чыстых таноў ад сіняга да чырвонага колеру. Адзін з гэтых фарбавальнікаў падобны да антычнага пурпуру, якім і фарбаваліся тогі рымскіх імператараў і мантыі персідскіх цароў. Многія бромістыя арганічныя злучэнні—моцныя атрутныя рэчывы.





Незадоўга пасля першай сусветнай вайны для брому знайшлася яшчэ адна «прафесія»—ён зрабіўся «апекуном» аўтамабілістаў. Для барацьбы з дэтанацыяй звычайна да бензіну дадаюць антыдэтанатар, часцей за ўсё тэтраэцілсвінец. Аднак гэтае рэчыва ўтварае з прадуктамі гарэння асадак, які застаецца на сценах цыліндра. Калі ж дадаць да антыдэтанатара бромістыя злучэнні, бром рэагуе са свінцом— і ўтвараецца лятучае рэчыва, якое праз выхлапную трубу выкідваецца ў паветра.

Павелічэнне выпуску аўтамабіляў і самалётаў павысіла попыт на бром, хутка пачала развівацца яго вытворчасць, бром сталі атрымліваць з нафтавых і марской водаў, азёрнай рапы. На бромным заводзе марскую ваду канцэнтруюць, падкісляюць сернай кіслатой і хларыруюць. Хлор выціскае бром з яго соляў і пераводзіць у свабодны стан. Апрацаваную такім чынам марскую ваду прапускаюць праз высокую вежу, выкладзеную знутры кіслотатрывалымі пліткамі і керамічнымі кольцамі. Насустрач раствору праз вежу знізу ўверх ідзе магутны струмень паветра, які забірае бром з вадкасці. Гэтым спосабам атрымоўваюць бром (з некаторымі зменамі) на большасці бромных заводаў.



## ШАХТЫ Ў МОРЫ

Марская вада — не толькі крыніца для атрымання магнію, брому, калію, ёду і іх соляў. Яна — таксама пастаўшчык рэдкіх каштоўных металаў. Праўда, пакуль што атрыманне ўрану і рэдказямельных металаў з мора не выйшла за межы лабараторных даследаванняў. Аднак у ЗША ўжо ўзята некалькі патэнтаў на розныя спосабы здабычы з марской вады урану, талію, цырыю. У Японіі ў шырокіх маштабах атрымліваюць з саляных матачнікаў, што застаюцца пасля здабычы спажыўнай солі, літый і рубідый. Нядаўна геолагі, даследуючы марское дно, знайшлі ў розных морах і акіянах залежы многіх каштоўных металаў: ванадзію, кобальту, волава. У некаторых краінах за рубяжом з пляжных россыпаў, што заліваюцца марской вадою, здабываюць цырконій, торый, тытан. Многія марскія арганізмы — асцыдзіі, зоркі, малюскі, мядузы — здольны канцэнтраваць розныя хімічныя элементы: ванадзій, волава, свінец, марганец, бром, ёд. Магчыма, некалі ў спецыяльных садках будуць разводзіць такія арганізмы, а потым спальваць і з попелу «жывой руды» здабываць каштоўныя металы.

У Таіландзе ля берага на глыбіні 20 метраў ужо некалькі гадоў працуе алавяны «руднік»—са дна разам з пяском дастаюць волава. Непадалёк ад вострава Ньюфаўндленд ужо больш дваццаці гадоў наладжана здабыча са дна акіяна меднай і жалезнай руды. На дне акіянаў і мораў сустракаюцца жалеза-марганцавыя канкрэцыі: невялікія жаўлакі, велічынёю з бульбіну, створаныя нябачнымі працаўнікамі—бактэрыямі, рассыпаны ў падводным царстве (яны маюць таксама крапінкі кобальту, нікелю і інш.). У недалёкім будучым іх пачнуць распрацоўваць. Японія перапрацоўвае штогод у Такійскім заліве звыш сямі мільёнаў тон жалезістых пяскоў. Такія ж пяскі выяўлены ў нас на берагах Чорнага мора і на Курыльскіх астравах.



## КЛАДОЎКА ЭНЕРГЕТЫКАЎ

У Каспійскім моры непадалёк ад Баку ёсць востраў, увесь з жалезных бэлек і канструкцый. На ім жывуць нафтавікі. Яны здабываюць нафту з марскога дна. Здабыча «марской» нафты ўжо складае больш за адну трэць усёй здабычы нафты на Апшаронскім паўвостраве. Але гэта не мяжа. Амаль кожны год у водах паўднёвай часткі Каспійскага мора, каля берагоў Азербайджана і Туркменіі знахо-

дзяць усё новыя і новыя паклады «чорнага золата». Некаторыя спецыялісты лічаць, што запасы нафты ў моры значна перавышаюць колькасць нафты ў падземных кладоўках. У апошнія гады геолагамі даказана наяўнасць нафты ў розных раёнах Азоўскага, Аральскага, Баранцава, Ахоцкага і Чорнага мораў. Зусім нядаўна савецкія вучоныя Д. А. Тунгалесаў і Ю. Я. Кузняцоў выказалі меркаванне аб наяўнасці нафты ў Балтыйскім моры і намецілі некалькі найбольш перспектыўных для прамысловых распрацовак участкаў каля берагоў Паўночнай Прыбалтыкі.

Шмат нафты здабываюць з-пад марскога дна і за рубяжом. Пошукі «марской» нафты вядуць больш як 50 краін. Згодна падлікаў вучоных, запасы нафты ў неглыбокіх частках сусветнага акіяна складаюць 135 мільярдаў тон (у зямных нетрах—каля 300 мільярдаў). Вялізныя запасы нафты ў Мексіканскім і Персідскім залівах, у лагуне Маракаіба (Венесуэла), у заліве Кука (на Алясцы). Па падліках савецкага геолага М. Калінка, у Іране можна здабыць «марской» нафты звыш васьмі мільярдаў тон. Нафта, якую можна здабыць у заліве Кука, складае тры чвэрці ўсёй нафты, што здабываецца на Алясцы. Вялікія паклады нафты схаваны ў глыбінях Ціхага акіяна, каля Новай Зеландыі і каля берагоў Каліфорніі. Нядаўна знойдзены буйныя запасы яе ў Яванскім і Паўднёва-Кітайскім морах. Ёсць падставы меркаваць, што ў морах, якія амываюць шосты кантынент — Антарктыду,— таксама ёсць нямала нафты. Па падліках М. Калінка, агульная плошча воднай прасторы, дзе можна знайсці нафту,— сорак мільёнаў квадратных кіламетраў (нафтаносная плошча сушы — трыццаць мільёнаў квадратных кіламетраў), а агульныя запасы нафты ва ўсіх морах і акіянах — 1 400 мільярдаў тон.

Да гэтага часу нафту здабывалі ў моры з глыбінь не звыш 60 метраў, адзінкавымі былі шчыліны глыбінёю да 200 метраў. Сканструяваны некалькі гадоў таму назад савецкімі вынаходцамі турбабур дазваляе здабываць нафту з глыбінь у 700—800 метраў. А зусім нядаўна з'явіліся плывучыя буравыя ўстаноўкі, якія дазваляюць рабіць шчыліны глыбінёю да 6 000 метраў.

Багата ў морах і «блакітнага паліва»—гаручага газу. Месцанараджэнні газу ў моры (як і на сушы) амаль заўсёды спадарожнічаюць нафтавым. У нас асабліва перспектыўныя месцанараджэнні «марскога» газу ў паўднёвай частцы Азоўскага мора і на дне Ахоцкага мора каля Сахаліна. У Еўропе больш дзесятка буйных месцанараджэнняў газу знойдзена ў Паўночным моры. Пабудаваны і падводныя газаправоды.

Марское дно—пастаўшчык і іншых каштоўных гаручых выкапняў: каменнага вугалю, сланца. У Англіі каменны вугаль здабываюць на 28 падводных «шахтах», у Японіі—на 26. Са дна мора здабываюць каменны вугаль ля Шпіцбергена, ля берагоў Чылі, у Аўстраліі.

У марской вадзе ёсць каштоўнае атамнае гаручае—цяжкая вада (на 6000 частак—адна частка). Адзін кілаграм цяжкай вады дае столькі энергіі, колькі даюць 400 тон вугалю ці 200 грамаў чыстага ўрану. Калі ж адзін грам цяжкага вадароду, які ўтварае цяжкую ваду, ператварыць у ядры гелію (а з часам так і будуць рабіць), можна атрымаць энергіі ў дзесяць мільёнаў разоў больш, чым пры спальванні цяжкага вадароду. Запасы цяжкай вады ва ўсіх морах і акіянах дасягаюць велізарнай лічбы—274 мільярдаў тон. Такая колькасць цяжкай вады можа замяніць 1096 000 000 000 000 тон каменнага вугалю. Нядаўна французскія вучоныя выказалі гіпотэзу, што на вялікіх глыбінях зямной кары знаходзіцца велізарная колькасць цяжкай вады. Для праверкі свайго меркавання французы прабурылі глыбокую шчыліну ў марскім дне.

Незлічоныя скарбы ў кладоўцы царства Няптуна. Недалёкі той дзень, калі людзі будуць чэрпаць з яе багацці поўнай меркай.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук**



# КАМБІНАЦЫІ ЧЫТАЧОЎ

Камбінацыйныя канцоўкі, якія даслалі ў рэдакцыю Мікалай Іржаўскі і Дзмітры Палонскі, адпавядаюць усім патрабаванням шашачнага майстэрства. Прапануем рашыць іх самастойна.

У першай канцоўцы белыя дамагаюцца апазіцыі на сваю карысць, у другой — дамкай з g5 падрываюць пункт f8 і ў трэцяй — трапляюць на дамачную гарызанталь з поля h2. Канцоўка ж Д. Палонскага мае ілжывыя хады як у пачатку гульні, так і ў эцюдным заканчэнні.

*Мікалай Іржаўскі (г. п. Рось)*





Камбінацыя Дзмітрыя Палонскага (г. Мінск): белыя — a3, b4, b6, c3, c5, d2, g1, h2 (8); чорныя — a7, d8, e5, e7, f4, g5, g7, h4 (8).

Ва ўсіх чатырох канцоўках белыя пачынаюць і выйграюць.

**Падрыхтаваў майстар спорту СССР**
**Мікалай ГРУШЭЎСКІ**

**БРОУКА Пятрусь** нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы на Ушаччыне. Аўтар зборнікаў «Прамова фактамі», «Гады, як шторм», «Цэхавыя будні», «Шляхамі баравымі», «Вясна Радзімы», «Насустрач сонцу», «У роднай хаце», «Сонечнымі днямі», «Дарогай жыцця», «А дні ідуць», «Між чырвоных рабін», «Калі ласка» і інш., а таксама рамана «Калі зліваюцца рэкі».
Пятрусь БРОЎКА—народны паэт БССР, лаўрэат Ленінскай і двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэмій.

**ДАЛІДОВІЧ Генрых** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна. Служыў у арміі.
Настаўнічае на Барысаўшчыне.

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў г. п. Мір. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага. Працуе рэдактарам Беларускага тэлебачання.
Аўтар зборнікаў паэзіі: «Асколкі і росы», «Поўня», «Абнаўленне», «Міранка».

**АСІПЕНКА Алесь** нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Пушкары Віцебскага раёна. У гады Вялікай Айчыннай вайны прымаў удзел у партызанскім руху. Скончыў Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Доўгі час працаваў у камсамольскім друку, быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць».
Аўтар кніг прозы «Лёд растае», «Подых кветак і працы», «Дарога ў даль», «Абжыты кут», «Вогненны азімут», «Жыта» і іншых.

**МУРАШКІН Віктар** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Галалобаўка Горацкага раёна. Скончыў гістарычны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на камсамольскай рабоце, цяпер настаўнічае ў Мінску.

**МІСЬКО Павел** нарадзіўся ў 1931 годзе на Случчыне. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у раённым і рэспубліканскім друку. Цяпер—загадчык рэдакцыі прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар зборнікаў апавяданняў і нарысаў «Калодзеж», «Гаспадыні свайго лёсу», а таксама кніжкі для дзяцей «Навасёлы».

**ЗУБРЫЦКІ Эдуард** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Шклянцы Глыбоцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў раённай газеце.

**ДАНІЛЕНКА Міхась,** якому споўнілася ў гэтым месяцы пяцьдзесят гадоў, нарадзіўся ў вёсцы Бодры Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Рэчыцкае педвучылішча і Гомельскі настаўніцкі інстытут. Працуе ў рэдакцыі газеты «Гомельская праўда».
Аўтар кніг прозы «Мая песня», «Майская навальніца», «Наваселле», «Вернасць слову», «Зачараваны гарлачык», «На вуліцы Сонечнай» і інш.

**ЯНКОЎСКІ Фёдар** нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Доктар філалагічных навук, прафесар.
Аўтар кніг «Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі», «Дыялектны слоўнік», «Крылатыя словы і афарызмы», «Пытанні культуры мовы», «Вусная мова і выразнае чытанне», «Роднае слова» і «Беларуская фразеалогія».

**МАРЦІНАК Густаў,** польскі пісьменнік, нарадзіўся ў 1891 годзе ў Карвіне ў сям'і сілезскага шахцёра. Скончыў настаўніцкую гімназію. Удзельнік першай сусветнай вайны.
Марцінак Густаў апублікаваў аповесці «Інжынер Шаруда», «Па камяністай дарозе», «Выараныя камені», «Матрос Курт Краўз», зборнікі апавяданняў «Хлеб на камені», «У задымленым сонцы», «Галубы на даху» і іншыя кнігі прозы.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 10**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 15546. Здадзена ў набор 28.8.72 г. Падпісана да друку 21.9.72 г.
Папера $70\times108^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 14 899 экз. Зак. 1160. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



Леанід МАРЧАНКА. Курган. Лінагравюра.